МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«БАРАНАВІЦКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСЫТЭТ»

В. І. КРЫВУЦЬ

# ПАД ШЫЛЬДАЙ «ДЗЯРЖАЎНАГА ВЫХАВАННЯ»: РЭАЛІЗАЦЫЯ ЎРАДАВЫХ ВЫХАВАЎЧЫХ КАНЦЭПЦЫЙ НА ТЭРЫТОРЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ (1926 – 1939 ГГ.)

Манаграфія

Баранавічы
РВА БарДУ
2010

УДК 37:930 (476)(035.3)
ББК 74:63.3 (4 Беи)я 91
К 78

Аўтар:
*В. І. Крывуць*

Рэцэнзенты:
*А. А. Каваленя,* доктар гістарычных навук, прафесар;
*Ю. В. Чарняк,* кандыдат гістарычных навук.

**Крывуць, В. І.**

**К78**

**Пад шыльдай «дзяржаўнага выхавання»: рэалізацыя ўрадавых выхаваўчых канцэпцый на тэрыторыі Заходняй Беларусі (1926 – 1939 гг.)**: манаграфія / В. І. Крывуць.— Баранавічы : РВА БарДУ, 2010. – 195, [5] с.— 110 экз.— ISBN 978-985-498-384-4.

Манаграфія прысвечана пытанням фарміравання і ажыццяўлення афіцыйнай выхаваўчай палітыкі на тэрыторыі заходнебеларускага рэгіёну ў міжваенны перыяд. Раскрываюцца асноўныя накірункі выхаваўчай дзейнасці кіруючых колаў 2-й РП у маладзёжным асяроддзі.

Разлічана на вучоных, выкладчыкаў, студэнтаў і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

**УДК 37:930 (476)(035.3)**
**ББК 74:63.3 (4 Беи)я 91**



**ISBN 978-985-498-384-4**

## ЗМЕСТ

## УВОДЗІНЫ

Вывучэнне праблематыкі выхаваўчай палітыкі, якую праводзяць правячыя колы дзяржавы ў адносінах да маладога пакалення, заўсёды будзе захоўваць навуковую і практычную актуальнасць. Маладое пакаленне, як сацыяльна-дэмаграфічная група, якая выдзяляецца на аснове сукупнасці ўзроставых характэрыстык, асаблівасцей сацыяльнага становішча і абумоўленых тым і другім сацыяльна-псіхалагічных якасцей, з'яўляецца важнай састаўной часткай любога грамадства. Менавіта таму грамадства і дзяржава заўсёды імкнуліся рэалізаваць пэўныя выхаваўчыя канцэпцыі, накіраваныя на падрыхтоўку моладзі да ўступлення ў «дарослае» жыццё, фарміраванне ў яе якасцей неабходных для таго, каб стаць суб'ектам актыўнай палітычнай, эканамічнай і культурнай дзейнасці на карысць дадзенага грамадства. Спецыфіка гэтай працы цесна звязана з асаблівасцямі сацыяльна-эканамічнага ладу, развіццём палітычнага становішча, сітуацыяй ў культурным, рэлігійным і нацыянальным жыцці. Вялікі ўплыў мае і пазіцыя правячых эліт, якія шмат у чым вызначаюць формы, задачы і змест дзейнасці дзяржавы ў выхаваўчай сферы. Усё гэта можна ў поўнай меры аднесці і да сітуацыі, якая склалася ў галіне выхавання маладога пакалення Заходняй Беларусі ў перыяд 1926 – 1939 гг.

Міжваенны перыяд стаў складаным і неадназначным часам для заходнебеларускага рэгіёна. У выніку польска-савецкай вайны паводле Рыжскага мірнага дагавора ад 18 сакавіка 1921 г. да адроджанай польскай дзяржавы, 2-й Рэчы Паспалітай (2-й РП), адыйшлі Гродзенская губерня, а таксама значная частка Мінскай і Віленскай губерняў. Гэтыя тэрыторыі атрымалі неафіцыйную назву «Заходняя Беларусь», у Польшчы рэгіён лічыўся ўсходнімі ўскраінамі (крэсамі) і быў падзелены на 4 ваяводствы: Палескае, Навагрудскае, Беластоцкае і Віленскае. На тэрыторыі агульнай плошчай каля 110 тыс. км$^2$ к верасню 1939 г. пражывала каля 5 000 000 чалавек, большасць з якіх складалі беларусы [37, с. 233].

Заходняя Беларусь з'яўлялася адсталым аграрна-сыравінным прыдаткам польскай дзяржавы. Большая частка прамысловасці на тэрыторыі чатырох заходнебеларускіх ваяводстваў была цесна звязана з сельскай гаспадаркай. Тут функцыянавала 149 прадпрыемстваў па вырабу спіртовых напояў, 8 бровараў, 27 крухмальняў, 44 смалярні, 87 цагельных заводаў, 34 малачарні, 298 млыноў, 82 лесапільні. Гэта былі невялікія прадпрыемствы, дзе вельмі часта ігнаравалася якоенебудзь сацыяльнае заканадаўства [46, с. 174]. Пры гэтым трэба

адзначыць, што заходнебеларуская прамысловасць перажывала ў міжваенны перыяд не самыя лепшыя часы. Так, напрыклад, да 1935 г. ў параўнанні з 1913 г. колькасць прамысловых рабочых скарацілася на 40%. Вялікай праблемай стала беспрацоўе, асабліва ў час сусветнага эканамічнага крызісу 1929 – 1933 гг. Лічыцца, што ў сярэднім на аднаго працуючага прыходзілася два беспрацоўных [36, с. 197].

Зразумела, што ва ўмовах «вялікай дэпрэсіі» першымі кандыдатамі на звальненне з'яўляліся маладыя малакваліфікаваныя рабочыя. Многія прадстаўнікі гарадской моладзі не мелі магчымасці нават пачаць сваю працоўную кар'еру, што звычайна вяло да маргіналізацыі маладых гараджан.

Не лепшым было і становішча заходнебеларускай вёскі, дзе жыло больш за 80% усяго насельніцтва рэгіёну. Узровень тэхнікіі ўраджайнасць у Заходняй Беларусі былі ніжэйшымі, чыму непасрэдна польскіх ваяводствах. На вёсцы, як адзначаюць сучасныя даследчыкі, панавала амаль што натуральная гаспадарка. Адначасова памешчыцкае землеўладанне займала значнае месцаў аграрнай структуры чатырох заходнебеларускіх ваяводстваў.У Палескім ваяводстве памешчыкам належыла 50,8% зямельнай плошчы, у Навагрудскім – 35,1%, у Віленскім – 32%, у Беластоцкім – 18,1%. Найбуйнейшыя гаспадаркі налічвалі па некалькі дзесяткаў тысяч гектараў. Пры гэтым трэба адзначыць, што 84,4% маёнткаў належыла памешчыкам-палякам [46, с. 175].

У выніку сяляне, і ў першую чаргу моладзь, цярпелі ад малазямелля і перанаселенасці вёскі. Як і ў горадзе, гэта вяло да маргіналізацыі маладога пакалення. У пачатку 1930-х гг. перанаселенасць вёскі складала 700 тыс. чалавек, ці 50% ад усіх працаздольных. Паказальна, што ўзровень 1913 г. у сельскай гаспадарцы Заходняй Беларусі быў дасягнуты толькі ў 1929 г., напярэдадні эканамічнага крызісу, які зноў адкінуў аграрны сектар назад [37, с. 235]. На пачатку 1930-х гг. толькі трэць сялянскіх гаспадарак кармілася са сваёй зямлі. Сяляне вымушаны былі наймацца на лесараспрацоўкі, ісці ў батракі, выпраўляццаў эміграцыю. У 1925 – 1938 гг. з Заходняй Беларусі ў іншыя краіны выехала больш за 78 000 чалавек [53, с. 277].

Сітуацыю на вёсцы абвастрала і ўрадавая палітыка па насаджэнню асадніцтва. Згодна з законам ад 20 снежня 1920 г. каля 10 тыс. асаднікаў, былых салдат і афіцэраў польскай арміі, атрымалі на тэрыторыі заходнебеларускіх ваяводстваў на ільготных умовах зямельныя надзелы плошчай 15 – 45 га. Для параўнання: на сялянскі двор прыходзілася ў сярэднім 7 га зямлі, 55 000 гаспадарак валодалі

надзелам менш 1 га, а каля 90 000 батракоў навогул не мелі зямельных надзелаў [36, с. 197].

Пры дапамозе асаднікаў улады планавалі не толькі вырашыць аграрнае пытанне ў цэнтральных раёнах Польшчы. Асадніцтва павінна было дапамагаць уладам праводзіць паланізацыю мясцовага беларускага насельніцтва, супрацьстаяць антыдзяржаўным выступленням, у выпадку неабходнасці аказваць падтрымку паліцыі і войску. Аднак, як адзначаюць сучасныя даследчыкі, палітычныя і эканамічныя вынікі асадніцтва былі невялікія. Яно не было ў стане змяніць этнічную сітуацыюў рэгіёне і яго існаванне толькі прыводзіла да напружанасціў адносінах з вясковым беларускім насельніцтвам [46, с. 176].

Спробы вырашыць аграрнае пытанне шляхам правядзення рэформаў (камасацыі, парцэляцыі, ліквідацыі сервітутаў, хутарызацыі) толькі ўзмацнілі дыферэнцыяцыю сельскага насельніцтва. Так, напрыклад, амаль у 2 разы скарацілася колькасць сялян-сярэднякоў. Адначасова рэформы амаль не закранулі памешчыцкае землеўладанне.

Становішча заходнебеларускага сялянства ўскладнялася і жорсткай падаткавай палітыкай польскіх улад. Высокія і шматлікія падаткі і зборы – пазямельны, царкоўны, дарожны, маставы, капытковы, меліярацыйны, канцылярскі і інш. – забіралі значную частку заробку. К гэтаму дадавалася выкананне шарваркаў – прац па будаўніцтву і рамонту дарог і мастоў. У выпадку невыплаты падаткаў і невыканання павіннасцей сялянам пагражала канфіскацыя маёмасці. Так, напрыклад, у 1929 г. у Навагрудскім і Палескім ваяводствах адбылося 12 000 канфіскацый [37, с. 236].

Аднак нельга лічыць становішча ў сельскай гаспадарцы Заходняй Беларусі катастрафічным. Вядома, што ў перадваенныя гады эканамічнага ўздыму (1937 – 1938 гг.) Віленскае, Навагрудскае і Палескае ваяводствы дасягнулі па ўраджайнасці збожжавых культур і бульбы ўзроўня Францыі. За гэты ж час ураджайнасць асноўных сельскагаспадарчых культур перавысіла ўраджайнасць у ЗША, але значна саступала ўраджайнасціў Чэхаславакіі і Германіі [38, с. 358]. Зразумела, што гэта было зроблена за кошт «узорных» буйных памешчыцкіх маёнткаў. Акрамя таго, сельская гаспадарка Заходняй Беларусі і мясцовае сялянства не зведалі прымусовай калектывізацыі і раскулачвання, якія адбываліся ва ўсходняй частцы Беларусі.

Вельмі складанай на тэрыторыі Заходняй Беларусі была сітуацыя ў нацыянальна-культурнай сферы. З самага пачатку польскага панавання ўлады праводзілі дыскрымінацыйную палітыку ў адносінах да беларусаў. Іх не бралі на працуў некаторых галінах гаспадаркі,

такіх як сувязь, транспарт, дзяржаўная служба [46, с. 174]. К канцу міжваеннага перыяду маладое пакаленне беларусаў было пазбаўлена адукацыі на роднай мове – к 1939 г. былі ліквідаваны ўсе беларускія школы і гімназіі. Вышэйшая адукацыя для беларусаў была амаль недасягальнай.У адзіным ВНУ Заходняй Беларусі, Віленскім універсітэце імя С. Баторыя, беларусаў было (у сярэдзіне 1930-х гг.) толькі 1,55% ад усёй колькасці студэнтаў [36, с. 198]. Невялікая колькасць беларусаў атрымлівала вышэйшую адукацыю за межамі Польшчы, у Чэхаславакіі, урад якой штогод выдаткоўваў пэўныя сумы на стыпендыі для моладзі з Беларусі [46, с. 175].

Беларускія культурна-асветніцкія арганізацыі – Таварыства Беларускай Школы і Беларускі Інстытут Гаспадаркіі Культуры – падвяргаліся сталаму ціску з боку польскіх уладі нарэшце былі ліквідаваны ў другой палове 1930-х гг. Адбывалася скарачэнне колькасці легальнай беларускамоўнай прэсы: з 23 газет і часопісаў у 1927 г. да 8 у 1939 г. [37, с. 237].

Фактычна польскае кіраўніцтва, парушаючы гарантыі правоў нацыянальных меншасцей (права на маёмасць і яе ахову з боку дзяржавы, свабода веравызнання, права на навучанне на роднай мове, ужыванне яе ў грамадскіх і дзяржаўных установах, права сходаў, стварэнне таварыстваў і арганізацый і г. д.), якія былі замацаваны Канстытуцыяй 2-й Рэчы Паспалітай і Рыжскім мірным дагаворам, узяло курс на правядзенне мэтанакіраванай паланізацыі беларускага насельніцтва.

Парушэнні канстытуцыйных нормаў былі цесна звязаныя са зменамі, якія адбываліся ў палітычным жыцці польскай дзяржавы. Як вядома, у маі 1926 г. у Польшчы адбыўся дзяржаўны пераварот. Фармальна 2-я Рэч Паспалітая засталася рэспублікай, але ў сапраўднасці ў польскай дзяржаве быў усталяваны дыктатарскі рэжым Ю. Пілсудскага [108, с. 116]. Новае кіраўніцтва ўзяло курс на аздараўленне («санацыю») усіх бакоў жыцця Польшчы. «Санацыйны» рэжым меў аўтарытарны характар, як і многія іншыя рэжымы, якія ўсталяваліся ў міжваенны перыяд у большасці краін Усходняй Еўропы. У 2-й Рэчы Паспалітай захаваўся парламент, была дазволена дзейнасць некаторых апазіцыйных партый, але рэальная ўлада знаходзілася ў руках «санацыйнага» лагеру. Гэты лагер не з'яўляўся адзіным – на працягу ўсяго перыяду 1926 – 1939 гг. адбывалася барацьба паміж рознымі групоўкамі «санатараў», што значна адбівалася на ўнутранай палітыцы Польшчы.

Канчаткова аўтарытарны рэжым «санацыі» быў замацаваныў 1935 г. пасля прыняцця новай Канстытуцыі 2-й Рэчы Паспалітай. Новая

Канстытуцыя непасрэдна закранала і інтарэсы маладога пакалення. Згодна з новым асноўным законам, ўзроставы выбарчы цэнз падымаўся да 25 год – выбарчага права пазбавілася каля 10% выбаршчыкаў. Гэта былі маладыя паўналетнія грамадзяне 2-й Рэчы Паспалітай, якія скончылі школу, і мужчыны, што адслужылі ў польскай арміі [55, с. 226].

Правячыя колы 2-й Рэчы Паспалітай імкнуліся падавіць радыкальную апазіцыю, як правую, так і левую. Адначасова яны жадалі адцягнуць ад палітычнай барацьбы і аб'яднаць вакол сябе па магчымасці найбольш шырокія слаі грамадства. На тэрыторыі Заходняй Беларусі гэта прывяло, з аднаго боку, да ўзмацнення палітычных рэпрэсій і згортвання палітычных свабод. Так, напрыклад, у 1927 г. была забаронена Беларуская сялянска-рабочая грамада, легальная арганізацыя рэвалюцыйна-дэмакратычнага характару, 2 000 гурткоў якой аб'ядноўвалі каля 120 000 чалавек. Лідэры Беларускай сялянска-рабочай грамады – Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, П. Мятла, П. Валошын – былі арыштаваны польскімі ўладамі. У 1930 г. такі ж лёс напаткаў арганізацыю «Змаганне», якая з'яўлялася прадаўжальніцай справы Грамады [40].

У верасні 1932 г. у 2-й Рэчы Паспалітай быў уведзены новы крымінальны кодэкс, які прадугледжваў жорсткія пакаранні за палітычныя злачынствы. Напрыклад, за спробу гвалтоўнай змены дзяржаўнага ладу прадугледжвалася ад 10 год турмы да пажыццёвага зняволення. За выраб, захаванне і распаўсюджванне газет, якія заклікаюць да гвалтоўнай змены дзяржаўнага ладу, – да 5 год зняволення, за ўдзел у забароненых уладамі сходах, мітынгах і дэманстрацыях – да 2 год турэмнага зняволення [115, с. 33]. Згодна з тым жа кодэксам, прыналежнасць да нелегальных арганізацый каралася аж да пажыццёвага зняволення [36, с. 199]. Улады актыўна прымянялі гэтае заканадаўства супраць усіх апазіцыйных груповак, але ў першую чаргу супраць кампартыі і камсамола. Напрыклад, толькі за ўдзел у камуністычным руху ў Заходняй Беларусі за перыяд з 1926 па 1939 гады было рэпрэсавана звыш 30 000 чалавек, пры гэтым не менш за 10 000 з іх улады асудзілі на пазбаўленне волі. Больш за 300 камуністаў было прыгаворана да смяротнага пакарання. Яшчэ больш іх загінулаў засценках тайнай паліцыі. У 1934 г. быў адчынены канцлагеру Бярозе-Картузскай. Вясной 1937 г. там утрымлівалася 1 300 палітзняволеных, а ўсяго праз яго за 5 год прайшло звыш 10 000 чалавек [52, с. 503].

З іншага боку, адначасова з падаўленнем палітычных праціўнікаў, «санацыя» прыкладала шмат намаганняў для актывізацыі на

тэрыторыі заходнебеларускіх ваяводстваў шматлікіх праўрадавых грамадскіх саюзаў і аб'яднанняў. Гэтыя арганізацыі разгортвалі сваю дзейнасць пры непасрэднай падтрымцы дзяржаўнага апарату, вайсковых структурі прадстаўнікоў сістэмы адукацыі. Трэба адзначыць, што асаблівая ўвага надавалася таму, каб прыцягнуць на свой бок менавіта маладое пакаленне [42].

Акрамя гэтага, правячыя колы польскай дзяржавы былі вымушаны вырашаць і шэраг іншых складаных задач, якія стаялі перад 2-й Рэччу Паспалітай у міжваенны перыяд. Перш за ўсё гэта была барацьба з наступствамі сусветнага эканамічнага крызісу. Яшчэ адной значнай праблемай, асабліва з сярэдзіны 1930-х гг., у сувязі з нарастаннем пагрозы вайны, стала узмацненне абароназдольнасці Польшчы.

Менавіта ў такіх складаных умовах адбывалася фарміраванне ўрадавых выхаваўчых канцэпцый і іх рэалізацыя на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд. Гэта стала неад'емнай часткай грамадска-палітычнага жыцця як усёй 2-й Рэчы Паспалітай, так і яе заходнебеларускіх ваяводстваў.

Асвятленне вышэйназваных працэсаў з'яўляецца тэмай дадзенага даследвання. Выбар тэмы абумоўлены тым, што гэтая праблема не атрымала належнага вывучэння ў айчыннай гістарыяграфіі. Навуковы аналіз апублікаванай айчыннайі замежнай літаратуры, шматлікіх архіўных матэрыялаўі дакументаў дазваляе выявіць асноўныя пытанні, якія патрабуюць усебаковага вывучэння, а таксама вызначыць задачы, якія неабходна вырашыць у межах дадзенага даследвання.

Стварэнне выхаваўчых канцэпцый і іх эвалюцыя былі цесна звязаны з грамадска-палітычнай дзейнасцю правячых колаў польскай дзяржавы, з тымі мэтамі, якія імкнуліся дасягнуць лідэры «санацыі». Вывучэнне дзейнасці дзяржаўных структур, у тым лікуі развіццё і станаўленне сістэмы адукацыі, дазваляе вызначыць асноўныя накірункі і падыходы «санацыйнай» палітыкі ў галіне адукацыі і выхавання маладога пакалення заходнебеларускага рэгіёна. Асабліва цікавым з гэтага пункту гледжання з'яўляецца аналіз афіцыйных школьных праграм.

Вывучэння патрабуе і дзейнасць шматлікіх грамадскіх арганізацый, якія імкнуліся рэалізаваць «санацыйны» выхаваўчы ідэал ў пазашкольнай сферы. Праца гэтых саюзаў і аб'яднанняў мела сваю спецыфіку, што залежыла ад канкрэтнага асяроддзя,у якім яны праяўлялі сваю актыўнасць. У дадзеным выпадку, напрыклад, у

вельмі своеасаблівых умовах развівалася дзейнасць «санацыі» на тэрыторыі Віленскага універсітэта імя С. Баторыя.

Вывучэнне рэалізацыі ўрадавых выхаваўчых канцэпцый на тэрыторыі Заходняй Беларусі з'яўляецца актуальным у сёняшніх умовах. Асвятленне дадзенай праблемы не толькі дазваляе даць больш аб'ектыўную карціну грамадска-палітычнага жыцця заходнебеларускага рэгіёна ў міжваенны перыяд, але і ўяўляе цікавасць у якасці прыклада практычнага ажыццяўлення ідэйна-выхаваўчай працы сярод маладога пакалення.

## ГЛАВА 1
## ГІСТАРЫЯГРАФІЯ І КРЫНІЦЫ ПА ТЭМЕ ДАСЛЕДВАННЯ

Праблема фарміравання і рэалізацыі афіцыйных выхаваўчых канцэпцый польскіх улад на тэрыторыі Заходняй Беларусіў міжваенны перыяд не знайшла адпаведнага шырокага адлюстравання ў айчыннай гістарыяграфіі. Тым не менш, некаторыя аспекты дадзенага пытання ўсё ж такі закраналісяў працах айчынных гісторыкаў.

Першыя публікацыі, якія былі прысвечаны выхаваўчайі культурна-асветніцкай дзейнасці «санацыйных» улад на тэрыторыі паўночна-ўсходніх ваяводстваў 2-й Рэчы Паспалітай, з'явіліся яшчэ ў даваенны перыяд. У гэтых публікацыях упершыню ў айчыннай гістарыяграфіі ўпамінаецца і пра «санацыйную» канцэпцыю выхавання маладога пакалення – «дзяржаўнае выхаванне». Але трэба браць пад увагу, што даваенныя працы былі напісаны з пазіцый ваяўнічай камуністычнай ідэалогіі і мелі ярка выражаны тэндэнцыйны і прапагандысцкі характар, які адлюстроўваў грамадска-палітычныя рэаліі таго часу.

У якасці прыкладу можна прывесці брашуру П. Бандарэнкі «Школа ў Польшчы», якая была выдадзена на польскай мовеў Маскве ў 1933 г. [60]. Аўтар, у поўнай адпаведнасціз ідэалагічнымі ўстаноўкамі 1930-х гг., называе «санацыйны» рэжым фашысцкім, выхаваўчая палітыка якога накіравана на «фашызацыю школьніцтва». «Дзяржаўнае выхаванне», на думку аўтара, прышчапляе дзецям «вялікадзяржаўны шавінізм, антысемітызм, каб выхаваць з маладога пакалення пакорную прыладу ў руках буржуазіі» [60, с. 14]. У дадзеным выпадку яшчэ магчыма згадзіцца з прапагандай шавінізму, але антысемітызм з'яўляўся элементам ідэалогіі польскіх нацыяналістаў, эндэкаў, якія знаходзіліся ў апазіцыі да «санацыйнага» рэжыму і ў першай палове 1930-х гг. не маглі аказваць ніякага ўплыву на

рэалізацыю выхаваўчай палітыкі ў школе. З падобных заідэалагізаваных пазіцый П. Бандарэнка падыходзіць да характэрыстыкі маладзёжных арганізацый, дзейнасць якіх таксама з'яўлялася часткай выхаваўчай дзейнасці «санацыйнага» рэжыму 2-й Рэчы Паспалітай. Так, аўтар называе студэнцкія аб'яднанні – нацыяналістычную «Усепольскую моладзь» і праўрадавыя Саюз польскай дэмакратычнай моладзі і Легіён маладых – «баявымі крымінальнымі арганізацыямі, якія праліваюць кроў пралетарскай моладзі, якая змагаецца на тэрыторыі школ за свае класавыя інтарэсы» [60, с. 14]. На самой справе вышэйназваныя саюзы дзейнічалі не ў школах, а ва універсітэтах. І змагаліся яны не з пралетарскай моладдзю, прадстаўнікоў якой у вышэйшых навучальных установах міжваеннай Польшчы амаль не было, а паміж сабой. Такой жа палітызаванай з'яўляецца характэрыстыка «Братняй дапамогі», арганізацыі студэнцкай узаемадапамогі, якая быццам бы «адцягвае беднейшую моладзь ад барацьбы за свае правы» [60, с. 28]. У рэальнасці менавіта «Братняя дапамога» стала арэнай барацьбы паміж рознымі ідэйна-палітычнымі плынямі студэнцкай моладзі.

Яшчэ адной працай даваеннага перыяду, у якой закраналіся пытанні выхаваўчай дзейнасці «санацыйнага«» рэжымуў маладзёжнымі асяроддзі, быў выдадзены ў 1935 г. у Мінску пад рэдакцыяй С. Скульскага зборнік «Палітычныя партыі ў Польшчы, Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне» (на рускай мове) [50]. Адзін з яго раздзелаў асвятляе дзейнасць Беспартыйнага блока супрацоўніцтва з урадам, які з'яўляўся кіруючай у той часу 2-й Рэчы Паспалітай «санацыйнай» групоўкай. Пэўная ўвага ў гэтым раздзеле надавалася і дзейнасці «ідэйна-выхаваўчых» маладзёжных арганізацый праўрадавага накірунку. Але навуковую каштоўнасць зборніка зніжае празмерная заідэалагізаванасць і палітычная тэндэнцыйнасць. Усе не камуністычныя ідэйна-палітычныя плыні і арганізацыі трактуюцца як варожыя, а іх дзейнасць, у тым ліку і выхаваўчая, лічыцца накіраванай супраць інтарэсаў працоўных мас Заходняй Беларусі.

У пасляваенны перыяд праблема ажыццяўлення выхаваўчай палітыкі «санацыйнага» рэжыму на тэрыторыі Заходняй Беларусі таксама не набыла належнага асвятлення ў беларускай савецкай гістарыяграфіі. Калі ў працах айчынных гісторыкаў час ад часуі закранаўлася дадзенае пытанне, то толькі ў сувязі з развіццём рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху, дзейнасцю камуністычных і рэвалюцыйна-дэмакратычных арганізацый, якія змагаліся супраць паланізатарскай палітыкі польскіх улад у галіне народнай асветы. Таксама заставалася без увагі і дзейнасць

грамадскіх аб'яднанняў і саюзаў у маладзёжным асяроддзі. Праўрадавыя маладзёжныя арганізацыі ўспаміналіся толькіў кантэсце той палітычнай барацьбы, якую вялі з імі кампартыя Заходняй Беларусі і заходнебеларускі камсамол.

Некаторыя змены адбыліся ў айчыннай гістарыяграфіі на сучасным этапе. Пачалі з'яўляцца працы, у якіх разглядаюцца пытанні развіцця сістэмы адукацыі і яе выхаваўчых элементаў на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд. У першую чаргу неабходна назваць працу М. Дабрыніна, прысвечаную гісторыі агульнаадукацыйнай школы і педагагічнай думкі Польшчы [41], адзін з раздзелаў якой спецыяльна разглядае развіццё школьніцтва ў міжваенны перыяд, калі заходнебеларускія землі знаходзіліся ў складзе польскай дзяржавы. У кнізе падрабязна разглядаюцца спецыфічныя асаблівасці станаўлення нацыянальнай сістэмы адукацыі ва ўмовах адраджэння польскай дзяржаўнасці, падрабязна характэрызуюцца ўрадавыя мерапрыемствы, накіраваныя на развіццё школы ў 1920-х – пачатку 1930-х гг. Шмат увагі надаецца аналізу тыпаў школ і сістэмы арганізацыі кіравання народнай асветай. Таксама М. Дабрынін дае даволі аб'ектыўную характэрыстыку школьнай рэформы, якая была праведзена ў 2-й Рэчы Паспалітай па ініцыятыве і пад кіраўнцтвам міністра Я. Енджэевіча. Неабходна адзначыць, што школьная рэформа разглядаецца менавіта як спроба выйсці з крызісу школьніцтва 2-й Рэчы Паспалітай, а не як чарговае мераепрыемства, накіраванае на паланізацыю нацыянальных меншасцей міжваеннай польскай дзяржавы. Аўтар прызнае станоўчыя дасягненні міжваеннай польскай сістэмы адукацыі, у першую чаргу спробу ажыццяўлення ўсеагульнага школьнага навучання, якое ахапіла большую частку маладога пакалення. Адначасова М. Дабрынін прыводзіць даволі цікавы статыстычны матэрыял, які датычыцца развіцця сістэмы народнай адукацыі 2-й Рэчы Паспалітай. Аднак неабходна адзначыць, што ў дадзенай працы амаль не закранаецца заходнебеларуская праблематыка і пытанні менавіта выхаваўчай дзейнасці «санацыйнага» рэжыму на тэрыторыі заходнебеларускага рэгіёна.

Пытанні развіцця сістэмы адукацыі на тэрыторыі паўночнаўсходніх ваяводстваў 2-й Рэчы Паспалітай і яе выхаваўчых функцый разглядаюцца ў працах А. Вабішчэвіча [32; 33]. Хаця трэба адзначыць, што асноўны націск у іх робіцца на асвятленні развіцця беларускай нацыянальнай школы і дзейнасці беларускіх культурнаасветніцкіх арганізацый і ўстаноў. Таксама А. Вабішчэвіч закранае і

такое пытанне, як дзейнасць польскіх грамадскіх аб'яднанняў і арганізацый ў Заходняй Беларусі [34].

Неабходна адзначыць тое, што А. Вабішчэвіч з'яўляецца адным з аўтараў пятага тому фундаментальнай «Гісторыі Беларусі», частка якога прысвечана гісторыі заходнебеларускага рэгіёна ў міжваенны перыяд. Сярод іншых праблем у гэтым томе закранаюцца і пытанні развіцця сістэмы народнай адукацыі на тэрыторыі паўночна-ўсходніх ваяводстваў 2-й Рэчы Паспалітай і палітыкі польскіх улад у гэтай сферы.

Некаторыя пытанні выхаваўчай палітыкі польскіх «санацыйных» улад у моладзевым асяродзі заходнебеларускага рэгіёна закранаюцца ў працах В. Крывуця, прысвечаных дзейнасці моладзевых арганізацый на тэрыторыі Заходняй Беларусі і моладзевай палітыцы «санацыі» [42; 43].

Таксама неабходна ўказаць і працу Ю. Грыбоўскага «Беларусы ў польскіх рэгулярных вайсковых фарміраваннях 1918 – 1945 гадоў» [39]. У ёй аутар даволі падрабязна асвятляе палітыку польскага вайскавага кіраўніцтва ў адносінах да прызыўнікоў-беларусаў, накіраваную на іх паланізацыю і выхаваннеў адпаведным «дзяржаўніцкім» духу. Ю. Грыбоўскі дае падрабязную характэрыстыку ажыццяўленню экстэрытарыльнага прынцыпу фарміравання Войска Польскага і яго вынікаму кантэксце паланізацыйнай палітыкі польскіх улад. Таксама закранаецца роля інстытуту праваслаўных капеланаў польскай арміі і іх роля ў правядзенні выхаваўчай дзейнасці сярод салдат-беларусаў.

Таксама некаторыя праблемы выхаваўчай дзейнасці санацыіў агульным кантэксце яе нацыянальнай палітыкі на тэрыторыі Заходняй Беларусі атрымалі сваю адлюстраванне ў працах беларускіх гісторыкаў з Беластока. У першую чаргу тут неабходна указаць творы Я. Мірановіча [122; 123; 124], а таксама ягож (сумесную з А. Латышонкам) «Гісторыю Беларусі ад сярэдзіны XVIII ст. да пачатку XXI ст.» [46]. Напрыклад, у работах беластоцкіх гісторыкаў закранаецца такі мала вывучаны момант палітыкі санацыі, як спроба часовай «лібералізацыі» нацыянальнай палітыкі ў адносінах да беларусаў у другой палове 1920-х гг., штоў сваю чаргу спрыяе больш аб'ектыўнаму асэнсаванню складанай эвалюцыі выхаваўчай палітыкі польскіх улад на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд.

Што тычыцца непасрэдна польскай гістарыяграфіі, то праблема стварэння і ажыццяўлення канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання» знайшла значна большае асвятленне, чым у працах беларускіх гісторыкаў. Прычым гэта тычыцца як перыяду сацыялістычнай Польшчы, так і сучаснага этапу развіцця польскай гістарычнай навукі.

Сярод найбольш значных прац польскіх гісторыкаў, прысвечаных «дзяржаўнаму выхаванню», неабходна назвацьу першую чаргу вялікі артыкул К. Бартніцкай, які быў апублікаваны ў выданні «Працы па гісторыі асветы» [58]. У ім даецца падрабязная характарыстыка выхаваўчай канцэпцыі «санацыйнага» рэжыму, яе эвалюцыя, задачы і метады рэалізацыі. Гэтай жа праблематыцы прысвечаны адзін з раздзелаў працыВ. Кулешы «Ідэйна-палітычныя канцэпцыя кіруючага лагераў Польшчы ў 1926 – 1935 гг. » [107].

Пытанні «дзяржаўнага выхавання» таксама закранаюццаў працах па гісторыі сістэмы адукацыі міжваеннай польскай дзяржавы. Найбольшую цікавасць у гэтых адносінах уяўляе публікацыя С. Маўэрсберга, якая прысвечана развіццю школьніцтва для нацыянальных меншасцей у Польшчы ў 1918–1939 гг. [120]. Таксама неабходна адзначыць і працу Ф. Арашкевіча «Сярэдняя агульнаадукацыйная школа ў Польшчы ў 1918–1939 гг.» [56]. Акрамя іншых пытанняў, абодва вышэйназваныя аўтары падрабязна характэрызуюць асноўныя этапы фарміраванняі развіцця канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання», яе асноўныя ідэі, станоўчыя і адмоўныя моманты, вынікі рэалізацыі.

Яшчэ адной працай, у якой закранаюцца пытанні «дзяржаўнага выхавання», з'яўляецца манаграфія В. Ляжаньскай [110]. Яна прысвечана грамадскім і педагагічным функцыям настаўніка сярэдняй агульнаадукацыйнай школы ў 2-й Рэчы Паспалітай. Менавіта школьныя настаўнікі з'яўляліся непасрэднымі рэалізатарамі ўрадавых выхаваўчых канцэпцый і таму праца В. Ляжаньскай уяўляе цікавасць у кантэксце вывучаемай намі тэмы.

Пры аналізе польскай пасляваеннай гістарыяграфіі неабходна указаць шэраг прац, у якіх закранаюцца пытанні дзейнасці праўрадавых маладзёжных аб'яднанняў і саюзаў. Справа ў тым, што вельмі часта менавіта на іх абапіраўся «санацыйны» рэжым пры правядзенні сваёй выхаваўчай палітыкі, асабліва ў асяроддзі моладзі, якая не была ахоплена дзяржаўнай сістэмай адукацыі.

У 1971 г. пад рэдакцыяй Ч. Казлоўскага быў выдадзены «Слоўнік моладзевых арганізацый Польшчы 1918 – 1970 гг. » [176]. У дадзенай працы былі прадстаўлены практычна ўсе агульнапольскія і рэгіянальныя моладзевыя арганізацыі. Шмат увагі было нададзена найбольш буйным «санацыйным» аб'яднанням, якія дзейнічалі і на тэрыторыі Заходняй Беларусі, – Стралецкаму саюзу, Саюзу вясковай моладзі «Сеў», Саюзу маладой вёскі, Саюзу польскай дэмакратычнай моладзі, Легіёну маладых. У выданні былі прыведзены кароткія звесткі па гісторыі гэтых моладзевых саюзаў, прааналізаваны іх ідэалогія і праграмы. Дадзеная праца ўяўляе цікавасць перш за ўсё як

даведачнае выданне. Зразумела, улічваючы той час, калі яна была створана, у дадзенай працы прысутнічае пэўная палітычная тэндэнцыйнасць. Тым не менш выданне дазваляе прасачыць агульныя накірункі развіцця моладзевага руху ў Польшчы ў міжваенны перыяд.

Больш падрабязна асвятляецца моладзевы рух у працы Б. Хіллебранта «Польскія моладзевыя арганізацыі ў XIX і XX стагоддзях: нарыс гісторыі» [88]. Аўтар выдзеліў асноўныя ідэйныя накірункі, якія аказвалі найбольшы ўплыў на моладзь. Разамз клерыкальным, праварадыкальным, сацыялістычнымі камуністычным накірункамі ён падрабязна аналізуе і дзейнасць праўрадавага сектару моладзевага руху.

Уяўляюць цікавасць працы польскіх гісторыкаў прысвечаныя польскаму студэнцтву і яго ўдзелу ў грамадска-палітычным жыцці. Асноўныя палітычныя плыні ў студэнцкім асяроддзі, іх эвалюцыю ў 1930-я гг. прасочвае ў сваёй манаграфіі «Студэнцкі палітычны рух у Польшчы 1932 – 1939 гг.» А. Пільх [142]. Пры гэтым ён даволі падрабязна аналізуе дзейнасць такіх праўрадавых студэнцкіх арганізацый, як Легіён маладых і Саюз польскай дэмакратычнай моладзі. Адначасова аўтар характарызуеі палітыку «санацыйных» улад у сферы вышэйшай школы. Асаблівая каштоўнасць працы А. Пільха ў тым, што ён шмат увагі надае Віленскаму ўніверсітэту імя С. Баторыя. Таксама неабходна звярнуць ўвагу і на працу Я. Філіпайтіса, якая цалкам прысвечана палітычнаму жыццю віленскага студэнцтва [79]. Хаця ў ёй і асвятляецца ў асноўным дзейнасць пракамуністычнай арганізацыі «Фронт», але адначасова даецца і даволі шырокая панарама ўсіх ідэалагічных накірункаў у студэнцкім асяроддзі.

Што да сучаснай польскай гістарыяграфіі, то неабходна адзначыць, што тэма афіцыйнай выхаваўчай палітыкі 2-й Рэчы Паспалітай працявае актыўна вувучацца польскімі даследчыкамі. Напрыклад, тэарэтычныя асновы канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання» асвятляюцца ў працы А. Смолальскага «Выхаваўчыя ідэалы ў польскай педагагічнай думцы з XVI стагоддзя да канца ІІ Рэчы Паспалітай» [177]. Гэтай жа тэме прысвечаны і змястоўны артукул Я. Рэцко «Выхаванне дзяцей і моладзі ў палітыцы ўрадаў Юзэфа Пілсудскага» [152]. Абодва аўтары прасочваюць генэзіс выхаваўчых поглядаў «санацыйных» колаў. Асаблівай месца займае супастаўленне іх з ідэямі «нацыянальнага выхавання», якія панавалі да майскага перавароту 1926 г.

Вялікую цікавасць пры аналізе станаўлення і развіцця выхаваўчых канцэпцый у міжваеннай польскай дзяржаве уяўляюць зборнікі «Выхаванне і палітыка. Традыцыі і сучаснасць»і «Выхаванне і палітыка. Міфы і стэрэатыпы польскай грамадскай думкі XX стагоддзя», якія былі выдадзены ў Таруні пад рэдакцыяй В. Вайдылы

адпаведна ў 1997 і 2000 гадах. Сярод артыкулаў, змешчаных у дадзеных зборніках, у першую чаргу неабходна адзначыць працы К. Якубяка пра рэалізацыю «санацыйнай» выхаваўчай ідэалогіі ў школе 2-й Рэчы Паспалітай [94] і развіццё ідэі грамадзянскага выхавання ў польскай педагагічнай думцы на пераломе XIX і XX стагоддзяў і ў перыяд 2-й Рэчы Паспалітай [95], В. Рэзмера пра прымусовае навучанне ў Войску Польскім і яго ролю ў фарміраванні «прадзяржаўніцкіх» пазіцый у прызыўнікоў [153],Р. Тамашэўскага пра палітычныя аспекты выхавання ў Войску Польскім у 1918 – 1990 гг. [193], Г. Радомскага пра асіміляцыйныя моманты выхаваўчых канцэпцый польскіх нацыяналістаў [151],А. Войтаса пра сінтэз «дзяржаўнага выхавання» з выхаваўчымі ідэямі польскіх нацыяналістаў [205], В. Вайдылы пра месца выхавання ў ідэалогіі польскіх нацыяналістаў [204]. Усе вышэйназваныя артыкулы дазваляюць даць аб'ектыўную характэрыстыку працэсам, якія адбываліся ў афіцыйным выхаванні ў часы кіравання «санацыйных» урадаў.

Таксама неабходна указаць шэраг прац, у якіх закранаюцца пытанні рэалізацыі канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання» ў працэсе выкладання асобных школьных прадметаў. Гэта ў першую чаргу манаграфіі К. Санойцы [166] і Г. Складаноўскага [172]. Таксама ў дадзеным кантэксце можна адзначыць і артыкул Б. Якубоўскай, надрукаваны ў часопісе «Гістарычныя весткі» [96]. У гэтых працах асвятляюцца асаблівасці гістарычнай адукацыі ў школах 2-й Рэчы Паспалітай у перыяд панавання «санацыйнай» выхаваўчай ідэалогіі.

Часткай гэтай ідэалогіі, як вядома, быў культ асобы кіраўніка «санацыйнага» лагера Ю. Пілсудскага. Пытанне гэтага культу і яго ўплыў на сістэму выхавання таксама знайшлі сваё адлюстраваннеў сучаснай польскай гістарыяграфіі. Найбольш падрабязна дадзеная праблема разгледжана ў манаграфіі П. Ціхарацкага «Лягенда і палітыка. Фарміраванне партрэта маршала Юзэфа Пілсудскага ў калектыўнай свядомасці польскага грамадства ў 1918 – 1939 гадах» [66], адзін з раздзелаў якой спецыяльна прысвечаны працэсу фарміравання культу польскага дыктатара ў школах 2-й Рэчы Паспалітай. Месца Ю. Пілсудскага і развіццё яго культу ў школьнай гістарычнай адукацыі таксама разглядаецца ў артыкулеГ. Складаноўскага, надрукаваным на старонках часопіса «Гістарычныя весці» [173].

Некаторыя моманты, звязаныя з ажыццяўленнем «санацыйнай» выхаваўчай ідэалогіі, закранаюцца ў працах польскіх гісторыкаў, якія прысвечаны Войску Польскаму і іншым сілавым структурам міжваеннай польскай дзяржавы. Так, напрыклад, пытанні ўзаемадзеяння паміж сістэмай адукацыі і арміяй у другой палове 1930-х гг.

закранаюцца ў манаграфіі М. Ябланоўскага «Перад пагрозай вайны. Войска і гаспадарка Другой Рэчы Паспалітайу 1935 – 1939 гадах» [93]. Трэба адзначыць, што ў дадзенай працы часткова адлюстраваны і асаблівасці гэтага ўзаемадзеяння на тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў міжваеннай Польшчы. Спецыяльна раздзел, прысвечаны выхаваўчай і культурна-асветніцкай дзейнасці ў Войску Польскім змешчаны ў манаграфіі Л. Вышчэльскага «Войска Пілсудскага. Войска Польскае ў 1926 – 1935 гадах» [210]. Пытанне ўдзелу ў ажыццяўленні «дзяржаўнага выхавання» на тэрыторыі Заходняй Беларусі Корпуса аховы памежжа і дзяржаўнай паліцыі часткова закранаецца ў працыВ. Слешыньскага «Унутраная бяспека ў палітыцы польскай дзяржавы на паўночна-ўсходніх землях II Рэчы Паспалітай» [190].

Сярод прац, якія могуць быць выкарыстаны пры вывучэнні выхаваўчай дзейнасці грамадскіх арганізацый 2-й Рэчы Паспалітай, можна назваць працу А. Невянглоўскай, у якой даецца характэрыстыка дзейнасці малавывучанай у беларускай гістарыяграфіі арганізацыі Польскі Белы Крыж [131] і манаграфію Я. Стобняк-Смакаржэўскай, прысвечаную польскаму асадніцтву [187]. Але ў адносінах да апошняй працы неабходна адзначыць яе даволі некрытычны аналіз ролі польскага асадніцтва на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Вялікую каштоўнасць, з нашага пункту гледжання, уяўляюць зборнікі ўспамінаў вучняў і настаўнікаў віленскіх гімназій міжваеннага перыяду [82; 83]. Яны дазваляюць скласці ўяўленне пра тыя канкрэтныя ўмовы, у якіх праводзілася выхаваўчая палітыка на тэрыторыі сярэдняй школы рэгіёна.

Такім чынам, у польскіх гісторыкаў маецца шэраг сур'ёзных напрацовак у сферы вывучэння выхаваўчай палітыкі «санацыйнага» рэжыму 2-й Рэчы Паспалітай (хаця большасць з іх тычыцца непасрэдна Польшчы, а не яе міжваенных паўночна-ўсходніх ваяводстваў). Усе яны былі ўлічаны ў дадзеным даследаванні. Акрамя таго, аўтар імкнуўся выкарыстаць і шэраг дакументальных матэрыялаў і крыніц.

Вялікая колькасць дакументальных матэрыялаў па вывучаемай праблеме ўтрымліваецца ў архівах Рэспублікі Беларусь. Перш за ўсё гэта тычыцца фонду 242 п. Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, у якім захоўваюцца дакументы прадстаўніцтва Камуністычнай партыі Заходняй Бнларусі пры Цэнтральным камітэце КП(б)Б. Зразумела, што асноўная маса архіўных дакументаў гэтага фонду прысвечана дзейнасці кампартыі і камсамолу, іх удзелу ў палітычнай і сацыяльна-эканамічнай барацьбе. Тым не менш камсамольскія і партыйныя дакументы, асабліва справаздачы іх акруговых і раённых

камітэтаў, дазваляюць атрымаць некаторае ўяўленне і пра палітыку «санацыі» ў выхаваўчай сферы, а таксама пра дзейнасць праўрадавых моладзевых саюзаў і аб'яднанняў у гэтым накірунку.

Яшчэ адзін з фондаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, фонд 884, утрымлівае дакументы праўлення Саюза студэнтаў беларусаў Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя. Частка дакументаў гэтага фонду адносіцца не толькі да дзейнасці аб'яднання студэнтаў-беларусаў, але можа быць выкарыстана і пры вывучэнні універсітэцкага жыцця навогул. Менавіта ў гэтым фондзе знаходзяцца статутныя дакументы арганізацыі студэнцкай узаемадапамогі «Братняя дапамога», фрагменты перапіскі паміж беларускім студэнцкім аб'яднаннем і іншымі студэнцкімі арганізацыямі і кіраўніцтвам універсітэта.

Таксама былі выкарыстаны дакументы Дзяржаўнага архіву Брэсцкай вобласці. Матэрыялы, прысвечаныя дзейнасці польскіх улад у галіне выхавання маладога пакалення і працы праўрадавых моладзевых арганізацый на тэрыторыі Палескага ваяводства, утрымліваюцца ў фондах Палескага ваяводскага ўпраўлення, папячыцельства Брэсцкай школьнай акругі, камандавання акругі корпуса № 9.

Важнай першакрыніцай звестак пра выхаваўчую палітыку польскіх улад з'яўляюцца афіцыйныя зборнікі пастаноўі распараджэнняў «Урадавыя дзённікі», якія выдаваліся ваяводскімі органамі ўлады. Вялікую цікавасць таксама ўяўляюць публікацыі шэрагу ваяводскіх аддзяленняў агульнапольскіх моладзевых саюзаў. Напрыклад, асаблівасці ідэйна-выхаваўчай працы праўрадавых арганізацый раскрывае «Праграма для ўзроставых выхаваўчых груп у аддзелах Стралецкага саюза ў сферы грамадзянскага выхавання», якая была выдадзена ў Брэсце ў 1937 г. [148]. Пры вывучэнні студэнцкага руху Віленскага універсітэта імя С. Баторыя вялікае значэнне мае «Штогоднік універсітэта», у якім публікавалася інфармацыя пра студэнцкія саюзы і аб'яднанні.

Неабходна таксама звярнуць увагу на матэрыялы цэнтральнайі рэгіянальнай прэсы 2-й Рэчы Паспалітай. На старонках часопісаў і газет публікавалася шмат інфармацыі, якая дазваляе скласці ўяўленне пра афіцыйную палітыку і пазіцыі ўлад у галіне выхавання маладога пакалення. Менавіта ў часопісах «Асвета і выхаванне» і «Зромп» друкаваліся артыкулы аўтараў і ідэолагаў «санацыйнай» канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання» – міністраў С. Чэрвіньскага і Я. Енджэевіча, А. Скварчыньскага і інш. Таксама ў гэтых выданнях публікаваліся шматлікія метадалагічныя распрацоўкі міжваенных польскіх педагогаў, прыхільнікаў «дзяржаўнага выхавання», якія тычыліся

канкрэтных момантаў рэалізацыі «санацыйнай» канцэпцыі выхавання школьнай моладзі.

Вялікую каштоўнасць, на нашу думку, уяўляюць публікацыі на старонках афіцыйнай газеты «Кур'ер Віленьскі», дзе існавалі сталыя рубрыкі «Стральцы маршыруюць…» і «З фронту Легіёна маладых», якія даволі падрабязна асвятлялі дзейнасць і ідэалогію ваяводскіх структур Стралецкага саюза і Легіёна маладых. Наогул, праблематыка, звязаная з дзейнасцю праўрадавых маладзёжных арганізацый, жыццём Віленскага ўніверсітэта імя С Баторыя, развіццём сістэмы адукацыі на тэрыторыі Віленскага ваяводства і пытаннямі рэалізацыі «дзяржаўнага выхавання» ў рэгіёне была даволі шырока прадстаўлена на старонках «Кур'ера Віленьскага».

Неабходна звярнуць увагу і на так званыя «аднаднеўкі», якія выдаваліся ваяводскімі структурамі розных моладзевых аб'яднанняў. Найбольшую актыўнасць у гэтым накірунку праяўлялі Легіён маладых і Саюз польскага харцэрства, матэрыялы «аднадневак» якіх шырока выкарыстоўваюцца ў дадзеным даследаванні. Адначасова «аднаднеўкі» дазваляюць прасачыць і працэсы радыкалізацыі, якія адбываліся ў «санацыйных» ідэйна-выхаваўчых аб'яднаннях. Найбольш яскравым прыкладам з'яўляецца выдадзеная ў 1936 г. «аднаднеўка польскай перадавой моладзі» «Да Польшчы шкляных дамоў».

Таксама неабходна адзначыць, што пры стварэнні дадзенай манаграфіі аўтарам быў выкарыстаны шэраг матэрыялаў Інтэрнэту. У першую чаргу гэта тычыцца дакументаў карпаранцкіх арганізацый і заканадаўчых матэрыялаў інфармацыйнага сэрвісу прававых актаў польскага сейма.

Усе вышэйпералічаныя першакрыніцы і дакументальныя матэрыялы ў значнай меры дапаўняюць напрацоўкі айчыннай і польскай гістарыяграфіі і дазваляюць больш аб'ектыўна і грунтоўна вывучыць тыя складаныя працэсы, якія адбываліся ў сферы выхавання маладога пакалення на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд.

ГЛАВА 2
# «ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫХАВАННЕ»:УЗНІКНЕННЕ І РАЗВІЦЦЁ КАНЦЭПЦЫІ

## 2. 1. Дэмаграфічная сітуацыя ў 2-й Рэчы Паспалітай.

Кіруючыя колы польскай дзяржавы надавалі значную ўвагу выхаванню маладога пакалення. Гэта можна растлумачыць шэрагам прычын. Адной з галоўных было тое, што грамадства 2-й Рэчы Паспалітай было даволі маладым. Пра гэта сведчаць дадзеныя, якія прыводзілі польскія даследчыкі ў другой палове 1930-х гг. (табл. 1).

Табліца 1 – Узроставая структура насельніцтва 2-й Рэчы Паспалітай, млн чал. [127, с. 11].

| Узрост, год | 1921 г. | 1931 г. | 1936 г. |
|---|---|---|---|
| 0 – 4 | 2,75 | 3,98 | 3,66 |
| 5 – 9 | 3,11 | 3,97 | 3,90 |
| 10 – 14 | 3,77 | 2,78 | 3,92 |
| 15 – 19 | 3,32 | 3,05 | 2,75 |
| 20 – 24 | 2,59 | 3,40 | 2,99 |
| 25 – 29 | 1,97 | 2,93 | 3,32 |
| 30 – 34 | 1,63 | 2,38 | 2,86 |
| 35 – 39 | 1,47 | 1,89 | 2,32 |
| 40 – 44 | 1,32 | 1,58 | 1,83 |
| 45 – 49 | 1,21 | 1,40 | 1,52 |
| 50 – 54 | 1,16 | 1,22 | 1,32 |
| 55 – 59 | 0,92 | 1,07 | 1,15 |
| 60 – 64 | 0,81 | 0,90 | 0,97 |
| 65 – 69 | 0,46 | 0,71 | 0,78 |
| 70 – 74 | 0,34 | 0,44 | 0,56 |
| 75 – 79 | 0,16 | 0,22 | 0,29 |
| 80 і болей | 0,17 | 0,16 | 0,16 |
| Невядомы ўзрост | 0,06 | 0,03 | – |
| Усяго | 27,22 | 32,11 | 34,30 |

Такім чынам, згодна з вышэйпрыведзенымі лічбамі, насельніцтва ва ўзросце да 25 год ў адносінах да усіх жыхароў міжваеннай польскай дзяржавы вагалася у межах ад 57% (1921 г.), 53,5% (1931 г.) і да 50,2% (1936 г.).

Што тычыцца непасрэдна Заходняй Беларусі, то па дадзеным тых жа польскіх дэмографаў, на тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў у 1931 г. пражывала 1 120 100 чалавек ва ўзросце 15 – 24 год. Гэта складала пятую частку насельніцтва рэгіёна. Прыкладна такіж паказчык назіраўся і ва ўсёй 2-й РП [127, с. 16 – 17].

Неабходна адзначыць, што асаблівасцю ўсходніх ваяводстваў была тэндэнцыя да таго, што ўзровень нараджальнасці тут быў вышэйшым, чым у астатніх частках 2-й Рэчы Паспалітай: паўднёвых, цэнтральных і заходніх ваяводствах і Сілезіі.

Табліца 2 – Узровень нараджальнасці (на 1 000 жыхароў) [127, с. 15].

| Год | Разам | Ваяводствы | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | цэнтральныя | усходнія | паўднёвыя | заходнія і Сілезія |
| 1919 | 30,5 | 33,1 | 27,7 | 30,1 | 26,8 |
| 1920 | 32,2 | 35,2 | 29,4 | 28,8 | 32,7 |
| 1921 | 32,8 | 31,0 | 34,5 | 34,2 | 33,4 |
| 1922 | 35,3 | 33,9 | 38,7 | 36,3 | 34,0 |
| 1923 | 35,6 | 34,7 | 39,4 | 35,5 | 33,8 |
| 1924 | 34,5 | 33,4 | 38,7 | 34,5 | 32,6 |
| 1925 | 35,2 | 35,0 | 38,6 | 34,6 | 32,5 |
| 1926 | 33,1 | 33,1 | 37,4 | 31,7 | 30,0 |
| 1927 | 31,6 | 31,2 | 36,1 | 31,3 | 28,3 |
| 1928 | 32,3 | 32,1 | 36,1 | 31,8 | 29,1 |
| 1929 | 32,0 | 31,9 | 35,8 | 31,4 | 28,7 |
| 1930 | 32,5 | 32,0 | 36,4 | 32,4 | 29,4 |
| 1931 | 30,2 | 29,8 | 33,2 | 30,3 | 27,5 |
| 1932 | 28,8 | 27,5 | 32,2 | 29,9 | 26,5 |
| 1933 | 26,5 | 25,2 | 29,0 | 27,5 | 25,2 |
| 1934 | 26,5 | 26,2 | 28,6 | 26,5 | 25,1 |
| 1935 | 26,1 | 25,7 | 28,3 | 25,8 | 24,8 |
| 1936 | 26,2 | 25,8 | 28,7 | 26,0 | 24,8 |
| 1937 | 24,9 | 24,5 | 26,6 | 24,9 | 23,9 |

Як бачна, прыкладна з другой паловы міжваеннага перыядў польскай дзяржаве назіралася сталае зніжэнне ўзроўня нараджальнасці. Гэта было звязана, перш за ўсё, з развіццём сацыяльна-эканамічнай сітуацыі. Няма сумнення, што вынікі

сусветнага эканамічнага крызісу адмоўна адбіліся на дэмаграфічным становішчы 2-й Рэчы Паспалітай. Тым не менш, тэмпы зніжэння нараджальнасці ў Заходняй Беларусі былі ніжэйшымі, чым ва ўласна польскіх ваяводствах. Але гэта не значыць, што рэгіён пазбег эканамічнага крызісу. Адносна высокая нараджальнасць тлумачыцца тым, што пераважная большасць насельніцтва пражывала ў сельскай мясцовасці, дзе сем'і традыцыйна былі большымі, чым у горадзе.

Акрамя таго высокая нараджальнасць «кампенсавалася» высокай дзіцячай смяротнасцю, што была следствам якраз адсталасці рэгіёна, нізкага ўзроўня развіцця сістэмы аховы здароўя (табл. 3).

Табліца 3 – Смяротнасць (на 100 нованароджаных) [127, с. 15].

| Год | Разам | Ваяводствы | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | цэнтральныя | усходнія | паўднёвыя | заходнія і Сілезія |
| 1900/01 | 22,3 | 22,3 | 23,5 | 21,9 | 21,6 |
| 1927/28 | 17,4 | 15,8 | 21,6 | 17,1 | 16,8 |
| 1937 | 16,0 | 14,9 | 22,7 | 14,6 | 14,1 |

Як бачна з табліцы 3, сітуацыя з дзіцячай смяротасцю на тэрыторыі Заходняй Беларусі амаль не змянілася ў параўнанніз перыядам, калі гэтыя землі знаходзіліся яшчэ ў складзе Расійскай імперыі. У той жа час на этнічна польскіх тэрыторыях назіраўся значны прагрэс у дадзенай сферы.

Не лепшым было становішча і сярод старэйшых прадстаўнікоў маладога пакалення заходнебеларускага рэгіёна. Напрыклад, вядома, што занепакоенасць армейскіх структур выклікаў нізкі ўзровень гігіены на вёсцы і звязаны з гэтым дрэнны стан здароўя прызыўнікоў. У канцы 1920-х гг. ваенныя ўлады адзначалі як рост захворванняў, якія вызвалялі ад службы, так і слабае фізічнае развіццё прызыўнікоў. Асабліва трывожныя звесткі прыходзіліз усходніх ваяводстваў. У некаторых вёсках з пяці юнакоў толькі адзін мог атрымаць «катэгорыю здароўя А» (прыдатны да страявой службы ў мірны час). Вёскі на ўласна польскіх землях пераўзыходзілі беларускія і ўкраінскія з пункту гледжання гігіены і стану здароўя прызыўнікоў, там колькасць прыдатных да службы юнакоў часам дасягала нават 50%.

Вёска, у якой 60% прызыўнікоў былі прыдатнымі да службы, лічылася ўзорнай.

Дрэннае харчаванне разам з няведаннем правіл гігіены выклікалі рост захворванняў, асабліва сярод беларусаў і ўкраінцаў. Найбольш распаўсюджанымі былі туберкулёз і трахома (хвароба вачэй). Так, у 1933 г. на трахому хварэла больш за 10% прызыўнікоў у Віленскім, Палескім і Навагрудскім ваяводствах. Высокім быў працэнт вызвалення ад службы па прычыне дрэннага стану зубоў – да 9% .

Такое становішча захавалася да самага канца міжваеннага перыяду. У 1937 г. урачэбныя камісіі працягвалі заяўляць пра вялікую колькасць непрыдатных прызыўнікоў. Сярод прычын гэтага называліся: няведанне асноў гігіены, адсутнасць дактароў, высокі кошт лекаў і медыцынскіх паслуг (15 – 20 злотых за візіт доктара). Яшчэ адна прычына – неразвітая сетка бальніц на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Напрыклад, калі ў 1938 г. у Варшаве на 10 000 жыхароў прыходзілася 61 койка-месца, у Сілезіі – 71,у Познанскім ваяводстве – 40, то ў Віленскім ваяводстве – 17,а ў Палескім – наогул толькі 3 [134, с. 13 – 15].

Як ужо адзначалася вышэй, асноўная маса маладога пакалення Заходняй Беларусі пражывала ў вёсцы. Напрыклад,у заходнебеларускіх гарадах жыло 160 тыс. чал. ва ўзросце 14 – 24 год, што складала толькі 14,34% моладзі гэтага ўзросту. У той жа час у цэнтральных ваяводствах у гарадах жыло 34,4% іх равеснікаў, на захадзе – 35,5% , у сярэднім па ўсёй 2 РП – 28,4% [127, с. 18].

Што да палавой структуры маладога пакалення рэгіёна, то тут трохі больш за палову моладзі (51,76%) складалі дзяўчаты. Гэты паказчык цалкам адпавядаў палавой структуры ўсяго маладога пакалення 2 Рэчы Паспалітай [43, с. 19].

Больш складанай і заблытанай з'яўляецца праблема нацыянальнага складу як маладога пакалення, так і ўсяго насельніцтва Заходняй Беларусі.

У 1931 г. улады 2-й РП правялі агульнадзяржаўны перапіс, сярод пытанняў якога было і пытанне аб роднай мове.У адпаведнасці з вынікамі гэтага перапісу, у Віленскім і Навагрудскім ваяводствах пераважала насельніцтва, якое дэкларавала роднай мовай польскую. Але гэтая перавага была невялікай. Так, у Віленскім ваяводстве з 1 275 269 жыхароў 763 528 (59,9%) лічылі сваёй роднай мовай польскую, у той час як 511 741 (40,1%) – іншую (беларускую, яўрэйскую, літоўскую і інш.). У Навагрудскім ваяводстве з 1 056 780 жыхароў 555 520 (52,6%) назвалі роднай мовай польскую, астатнія 511 741 (47,4%) – іншыя мовы (беларускую, яўрэйскую, рускую і інш.). У той

жа час у Палескім ваяводстве польскую мову з 1 131 359 жыхароў назвалі роднай толькі 164 163 (14,5%), астатнія 967 196 (85,5%) абралі іншыя мовы (беларускую, рускую, украінскую і інш.). У Гродзенскім і Ваўкавыскім паветах Беластоцкага ваяводства з 384 432 жыхароў 184 200 (47,9%) падалі роднай мовай польскую, а 200 232 (52,1%) – іншую (беларускую, яўрэйскую, літоўскую) [184, с. 130].

Перапіс сцвярджаў, што з 27 паветаў, на якія быў падзелены заходнебеларускі рэгіён, толькі ў 9 дамінавалі асобы, якія лічылі польскую мову роднай. Гэта былі Віленскі гарадскі паветі Віленска-Троцкі, Свенцянскі, Браслаўскі і Ашмянскі паветыў Віленскім ваяводстве, а таксама Лідзкі, Стаўбцоўскі, Шчучынскіі Валожынскі паветы ў Навагрудскім ваяводстве. У астатніх паветах гэтая група складала меншасць. Найніжэйшы працэнт польскага насельніцтва быў адзначаны ў Драгічынскім павеце, дзе палякаў было толькі 7%. Беларускамоўнае насельніцтва дамінавала ў Дзісненскім, Маладзечанскім, Пастаўскім і Вілейскім паветах Віленскага ваяводства і Нясвіжскім і Навагрудскім паветах Навагрудскага ваяводства. У Палескім ваяводстве, за выключэннем Брэсцкага павету, дамінавалі так званыя «тутэйшыя». На ўсей тэрыторыі Заходняй Беларусі, асабліва ў гарадах, значную частку насельніцтва складалі яўрэі. Самы высокі працэнт іх быўу Брэсцкім (14,9%) і Пінскім паветах (11,2%) [184, с. 132].

Трэба адзначыць, што да вынікаў перапісу 1931 г. трэба падыходзіць асцярожна. Нават у сакрэтным даследаванні, якое было зроблена спецыяльна для Інстытуту вывучэння нацыянальных спраў у 1939 г., адзначалася, што вынікі перапісу 1931 г. у пытанні роднай мовы «выяўляюць адносныя неадпаведнасці для амаль 50% раёнаў». Акрамя слабай нацыянальнай самасвядомасці на гэта паўплывала, на думку аўтара даследвання, тое, што пытанні перапісу былі для большасці жыхароў незразумелымі. Таксама адзначалася, што многія перапісчыкі не мелі адпаведнай падрыхтоўкі, не разумелі сэнсу паняцця «родная мова» і таму кваліфікавалі родную мову насельніцтва па сваім меркаванні. У шматлікіх выпадках рубрыка «родная мова» свядома запаўнялася не на месцы, а на сядзібе перапіснай камісіі ці ў гміне. У якасці прыкладуў даследаванні прыводзіцца выпадак у гміне Казлоўшчына Слонімскага павету. Там мясцовая настаўніца, якая праводзіла перапіс, падала такі высокі працэнт «палякаў-праваслаўных», што нават гмінныя ўлады пачалі пратэставаць, сцвярджаючы, што «памылка з'яўляецца празмерна яскравай». Тым больш, што на тэрыторыі гміны пражывала насельніцтва, якое было «абыякава, ці нават варожа настроена ў адносінах да польскай

дзяржаўнасці» [184, с. 129]. Як бачна, нават прадстаўнікі ўлад неафіцыйна прызнавалі недакладнасць перапісу 1931 г.

Акрамя таго польскія кіруючыя колы ішлі і на свядомы падман, калі, напрыклад, палякамі аб'яўляліся беларусы-католікі. Таксамаў выніку нізкай нацыянальнай самасвядомасці значная частка беларусаў, больш за 700 000 чалавек, у асноўным на тэрыторыі Палескага ваяводства, апынулася ў катэгорыі «тутэйшых», якіх лічылі асаблівай этнічнай групай польскага насельніцтва.

Пасля падвядзення вынікаў перапісу на афіцыйным узроўні было заяўлена, што ў Віленскім, Навагрудскім і Палескім ваяводствах пражывае 42,5% палякаў, а беларусаў 22,5% [48, с. 221]. У абсалютных лічбах гэта складала адпаведна 1 483 211 палякаў і 719 339 беларусаў [184, с. 132].

Такія дадзеныя аспрэчваюцца сучаснай гістарыяграфіяй. Напрыклад, вядома, што згодна перапісам, які праводзіўся на тэрыторыі Расійскай імперыі ў 1897 г., на тэрыторыі будучых трох заходнебеларускіх ваяводстваў пражывала толькі 5,5% палякаў. Зразумела, што ў міжваенны перыяд сюды пераехала некаторая колькасць палякаў – асаднікі, чыноўнікі, паліцэйскія, інтэлігенцыя, рабочыя. Але дзякуючы гэтаму працэнт польскага насельніцтва не змог бы ўзняцца амаль у восем разоў. Таму больш верагоднымі лічацца дадзеныя, якія былі прыведзены ў «Нарысах гісторыі Беларусі» ў сярэдзіне 90-х гг. мінулага стагоддзя: у цэлым на тэрыторыі Віленскага, Навагрудскага і Палескага ваяводстваў беларусы складалі 67% насельніцтва, палякаў было не 42,5%, а 12 – 13%, украінцаў жыло 5 – 6%, яўрэяў – каля 9%, рускіх – 2%, літоўцаў – 3% [48, с. 221].

Трэба адзначыць, што зараз называюцца розныя лічбы адносна колькасці беларускага насельніцтва Заходняй Беларусі. Беларускія савецкія гісторыкі лічылі, што на тэрыторыі рэгіёна ў пачатку 20-х гг. мінулага стагоддзя пражывала 3 372 000 жыхароў, з якіх беларусаў было 2 371 000 чалавек. Паводле падлікаў У. Палуянаў Віленскім, Навагрудскім і Палескім ваяводствах жыло 2 300 000 беларусаў, а разам з беларусамі Беластоцкага ваяводства іх было 2 900 000 чалавек.

Іншыя лічбы называлі польскія даследчыкі. П. Эберхардт лічыў, што ў рэгіёне жыло 1 350 000 беларусаў, А. Жарноўскі – 1 700 000, Е. Тамашэўскі – не менш 1 950 000 чалавек, у тым лікуў Палескім ваяводстве – 654 000, Навагрудскім – 616 000,у Віленскім – 407 000, у Беластоцкім – 269 000 чалавек [38, с. 370].

На сённяшні дзень і сярод беларускіх гісторыкаў няма згоды адносна этнічнага складу насельніцтва Заходняй Беларусі. Некаторыя

навукоўцы лічаць, што тут у 1931 г. з 4 600 000 чалавек беларусы складалі 65%, а палякі – 15%. Спробу крытычнага абгрунтавання пытання ажыццявілі У. Ладысеў і П. Брыгадзін. Паводле іх звестак, колькасць беларусаў вызначаецца прыкладнаў 2 000 000 чалавек (без уліку каля 500 000 бежанцаў, якія вярнуліся дадому да сярэдзіны 1924 г.) [38, с. 371].

Тым не менш, не гледзячы на супярэчнасці сярод гісторыкаў, можна лічыць, што беларускае насельніцтва складала значную большасць на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Адпаведна, можна сцвярджаць, што і беларуская моладзь складала большасць сярод сваіх равеснікаў. Асабліва калі ўлічваць, што беларусы жылі ў асноўным на вёсцы, дзе, як ужо адзначалася вышэй, у сем'ях дзяцей было больш, чым у гарадах.

Польскія ўлады павінны былі улічваць спецыфіку дэмаграфічнай сітуацыі як ва ўсёй 2-й Рэчы Паспалітай, так і на тэрыторыі яе заходнебеларускіх ваяводстваў пры рэалізацыі сваіх выхаваўчых канцэпцый. Пры гэтым вялікая ўвага гэтай праблеме надавалася на самым высокім узроўні з першых год існавання міжваеннай польскай дзяржавы.

**2. 2. Фарміраванне «санацыйнай» выхаваўчай канцэпцыі.**

У лістападзе 1918 г. адрадзілася польская дзяржава, а ўжо праз месяц пасля абвяшчэння незалежнасці К. Праусам, першым міністрам асветы 2-й Рэчы Паспалітай, была распрацавана першая ўрадавая праграма правядзення ў краіне рэформы асветы. Першачарговымі задачамі яна аб'яўляла: паляпшэнне матэрыяльнага становішча настаўнікаў; стварэнне адзінай сістэмы народнай адукацыі з трох сістэм, якія дасталіся ў спадчыну ад краін-захопніц – Аўстра-Венгерскай, Германскай і Расійскай імперый; распрацоўку асноўных заканадаўчых актаў аб школе. Праграма адзначала, што школа павінна быць бясплатнайі абслугоўваць усё грамадства. Адмаўляўся прымус пры вывучэння рэлігіі. Таксама прадугледжвалася рэформа дашкольнага выхавання і прафесійнага навучання [41, с. 104 – 105].

У сувязі з тэмай нашага даследвання трэба адзначыць, што шмат увагі ў праграме надавалася пытанням выхавання. У ёй падкрэслівалася, што «ў школьныя праграмы павінна быць уведзена навука аб сучаснай Польшчы, якая б знаёміла моладзьз найважнейшымі сферамі і праблемамі сучаснага жыцця. Школа павінна выхоўваць маладое пакаленне палякаў напоўненымі духам грамадзянства, добра ведаючымі родную зямлю, яе традыцыі, рэсурсы і гаспадарку, грамадзянамі, якія гатовы і маюць жаданне

творча працаваць ва ўсіх сферах жыцця на карысць Айчыныі суграмадзян» [97, с. 113].

Многія палажэнні праграмы Праўса так і не былі рэалізаваны, а яе аўтар вельмі хутка падаў у адстаўку. Тым не менш, увага да пытанняў выхавання маладога пакалення захавалася. Новая сітуацыя, звязаная з атрыманнем незалежнасці, вымушала шукаць і новыя спосабы выхавання. Пры гэтым спрэчкі вакол праблематыкі выхаваўчых канцэпцый былі цесна звязаны з развіццём грамадска-палітычнага жыцця 2-й РП. Фактычна кожны палітычны лагер прапаноўваў сваю мадэль стварэння сістэмы выхавання.

Да мая 1926 г., у перыяд так званых «парламенцкіх урадаў», значныя палітычныя ўплывы мелі прадстаўнікі крайне правай польскай партыі нацыянал-дэмакратаў (эндэкі). Таму ў сістэме выхавання, у першую чаргу ў школе, дамінавалі прапанаваныя імі ідэі, атрымаўшыя назву «нацыянальнага выхавання».

Гэтыя ідэі былі сфармуляваны яшчэ ў канцы XIX – пачатку XX стст. і амаль без змен былі перанесены ў сістэму адукацыі незалежнай польскай дзяржавы. Некаторыя сучасныя польскія даследчыкі лічаць, што эндэкі да 1926 г. так і не змаглі сфарміраваць дакладнай выхаваўчай мадэлі. Нават школьныя праграмы не складалі адзінай сістэмы. Агульным для шматлікіх канцэпцый выхавання эндэкаў і блізкіх да іх груповак было разуменне нацыі як вышэйшай маральнай і грамадскай вартасці [96, с. 42]. Лічылася, што галоўнай мэтай выхаваўчай дзейнасці школы павінна стаць фарміраванне ў моладзі рыс неабходных для нацыі [177, с. 55]. Зразумела, што на ўвазе мелася польская нацыя і яе патрэбы.

Што тычыцца канкрэтных патрабаванняў, то школа павінна была выхоўваць наступныя якасці:

1. вялікія гістарычныя памкненні і моцнае пачуццё нацыянальнага гонару;
2. клапатлівасць пра захаванне нацыянальнай самастойнасці, як дзяржаўнай, так і цывілізацыйнай і гаспадарчай;
3. нацыянальную салідарнасць, разуменне і адчуванне людзьмі заможнымі і адукаванымі пабтрэб людзей бедных;
4. паслушэнства перад законам [96, с. 42].

Адпаведным чынам арганізаванае школьніцтва павінна было дапамагчы дасягнуць патрыятычных мэтаў. Дарэчы, на думку С. Грабскага, аднаго з вядучых эндэцкіх публіцыстаў, сутнасць «сапраўднага» патрыятызму фармулявалась так:

1. аб'яднанне ўсіх польскіх земляў;
2. незалежнасць польскай палітыкі ад чужых уплываў;

3. пашырэнне і ўзмацненне польскай мовы, польскай цывілізацыі, польскага земляробства, прамысловасці і гандлю на нацыянальна-змешаных ускраінах;

4. ніколі не аб'ядноўвацца з чужымі супраць паляка;

5. перавага нацыянальных і дзяржаўных інтарэсаў над інтарэсамі асобных слаёў і класаў;

6. улагоджванне ўнутранных супярэчнасцяў і барацьбу дзеля ўзмацнення моцы нацыі і дзяржавы;

7. пашырэнне нацыянальна-дзяржаўнай свядомасці сярод шырокіх мас насельніцтва і заснаванне на гэтай аснове будучыні Польшчы [80, с. 161 – 162].

Той жа самы С. Грабскі лічыў, што права польскай нацыі да паглынання іншых нацый вынікала з прыналежнасці да заходняга свету, сфарміраванай у цесным аб'яднанні з рымска-каталіцкім касцёлам. Пры гэтым ён падкрэсліваў больш высокі ўзровень цывілізацыйнага развіцця палякаў у параўнанні з іншымі ўсходнееўрапейскімі народамі. Прадугледжваючы паланізацыю беларускага і ўкраінскага насельніцтва, С. Грабскі выступаў за ператварэнне тэрыторыі 2-й Рэчы Паспалітай у польскую нацыянальную тэрыторыю. Ён пісаў: «Лёгкадумна было б меркаваць, што Польшча можа трывала панаваць над землямі, якія арганічна не злучаны з нацыянальнай тэрыторыяй Польшчы» [151, с. 78].

Такім чынам, эндэцкая палітыка, у тым ліку і ў галіне выхавання маладога пакалення, насіла яскрава выражаны шавіністычны характар і была накіравана на адкрытую паланізацыю насельніцтва нацыянальных ускраін. Зразумела, што гэта не магло не выклікаць супраціўленне ў шматнацыянальнай 2-й Рэчы Паспалітай.

Вельмі востра крытыкавалі «нацыянальнае выхаванне» галоўныя палітычныя праціўнікі эндэкаў – пілсудчыкі, прыхільнікі Ю. Пілсудскага. У адрозненне ад польскіх нацыяналістаў яны ставілі на першы план сваёй ідэалогіі дзяржаву і яе інтарэсы. Менавіта дзяржава, на іх думку, з'яўлялася вышэйшай каштоўнасцю для ўсіх грамадзян і толькі дзяржаўная арганізацыя магла забяспечыць поўнае развіццё асобы. Галоўным лозунгам «санацыйнай» канцэпцыі, якая пачала фарміравацца яшчэ да 1926 г., было «выхаванне чалавека волі і дзеяння, чалавека калектыўнай працы і думкі» [56, с. 184].

Сапраўды, сваю актыўную зацікаўленасць праблемамі адукацыі і выхавання маладога пакалення будучыя «санатары» праяўлялі яшчэ да майскага перавароту 1926 г. Напрыклад, на IV з'ездзе польскіх гісторыкаў, які адбыўся ў снежні 1925 г. прафесар С. Кутжеба заявіў аб неабходнасці распрацаваць пазітыўную праграму прадмета пра

сучасную Польшчу. Ён заяўляў, што ў моладзі патрэбна абудзіць пачуццё любві да дзяржавы і Айчыны, гонар за прыналежнасць да дзяржавы і нацыі, сфарміраваць пачуццё адказнасці ў адносінах да дзяржавы, грамадства і нацыі. Дадатковыя аргументы прывёў Т. Галуўка, звярнуўшы ўвагу на праблему адносін да нацыянальных меншасцяў. Ён спецыяльна падкрэсліваў, што палітыка эндэкаў на крэсах у гэтай сферы прынесла вялікую шкоду для польскай дзяржавы [152, с. 85 – 86].

Ужо пасля перавароту, у 1926 г., адзін з «санацыйных» публіцыстаў заяўляў, што ўслед за ваеннай рэвалюцыя (гэта значыць майскім пераваротам 1926 г. – *В. К.*) павінна адбыцца рэвалюцыя выхавання. Без гэтай другой першая ў сваіх наступствах была б вельмі павярхоўнай [58, с. 75]. Сутнасць такой рэвалюцыі ўдакладніў у адной са сваіх прамоў палкоўнік В. Славэк, кіраўнік створанага перад парламенцкімі выбарамі 1928 г. «санацыйнага» Беспартыйнага блока супрацоўніцтва з урадам і лідэр так званай «групы палкоўнікаў». Сярод задач свайго блока ён называў выпрацоўку ахвярнасці ў імя дзяржавы, выхаванняў грамадстве свядомасці і пераканання ў тым, што дзяржава з'яўляецца ўсеагульным дабром, якое пераадольвае ўсялякія партыкулярныя адрозненні, а таксама вызначае прынцыпы калектыўнай маральнасці і дзяржаўніцкія заахвочванні да дзеяння [152, с. 86]. Той жа самы В. Славэк адзначаў, што выхаванне павінна натхняць ўсё грамадства на нязломнае жаданне да сумеснай працы на карысць дзяржавы [56, с. 184].

Ажыццявіць гэтыя задачы павінна была «санацыйная» выхаваўчая канцэпцыя, так званае «дзяржаўнае выхаванне», прызванае замяніць эндэцкае «нацыянальнае выхаванне». Пры гэтым, як адзначаюць польскія даследчыкі, пілсудчыкі першапачаткова ў сваёй барацьбе з эндэцкім накірункам выхавання знайшлі саюзнікаў сярод левых і нацыянальных меншасцяў. Ідэолагі «санацыі» абвінавачвалі прыхільнікаў «нацыянальнага выхавання» ў тым, што яны, кіруючыся катэгорыямі часоў няволі, не змаглі вызначыць і гарманізаваць намаганні выхавання з мэтаміі патрэбамі ўласнай дзяржавы. Адначасова рабіліся своеасаблівыя рэверансы ў бок нацыянальных меншасцей. Так, у лістападзе 1929 г. у час свайго выступу ў Вільні міністр рэлігійных веравызнанняўі публічнай асветы К. Світальскі заявіў, што дзяржаўныя ўлады не могуць і не жадаюць патрабаваць ад школ для нацыянальных меншасцяў, каб яны выхоўвалі са сваіх вучняў палякаў. Адзіным іх абавязкам, за якім улады будуць уважліва сачыць, з'яўляецца «генерацыя ў сэрцах дзяцей і моладзі трывалых асноваў для росквіту і моцы Рэчы Паспалітай» [56, с. 184 – 185].

«Санацыйныя» тэарэтыкі заяўлялі, што атасаямленне выхавання толькі з «нацыянальным выхаваннем» павінна быць «раз і назаўсёды выдалена з выхаваўчай сферы, як шкодны накірунак, які падрывае будынак польскай дзяржаўнасці». Таксама гаварылася: «Іншыя народы, якія ўваходзяць у склад Польскай дзяржавы, трэба пераконваць на карысць польскай культуры, знаёміць з яе каштоўнасцямі і заахвочваць пераймаць яе – але гэта не павінна набываць дэнацыяналізуючых формаў, бо аб тым, якая карысць і якія вынікі такіх памкненняў, вучыць гісторыя нашай няволі. Ці мы не навучыліся? Ці мы жадаем выкарыстоўваць метады, ад якіх яшчэ ўчора дрыжэла польская душа і якія яна ненавідзела ўсёй сваёй істотай? » [81, с. 616]. Але, як паказаў час, гэта былі не больш, чым прыгожыя словы. Метады паланізацыі мала чым адрозніваліся ад русіфікацыі ці германізацыі, якія самі палякі спазналі ў часы падзелаў Польшчы.

Эндэкаў таксама абвінавачвалі ў адсутнасці дакладна распрацаванай мадэлі выхавання. Дзеячы асветы з «санацыйнага» лагера адзначалі, што для першых год існавання адроджаннай польскай дзяржавы характэрна дэзарганізацыя ў галіне выхаваўчых ідэй і праграм. У выніку выхавацель быў дэзарыентаваны, «ішоў наўздагад, выкарыстоўваў старыя метады ў новых умовах, і калі бачыў, што нічога добрага з гэтага не выходзіць, замыкаўся ў сябе, пачынаў скардзіцца на адсутнасць ідэйнасці ў моладзі». Уся выхаваўчая праца зводзілася да выкарыстання пэўных формаў без зместу, што прывяло да выхаваўчага крызісу. Гэта, зразумела, выклікала нараканні грамадства, трывогу, а ў далейшым – значныя намаганні ўлад. Вынікам гэтых намаганняў было стварэнне агульнай выхаваўчай праграмы, без якой не было б адраджэння і ўпарадкавання выхаваўчай працы. Так чынам, як адзначалі «санатары», і быў прапанаваны лозунг «дзяржаўнага выхавання» [81, с. 613].

Пры гэтым падкрэслівалася, што рэалізацыя ідэі «дзяржаўнага выхавання» стала магчымай толькі тады, калі да ўладыў незалежнай польскай дзяржаве прыйшоў лагер, які яшчэ задоўга да вайны рыхтаваўся да барацьбы за незалежнасць і які «яшчэў няволі думаў і дзейнічаў у духу дзяржаўнай ідэалогіі… Толькі пасля мая 1926 г. праблема дзяржаўнага выхавання стала на шлях рэалізацыі гэтых важных пастулатаў» [130, с. 346]. Такім чынам, выхаваўчая палітыка, якая адказвала інтарэсам дзяржавы, стала праводзіцца толькі пасля «санацыйнага» перавароту.

Сам тэрмін «дзяржаўнае выхаванне» з’явіўся ў «санацыйным» асяроддзі ў 1927 г. Канчатковае афармленне канцэпцыі адбылося пазней, к 1929 г. Былі праведзены дыскусіі па пытанням школьнай

рэформы, кансультацыі з настаўнікамі. Да выхаваўчых рэалій прыстасоўваліся ідэйныя напрацоўкі «санацыйнага» лагера. Вялікую тэарэтычную працу правяла група «Зромп» (ад назвы часопіса «Zrąb» – пол. зруб, фундамент). Стваральнікамі кіраўніком групы быў Я. Енджэевіч, міністр, а потым кіраўнік ўраду Польшчы. Група налічвала 400 – 500 членаў, адначасова звязаных з сістэмай адукацыі і кіруючым лагерам. Галоўнай задача гэтай арганізацыі была прапаганда культу Ю. Пілсудскага і «дзяржаўнага выхавання» шляхам арганізацыі выдавецкай дзейнасці, лекцый і курсаў.

Першая ідэйная дэкларацыя «Зромпа» выйшла ў 1929 г. У ёй утрымлівалася толькі тры пункты:

1. Група з'яўляецца выразнікам ідэалогіі лагера Ю. Пілсудскага і прымае дзяржаўны выхаваўчы накірунак;
2. Пытанні выхавання яна разглядае ў сувязі з грамадскім жыццём і працай ў гэтым жыцці;
3. Арганізацыя цесна супрацоўнічае з урадам маршала Ю. Пілсудскага і міністэрствам рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы [139].

Два з дзевяці акруговых аддзяленняў гэтага аб'яднання існавалі ў Брэсце і Вільні. Акрамя іх на тэрыторыі Заходняй Беларусі настаўнікамі і чыноўнікамі сістэмы адукацыі былі створаны мясцовыя арганізацыі «Зромпа» ў Пінску, Свянцянах, Лунінцы, Сувалках, Беластоку, Глыбокім, Ломжы, Нясвіжы.

Практычная рэалізацыя «дзяржаўнага выхавання» пачалася на рубяжы 1920 – 1930-х гадоў. К гэтаму часу ужо быў сфарміраваны выхаваўчы ідэал «санацыі». Ідэал выхаванага чалавека палягаўу фарміраванні ў ім такіх рыс, каб ён:

1. быў здольны да свядомай і творчай працы ў імя дзяржавы;
2. схіляўся да свядомага падпарадкавання і абмежавання сваёй волі і інтарэсаў на карысць грамадскіх і дзяржаўных інтарэсаўі мэт;
3. быў падрыхтаваны да канструктыўнага функцыянавання ў грамадстве ў сваім асяроддзі і да ўзаемадзеяння з іншымі;
4. меў магчымасць ажыццявіць такую пажаданую мадэль сацыяльнага жыцця, у якой не было б месца для класавых, нацыянальных і рэлігійных канфліктаў і антаганізмаў.

Такім чынам, рысамі, якія былі неабходны для ідэальнага грамадзяніна і прапагандавалісь «дзяржаўным выхаваннем», былі: ідэйнасць, патрыятызм, уменне падпарадкаваць свае асабістыяі групавыя інтарэсы інтарэсам дзяржавы, моцныя воля і характар, стойкасць, дысцыплінаванасць, рэалістычная ацэнка рэчаіснасці, самастойнасць, адказнасць, вера ва ўласныя сілы, імкненне

удзельнічаць у калектыўным жыцці, працавітасць і элементарныя маральныя вартасці [95, с. 97].

Практычная рэалізацыя «дзяржаўнага выхавання» пачалася на рубяжы 1920 – 1930-х гадоў. Менавіта ў гэты час пачалася падрыхтоўка, а потым і рэалізацыя шырокамасштабнай школьнай рэформы ў 2-й Рэчы Паспалітай. У ліпені 1929 г. міністр рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы С. Чэрвінскі выступіў з праграмнай прамовай «Аб выхаваўчым ідэале польскай школы», ў якой ён вызначыў мэты і задачы «дзяржаўнага выхавання». Міністр заявіў: «Кажучы аб выхаваўчым ідэале, мы гаворым не аб банальнай маральнасці, не аб дэмакратызме, не аб пацыфізме, не аб іншых падобных прыгожых рэчах, якімі звычайна ўпрыгожваюць паслухмянае дзіця, што называецца выхаваўчым ідэалам. Мы не робім гэтага, паколькі баімся, што дзіця ў гэтых шматлікіх адзеннях задушыцца» [68, с. 357]. Па меркаванню Чэрвінскага, выхаваўчым ідэалам павінен стаць тып такога чалавека, якіб аднaчасова быў бы байцом і працаўніком. Адроджанай польскай дзяржаве патрабаваўся грамадзянін, які б «мужнай паўсядзённай працай, а пры неабходнасці і свяшчэнным запалам барацьбы доказваў свой актыўны, шчыры патрыятызм» [107, с. 208]. Выхаванне, як удакладняў міністр у адным са сваіх пазнейшых газетных артыкулаў, павінна было сфарміраваць ў выхаванцаў такую пазіцыю, якая б настройвала іх «да службы дзяржаве, а не да жыцця за кошт дзяржавы» [69, с. 67].

Пераемнік С. Чэрвінскага, Я. Енджэевіч, аўтар і праваднік школьнай рэформы, быў цалкам з ім салідарны. Ён лічыў, што «дзяржаўнае выхаванне» не з'яўляецца выразам якой-небудзь пэўнай грамадскай дактрыны, рэлігійнай веры ці філасофскага светапогляду. Яно бярэ свой змест з жыцця і абапіраецца на фактычную сістэму адносін, якія склаліся на дадзены момант.У межах існуючых умоў і павінны выхоўвацца людзі, якія разумеюць сваю ролю ў дзяржаўнай структуры. Па меркаванні Я. Енджэевіча, задачай выхавання з'яўляецца не ажыццяўленне ідэальных праграм грамадскага жыцця, а падрыхтоўка моладзі да той рэчаіснасці, якая існуе ў дадзеным месцы і часе, існуе на самой справе [98, с. 314]. Такім, чынам, рэалізм і практычнае прымяненне былі асновай «дзяржаўнага выхавання».

Міністр Я. Енджэевіч адзначаў, што «дзяржаўнае выхаванне» імкнецца фарміраваць людзей здольных і жадаючых прымаць свядомы ўдзел у працы арганізаванага ў дзяржаву грамадства. Выхаваны грамадзянін павінен удзельнічаць у павышэнні ўзроўня матэрыяльнай культуры, ва ўдасканаленні грамадскіх адносін,у стварэнні духоўных каштоўнасцяў у дзяржаве, якое разглядаецца як

агульнае і найвышэйшае дабро [98, с. 315 – 316]. Ён таксама звяртаў увагу на неабходнасць усведамлення таго, што «дзяржава – гэта не толькі законная ўлада, абаронца і апякун, але таксамаі калектыўнае намаганне, калектыўная праца, калектыўны абавязак грамадства» [98, с. 317]. Выступаючы ў лютым 1932 г. у сейме, міністр казаў, што «дзяржаўнае выхаванне з'яўляецца грамадзянскім выхаваннем, паколькі ставіць перад сабою мэту падрыхтаваць грамадзяніна, які глыбока ўсведамляе свае абавязкі,з якіх і выцякаюць яго правы. Яно з'яўляецца грамадзянскім і таму, што вучыць падпарадкоўваць свае інтарэсы інтарэсам агульным, сцвярджае, што існуюць вышэйшыя каштоўнасці, што інтарэсы калектыва вышэй індывідуальных» [138, с. 266].

«Дзяржаўнае выхаванне» разумелась даволі шырока і павінна было распаўсюджвацца як на школу, так і за яе межы. «Санацыйныя» ідэолагі звычайна называлі тры асноўных кампаненты сваёй канцэпцыі выхавання. Па-першае, гэта было нацыянальнае выхаванне, мэтай якога было абуджэнне любві да сваёй нацыі і глыбокае азнаямленне з яе гісторыяй і культурай. Паколькі польская дзяржава была шматнацыянальнай, у тэорыі прызнавалася, што ў кожнага з народаў 2-й Рэчы Паспалітай нацыянальнае выхаванне будзе розным. Тым не менш, гэта не выключала, што «ўсе непалякі ў польскай дзяржаве павінны выхоўвацца пад уплывамі польскай культуры, культуры высока талерантнай, з якой яны лёгка пагадзяцца і якая ніколі не стане папярок іх легальным нацыянальным памкненням» [81, с. 617]. Пры жаданні такі падыход даваў шырокія магчымасці для правядзення паланізацыі.

Другім элементам было грамадскае выхаванне, гэта значыць выхаванне асобы для жыцця ў грамадстве, фарміраванне у яе рыс «грамадскага працаўніка». Заяўлялася, што грамадскае выхаванне стаіць над інтарэсамі асобных грамадскіх слаёў, класаў ці партый. Яно павінна было быць накіравана на «ўсю сукупнасць калектыўнага арганізма, які змяшчаецца ў межах дзяржавы, а не на інтарэсы асобных ячэек гэтага арганізма» [81, с. 617]. Тым не менш, на практыцы «дзяржаўнае выхаванне» абслугоўвала інтарэсы канкрэтнай «ячэйкі» дзяржавы – яе кіруючага рэжыму.

Трэцім элементам было маральнае выхаванне асобы. Сцвярджалася, што ідэал добрага грамадзяніна з'яўляецца сінонімам маральнага чалавека. Рэлігійнае выхаванне пры гэтым лічылася справай кожнага чалавека і не супярэчыла лініі «дзяржаўнага выхавання» [81, с. 618].

Неабходна таксама звярнуць увагу на такі важны момант «дзяржаўнага выхавання» як пашырэнне культу асобы маршала Ю. Пілсудскага. Гэты культ стаў неад'емнай часткай «санацыйнай» мадэлі выхавання. Стваральнікі мадэлі нават лічылі маршала прыкладам выхаваццеля. Так, А. Скварчыньскі, адзінз вядучых «санацыйных» ідэолагаў адзначаў на старонках часопіса «Зромп»: «Пілсудскі не з'яўляецца ні тэарэтыкам, які вылушчвае панякцці насуперак жыцця, ні дактрынёрам, што шукае мёртвыя прынцыпы. Ён менавіта выхавацель. Ён, як ніхто іншы, бачыцы чуе жыццё і яго законы» [174, с. 14]. Дарэчы, ужо пасля смерці маршала, у бок польскай педагагічнай думкі рабіўся папрок, што «блукаючы па міжнародных педагагічных кангрэсах», яна праглядзела той факт, што спадчына маршала Ю. Пілсудскага – гэта поўная выхаваўчая сістэма, аўтар якой сам прэзентаваў «выхаваўчы ідэал , вызначыў ідэйныя шляхі Польскай педагагічнай думкі і паказаў Метады Выхаваўчай Працы, якія адпавядаюць нашай нацыянальнай псіхіцы» [66, с. 305].

Польскія гісторыкі прызнаюць, што, акрамя арміі, школа стала выключным месцам, дзе адбывалася фарміраванне свядомасці грамадзян у духу патрэбнай уладам «лягенды Маршала». Так,Я. Пахозка, адна з актыўных прапагандыстак гэтай «лягенды», заяўляла: «Наша моладзь не можа стаць ідэйнай, быць гераічнайі вялікай, калі мы яе фарміруем у духу нянавісці, антыпатыі ціў лепшым выпадку прыхільнай паблажлівасці ў адносінах да тых, хто даў нам незалежнасць». Яна лічыла, што неабходна стварыцьз Ю.Пілсудскага сімвал «грамадзянскасці» [66, с. 306].

Міністр К. Світальскі лічыў, што ўвядзенне ў выхаваўчую практыку культа асобы Ю. Пілсудскага з'яўляецца аднымз прыярытэтаў. Яго пераемнікі былі цалкам з ім згоднымі і актыўна насаджалі гэты культ. Так у лютым 1931 г. міністр С. Чэрвінскі заяўляў, што толькі сляпая ад палітычнай нянавісці партыйнасць можа патрабаваць выкрэсліць з праграмы грамадзянскага выхавання асобу, «якая дзякуючы сваёй ахвярнай службе дзяржаве стала лепшым сімвалам і прыкладам». Таксама ён сцвярджаў, што немагчыма выхоўваць моладзь на прыкладзе чужых герояўі замоўчваць фігуру «самага вялікага героя нашай уласнай вызваленчай вайны» [70, с. 78].

Наступны міністр, Я. Енджэевіч, таксама ў час дэбатаў ў сейме, заявіў: «Наш суд аб гісторыі аднаўлення нашай незалежнасці вызначаны; у тых падзеях мы добра адрозніваем людзей, якія не шкадавалі свайго жыцця і крыві, людзей дзеяння, рашэння, барацьбы і адказнасці і людзей баязлівасці, пагаднення. І будзем – напэўна будзем пашыраць культ адных і пагарду да другіх.І ўлічваючы, што

асоба маршала Пілсудскага з'яўляецца жывым сімвалам таго ўзнёслага, таго, што ёсць адным з самых найпрыгажэйшых выхаваўчых узораў у нашай традыцыі, польская школа павінна пашыраць і культываваць любоў і павагу да яго» [66, с. 307]. Трэба адзначыць, што гэты культ сапраўды актыўна пашыраўся і насаджаўся да самага пачатку вайны.

Яшчэ адзін момант, на які неабходна звярнуць увагу, звязаныз тым, што 2-я Рэч Паспалітая з'ялялася шматнацыянальнай дзяржавай. Як ужо адзначалася вышэй, ідэолагі «дзяржаўнага выхавання» павінны былі ўлічваць гэта. У адносінах да нацыянальных меншасцяў афіцыйна была абвешчана так званая «дзяржаўная асіміляцыя» ў супрацьвагу «нацыянальнай асіміляцыі», якая праводзілася да мая 1926 г. Яе можна сфармуляваць на аснове двух прынцыпаў. Па-першае, Польшча, развіваючы сваю нацыянальную польскую культуру, не жадае пазбаўляць магчымасці развіцця сваёй культуры іншыя народы, якія жывуць на тэрыторыі польскай дзяржавы. Па-другое, Польшча павінна і імкнецца аб'яднаць усе народы, якія насяляюць дзяржаву для сумеснага вырашэння тых задач, якія незалежна ад роднай мовы і культуры народа, ствараюць супольнасць не нацыянальна, а дзяржаўна польскую [214, с. 43]. Міністр С. Чэрвінскі заяўляў, што грамадскае выхаванне павінна весціся такім чынам, каб «кожны ўкраінец, яўрэй ці немец, які нарадзіўся і жыве ў Польшчы, перш чым стаць сумленным працаўніком на глебе свайго асяроддзя, адчуваў і разумеў, што павінен быць, перш за ўсё, дастойным грамадзянінам Найяснейшай Рэчы Паспалітай» [152, с. 87]. Паказальна, што пра беларусаў міністр нават не згадаў.

Трэба адзначыць, што ўжо пры абмеркаванні канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання» ў сейме прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў выступілі супраць яе рэалізацыі. Яны добра разумелі, што рэчаіснасць будзе адпавядаць тэорыі. Дэпутаты ад нацыянальных меншасцяў казалі, што «дзяржаўнае выхаванне» фактычна вядзе да забароны нацыянальнага выхавання няпольскай моладзі і служыць польскаму нацыяналізму. Міністр С. Чэрвінскі ж заявіў у адказ, што згоды можна дасягнуть толькі на платформе выхавання моладзі ў актыўна лаяльных адносінах да дзяржавы: «Альбо – альбо… Альбо сумленна прагнеце магчымасці спакойнага культурнага жыцця ў межах польскай дзяржавы, альбо жадаеце вайны. Трэцяга не дадзена!» [70, с. 80 – 81].

Такім чынам, да 1935 г. кіруючы лагер 2-й Рэчы Паспалітай выпрацаваў і пачаў актыўна рэалізоўваць цэласную канцэпцыю выхавання маладога пакалення. Згодна з меркаваннем польскіх

даследчыкаў, гэтая канцэпцыя базіравалася на трох асноўных прынцыпах:

1. стварэнне пазітыўнага ўзору грамадзяніна-дзяржаўніка;
2. прызнанне таго, што дзяржава мае права навязваць грамадзянам сваю ўласную выхаваўчую канцэпцыю;
3. толькі дзяржаўная ўлада, абвяшчаючы прымат сваіх інтарэсаў, мае права на выхаваўчую дзейнасць, і толькі дзяржава з'яўляецца адзінай сілаю, здольнай выразіць і гарантаваць вяршэнства ўсеагульных інтарэсаў над інтарэсамі партыкулярнымі і індывідуальнымі, партыі ж не маюць ніякага права ўплываць на выхаванне і рэалізацыю выхаваўчага ідэалу [107, с. 211 – 212].

**2. 3. Эвалюцыя «дзяржаўнага выхавання» пасля 1935 г.**

12 мая 1935 г. памер Ю. Пілсудскі. Пасля смерці маршала «санацыйны» лагер захаваў сваю ўладу, але ўнутры яго адбыліся значныя змены, што адбілася і на палітыцы ў галіне выхавання маладога пакалення.

У 1936 г., пад уплывам смерці лідэра «санацыі», выйшла другая дэкларацыя групы «Зромп», якая складалася з пяці пунктаў:

1. У выхаваўчым сэнсе група абапіраецца на новую Канстытуцыю, якую разглядае як завяшчанне Ю. Пілсудскага;
2. Аб'яднанне імкнецца да абуджэння пачуцця адказнасціў дзяржаўных і абарончых пытаннях, робячы ў школьных падручніках і праграмах націск на ролю войска і культЮ. Пілсудскага;
3. «Зромп» арганізуе грамадзянскае выхаванне ў духу грамадзянскай годнасці, павагі да закону, працы і чалавека працы;
4. Група імкнецца да прышчаплення здольнасці да сумленнай калектыўнай працы і ахвярнасці, якая вядзе да гераізму;
5. арганізацыя ўдзельнічае ў школьнай рэформе згодназ законамі 1932 і 1933 гг. [139].

Але к гэтаму часу група «Зромп» страціла свой былы ўплыў.

«Група палкоўнікаў», членам якой з'яўляўся Я. Енджэевіч, была адсунута ад улады. Так у 12 кастрычніка 1935 г. урадВ. Славэка, міністрам рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы ў якім быў В. Енджэевіч, брат Януша, пайшоўу адстаўку. 30 кастрычніка Беспартыйны блок супрацоўніцтваз урадам быў распушчаны. Праз нейкі час унутры лагера «санацыі» ўсталявалася раўнавага паміж так званым «замкам», памяркоўнымі палітыкамі, якія аб'ядналіся вакол прэзідэнта 2-й Рэчы Паспалітай Ігнація Масьціцкага, і групай маршала Э. Рыдз-Смiглага, якая выступала за ўсталяванне больш аўтарытарнага рэжыму.У новым раскладзе палітычных сіл месца для

стваральнікаў «дзяржаўнага выхавання» не знайшлося. У выніку група «Зромп» фактычна перастала існаваць. У 1936 г. таксама перастаў друкавацца і аднаіменны часопіс.

Справа ў тым, што пасля 1935 г. ў ідэалогіі і палітычнай практыцы «санацыі» адбыліся значныя змены. Група Э. Рыдза-Сміглага імкнулася стварыць новы блок замест распушчанага Беспартыйнага блока супрацоўніцтва з урадам. Былі наладжаны кантакты з прадстаўнікамі нацыяналістычнага лагера. Адбывалася эвалюцыя кіруючых колаў 2-й Рэчы Паспалітай у бок нацыяналістычнай ідэалогіі. Таму частка кіраўнікоў «санацыі» пачала адкрыта заяўляць аб неабходнасці ідэйнага сінтэзу абодвух лагероў і ўтварэння новай арганізацыі. 21 лютага 1937 г. палкоўнік А. Коц, адзін з бліжэйшых паплечнікаў Э. Рыдз-Сміглага, абвясціў аб стварэнні Лагера нацыянальнага аб'яднання (Obóz Zjednoczenia Narodowego). Дэкларацыя новага санацыйнага блока, як і раней, абвяшчала прымат дзяржавы, на гэты раз на аснове Канстытуцыі 1935 г. Асабліва падкрэсліваліся роля арміі ў жыцці краіны і лозунг абароны Айчыны. Асоба Ю. Пілсудскага і яго дзейнасць працягвала заставацца ўзорам дзейнасці для ўсіх палякаў. Новым элементам быў адкрыты зварот да нацыяналістычных і каталіцкіх ідэй. Сцвярджалася, што «польская нацыя з'уляецца каталіцкай нацыяй, цесна звязанай з касцёлам». У адносінах да іншых веравызнанняў дэкларавалася талерантнасць. Нацыянальным меншасцям абяцалася «брацкае сужыццё» пры ўмове лаяльнага падпарадкавання інтарэсам польскай дзяржавы. Дэкларацыя таксама абвяшчала антыкамуністычныя лозунгі. Таксама прызнавалася дапушчэнне антысеміцкіх дзеянняў у гаспадарчай і культурнай сферах. Дадзеная праграма сведчыла аб моцным ідэйным збліжэнні кіруючага лагера з пазіцыямі эндэкаў [172, с. 36], галоўны лозунг якога – «Моцныя, згуртаваныя, гатовыя» павінен быў служыць пераадоленню ідэйна-палітычных падзелаў перад знешняй пагрозай [204, с. 59].

Усё гэта адбілася і на становішча ў сферы выхавання маладга пакалення. Лічыцца, што менавіта пасля ўтварэння Лагера нацыянальнага аб'яднання быў атрыманы імпульс да сінтэзу «дзяржаўнага» і «нацыянальнага» выхаванняў. Пад уплывам ідэалогіі новага санацыйнага блоку паглыблялася тэндэнцыя да аб'яднання грамадскага, рэлігійнага, нацыянальнага і «дзяржаўнага» выхавання [205, с. 106 – 107]. Як адзначаюць польскія даследчыкі, школьная рэформа Я. Енджэевіча і папярэдняя выхаваўчая палітыка сталі падвяргацца крытыцы не толькі з боку эндэцкай апазіцыі, але і саміх функцыянераў сістэмы адукацыі. Так, напрыклад, кіраўніцтва

Міністэрства рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы сцвярджала, што ў працэсе выхавання вельмі мала ўвагі звярталася на нацыянальныя і каталіцкія каштоўнасці. Адначасова пачалася інфільтрацыя элементаў «нацыянальнага выхавання» ў змест «дзяржаўнага выхавання» [204, с. 60].

Дадзеныя працэсы былі цесна звязаны з дзейнасцю новага міністра рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы В. Свентаслаўскага. Менавіта пры ім адбыўся адыход ад некаторых традыцыйных ідэалагічных прынцыпаў пілсудчыкаў і прайшла мадыфікацыя канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання». Сутнасць мадыфікацыі, як ужо адзначалася, была ў перайманні «санацыйнымі» выхавацелямі некаторых нацыяналістычных і каталіцкіх выхаваўчых ідэй.

Міністр В. Свентаслаўскі заяўляў, што «няма дзяржаўнага выхавання без уліку падстаў нацыянальнага выхавання і рэлігійна-маральных каштоўнасцяў». У сваіх прамовах міністр рабіў моцны акцэнт на неабходнасці выхавання і развіцця любві да Айчыны, патрыятызму, ахвярнасці, фізічнай сілы, дысцыпліны, маральнай загартаванасці. Таксама ён заяўляў, што выхаванне моладзі не можа быць звязана з актуальнай палітыкай і яе лозунгамі. Яно павінна абапірацца на каштоўнасцях польскай і агульначалавечай культуры, на вялікім даробку хрысціянскай этыкі. Гэта была т. зв. салідарыстычная выхаваўчая праграма, блізкая да «нацыянальнага выхавання». З'яўленне яе, на думку польскіх гісторыкаў, тлумачылася нарастаючай знешняй пагрозай з боку гітлераўскай Германіі і СССР [172, с. 37].

Менавіта знешняя пагроза паўплывала на тое, што ў другой палове 1930-х гг. у выхаванні маладога пакалення рабіўся ўсё большы націск на фарміраванне «мілітарысцкага стану свядомасці». Размова ішла пра «будаўніцтва нацыянальнага інстынкту самазахавання». Гэты інстынкт азначаў гатоўнасць да абароны нацыянальнай і дзяржаўнай незалежнасці. Па меркаванню міністра В. Свентаслаўскага гэта трэба было рабіць праз псіхічнае ўзмацненне грамадства і таму школа павінна была звярнуць асаблівую ўвагу на фарміраванне адвагі, самастойнасці мыслення, волі і загартаванасці духу вучняў. Таксама падкрэслівалася неабходнасць салідарнасці ўсяго грамадства.

Так, на адным з паседжанняў міністр заяўляў: «Перад тварам усеагульных узбраенняў, якія праводзяцца ўсімі дзяржавамі, наша моладзь павінна расці ва ўсведамленні таго, што не толькі ад сталасці грамадства, але і ад яго гарачага патрыятызму і ўзброенай псіхічнай і фізічнай гатоўнасці залежыць незалежнае існаванне Рэчы Паспалітай… Польшча, акрамя ўзбраенняў і тэхнічнага развіцця, патрабуе псіхічнага пераўзбраення грамадства. Павінна ўсталявацца

ўсеагульнае перакананне, што ва ўмовах сусветнай сітуацыі ўсе ўнутранныя спрэчкі становяцца малымі і перастаюць існаваць перад праблемамі бяспекі дзяржавы» [93, с. 226].

У гэты перыяд станавілася ўсё больш цеснай сувязь паміж сістэмай адукацыі і арміяй, што таксама мела непасрэдны ўплыў на выхаванне маладога пакалення.

У студзені 1937 г. ваенны міністр выдаў распаражэнне аб узаемадзеянні камандуючых ваенных акруг са школьнымі куратарамі. Адначасова міністр В. Свентаслаўскі выдаў аналагічнае распаражэнне для школьных куратараў аб супрацоўніцтвез ваеннымі ўладамі. Трэба адзначыць, што гэтыя рашэнні непасрэдна тычыліся і заходнебеларускага рэгіёну. Абодва міністры падкрэслівалі, што ў інтарэсах бяспекіі абароназдольнасці дзяржав неабходна «умацаванне польскага фактару на памежных і нацыянальна змешаных землях». Асноўным сродкам рэалізацыі гэтай задачы была абвешчана школа. Менавіта каб больш прадуктыўна выкарыстоўваць гэты сродак і патрэбна было супрацоўніцтва паміж кіраўнікамі школьных і ваенных акруг.

Армейскія структуры павінны былі узгаднящь з адпаведнымі школьнымі ўладамі:

1. усе асветна-выхаваўчыя акцыі, якія праводзяцца якў войску, так і ў арганізацыях ваеннай падрыхтоўкі;
2. пачынанні ў галіне ўзмацнення і ўзбраення псіхікі грамадства.

Таксама ваенныя мелі права накіроўваць школьным уладам пажаданні ў справе пашырэння асветных акцый на асабліва важных тэрыторыях, а таксама пажаданні аб замяшчэнні пасад настаўнікаў адпаведнымі асобамі [93, с. 228].

Міністр рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы рэкамендаваў школьным куратарам прытрымлівацца гэтага распараджэння. Таксама ён даручаў прызначыць спецыяльнага чыноўніка, які б патрымліваў сталую сувязь з кіраўніком рэферату бяспекі адпаведнай ваеннай акругі.

Вясной і летам 1937 г. ішла работа па зменах у праграмах навучання. Згодна з новай палітыкай рабіўся націск на фарміраванне адпаведнага ідэйнага ўзроўню моладзі праз выпрацоўку ў вучняў любві да Радзімы ва ўсіх яе праявах. Таксама рэкамендавалася фарміраваць павагу да дзяржаўных інстытутаўі асоб, якія прадстаўляюць гэтую дзяржаву [93, с. 229].

Адпаведная пастанова, згодна з якой падрыхтоўка школьнай моладзі да абароны аб'яўлялася асноўным пытаннем выхаваўчай і дыдактычнай работы школы, выйшла 10 верасня 1937 г. Яна дзялілася

на агульную падрыхтоўку да абароны краіны і ваенную падрыхтоўку. Апошняя з'ялялася абавязковым прадметам школьнай праграмы. Агульную ж падрыхтоўку павінна была ажыццяўляць уся школьная сістэма, пачынаючы з самага ніжэйшага ўзроўню.

Школа павінна была звяртаць увагу на ўсе фактары, якія маюць дачыненне да «фарміравання моцных характараў, выпрацоўкі пачуцця адказнасці за асабістую і калектыўную працу, да развіццяі ўмацавання салдацкіх вартасцяў, а асабліва любві да Радзімы, пачуцця гонару, стараннасці і волі да перамогі». Такім чынам, праз падрыхтоўку школьнай моладзі да абароны краіны планавалася падрыхтаваць свядомых, актыўных, мужных і дысцыплінаваных грамадзян [54, с. 796].

Новым элементам у гэтым выхаваўчым ідэале стала воля да перамогі, якая разумелася як «духоўная і фізічная энергічнасць аб'яднаная з радаснай верай у будучыню, як падрыхтоўка да барацьбы і пераадолення супраціву, а таксама як ламанне пасіўнай пазіцыі на карысць наступальнага дзеяння» [54, с. 797].

Рэкамендавалася пры выкладанні асобных прадметаў знаходзіць рабіць націск на тыя элементы, якія маюць сувязьз абароназдольнасцю краіны. Акрамя школы да працы па падрыхтоўцы да абароны краіны неабходна было прыцягваць сям'ю – «найважнейшы фактар, які адыгрывае прынцыпіяльную ролю ў выхаванні маладога пакалення» [54, с. 802].

Асабліва падкрэслівалася роля правядзення працы па падрыхтоўцы да абароны краіны менавіта на нацыянальных ускраінах 2-й Рэчы Паспалітай. Пры гэтым на ўвазе мелася не толькі падрыхтоўка да непасрэдна ўзброеных дзеянняў. У адныміз артыкулаў, прысвечаных гэтай праблеме адзначалася: «Кожная асоба і кожная арганізацыя нашай нацыянальнай супольнасці, пачынаючы з самага ніжэйшага ўзроўню, гэта значыць сям'і, павінна выканаць важную ролю, ствараючы, асабліва на «крэсах», пункты абароны супраць распаўсюджвання чужых уплываў, чужых светапоглядаў... чужых агентур. Гэта магчыма толькі калі прытрымліваца высокіх этычных вартасцяў, галоўным чынам глыбока зразумелага ідэалізму, і суправаджаць іх павінна пачуццё нацыянальнага гонару і годнасці» [54, с. 804].

Такім чынам, ацэніваючы «санацыйную» выхаваўчую канцэпцыю, неабходна сказаць, што гэта была даволі стройнаяі дэтальна распрацаваная сістэма. Яе станоўчымі рысамі былі сувязь з жыццём і практычная накіраванасць, выхаваўчы характар навучання ў школе. Яна ставіла перад сабой мэту выхавацьу моладзі моцную волю,

дынамізм, дысцыплінаванасць, здольнасць да ахвярнасці і гераізму. Але ўсе гэтыя пазітыўныя рысы «дзяржаўнага выхавання» былі падпарадкаваны прагматычным мэтам кіруючых колаў 2-й Рэчы Паспалітай, якія імкнуліся перацягнуць на свой бок маладое пакаленне дзяржавы. «Санацыя», якая атасаямляла сябе з дзяржавай, фактычна навязвала грамадству свае выхаваўчыя ідэалы. Яшчэ адным адмоўным бокам дадзенай канцэпцыі было тое, што ў выніку сваёй эвалюцыі, асабліва з сярэдзіны 1930-х гг., яна фактычна пераняла метады і ідэі эндэцкага «нацыянальнага выхавання». У выніку гэтыя дзве канцэпцыі, як адзначаюць польскія даследчыкі, адрозніваліся не зместам, а паняційным апаратам, тэрміналогіяй і традыцыямі [95, с. 99]. Абедзве яны з'яўляліся сродкам паланізацыі нацыянальных меншасцей. Фактычна ставілася мэта выхаваць не проста добрага грамадзяніна, а грамадзяніна-паляка. Гэта і прыводзіла, як будзе паказана ніжэй, да неэфектыўнасці «дзяржаўнага выхавання» на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў адрозненні ад непасрэдна польскіх земляў, дзе яно дасягнула значных пазітыўных вынікаў.

## ГЛАВА 3
## РЭАЛІЗАЦЫЯ КАНЦЭПЦЫІ «ДЗЯРЖАЎНАГА ВЫХАВАННЯ» Ў ШКОЛЕ

### 3. 1. Арганізацыя школьнай справы на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Школьная рэформа Я. Енджэевіча.

Як ужо адзначалася вышэй, сістэма народнай адукацыі ў 2-й Рэчы Паспалітай пачала ствараццa амаль адразу пасля аднаўлення незалежнасці польскай дзяржавы, хаця падрыхтоўка да гэтага пачалася яшчэ раней [41, с. 97].

Адным з першых законаў у адроджанай Польшчы стаў дэкрэт «Аб школьным абавязку», выдадзены 7 лютага 1919 г. за подпісам Начальніка Дзяржавы Ю. Пілсудскага. Дзеянне дэкрэта распаўсюджвалася на тую частку польскай дзяржавы, якая раней уваходзіла ў склад Расійскай імперыі.

Першы артыкул дэкрэту абвяшчаў навучанне ва ўсеагульнай (powszechnej) школе абавязковым. Таксама дэкрэт абвяшчаў аб тым, што ўсеагульныя школы будуць створаныя ў такой лічбе, каб усе дзеці школьнага ўзросту мелі магчымасць вучыцца. Усеагульную школу планавалася ствараць ў той мясцовасці, дзе пражывае як мінімум 40 дзяцей ва ўзросце ад 7 да 14 гадоў.

Прадугледжвалася, што поўная ўсеагульная школа павінна ахопліваць сем гадоў навучання, але дэкрэт рэкамендаваў устрымацца на нейкі час ад гэтага і ствараць у першую чаргу чатырохгадовыя абавязковыя школы з дадатковымі трохгадовымі ці абавязковыя пяцігадовыя школы з дадатковымі двухгадовымі.

Дэкрэт устанаўліваў кантроль за выкананнем школьнага абавязку. Школьныя ўлады ажыццяўлялі гэты кантроль пры дапамозе мясцовага самакіравання і нават паліцыі. Дзеці запісаныя ў школу павінны былі рэгулярна наведваць школу з пачатку верасня і да канца чэрвеня. У канцы кожнага месяцу кіраўнік школы павінен быў паведаміць свайму начальству спіс вучняў, якія прапусцілі заняткі без уважлівай прычыны.

Невыкананне школьнага абавязку вяло за сабою сур'ёзнае пакаранне для бацькоў ці апекуноў. Так, за ўкрыванне ад запісу ў школу дэкрэт прадугледжваў арышт на 5 дзён ці штраф да 100 польскіх марак. Тыя, хто без уважлівай прычыны не пасылалі дзяцей у школу, за кожны такі выпадак караліся арыштам на 2 дні ці штрафам у 40 польскіх марак. Пакаранне ажыццяўлялі прадстаўнікі мясцовага самакіравання ці паліцыя. Атрыманыя штрафы

прадугледжвалася накіроўваць на карысць незаможных дзяцей дадзенай школы [74].

Пры ўсіх сваіх пазітыўных момантах дэкрэт меў адзін сур'ёзны недахоп, які фактычна перашкаджаў яго рэалізацыі. Справа ў тым, што артыкул 33 дэкрэта прадугледжваў, што дзеці, якія пражываюць далей 3 км ад школы, а таксама дзеці, якія жывуцьу месцах, аддзеленых ад школы натуральнымі перашкодамі, вызваляюцца ад школьнага абавязку. У выніку сталі ўзнікаць т. зв. «зоны без школ». Асабліва шмат іх было менавіта ва ўсходніх ваяводствах 2-й Рэчы Паспалітай, у тым ліку і на тэрыторыі Заходяй Беларусі. Адным з лідэраў у гэтых адносінах было Палескае ваяводства. Справаздачы школьных інспектараў нават змяшчалі спецыяльны раздзел «Мясцовасць, якая не ўваходзіць ні ў адну са школьных акруг». Напрыклад, у Пружанскім павеце было 3 такіх мясцовасці з «зонамі без школ», дзе налічвалася ад 4 да 10 дзяцей, шэсць мясцовасцей з зонамі, дзе налічвалася ад 10 да 20 дзяцей і чатыры з зонамі дзе пражывала ад 20 да 35 дзяцей. Дзеці, якія пражывалі ў «зонах без школ» не ўлічваліся, паколькі па дэкрэту школа магла быць створана толькі пры наяўнасці 40 дзяцей [41, с. 99]. У выніку шмат дзяцей школьнага ўзросту заставаліся не ахопленымі асветай. Такое становішча захоўвала на працягу ўсяго міжваеннага перыяду. Напрыклад, у 1936 г. у Палескім ваяводстве па-за школай заставалася 23% дзяцей школьнага ўзросту, у Віленскім і Навагрудскім ваяводствах не вучылася 21,6% дзяцей [33, с. 98].

Тым не менш, дэкрэт ад 7 лютага 1919 г. меў вялікае значэннеі быў значным крокам наперад у параўнанні са становішчам, існаваўшым у Расійскай імперыі, дзе закона аб усеагульным школьным абавязку нават не было.

У тым жа 1919 г. быу прыняты дэкрэт, які тычыўся падрыхтоўкі настаўніцкіх кадраў для ўсеагульных школ. Менавіта тады былі закладзены асновы сістэмы парыхтоўкі педагагічных кадраў, якая праіснавала да канца 2-й Рэчы Паспалітай. Будучыя настаўнікі вучыліся 5 год ў настаўніцкіх семінарыях. Навучанне павінна было быць бясплатным. Экзамены за курс семінарыі праводзіліся двойчы: на званне часовага і сталага настаўніка. Пасведчанне аб заканчэнні семінарыі давала права на пасаду часовага настаўніка. Толькі пасля двух год працы дазвалялася здаваць другі экзамен, на сталага настаўніка. На гэтым другім экзамене правяралася не толькі уменне весці ўрокі, але і веданне арганізацыі народнай адукацыі, асноваў школьнага заканадаўства, аднаго з прадметаў (па выбару), педагагічных дысцыплін. Таксама правяраліся веды па аднаму з

прадметаў, які выкладаўся ў семінарыі, але падрыхтаванаму па больш шырокай праграме. Падрыхтоўцы настаўнікаў надавалася вялікае значэнне, асабліва здачы другога экзамену. Гэта садзейнічала павышэнню навукова-педагагічнага, метадычнага і агульнаадукацыйнага ўзроўню настаўнікаў 2 Рэчы Паспалітай [41, с. 100].

Лічыцца, што сістэма адукацыі першых гадоў існавання 2-й Рэчы Паспалітай была архаічнай, што выяўлялася ў яе шматступенчатасці і тупіковасці. Тупіковымі з'яўляліся ўсеагульныя школы. Пасля іх заканчэння можна было паступаць толькі ў настаўніцкія семінарыі ці рамесленыя вучылішчы. Доступ ў вышэйшыя навучальныя ўстановы для іх выпускнікоў быў зачынены. Але трэба адзначыць, што заканчэнне 6-га класа ўсеагульнай школы прыраўнівалася да заканчэння ніжэйшай гімназіі і дазваляла далей паступаць у вышэйшую гімназію.

Каб паступіць у ВНУ неабходна было закончыць платную гімназію. У гімназію паступалі пасля заканчэнне пачатковай школы (3 класы). Навучанне ў гімназіі мела два ўзроўні: ніжэйшы (3 гады)і вышэйшы (5 год). Навучанне ў вышэйшай гімназіі ажыццяўлялася па наступных профілях: гуманітарным, неагуманітарным, прыродазнаўча-матэматычным і класічным. Менавіта ў вышэйшай гімназіі ажыццяўлялася падрыхтоўка да паступлення ў вышэйшую навучальную ўстанову ці, пасля адпаведнай падрыхтоўкі, да заняцця пасады чыноўніка [41, с. 101].

Сярэдняя школа, гімназія заставалася недаступнай для большасці вучняў. У першую чаргу гэта было вынікам вялікага кошту навучання. Так, напрыклад, вядома, што ў 1931/32 навучальным годзе ўступная плата ў дзяржаўнай гімназіі складала 223 злотых. Для параўнання – карова на рынку каштавала каля 100 – 200 злотых [33, с. 74]. Яшчэ большай была плата ў прыватных сярэдніх школах – ад 500 да 1 000 і нават больш злотых у год. Акрамя таго, існавала дадатковая плата за здачу экзаменаў, бланкі пасведчанняў і інш. Іншагародняя вучні павінны былі плаціць за жыллё і харчаванне. Трэба адзначыць, што цалкам ад аплаты за навучанне ў дзяржаўнай сярэдняй школе маглі звальняцца толькі незаможныя вучні-выдатнікі, пры гэтым прадугледжвалася, што лічба такіх вучняў не павіннна перавышаць 10% ад усёй колькасці вучняй дадзенай школы. Адначасова часткова ад аплаты вызваляліся дзеці дзяржаўных чыноўнікаў і прафесійных ваенных, у выключных выпадках – дзеці з незаможных сямей. Дзецям дзяржаўных чыноўнікаў і прафесійных ваенных дзяржаўныя ўлады ў 1928/29 – 1931/32 навучальных гадах давалі магчымасць карыстацца прыватнымі сярэднімі школамі пры

ўмове, штоў дадзенай мясцовасці не было дзяржаўных сярэдніх школ ці не было месцаў у гэтых школах. Пры гэтым ім кампенсаваліся ўсе выдаткі, звязаныя з вучобай у прыватных гімназіях [56, с. 183].

Важным заканадаўчым актам, які аказаў вялікі ўплыў на развіццё школьнай справы, стаў прыняты 17 лютага 1922 г. закон «Аб стварэнні і ўтрыманні публічных усеагульных школ». Згодназ законам, абавязак па стварэнню і ўтрыманню публічных усеагульных школ ускладваўся на дзяржаву і гміны (мясцовае самакіраванне). Прадугледжвалася, што школьная сетка павінна быць складзена такім чынам, каб усе дзеці школьнага ўзросту маглі карыстацца школамі і каб школы былі па магчымасці вышэйшага арганізацыйнага ўзроўню. Для гэтага планавалася стварыць школьныя раёны з улікам наступных умоў:

1. шлях да школы не павінен перавышаць 3 км;
2. колькасць дзяцей у кожным раёне не павінна перавышаць 650 чалавек;
3. найменьшая колькасць дзяцей у раёне – 40 чалавек.

Такім чынам, гэтыя ўмовы перакліканіся з палажэннямі дэкрэту 1919 г. «Аб школьным абавязку» і захоўвалі магчымасць існавання «зон без школ».

Арганізацыйны ўзровень школы залежыў ад колькасці дзяцей школьнага ўзросту, якія пражывалі ў дадзеным раёне. Калі гэтая лічба на працягу трох год не перавыышала 60, то стваралася аднакласная школа (з 1 настаўнікам), пры лічбе ад 61 да 100 дзяцей – двухкласная школа (з 2 настаўнікамі), пры лічбе ад 100 да 150 – трохкласная школа (з 3 настаўнікамі), ад 150 да 200 – чатырохкласная школа (4 настаўніка), ад 201 да 250 – пяцікласная школа (з 5 настаўнікамі), ад 251 да 300 – шасцікласная школа(з 6 настаўнікамі), звыш 300 дзяцей – сямікласная школа (з7 і больш настаўнікамі).

Выдаткі на ўтрыманне, як ужо адзначалася вышэй, дзяліліся паміж дзяржавай і гмінай. Пры гэтым дзяржава забяспечвала вучэбныя матэрыялы, кнігі для бібліятэкі. Гміна павінна была забяспечыць школу памяшканнем, абсталяваць гэтае памяшканне, арганізаваць яго атапленне і асвятленне. У выпадку калі гміна не была ў стане забяспечыць неабходны бюджэт, сродкі павінна была асігнаваць дзяржава [195].

Закон ад 17 лютага 1922 г. так і не быў рэалізаваны цалкам. Галоўнай прычынай, як і ў іншых выпадках, стаў недахоп фінансавых сродкаў. Асабліва востра гэтая праблема праявіласяў перыяд эканамічнага крызісу. Так, аб'ём сродкаў, якія выдзяляліся на будаўніцтва школ, з 1929 па 1932 гг., скараціўся амаль у 39 разоў [41,

с. 108]. Пры гэтым становішча з будаўніцтвам школ ва ўсходніх ваяводствах 2-й Рэчы Паспалітай было горшым, чым у сярэднім па краіне. Калі ў сярэднім па краіне на 100 км$^2$ прыходзілася 7,3 школы, то ў Віленскім і Навагрудскім ваяводствах гэтая лічба складала толькі 5,4, а у Палескім ваяводстве – 3,4 [33, с. 98].

У пачатку 20-х гг. таксама пачалося стварэнне адміністратыўнай структуры сістэмы народнай адукацыі 2-й Рэчы Паспалітай. 4 чэрвеня 1920 г.быў выдадзены закон «Аб часовым упарадкаванні школьных улад». У адміністрацыйных мэтах у галіне выхавання тэрыторыя дзяржавы была падзелена на школьныя акругі на чале з кураторамі. Куратары мелі даволі шырокія паўнамоцтвы. У першую чаргу яны ажыццяўлялі: кіраўніцтва выхаваўчымі і асветнымі інстытутамі, а таксама ўсеагульнымі школамі, якія падпарадкоўваюцца дзяржаве, прафесійнымі школамі ў аб'ёме, вызначаным праз міністра рэлігійных веравызнаняў і публічнай асветы, а таксама надзор, апеку і кантроль над школьніцтвам, перадшкольным і пазашкольным выхаваннем і асветай у акрузе. Таксама куратары складалі бюджэт школьнай акругі і распараджаліся бюджэтнымі сродкамі, якія выдзяляла дзяржава, прызначалі кіраўнікоў усеагульных школ, членаў павятовых школьных саветаў, членаў апякунскіх саветаў сярэдніх школ і настаўніцкіх семінарый. Менавіта па іх прапанове міністр прызначаў у акрузе школьных інспектароў, дырэктароў і настаўнікаў дзяржаўных сярэдніх школ і настаўніцкіх семінарыяў [194]. Трэба адзначыць, што пасля 1926 г. прадметам асаблівай увагі куратараў стала ідэалагічна-палітычная пазіцыя настаўнікаў. Міністэрства рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы паставіла перад імі наступныя задачы:

1. кантроль за дакладным і сумленным выкананнем настаўнікамі абавязкаў, якія выцякаюць са школьных правілаўі распараджэнняў школьных улад;
2. не дапушчэнне «празмерна інтэнсіўнага» ўдзелу настаўнікаў у партыйна-палітычнай дзейнасці;
3. праверка этычнасці паводзін настаўнікаў [56, с. 189 – 190].

На тэрыторыі Заходняй Беларусі дзеянне закону «Аб часовым упарадкаванні школьных улад» распаўсюдзілася ў 1922 г., пасля заканчэння польска-савецкай вайны. 13 красавіка 1922 г. выйшла распараджэнне Савета міністраў аб распаўсюджванні закона «Аб часовым упарадкаванні школьных улад» на тэрыторыю Навагрудскага, Валынскага і Палескага ваяводстваў, а таксама на Бялавейскі, Гродзенскі і Ваўкавыскі паветы Беластоцкага ваяводства [156]. 3 мая 1922 г. выйшлі распараджэнні міністра рэлігійных

веравыхнанняў і публічнай асветы, згодна з якімі на тэрыторыі заходнебеларускага рэгіёна ствараліся школьныя акругі. У склад Палескай школьнай акругі з сядзібай куратара ў Брэсце ўвайшла ўся тэрыторыя Палескага ваяводства, а таксама Нясвіжскі, Баранавіцкі і Стаўбцоўскі паветы Навагрудскага ваяводства [159]. Астатняя частка Навагрудскага ваяводства (на той час Лідскі, Навагрудскі, Слонімскі і Валожынскі паветы) разам з Беластоцкім ваяводствам склалі тэрыторыю Беластоцкай школьнай акругіз цэнтрам у Беластоку [158]. Віленскае ваяводства ўвайшло ў склад Віленскай школьнай акругі з цэнтрам у Вільні [157].

У далейшым структура школьных акруг на тэрыторыі Заходняй Беларусі мянялася. 24 лютага 1927 г. па распараджэнню міністра рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы тэрыторыя Навагрудскага ваяводства была аддзелена ад Палескайі Беластоцкай школьных акруг і далучана да Віленскай школьнай акругі [160]. 24 жніўня таго ж года была ліквідавана Беластоцкая школьная акруга [161]. Чарговыя змены ў арганізацыі школьных акруг адбыліся ў 1932 г. У склад Віленскай школьнай акругі ўвайшлі Віленскае і Навагрудскае ваяводствы, а таксама Гродненскі, Ваўкавыскі і Сувальскі паветы Беластоцкага ваяводства. Тым часам у складзе Палескай акругі знаходзіліся Палескае ваяводства і Беластоцкі, Бельскі, Аўгустоўскі і Саколскі паветы Беластокскага ваяводства [170, с. 88].

У 1933 г. было прынята распараджэнне Прэзідэнта Рэчы Паспалітай аб арганізацыі раённых школьных улад. Школьныя акругі «у мэтах кіравання ў галіне перадшкольнага выхавання і ўсеагульнага школьніцтва, а таксама ў галіне апекі над пазашкольнай асветай» дзяліліся на школьныя раёны (obwódy). У склад раёна звычайна ўваходзіў адзін павет, хаця прадугледжваліся і выключэнні. На чале школьнага раёну стаяў школьны інспектар, які падпарадкоўваўся непасрэдна куратару школьнай акругі. Школьны інспектар на тэрыторыі раёну з'яўляўся «першай інстанцыяй у сферы арганізацыі, кіраўніцтва і педагагічнагаі адміністрацыйнага нагляду над публічным школьніцтвамі перадшкольным выхаваннем». Ён ажыццяўляў надзор як над дзяржаўнымі, так і прыватнымі ўстановамі адукацыі. У дапамогу яму ў кожным раёне ствараўся школьны інспектарат [163]. 14 ліпеня 1933 г. выйшла адпаведная пастанова міністра рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы, згодна з якой адбыўся непасрэдны падзел школьных акруг на раёны.

У выніку Палеская школьная акруга дзялілася на 14 раёнаў:

1. Брэсцкі (Брэсцкі павет, сядзіба інспектара знаходзілася ў Брэсце);

2. Драгічынскі (Драгічынскі павет, Драгічын);
3. Кашырскі (Кашырскі павет, Камень Кашырскі);
4. Кобрынскі (Кобрынскі павет, Кобрын);
5. Косаўскі (Косаўскі павет, Косава);
6. Лунінецкі (Лунінецкі павет, Лунінец);
7. Пінскі (Пінскі павет, Пінск);
8. Пружанскі (Пружанскі павет, Пружаны);
9. Столінскі (Столінскі павет, Столін);
10. Беластоцкі (Беластоцкі і Высока-Мазавецкі паветы, Беласток);
11. Бельскі (Бельскі павет, Бельск Падляскі);
12. Ломжынскі (Ломжынскі і Шчучынскі паветы, Ломжа);
13. Астралэнскі (Астралэнскі і Астроўскі паветы, Астралэнка);
14. Саколскі (Саколскі павет, Саколка) [164].

Такім чынам, як бачна, Палеская акруга ахоплівала не толькі Палескае ваяводства, але і частку Беластоцкая ваяводства (10 – 14 школьныя раёны).

Віленская школьная акруга была падзелена на 18 раёнаў:

1. Браслаўскі (Браслаўскі павет, Браслаў);
2. Глыбоцкі (Глыбоцкі павет, Глыбокае);
3. Ашмянскі (Ашмянскі павет, Ашмяны);
4. Пастаўскі (Пастаўскі павет, Паставы);
5. Свянцянскі (Свянцянскі павет, Свянцяны);
6. Вілейскі (Вілейскі і Маладзечанскі паветы, Вілейка);
7. Віленскі гарадскі;
8. Віленскі (Віленска-Троцкі павет, Вільня);
9. Баранавіцкі (Баранавіцкі павет, Баранавічы);
10. Лідскі (Лідскі павет, Ліда);
11. Нясвіжскі (Нясвіжскі і Стаўбцоўскі паветы, Нясвіж);
12. Навагрудскі (Навагрудскі павет, Навагрудак);
13. Слонімскі (Слонімскі павет, Слонім);
14. Шчучынскі (Шчучынскі павет, Шчучын);
15. Валожынскі (Валожынскі павет, Валожын);
16. Гродненскі (Гродненскі павет, Гродна);
17. Сувальскі (Сувальскі і Аўгустоўскі паветы, Сувалка);
18. Ваўкавыскі (Ваўкавыскі павет, Ваўкавыск) [164].

Віленская школьная акруга ўключыла ў свой склад Віленскае(1 – 8 школьныя раёны) і Навагрудскае (9 – 14 раёны) ваяводстваі частку Беластоцкага (16 – 18 раёны) ваяводства.

Значнай падзеяй, якая паўплывала на развіццё сістэмы адукацыі 2-й Рэчы Паспалітай стала так званая «енджэевічаўская рэформа», атрымаўшая назву ад прозвішча міністра Я. Енджэевіча, ініцыятара

дадзенай рэформы. Справа ў тым, што на рубяжы 1920 – 1930-х гг. сістэма народнай адукацыі апынулася ў крызісе. Зніжаўся працэнт вучняў, якія вучыліся ва ўсеагульнай школе. Пры гэтым у 1930/31 навучальным годзе 79,7% вучняў заканчвалі навучанне на ўзроўні I – III класаў усеагульнай школы. Толькі 11,2% вучняў усеагульных школ завяршалі поўны сямігадовы курс [41, с. 107]. Выхад з гэтага становішча і павінна была даць рэформа. Адначасова рэфармаванне сістэмы народнай адукацыі павінна было спрыяць рэалізацыі «санацыйнай» канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання».

Змены ў сістэме адукацыі праводзілася згодна з законам «Аб упарадкаванні школьніцтва», які быў выдадзены 11 сакавіка 1932 г. і ўступіў у дзеянне з чэрвеня таго ж года. Мэтай гэтага закону было «увядзенне такіх прынцыпаў школьнага ўпарадкавання, якія павінны аблегчыць Дзяржаве арганізацыю выхаванняі фарміравання ўсведамляючых свае абавязкі і творчых грамадзян Рэчы Паспалітай, а гэтым грамадзянам – забяспечыць па магчымасці найвышэйшую рэлігійную, маральную, інтэлектуальную і фізічную падрыхтоўку, а таксама найлепшую падрыхтоўку да жыцця, самым жа здальнейшым і актыўнейшым асобам з усіх слаёў даць магчымасць дасягнуць найвышэйшага ўзроўня навуковай і прафесійнай падрыхтоўкі» [197].

Асновай народнай адукацыі павінна была стаць сямігадовая ўсеагульная школа. Навучанне ва ўсеагульнай школе з’яўлялася абавязковым. Закон прадугледжваў тры віда школ: дзяржаўныя, якія павінны былі фінансавацца за кошт дзяржаўнага бюджэту, публічныя, фінансуемыя за кошт дзяржавы і мясцовага самакіравання, і прыватныя. У залежнасці ад колькасці вучняўі настаўнікаў школы дзялілася на тры ступені. Да школ I ступені адносіліся школы з I – IV класамі, да II ступені – з I – VI класаміі да III ступені – з I – VII класамі. Цалкам праграма ўсеагульнай школы рэалізоўвалася толькі ў школах III ступені. Найбольш распаўсюджанымі школамі ў 2-й Рэчы Паспалітай з’яўляліся школы I ступені з чатырохгадовым тэрмінам навучання. Сярэдняя школа засноўвалася на школе II ступені, пасля якой ішлі чатырохгадовая гімназія і двухгадовы ліцэй. Такім чынам, поўны курс агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі, які даваў права на паступленне ў вышэйшыя навучальныя установы, працягваўся 12 год. Закон падкрэсліваў, што праграмы павінны быць складзены такім чынам, каб даць моладзі, якая валодае адпаведнымі здольнасцямі, магчымасць пераходзіць са школ ніжэйшых тыпаў у вышэйшыя.

Асобныя раздзелы закона былі прысвечаны прафесійнаму навучанню моладзі ў спецыяльных прафесійных школах і на

прафесійных курсах. Таксама ў законе разглядаліся праблемы падрыхтоўкі педагагічных кадраў для ўсеагульных і сярэдніх агульнаадукацыйных і для прафесійных школ [41, с. 110].

У сувязі з пачаткам рэаліізацыі канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання» ў законе спецыяльна падкрэсліваліся выхаваўчыя задачы, якія стаялі перад кожным відам школ. Так, усеагульная школа павінна была «даць на ўзроўні, адпавядаючым узростуі развіццю дзіця, патрэбныя ўсім грамадзянам адзіныя асновы выхавання і грамадска-грамадзянскай падрыхтоўкі, а таксама грамадска-грамадзянскую падрыхтоўку з улікам патрэб гаспадарчага жыцця». У сярэдняй агульнаадукацыйнай школе моладзі павінны былі «даць асновы поўнага культурнага развіцця, падрыхтаваць яе да актыўнага ўдзелу ў арганізаваным жыццiў дзяржаўных межах грамадства і падрыхтаваць да вучобыў вышэйшай школе». Прафесійнае школьніцтва мела сваёю мэтай «падрыхтаваць для гаспадарчага жыцця прафесійна кваліфікаваных работнікаў праз тэарэтычнае і практычнае навучанне з улікам патрэбнага аб'ёму агульнага навучання і праз грамадска-грамадзянскае выхаванне» [208, с. 9].

Рэалізацыя школьнай рэформы сустрэла значныя перашкоды. Па-першае, скарачалася фінансаванне з боку дзяржавы на патрэбы народнага выхавання. Па-другое, павялічылася колькасць дзяцей школьнага ўзросту. У выніку ўсеагульныя школы мелі вялікія матэрыяльныя і кадравыя цяжкасці – па ўсёй 2-й Рэчы Паспалітай не хапала 45 000 класных памяшканняў і больш за 25 000 настаўнікаў. Усеагульная школа так і не ператварылася ў сапраўды ўсеагульную. Як ужо адзначалася вышэй, да самага 1939 г. значная колькасць дзяцей аказвалася не ахопленай школьным навучаннем. Пры гэтым развіваліся ў асноўным ўсеагульныя школы ніжэйшых ступеняў. Так, 47% вучняў у 2-й Рэчы Паспалітай, якія пражывалі ў сельскай мясцовасці, наведвалі школы І ступені, дзе і заканчвалася іх навучанне. У 1937 г. толькі 16,5% дзяцей ва ўзросце 13 – 14 гадоў скончылі сямігадовую школу, што на ўсю краіну склала 34 000 вучняў [41, с. 111].

Становішча на тэрыторыі заходнебеларускіх ваяводстваў было яшчэ горшым, чым у цэлым па краіне. Так, вядома, штоў Палескім ваяводстве ў 1939 г. з 1075 усеагульных школ 811 (75,5%) з'яўляліся школамі І ступені, 170 (15,8%) – ІІ ступеніі толькі 94 (8,7%) школы адносіліся да ІІІ ступені [33, с. 99]. Для параўнання: у этнічна польскіх ваяводствах да канца даваеннага перыяду школы І ступені складалі 72,4% ад усёй колькасці ўсеагульных школ, школы ІІ ступені – 17,5%, а школы ІІІ ступені – 10,1% [41, с. 111].

Не лепшым было і становішча ў галіне сярэдняй адукацыі. Адбывалася скарачэнне колькасці вучняў сярэдніх навучальных установах. Так у Навагрудскім ваяводстве назіралася наступная дынаміка адносна колькасці вучняў гімназій:

1926/27 навучальны год – 3 445 вучняў;
1927/28 навучальны год – 3 308 вучняў;
1931/32 навучальны год – 2 975 вучняў;
1932/33 навучальны год – 2 753 вучня;
1933/34 навучальны год – 2 463 вучня;
1934/35 навучальны год – 2 512 вучняў.

Афіцыйныя крыніцы тлумачылі спад колькасці вучняў скарачэннем колькасці гімназічных класаў у сувязі з рэформай школы і, што было галоўным, пагаршэннем эканамічнага становішча насельніцтва ў сувязі з крызісам [133, с. 119].

Усяго на тэрыторыі Заходняй Беларусі колькасць гімназій скарацілася з 85 (17 800 вучняў) у 1927/28 навучальным годзе да 54 (15 900 вучняў) у 1938 г. Адначасова скарачалася і колькасць настаўніцкіх семінарый – з 15 (2 258 чалавек) у 1929/30 навучальным годзе да 8 (300 чалавек) у 1938 г. [48, с. 222].

Што да нацыянальнага складу вучняў сярэдняй школы ў 2-й РП, то ў якасці прыкладу можна прывесці афіцыйныя звесткі за 1934/35 навучальны год па Навагрудскаму ваяводству (табл. 4).

Табліца 4 – Веравызнанне і родная мова вучняў гімназій [133, с. 119].

| Гімназіі | Усяго | Веравызнанне | | | | Родная мова | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | кат. | прав. | іуд. | інш. | пол. | бел. | яўр. | інш. |
| Дзяржаўныя | 1893 | 1 081 | 330 | 437 | 45 | 1 223 | 125 | 420 | 125 |
| Прыватныя | 619 | 170 | 46 | 384 | 19 | 185 | 15 | 398 | 21 |
| Разам | 2 512 | 1 251 | 376 | 821 | 64 | 1 408 | 140 | 818 | 146 |
| % | 100,0 | 49,8 | 14,9 | 32,7 | 2,6 | 56,1 | 5,5 | 32,6 | 5,8 |

Заўвага: кат. – каталікі, прав. – праваслаўныя, іуд. – іудзеі, інш. – іншыя, пол. – польская, бел. – беларуская, яўр. – яўрэйская.

Як бачна, нацыянальны склад вучняў не адпавядаў нацыянальнаму складу насельніцтва рэгіёну. Беларусы, якія складалі большасць гэтага насельніцтва, у гімназіях былі прадстаўлены ў мізэрнай колькасці. Афіцыйныя крыніцы тлумачылы гэта тым, што

асноўную масу вучняў сярэдняй школы складаюць гарадскія жыхары, а беларусы, як вядома, у асноўным пражывалі на вёсцы.

У сувязі з гэтым неабходна закрануць пытанне развіцця нацыянальнага школьніцтва на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Паколькі гэтая праблема знайшла дастатковае асвятленнеў айчыннай гістарыяграфіі, мэтазгодна спыніцца толькі на некаторых асноўных момантах палітыкі польскіх улад у адносінах да беларускага нацыянальнага школьніцтва.

Стварэнне і дзейнасць школ для нацыянальных рэгуляваліся законам ад 31 ліпеня 1924 г., прынятым эндэцкім урадам У. Грабскага. Закон тычыўся тэрыторыі Львоўскага, Станіслаўскага, Тарнопальскага, Палескага, Навагрудскага, Віленскага ваяводстваў, а таксама Гродзенскага і Ваўкавыскага паветаў Беластоцкага ваяводства. Дарэчы, дзеянне закону не закранала заходняй часткі Беластоцкага ваяводства. Але вядома, што ў Беластоцкім, Бельскім і Сакольскім паветах дадзенага ваяводства пражывала значная колькасць беларусаў.

У законе заяўлялася, што прыватныя школы для дзяцей «рускай (русінскай), беларускай і літоўскай нацыянальнасцей, як і для дзяцей іншых няпольскіх нацыянальнасцей Рэчы Паспалітай,з роднай мовай выкладання могуць быць заснаваныя пры тых жа самых умовах, што і прыватныя школы з польскай мовай выкладання». Асноўным жа тыпам дзяржаўных школ на «крэсах»у мэтах «пагаднення і спалучэння для годнага сумеснага жыцця насельніцтва нацыянальна змешаных зямель, а не дзялення іх» аб'яўлялася сумесная (утраквістычная) школа, якая «выхоўвае добрымі грамадзянамі Дзяржавы дзяцей польскай і няпольскай нацыянальнасці ва ўзаемнай павазе да іх нацыянальных асаблівасцей» [196].

Стварэнне сумесных школ адпавядала планам эндэкаў па асіміляцыі славянскіх меншасцяў 2-й Рэчы Паспалітай і рэалізацыі «нацыянальнага выхавання». С. Грабскі, аўтар закону, заяўляў: «Мы не ажыццявім гэтай асіміляцыі, калі з 7 гадоў польскіх і рускіх дзецей, якія да гэтага часу разам гулялі на вясковай ці гарадской вуліцы, мы будзем выхоўваць у асобных школах» [151, с. 80].

У мясцовасцях, дзе пражывала 25% украінскага, беларускага ці літоўскага насельніцтва, закон прадугледжваў забяспячэнне дзецям выкладанне на роднай мове пры ўмове, што гэтага пажадаюць бацькі 40 дзяцей школьнага ўзросту. Калі 40 жадаючых не знойдзецца – мовай выкладання станавілася польская. Але гэтыж артыкул уключаў своеасаблівы дыскрымінацыйны момант. Так, калі ў той жа мясцовасці знаходзілася 20 дзяцей, бацькі якіх жадалі выкладання на

польскай мове, стваралася двухмоўная школа, дзе толькі палова гадзін выкладалася на ўкраінскай, беларускай ці літоўскай. Калі на тэрыторыі аднаго школьнага раёна існавалі асобныя польская і беларуская (украінская, літоўская) школы, то прадугледжвалася іх аб'яднанне ў адну двухмоўную [196].

Ва ўсеагульных адна-, двух- і трохкласных школах з няпольскай мовай выкладання, прадугледжвалася абавязковае вывучэнне дзяржаўнай мовы. Ва ўсеагульных чатырох-, пяці-, шасці- і сямікласных школах з няпольскай мовай выкладання абавязковым, акрамя польскай мовы, было выкладанне па-польску польскай гісторыі і «навукі аб сучаснай Польшчы» у «памеры, неабходным для пераходу вучня ў сярэднюю агульнаадукацыйную школу» [196].

Закон прадугледжваў, што новыя настаўніцкія семінарыі, якія будуць стварацца на «крэсах», будуць двухмоўнымі – польска-украінскімі ці польска-беларускімі. Да таго часу, пакуль не з'явіцца двухмоўная семінарыя ў Віленскім і Навагрудскім ваяводствах,у семінарыях гэтых ваяводстваў беларуская мова будзе выкладацца ў якасці абавязковага прадмету. Таксама прадугледжвалася вывучэнне літоўскай мовы ў адной з настаўніцкіх семінарый Віленскага ваяводства [196].

Што тычыцца сярэдніх агульнаадукацыйных школ, то закон прадугледжваў стварэнне двухмоўнай дзяржаўнай сярэдняй школы пры наяўнасці жадання бацькоў 150 дзяцей. Таксама, які ў выпадку з усеагульнымі школамі, лічылася мэтазгодным аб'яднанне асобных польскіх і няпольскіх гімназій, калі яны існавалі ў адной мясцовасці, у адну двухмоўную школу.У няепольскіх гімназіях, прыватных і дзяржаўных, па-польску абавязкова павінны былі выкладацца польская мова і літаратура, гісторыя, геаграфія і «навука аб сучаснай Польшчы» [196].

У дзяржаўных прафесійных школах па жаданні бацькоў вучняў украінскай ці беларускай нацыянальнасці, калі яны складалі 40% ад усёй колькасці вучняў, прадугледжвалася двухмоўнае выкладанне, украінскае ці беларускае. Калі такога жадання не было, выкладанне вялося па-польску [196].

Закон ад 31 ліпеня 1924 г. ставіў перад сабой мэту праз вырашэнне моўнага пытання зменшыць сацыяльнае напружанне ва ўсходніх ваяводствах. Аднак, як адзначаюць сучасныя даследчыкі, закон вырашаў праблему толькі фармальна. Выканаўчыя акты, якія прыкладаліся да яго, рабілі развіццё навучанньня на беларускай мове практычна немагчымым. Праз год пасля ўвядзення закону двухмільённая беларуская меншасць 2-й Рэчы Паспалітай мела 3

школы (425 вучняў) з роднай мовай навучання, а таксама 19 двухмоўных (1 683 вучні). Усіх беларускіх дзяцей, якія наведвалі агульнаадукацыйныя школы, было больш за 125 000. Такім чынам, на кожную тысячу дзяцей-беларусаў толькі 3 – 4 вывучалі родную мову [46, с. 180]. Для параўнання трэба адзначыць, што ў 1918 – 1919 гг. налічвалася 350 беларускіх школ [48, с. 221]. Таксама трэба адзначыць, што польскія школьныя ўлады мэтанакіравана выціскалі з рэгіёну настаўнікаў-беларусаў. Звычайна пасля перападрыхтоўчых курсаў іх накіроўвалі ў цэнтральныя раёны Польшчы. У выніку ў снежні 1925 г. у Віленскім ваяводстве з 2 049 настаўнікаў 1 933 былі палякамі і толькі 60 беларусамі, у Навагрудскім ваяводстве – 1 660 настаўнікаў-палякаў і 78 настаўнікаў-беларусаў, у Палескім ваяводстве – 1 150 палякаў і 54 беларусы [38, с. 371].

Пасля ўсталявання «санацыйнага» рэжыму значных перамену галіне нацыянальнай школы не адбылося. «Санацыя» не збіралася адмаўляцца ад эндэцкіх законаў у галіне школьніцтва для нацыянальных меншасцяў. Міністр рэлігійных веравызнанняўі публічнай асветы Г. Дабруцкі заявіў, што закон ад 31 ліпеня 1924 г. захоўвае сваю сілу на «крэсах» [56, с. 186].

Тым не менш шэраг ліберальных дзеячоў «санацыі», у тым ліку Т. Галуўка, Л. Васілеўскі і К. Младзяноўскі, выступалі за перагляд ранейшай палітыкі ў адносінах да нацыянальных меншасцяў. Яны былі прыхільнікамі замены нацыянальнай асіміляцыі асіміляцыяй дзяржаўнай, якая б умацавала Рэч Паспалітую і зрабіла б нацыянальныя меншасці больш устойлівымі перад уплывамі з усходу. Сярод іншага яны прапаноўвалі і дзяржаўную падтрымку школ з беларускай мовай навучання. Так восенню 1926 г. Л. Васілеўскі прапанаваў праект «У справе беларускай палітыкі польскага ўраду ў сучасны момант». У праекце заяўлялася аб неабходнасці змены палітыкі ў адносінах да беларускага школьніцтва. Прапаноўвалася: стварэнне беларускай настаўніцкай семінарыі, прынцце на працу ў публічныя школы настаўнікаў-беларусаў, распрацоўка праграм і падручнікаў для школ з беларускай мовай навучання, спрыянне беларускай моладзі пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, аказанне дапамогі беларускім асветным арганізацыям [46, с. 187].

Міністр асветы К. Бартэль 19 лістапада 1926 г. выдаў цыркуляр, які прызначаўся куратарам Віленскага, Белакстоцкага, Палескага і Валынскага ваяводстваў і тычыўся школьніцтва для нацыянальных меншасцяў. Цыркуляр паведамляў, што школьная адміністрацыя павінна належным чынам зразумець, што пашырэнне польскай грамадзянскай думкі, выхаванне моладзі ў пачуцці каштоўнасці яе

польскай дзяржаўнай прыналежнасці можа адбывацца толькі на грунце павагі да ўсяго таго, што складае культурныя, рэлігійныяі нацыянальныя асаблівасці насельніцтва. Далей цыркуляр інфармаваў: «Першачарговым намаганнем... з’яўляецца веданне мясцовай мовы настаўнікамі і школьнымі інспектарамі. Цалкам бясспрэчным з’яўляецца неабходнасць дагаварыцца з дзіцём на яго роднай мове ў пачатку навучання. Настаўнік, які не ведае мясцовай мовы, не можа паспяхова праводзіць навучанне, з дзяржаўнага пункту гледжання школа, якая пачынае навучанне на чужой для дзіця мове, ніколі не атрымае павагі і любві з боку бацькоўї дзяцей... Гэта не значыць, што дзяржаўная мова павінна быць адсунута на другі план. Як з пункту гледжання інтарэсаў дзяржавы, так і практычных умоў жыцця насельніцтва, грунтоўнае веданне польскай мовы, веды са сферы яе гісторыі, геаграфіі, літаратуры, ладу – павінны распрацоўвацца самым істотным спосабам. Але належыць дбаць пра тое, каб навучанне адбывалася ў прыхільным для Польшчы і яе дзяржаўнасці настроі» [171, с. 122].

У сувязі з такой пазіцыяй кіраўніцтва міністэрства, пачалася арганізацыя штогадовых трохтыднёвых курсаў беларускай мовы для настаўнікаў усеагульных школ. У 1927 г. адбыліся пачатковыя курсы ў Лідзе (Беластоцкая школьная акруга), Нясвіжы (Палеская школьная акруга) і Свянцянах (Віленская школьная акруга). У 1928 г. былі арганізаваны пачатковыя курсы ў Пружанах (Палеская школьная акруга) і Слоніме (Віленская школьная акруга), завяршальны курс у Нясвіжы, а таксама прыватныя канікулярныя курсы ў Гродна (Варшаўская школьная акруга). У 1929 г. адбыліся завяршальныя курсы ў Пружанах і Гродне. Апошнія курсы адбыліся ў 1930 г. у Пружанах. Дарэчы на гэтых курсах карысталіся падручнікам Б. Тарашкевіча «Беларуская граматыка для школ». Пры завяршальных курсах былі арганізаваныя экзаменацыйныя камісіі, якія выдавалі спецыяльныя пасведчанне аб праве выкладаць беларускую мову [171, с. 123].

Але трэба адзначыць, што дадзеныя курсы не мелі значных вынікаў у выглядзе распаўсюджвання беларускай мовы ў школах.У выніку супрацьдзеяння мясцовай школьнай адміністрацыіі лакальнага самакіравання навучанне на беларускай мове ва ўсеагульных школах вельмі часта абмяжоўвалася толькі заняткамі фізічнага выхавання і ручной працы [123, с. 204 – 205 ].

Вясной 1927 г. міністр Г. Дабруцкі ўвёў абавязковае вывучэнне беларускай мовы ў польскіх гімназіях на землях, населеных беларусамі, надаў публічныя правы беларускім гімназіям у Вільніі

Навагрудку, дазволіў адчыніць 26 школ з беларускай мовай навучання і 49 утраквістычных школ [46, с. 186 – 187].

Польскія ўлады спрабавалі палепшыць становішчаз забяспячэннем падручнікамі беларускіх усеагульных школ. Дзеля гэтага ў 1929 г. быў выдадзены буквар С. Любіч-Маеўскага. Але гэта быў няўдалы падручнік. Мовазнаўцы налічылі ў ім больш за 250 друкарскіх памылак і парушэнняў правіл педагогікі, а таксама фанетыкі, марфалогіі і арфаграфіі беларускай мовы [171, с. 134].

У 1927/28 навучальным годзе, па дадзеным польскіх даследчыкаў, існавалі 23 публічныя беларускія школы (1 960 вучняў) і 49 утраквістычных (5 670 вучняў) [120, с. 109]. Акрамя таго на тэрыторыі Заходняй Беларусі дзейнічалі прыватныя беларускія гімназіі ў Вільні, Навагрудку, Клецку і Радашковічах. Часовая лібералізацыя ў галіне нацыянальнай асветы таксама паўплывала на гэтыя сярэднія навучальныя ўстановы. Па распараджэнню міністра Г. Дабруцкага ў 1927 г. няпоўныя правы дзяржаўнай гімназіі атрымала Навагрудская гімназія (толькі I – III класы). У 1928/29 навучальным годзе няпоўныя правы дзяржаўных гімназій атрымалі Навагрудская гімназія (спачатку I – IV класы, потым V – VIII) і Віленская беларуская гімназія. Такія ж правы яны атрымалі і на 1929/30 навучальны год. Працэдура надання правоў прыватным гімназіям была зменена ў маі 1929 г. З гэтага часу прыватныя навучальныя ўстановы атрымоўвалі правы гімназій на неабмежаваны тэрмін. Прынцыпы надання правоў прадугледжвалі мерапрыемствы па рэалізацыі «дзяржаўнага выхавання» – школа павінна была дадаткова праводзіць актыўную выхаваўчую дзейнасць у дзяржаўным духу, фарміраваць у моладзі павагу да дзяржаўнай улады і дасягнуць адпаведных выхаваўчых вынікаў. Па распараджэнню ад 23 мая 1930 г. беларускія гімназіі ў Вільніі Навагрудку атрымалі няпоўныя правы дзяржаўных гімназій. Таксама эфектным жэстам польскіх улад было выдзяленне фінансавай дапамогі гімназіі ў Навагрудку, у тым ліку частковае пакрыццё выдаткаў на адкрыццё інтэрнату [171, с. 124 – 125].

Але планы ліберальных «санатараў» па дзяржаўнай асіміляцыі не рэалізаваліся. Для гэтага не было адпаведнай матэрыяльнай базы і, галоўнае, ліберальная палітыка не сустрэла прыхільнасці сярод мясцовай адміністрацыі. Не падтрымаў яе і Ю. Пілсудскі, які быў прыхільнікам захавання польскай мовы ў якасці адзінай дзяржаўнай, а ў адносінах да беларускай мовы сцвярджаў, што яна з’яўляецца «такой цяжкай і нераспрацаванай, што не можа быць мовай школы і кіравання» [171, с. 121]. Акрамя таго, польскі дыктатар больш спадзяваўся на рэпрэсіўныя метады вырашэння нацыянальнага

пытання, а не на задавальненне нацыянальна-культурных патрэб насельніцтва «крэсаў». Вынікам гэтага стаў фактычны разгром беларускага школьніцтва.

Ужо ў 1928 г. у сувязі з рэпрэсіямі супраць Беларуская сялянска-рабочай грамады была зачынена беларуская гімназія ў Радашковічах. Пры яе закрыцці ўлады фармальна спасылаліся на яе блізкае размяшчэнне каля польска-савецкай мяжы, нізкі ўзровень навучання, незапатрабаванасць яе мясцовым беларускім насельніцтвам [32, с. 88]. Замест гімназіі ў Радашковічах была адчынена сямікласная ўсеагульная школа (прагімназія), у якую аўтаматычна былі пераведзены вучні малодшых класаў. Вучні старэйшых класаў былі пераведзены ў Віленскую гімназію. Канчаткова школа ў Радашковічах была ліквідавана ў 1929 г., пасля таго, як у прагімназіі адбылася вучнёўская забастоўка [171, с. 133 – 134].

Мясцовыя ўлады нават не выконвалі нормаў польскага заканадаўства. Так, напрыклад, беларускі пасол у польскім сейме Ф. Валынец ў лютым 1929 г. паведамляў, што ў Баранавіцкім павеце было пададзена 370 дэкларацый аб жаданні адчыніць беларускамоўныя школы. Гэтае жаданне выказалі бацькі 723 дзяцей. Такім чынам, можна было б адчыніць 18 школ, але ў павеце дзейнічала толькі 2 беларускія і 4 утраквістычныя школы. Усяго па 17 заходнебеларускіх паветах было пададзена 10 854 дэкларацыі (каля 20 000 дзяцей), што прадугледжвала стварэнне 481 беларускамоўнай школы. Але гэтага не адбылося [120, с. 109].

Як адзначаюць некаторыя даследчыкі, на мяжы 20 – 30-х гг. мінулага стагоддзя цэнтральныя ўлады абмяжоўвалі сваё ўмяшальніцтва ў развіццё палітыкі адносна беларусаў. Яны разглядалі гэтую праблему не ў дзяржаўным вымярэнні, а як лакальнае пытанне. Справы беларускага насельніцтва ва ўсё большай меры пачалі вырашаць мясцовая адміністрацыяі павятовыя каменданты дзяржаўнай паліцыі [123, с. 207]. Мясцовае ваяводскае кіраўніцтва, якое атрымала самастойнасць пры правядзенні нацыянальна палітыкі на «крэсах», фактычна ажыццяўляла эндэцкую канцэпцыю нацыянальнай асіміляцыі славянскіх меншасцяў. Гэта паўплывала і на развіццё беларускага школьніцтва. Яшчэ ў снежні 1929 г. віленскі ваявода У. Рачкевіч заяўляў пра тое, што імкненне беларусаў да нацыянальнай школы з’яўляецца небяспечным [20, арк. 45].

Такое стаўленне польскіх улад да беларускага пытання захоўвалася да самага пачатку Другой сусветнай вайны. Навагрудскі ваявода А. Корвін-Сакалоўскі ў 1937/38 навучальным годзе рэкамендаваў поўную ліквідацыю беларускіхі літоўскіх школ і замену іх польскімі.

Таксама рэкамендавалася «поўнае выцясненне няпольскага элементу з пасад настаўнікаў» [38, с. 375 – 376]. З ім быў цалкам салідарны палескі ваявода В. Костэк-Бернацкі, які заяўляў: «Не можа быць гутаркі, найменш на працягу 10 бліжэйшых гадоў, каб настаўнікам на Палессі быў рускі, украінец, беларус, ці нават мясцовы паляшук» [7, арк. 16]. Характэрна, што ў Палескім ваяводстве паліцыя па загаду ўлад праводзіла спецыяльныя мерапрыемствы ў адносінах да настаўнікаў-праваслаўных, якія дэкларавалі сваю нацыянальнасць як польскую. Павятовыя каменданты паліцыі павінны былі пры дапамозе сваіх агентаў нават адсочваць на якой мове такія настаўнікі размаўляюць з суседзямі [123, с. 82].

У выніку палітыкі польскіх улад на працягу 1930-х гг. ішло актыўнае скарачэнне нешматлікіх усеагульных беларускамоўныхі двухмоўных школ. Так у 1934/35 навучальным годзе існавала 16 беларускамоўных школ, праз 2 гады – 8, а ў 1937/38 навучальным годзе яны навогул перасталі існаваць. У 1936/37 навучальным годзе існавала 13 утраквістычных школ (1 566 вучняў), у наступным годзе – 5 (766 вучняў). Акрамя таго, ў 44 школах з польскай мовай навучання беларуская мова выкладалася ў якасці асобнага прадмета для 8 200 вучняў [120, с. 113].

Не лепшым было становішча і з беларускімі гімназіямі.У 1929/30 навучальным годзе ў трох беларускіх гімназіях (у Вільні, Навагрудку і Клецку) вучылася каля 400 вучняў. У 1931 г. была зачынена гімназія ў Клецку. Куратар Віленскай школьнай акругі не выдаў ёй канцэсію на 1931/32 навучальны год, растлумачыўшы сваё рашэннне нізкім выхаваўча-навуковым узроўнем гімназііі тым, што яна з'яўляецца цэнтрам камуністычнай акцыі. Адначасова зменшылася колькасць аплочваемых дзяржавай настаўніцкіх пасад (з сямі да трох) у Віленскай і Навагрудскай гімназіях. З 200 000 злотых, якія былі прызначаныя сеймам на будаўніцтва інтэрната пры Навагрудскай гімназіі, было асігнавана толькі 50 000 [171, с. 137].

У верасні 1932 г. пад выглядам дакладнага выканання новага школьнага заканадаўства на тэрыторыі Віленскай школьнай акругі пачаўся працэс ператварэння беларускіх сярэдніх школ у філіялы мясцовых польскіх гімназій. Да гэтага яны з'яўляліся маёмасцю бацькоўскіх камітэтаў. Змену прававога статутусу ўлады тлумачылі клопатам аб узроўні навучання і паляпшэнні матэрыяльных умоў. Сапраўды, з набыццём дзяржаўнага статусу беларускія гімназіі палепшылі сваю матэрыяльна-фінансавую базу, але страчвалі сваю самастойнасць [32, с. 88].

Пасля таго, як Навагрудская беларуская гімназія была ператворана ў філіял польскай дзяржаўнай гімназіі імя А. Міцкевіча, яна праіснавала толькі два гады. Пры гэтым беларуская мова вывучалася толькі ў якасці дадатковага прадмету. Летам 1934 г. гімназія ў Навагрудку была ліквідавана, паколькі – як паведамляў ваявода – акрамя некалькіх яўрэяў, не было жадаючых вывучаць беларускую мову [123, с. 82]. Характэрна, што віленская прэса адзначала, што на закрыццё беларускага філіялаў Навагрудку паўплывала менавіта адзяржаўленне, якое прывяло да павышэння ў чатыры разы платы за навучанне і затрыманне будаўніцтва інтэрната для вучняў [171, с. 138].

Віленская гімназія стала філіялам польскай дзяржаўнай гімназіі імя Ю. Славацкага. Згодна з новым школьным заканадаўствам яна была ператворана ў чатырохкласную. Бацькоўскі камітэт дамагаўся адкрыцця двухкласнага гуманітарнага ліцэя ў 1937/38 навучальным годзе, але школьныя ўлады не дазволілі гэтага. Акрамя таго,у 1938/39 навучальным годзе кіраўніцтва Віленскай школьнай акругі загадала скасаваць першы клас гімназіі. Летам 1939 г. улады дазволілі правесці ўступныя экзамены, але становішча адзінай беларускай гімназіі заставалася няпэўным [32, с. 88]. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што беларускае школьніцтва на тэрыторыі Заходняй Беларусі фактычна перастала існаваць.

Такім чынам, у межваенны перыяд польскія ўлады здолелі арганізаваць сістэму народнай адукацыі, заснаваную на ўсеагульным школьным абавязку. Гэтая сістэма ахоплівала большую частку маладога пакалення, у тым ліку і на тэрыторыі Заходняй Беларусі, дзе яе структурнымі элементамі былі Віленскаяі Палеская школьныя акругі. Недахопам школьніцтва 2-й Рэчы Паспалітай было тое, што толькі незначная частка моладзі засвойвала поўную праграму, абмяжоўваючыся толькі пачатковай адукацыяй. Спробай выправіць сітуацыю стала рэформа Я. Енджэевіча, якая была накіравана на інтэграцыю сістэмы народнай адукацыі і павінна была садзейнічаць рэалізацыі канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання». Яшчэ адзін недахоп школьнай сістэмы было – ігнараванне культурна-асветных патрэб нацыянальных меншасцяў міжваеннай польскай дзяржавы. Яскравай праявай гэтага быў лёс беларускага школьніцтва, якое пасля адноснай лібералізацыі, выкліканай палітычнай кан'юктурай, было цалкам ліквідавана «санацыяй».

### 3. 2. Школа 2-й Рэчы Паспалітай як выхаваўчы інстытут.

«Санацыйныя» ідэолагі і творцы канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання» разглядалі школу як галоўная звяно ў рэалізацыі

створанай выхаваўчай сістэмы. Яна павінна была стаць асноўнай тэрыторыяй, на якой моладзь падвяргалася ўздзеянню афіцыйнай выхаваўчай ідэалогіі. Размовы пра гэта актывізаваліся напярэдадні правядзення школьнай рэформы. Было заяўлена, што школа павінна зрабіць з давераных ёй дзяцей актыўных грамадзян, добрых членаў грамадства. Адначасова адзначалася, што да канца 20-х гадоў сітуацыя з грамадскім выхаваннем у школах 2-й Рэчы Паспалітай зрабілася даволі складанай. Школьныя праграмы трактавалі дадзеную праблему даволі павярхоўна, а падручнікі – навогул яе абыходзілі. Выхаваўчыя справы прадстаўлены індывідуальнай інтуіцыі настаўніка і таму набываюць разнастайны выгляд. Рабілася выснова, што не толькі фактычны стан і ўзровень грамадзянскага выхавання і фарміравання ў тагачаснай школьнай сістэме павінен выклікаць значную занепакоенасць, але і сама канцэпцыя грамадзянскага фарміравання, як яна сфармуляванаў праграмах і падручніках, выклікае цэлы шэраг пярэчэнняў. Гэтая сфера прызнавалася найбольш арганізацыйна, праграмнаі дыдактычна занядбанай [188, с. 97 – 100]. Напярэдадні пачатку школьнай рэформы кіраўнікі сістэмы адукацыі сцвярджалі, штоў большасці школ, нават на непасрэдна польскай тэрыторыі, «дзяржаўнае выхаванне» стаіць пад пытаннем. У адных з іх яно не рэалізуецца таму, што лічыцца непатрэбным там, дзе школа ўжо валодае выразнай выхаваўчай пазіцыяй. У другіх школах «больш менш ўсё выкарыстоўваецца, але не мая румянцу жыцця, вядзе расліннае існаванне». Трэція школы ўзялі з пастулатаў «дзяржаўнага выхавання» толькі «форму без зместу». У чацвёртых школах «дзяржаўнае выхаванне» прадстаўляў толькі дырэктар, які быў асабістым яго прыхільнікам і з'яўляўся салідарнымз палітыкай міністэрства і таму лічыў, што «можна нічога не рабіць, бо ёсць рэпутацыя». Некаторыя школы думалі, што дастаткова абмежавацца рэлігійна-маральным выхаваннем, паколькі лічылі, што «выхаванне маральнага і рэлігійнага чалавека ўжо з'яўляецца выкананнем абавязку перад Дзяржавай». Толькіў нешматлікіх школах «дзяржаўнае выхаванне» праводзілася шчыра і згодна з патрабаваннямі міністэрства, пры гэтым праявы такой працы вельмі часта былі даволі сціплымі [179, с. 35].

«Санацыйныя» ж педагогі і публіцысты падкрэслівалі, што школа павінна быць «ідэйнай пляцоўкай». Некаторыя з іх нават рабілі аналогію паміж так званай школьнай гмінай і дзяржавай. Таму першая лічылась «самым адпаведным выхаваўчым сродкам для дзяржавы», а школьнае жыццё трактавалась як «фундамент такога ж дзяржаўнага жыцця». Школа, якая рэалізоўвала накладзеныя

кіраўніцтвам сістэмы асветы грамадскія, ідэалагічныя і дзяржаўныя функцыя, трактавалася як адзін з філіялаў грамадскай палітыкі дзяржавы. За год да пачатку школьнай рэформы Я. С. Быстронь, адзін з вядомых польскіх сацыёлагаў міжваеннага перыяду, выражаў перакананне, што школа павінна быць дакладным інструментам грамадскай палітыкі дзяржавы і тым самым служыць дзейнай ідэалогіі і рэалізацыі вызначанай праграмы грамадскай перабудовы краіны [94, с. 110].

Згодна з пастулатамі кіраўніцтва сістэмы асветы, «дзяржаўнае выхаванне», «з'яўляючыся сінтэзам рэлігійна-этычнага, грамадскага і нацыянальнага выхавання, ўтрымлівае ў сабе шэраг элементаў, якія засвойваюцца праз моладзь на працягу некалькіх год знаходжання ў школе і павінны даць кандыдату ў грамадзяне столькі ведаў пра Дзяржаву, яе лад, характар, мэтах, становішчы, моцы, насельніцтве і г. д., так вытрэніраваць інтэлект, волюі пачуцці, каб ён стаў карысным, актыўным працаўнікoм,а ў выпадку неабходнасці ахвярным байцом на службе Дзяржаве, заўсёды ведаючым, што дазволена рабіць, а чаго рабіць нельга, што можа прынесці Дзяржаве шкоду, а што карысць, чалавекам, які ўмее падпарадкоўваць свае, групавыя, партыйныя інтарэсы інтарэсам Дзяржавы, кахаючы яго і разумеючы яго задачы» [179, с. 33 – 34].

Школа павінна была ператварыцца з інстытута навучанняў выхаваўчы інстытут. Адначасова навучанне разглядалася як арганічная частка выхаваўчага працэсу. Адным з першых пра гэта заявіў у сакавіку 1931 г. Ю. Баліцкі, які на той час ўзначальваў праграмны аддзел у міністэрстве асветы. Ён адзначыў, што«ў сучаснай школе навучанне не з'яўляецца само па сабе мэтай, яно з'яўляецца толькі сродкам да дасягнення мэты». У час школьнай рэформы такі падыход вёў да шырокага ўвядзення выхоўваючага навучання і рэформы школьных праграм. Адначасова гаварылася пра неабходнасць разрыву з «надмерным інтэлектуалізмам»у выхаванні. Праз абуджэнне пачуццяў і волі даручалася развіваць інтэлект вучня [94, с. 110 – 111].

У пачатку 30-х гадоў кіраўнікі сістэмы асветы, яшчэ да школьнай рэформы, таксама выдвігалі наступныя тэзісы:

1. «Дзяржаўнае выхаванне» абапіраецца на дзяржаўнай ідэі маршала Пілсудскага.

2. Кожная гімназія пачынае распрацоўваць праграму «дзяржаўнага выхавання» для ўсіх класаў, падзяляе матэрыял паміж асобнымі прадметамі.

3. Правядзенне дзяржаўна-нацыянальных святаў давяраецца адпаведным арганізацыям моладзі, пры ўмове, што кожная арганізацыя праводзіць адно свята ў год.

4. У жаночых школах патрэбна стварэнне атрадаў Ваеннай Падрыхтоўкі Жанчын.

5. Усе школы імкнуцца да стварэння і развіцця арганізацый, якія з'яўляюцца прыдатнымі для «дзяржаўнага выхавання».

6. Вельмі важным момантам лічыцца супрацоўніцтва паміж школай і сям'ёй пры рэалізацыі «дзяржаўнага выхавання».

7. Пры забяспячэнні вучнёўскіх і настаўніцкіх бібліятэк пад увагу бяруцца патрэбы «дзяржаўнага выхавання».

8. Вучнёўскія чытальні забяспечваюцца часопісамі, якія знаходзяцца на грунце пазітыўнай працы на карысць дзяржавы.

9. «Навука аб сучаснай Польшчы» даручаецца толькі аднаму настаўніку [179, с. 47 – 48].

Шырокамасштабная рэалізацыя гэтых і іншых прапаноў пачалася пасля прыняцця закону «Аб упарадкаванні школьніцтва», які быў выдадзены 11 сакавіка 1932 г. Як ужо адзначалася вышэй,ў ім спецыяльна падкрэсліваліся выхаваўчыя задачы, якія стаялі перад кожным відам школ. К 1934 г. былі ўведзены новыя праграмы навучання, пачалі з'яўляцца новыя школьныя падручнікі. Асаблівая ўвага надавалася таму, каб іх змест адпавядаў прынцыпам «дзяржаўнага выхавання».

Сярод школьных прадметаў, якім адводзілася найважнейшая роля ў ажыццяўленні «дзяржаўнага выхавання», знаходзіліся «навука аб сучаснай Польшчы», гісторыя і польская мова. Усе школьныя прадметы былі звязаны праграмнай сувяззю, змест якой зводзіўся да пастулата «Польшча і яе культура – Польшчаў значэнні польскай дзяржавы, культура – духоўнаяі матэрыяльная». Яны павінны былі даць вучням шырокі аб'ём ведаў аб дзяржаве і грамадзяніне і іх ўзаемаадносінах [94, с. 115].

У сувязі з гэтым значная ўвага надавалася вывучэнню ва ўсеагульнай школе польскай мовы. Лічылася, што гэты прадмет мае непасрэднае дачыненне да дасягнення адной з самых істотных мэт ўсеагульнай школы – «стварэнне глыбокай і прынцыпіяльнай сувязі паміж усімі грамадзянамі Польшчы і ўсімі яе грамадскімі слаямі, прынцыпіяльнай супольнасці, магчымасці паразуменняі пагаднення» [121, с. 53]. Што тычыцца непасрэднай рэалізацыі «дзяржаўнага выхавання», то, можна сказаць, яно пачыналася менавіта на занятках па польскай мове, дзе вучні, дзякуючы спецыяльна падабранай тэматыцы практыкаванняў, пачыналі падвяргацца своеасаблівай

ідэалагічнай апрацоўцы. На ўроках польскай мовы вучні малодшых класаў знаёміліся з дзяржаўнай сімволікай, дзяржаўным гімнам, даведваліся пра прэзідэнта 2-й Рэчы Паспалітай І. Масьціцкага і маршала Ю. Пілсудскага. Далей на гэтых занятках прысутнічала тэматыка звязаная з органамі ўлады польскай дзяржавы, яе святамі, войскам. У старэйшых класах даволі распаўсюджанымі былі тэмы заняткаў звязаныяз актуальным сацыяльна-эканамічным і культурным жыццём 2-й Рэчы Паспалітай. Таксама даволі пашырынай была гістарычная тэматыка. Менавіта на ўроках польскай мовы пачыналася падрыхтоўка да вывучэння гісторыі [77, с. 16 – 17].

Цалкам грамадзянскай навукай, прыдатнай для «дзяржаўнага выхавання» лічылася і гісторыя. У «Дырэктывах для праграмы гісторыі з пункту гледжання грамадзянска-дзяржаўнага выхавання» адзначалася, што гісторыя належыць да тых прадметаў, якія адыгрываюць прынцыпіяльную ролю ў грамадзянскім фарміраванні дзяцей і моладзі. Гістарычны матэрыял можа быць выкарыстаны «пры рашэнні грамадзянскіх і дзяржаўных праблем, ён дае веды пра дзяржаву, яе канструкцыю і мінулае, знаёміцьз найважнейшымі культурнымі, грамадскімі, гаспадарчыміі палітычнымі ў іх гістарычным развіцці. Гістарычная навука, паказваючы чалавека, які дзейнічае калектыўна і індывідуальна,і вынікі яго працы, абуджае такім чынам актыўнасць, што з'яўляецца неабходным для будучага грамадзяніна. Усеагульная гісторыя фармуе павагу да культурнага набытку чалавецтва, гуманітарныя пачуцці. І, нарэшце, яна павінна прывесці да разумення абавязкаў у адносінах да дзяржавы і чалавецтваі сфарміраваць пачуццё грамадзянскай адказнасці сярод моладзі польскай дзяржавы незалежна ад яе нацыянальнай прыналежнасці». «Дырэктывы» падкрэслівалі, што выхаваўчыя мэты не могуць навязваць пазнавальныя мэты. Належыла гарманічна вывучаць усе раздзелы гісторыі (палітычны, культурны, грамадскі, гаспадарчы). Але ў агульных грамадзянскіх мэтах належыла браць пад увагу тое, што з'яўляецца найбольш патрэбным для сярэдняга грамадзяніна: «Пры выбары матэрыялу неабходна браць пад увагу пункт гледжання не спецыяліста-гісторыка, а карыснага грамадзяніна, які чэрпае з гісторыі веды, неабходныя для зразумення сучаснасці» [77, с. 46 – 47].

У новай праграме, якая была складзена згодназ «Дырэктывамі», падкрэсліваліся наступныя выхаваўчыя моманты. Па-першае, адзначалася, што «вывучэнне праяваў жыцця даўніх стагоддзяў ва ўсіх яго сферах павінна даць моладзі падрыхтоўку да зразумення

сучаснай польскай рэчаіснасці, як выніку працы мінулых пакаленняў, а таксама да арыентацыі ў гэтай рэчаіснасці з пункту гледжання будучага грамадзяніна. Вывучэнне лакальнага і рэгіянальнага мінулага і сувязь яго з цэласнасцю гісторыі Польшчы павінна прывесці моладзь да пачуцця цеснага адзінства рэгіёну з астатняй дзяржавай».

Па-другое, лічылася, што веданне мінулага і асабліва «пазітыўных момантаў, якія падкрэсліваюць росквіт польскай дзяржаўнасці», павінны былі фармаваць у моладзі «пачуццё любві да Радзімы і прывязанасць да дзяржавы, гонар за прыналежнасць да яе і павагу да яе традыцый, а таксама даць элементарную падрыхтоўку да выканання ў будучым грамадзянскіх абавязкаў». Знаёмства з постацямі гістарычных герояў павінна было развіваць у моладзі «культ велічы і гераізму, узмацніць веру ў ідэалы і навучыць жыць дзеля іх і змагацца за іх». Акрамя гэтага, моладзь павінна была выпрацаваць у сябе «павагу да індывідуальнай працы і калектыўнай працы ўсяго чалавецтва і яго культурнага набытку, а таксама пачуццё абавязку адносна яго, якое абапіраецца на моцна развітыя гуманітарныя пачуцці».

Па-трэцяе, у праграме таксама ўлічваўся шматнацыянальны характар польскай дзяржавы. Але нават гэты своеасаблівы рэверанс у бок нацыянальных меншасцей быў пастаўлены на службу польскай дзяржаўнасці. Праграма заяўляла: «Веды пра гісторыюі культуру нацыянальных меншасцей павінны абудзіць у польскай моладзі павагу да гэтых культур і гатоўнасць да грамадзянскага суіснавання з меншасцямі ў рамах дзяржаўнага жыцця. Моладзь нацыянальных меншасцей на падставе ведання гісторыі Польшчы павінна вынесці са школы звычку да польскай культуры і павагу да яе. Падкрэсліванне момантаў актыўнага і пазітыўнага ўдзелу меншасці ў дзяржаўным жыцці Польшчы накіравана да ўзмацнення ў яе пачуцця дзяржаўнай прыналежнасці і грамадзянскай адказнасці ў адносінах да Дзяржавы» [77, с. 18].

Пасля школьнай рэформы 1932 г. гісторыя сістэматычна выкладалася ва ўсеагульнай школе толькі ў V і VI класах (некаторыя звесткі па айчыннай гісторыі атрымоўвалі і вучні IV класа ў школе I ступені). Пры гэтым трэба адзначыць, што сусветная гісторыя была амаль выціснута з ўсеагульнай школы. Асноўны націск на гэтым узроўні рабіўся на палітычную гісторыю Польшчы. Як падкрэсліваюць сучасныя польскія даследчыкі, пасля рэформы зменшылася колькасць гадзін і адпаведна тэм, якія праходзілі ў школе, і адначасова ўзмацніўся ідэйна-выхаваўчы палітычны націск [166, с. 38 – 39].

Напрыклад, у V класе матэрыял прадмету ахопліваў шэсць вялікіх раздзелаў:

1. Будаўніцтва польскай дзяржавы.
2. Заняпад адзінства польскай дзяржавы.
3. Адраджэнне і ўзмацненне польскай дзяржавы.
4. Развіццё моцы польскай дзяржавы.
5. Залаты век у Польшчы.
6. Польская дзяржава ў барацьбе за ўтрыманне моцы.

Акрамя ўсяго іншага, вучань павінен быў даведацца пра такую важную для ўсведамлення значэння асобных сацыяльных слаёўу агульным жыцці рэч, як жыццё сялян, гараджан і г. д.у мінулым. Адначасова ён павінен быў даведацца пра жыццёі дзейнасць самых выдатных гістарычных асоб дадзенай эпохі. Таксама рэкамендавалася пазнаёміць вучня з найважнейшымі звесткамі па гісторыі роднага рэгіёна [77, с. 50 – 51].

У VI класе тэматыка заняткаў выглядала наступным чынам:

1. Часы заняпаду польскай дзяржавы.
2. Першы перыяд барацьбы за незалежнасць.
3. Часы няволі і новых бітваў.
4. Аднаўленне незалежнасці і адроджаная польская дзяржава (тут рэкамендавалася разгледжваць такія праблемы як абарона Польшчы ў 1920 г., межы і суседзі, канстытуцыя польскай дзяржавы і яе змена ў 1926 г., Польшча і іншыя краіны свету, Польшча ў Лізе Нацый).

Такім чынам, праграма прадугледжвала знаёмства з месцамі роляй тагачаснай Польшчы ў Еўропе і свеце.

У гісторыі XIX – XX стст. належыла зрабіць націск на вывучэнні грамадска-гаспадарчай сферы [77, с. 54 – 55].

У VII класе замест непасрэдна гістарычных ведаў вучань павінен быў атрымаць веды, якія «з'яўляюцца элементарнай падрыхтоўкай да арыентацыі ў дзяржаўным і грамадскім жыцці Польшчы (з асобным разглядам жыцця свайго асяроддзя)і належнага выканан грамадзянскіх абавязкаў у будучыні».

Таму матэрыял навучання быў падзелены на тры тэмы:

1. Суіснаванне людзей у дзяржаве – польскі дзяржаўны лад.
2. Абавязкі польскіх грамадзян у адносінах да дзяржавы.
3. Правы польскіх грамадзян і апека дзяржавы над імі.

Фактычна, вучань атрымліваў комплекс ведаў, які раней ахопліваў прадмет «Навука аб сучаснай Польшчы» [77, с. 56 – 57].

Фармальна праграмы па гісторыі прадугледжвалі магчымасць атрымання ведаў па роднай гісторыі прадстаўнікамі нацыянальных меншасцяў 2-й РП, што адпавядала афіцыйным дэкларацыям

«санацыйных» улад аб магчымасці развіцця асобных нацыянальных культур. Але на практыцы сітуацыя складвалася зусім наадварот.

Напрыклад, большасць дзяцей у Заходняй Беларусі, якія заканчвалі вучобу ў IV класе наогул не мелі магчымасці наведваць разгорнуты курс гісторыі, які пачынаўся ў наступным, V класе.

Тым з вучняў-беларусаў, хто змог працягваць вучобу, было цяжка атрымаць сістэматычныя веды пра гісторыю свайго народа. За ўвесь міжваенны перыяд была толькі адна спроба стварыць спецыяльны школьны падручнік па гісторыі для нацыянальных ускраін 2-й Рэчы Паспалітай. У 1925 г., яшчэ да «санацыйнага» перавароту выйшла кніжка Б. Гіберта і Г. Гіберт для ўсеагульных школ на «ўсходніх крэсах» «Апавяданні з агульнай гісторыі», у якой асобна разглядаліся гісторыя Польшчы, Літвы і Русі (B. Gebert, G. Gebertowa, Opowiadania z dziejów powszechnych ze szczególnym uwzględnieniem dziejów Polski, Litwy i Rusi. Dla szkół powszechnych Kresów Wschodnich, cz. I, Lwów – Warszawa, 1925). Але была выдадзена толькі першая частка гэтага падручніка, да публікацыі другой часткі ніколі не дайшло. Пры гэтым трэба адзначыць, што ў міжваенны перыяд было выдадзена шмат добрых падручнікаў па гісторыі. Напрыклад, у 30-х гг. для V класа прапанавалася цэлых шэсць падручнікаў [166, с. 53 – 54].

Вучні-беларусы вымушаны былі выхоўвацца на прыкладахз польскай гісторыі і, у асноўным, на прыкладах герояў гэтай гісторыі. Трэба адзначыць, што ў школьнай праграме па гісторыі маглі быць змешчаны і постаці з гісторыі нацыянальных меншасцей 2-й Рэчы Паспалітай. Так, напрыклад, там апынуліся князі Астрожскія і П. Канашэвіч Сагайдачны. Фрагментарна паказваючы гісторыю іншых народаў 2-й Рэчы Паспалітай, выдзяляліся тыя асобы, якія выступалі ў цеснай сувязі з польскай культурай і польскімі інтарэсамі [80, с. 167 – 168]. Таму зразумела, што школьнае выхаванне не магло абыйсціся і без асобы ўраджэнца Беларусі Т. Касцюшкі. Разам з ім сярод гістарычных асоб, якія сапраўды карысталіся папулярнасцю сярод школьнікаў, былі таксама выхадцы з беларускіх зямель Э. Плятэр і Р. Траўгут, удзельнікі польскай нацыянальна-вызваленчай барацьбы XIX ст. [203].

Але самым галоўным нацыянальным героем не толькі школьнай гісторыі, але і ўсяго «дзяржаўнага выхавання» быў маршал Ю. Пілсудскі. Таму на яго кульце трэба спыніцца больш падрабязна.

Вышэй ужо адзначалася, што культ маршала з’яўляўся неад’емнай часткай «дзяржаўнага выхавання». Гэта таксама можна прасачыць і на прыкладзе вывучэння гісторыі ў школе. «Санацыйныя» дзеячы абвінавачвалі прыхільнікаў «нацыянальнага выхавання» ў тым, што

яны замоўчвалі ці фальсіфікавалі ролю Ю. Пілсудскага ў польскай гісторыі. Доказам гэтага яны лічылі, напрыклад, тое, што у праграме па гісторыі для ўсеагульнай школы ад 1920 г. прозвішча маршала ўпаміналася толькі раз [66, с. 311].

Пасля майскага перавароту сітуацыя ў гэтым накірунку пачала мяняцца. З эпізодамі з жыцця Ю. Пілсудскага вучні пачыналі знаёміцца яшчэ ў пачатковых класах. У праграмахі падручніках па гісторыі, якія выйшлі пасля рэформы 1932 г., асоба Ю. Пілсудскага актыўна выстаўлялася ў якасці асабістага ўзору для кожнага грамадзяніна польскай дзяржавы.

Біяграфія маршала падрабязна асвятлялася на уроках гісторыіі на старонках падручнікаў. Цікава, што другой асобай, значэнне якой падкрэслівалася ў 2-й Рэчы Паспалітай, быў прэзідэнт краіны І. Масьціцкі. Як слушна адзначаюць сучасныя польскія даследчыкі,у прэзідэнта не было ніякіх шанцаў на суперніцтва з Ю. Пілсудскім. Напрыклад, выява прэзідэнта змяшчалася ў падручніках звычайна толькі адзін раз, ў той час як выявы Ю. Пілсудскага – шматразова. Так у адным з падручнікаў па гісторыя для VI класа былі змешчаны наступныя фотаздымкі: «Ю. Пілсудскі ў дзяцінстве», «У эміграцыі ў Лондане (Ю. Пілсудскі і І. Масьціцкі)», «Камендант Ю. Пілсудскі», «Камендант Ю. Пілсудскі ў час баёў на Валыні», «Камендант Ю. Пілсудскі на футбольным матчы паміж 2-м і 4-м палкамі легіёнаў», «Вяртанне каменданта з Магдэбурга» [173, с. 32].

Пры выкладанні гісторыі асабліва падкрэслівалася рашаючая роля Ю. Пілсудскага, якую той адыграў у аднаўленні незалежнасці Польшчы. У праграме для ўсеагульнай школы І ступені навучання абавязковымі тэмамі былі «Ю. Пілсудскі – Начальнік адроджанай польскай дзяржавы» і «Пераход улады ў адроджанай польскай дзяржаве да Ю. Пілсудскага»; у праграме для школы ІІ ступені – «11 лістапада, пераход улады да Ю. Пілсудскага» і «З барацьбы за вызваленне частак дзяржавы, Начальнік дзяржавыі Галоўнакамандуючы Ю. Пілсудскі»; у праграме школы ІІІ ступені – «Начальнік дзяржавы Ю. Пілсудскі» [173, с. 31]. Праграмы рэкамендавалі каб ў выпадку вывучэння гісторыі войнаў за ўсталяванне межаў 2-й Рэчы Паспалітай асоба маршала паказвалася «манаграфічна» [66, с. 313].

Такім чынам, асвятляючы ход польска-савецкай вайны, аўтары падручнікаў пры кожным зручным выпадку праслаўлялі асобу польскага дыктатара. Ствралася ураджанне, што іншых военачальнікаў быццам бы і не існавала, а Пілсудскі сам кіраваў усімі ваеннымі дзеяннямі. Гэта быў яскравы прыклад «дзяржаўнага выхавання», у якім моцны націск рабіўся на падкрэсліванне значэння ў жыцці

дзяржавы выдатных гістарычных асоб, увасабленнем якой лічыўся Ю. Пілсудскі [173, с. 33].

Яшчэ адным гістарычным момантам, які выкарыстоўваўся «дзяржаўным выхаваннем» для прапаганды культу Ю. Пілсудскага, быў дзяржаўны пераварот 1926 г. Заяўлялася, што маршал выратаваў польскую дзяржаўнасць ад заняпаду, якім ёй пагражала «партыйнае» кіраўніцтва сейму [173, с. 34].

Што тычыцца Заходняй Беларусі, то мясцовае кіраўніцтва сістэмы адукацыі на гэтай тэрыторыі не засталося ў баку ад пашырэння культа Ю. Пілсудскага ў школе. Паколькі, напрыклад, школьныя праграмы прадугледжвалі ўлічваць пры навучанні рэгіянальны аспект, то кіраўніцтва Віленскай школьнай акругі ініцыявала выданне спецыяльных дыдактычных дапаможнікаў для настаўнікаў усеагульных школ, прысвечаных сувязям маршала з «усходнімі крэсамі». Ва ўступе да аднаго са зборнікаў адзначалася, што асоба Ю. Пілсудскага «звязвае наш рэгіён з Польшчай мацней, чым многія гістарычныя акты, пакрытыя патынай стагодзяў» [66, с. 132]. У іншым выданні падкрэсліваліся «глыбока асабістыя, сыноўскія» адносіны маршала з роднай Віленшчынай. З замілаваннем былі апісаны яго візіты на радзіму пасля замацавання Віленскага края ў складзе 2-й Рэчы Паспалітай: «Зараз ужо не Віленская Зямля шукала паратунку ў свайго геніяльнага Сына, але Ён прыходзіў на родную старонку па адпачынак і новы запас сіл. Паколькі ў Адроджанай Польшчы, у стырна Яе ўрадаў, нягледзячы на ўсю сваю ўладу і моц, заўсёды меў цяжкае жыццё – патрабаваўся вялізны адпачынак» [76, с. 17]. З тым жа замілаваннем паказаны адносіны мяцовага насельніцтва са сваім земляком, які «…ахвотна размаўляў з сялянамі, якія, што цікава, былі нашмат смялейшымі ў адносінах з Ім, чым яго самае бліжэйшае атачэнне. Люд Віленскай Зямлі моцна верыў у апекуі ўсемагутнасць Маршалка. Усё, што лічылася несправядлівасцю ці крыўдай, зараз жа атрымлівала каментар: “Мусіць Маршал Пілсудскі аб гэтым не ведае, бо каб ведаў, то такога б не было”» [76, с. 18].

Культ Ю. Пілсудскага не абмяжоўваўся толькі непасрэдна школьнымі заняткамі. Важнай часткай школьнага жыцця было святкаванне 19 сакавіка імянін маршала Ю. Пілсудскага. Афіцыйным загадам міністэрства ў 1931 г. гэты дзень быў зроблены вольным ад заняткаў ва ўсіх установах адукацыі, рэалізоўваўся лозунг «Імяніны Маршала – вольны дзень у вольнай Польшчы». К гэтаму часу ўжо усталяваўся пэўны канон, згодна з якім праходзілі святкаванні. Звычайна пасля адпаведных прамоў, лекцый і дэкламацый на тэрыторыі школы вучні прымалі ўдзел ва ўрачыстасцях у сваёй

мясцовасці. Зразумела, што нагодай да дэманстрацыі вернападданіцкіх пачуццяў у адносінах да маршала Ю. Пілсудскага з'яўляліся і іншыя святы – Дзень незалежнасці, гадавіна бітвы пад Варшавай, юбілеі польскіх нацыянальна-вызваленчых паўстанняў. Вельмі часта гэтыя святы ператвараліся ў звычайную школьную руціну. Але былі выпадкі спроб ажывіць зафармалізаванае свята, стварыць ў дзяцей напярэдані чарговай гадавіны адпаведны настрой. Так, ў 1934 г. у віленскай гімназіі імя Чацкага былі арганізаваны спаборніцтвы за лепшыя дасягненні ў вучобе. Вынікі іх планавалася правесці ў дні імянін Ю. Пілсудскага [66, с. 317].

Спецыфічнай формай культу Ю. Пілсудскага стала наданне яго імя ўстановам адукацыі. Акрамя ўсяго іншага, гэта давала магчымасць правесці адпаведныя ўрачыстасці, у час якіх пералічваліся заслугі маршала перад краінай, а яго асоба ставілася ў прыклад вучням. Моладзі даводзілася, што яны павінны ганарыцца такім патронам, дзякуючы якому яны маюць магчымасць вучыцца ў польскай школе. Трэба адзначыць, што Міністэрства рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы ставіла пэўныя патрабаванні да школ, якія імкнуліся атрымаць імя Ю. Пілсудскага. Так, напрыклад, школа павінна была быць «высокаарганізаванай». Гэта азначала, што права атрымаць маршала ў якасці патрона пазбаўляліся невялікія (аднакласныя) школы і школы, якія не мелі добрых памяшканняў. Але маглі быць і выключэнні, асабліва калі справа заходзіла пра школы, якія дзейнічалі менавіта на тэрыторыі «крэсаў усходніх» 2-й Рэчы Паспалітай. Міністэрства магло пайсці на саступкі, каліз просьбай аб наданні імя Ю. Пілсудскага звярталіся бацькі польскіх дзяцей, якія хадзілі ў дадзеную школу. Пасля смерці маршала Ю. Пілсудскага гэтая акцыя пачала набываць спекулятыўныя формы. Міністэрства пачало падтрымліваць праекты масавага будаўніцтва школ імя Ю. Пілсудскага ў паўночна-ўсходніх ваяводствах краіны. У першую чаргу такая падтрымка азначала фінансавую дапамогу. Так, план будаўніцтва ў Палескім ваяводстве «100 школ – помнікаў Ю. Пілсудскаму» атрымаў у якасці дадатковага фінансавання 1 600 000 злотых. Такія фінансавыя інвестыцыі стымулявалі кіраўніцтва заходнебеларускіх школьных акруг. Паміж імі нават пачалося своеасаблівае спаборніцтва. Куратар Палескай школьнай акругі запланаваў будаўніцтва 950 школьных будынкаў, кіраўніцтва Віленскай школьнай акругі дэкларавала стварэнне аб'ектаў з 300 класнымі памяшканнямі. Палескі план першапачаткова выклікаў сумненні ў Варшаве, яго палічылі нерэальным з пункту гледжання фінансавых магчымасцяў. Але палескі куратар здолеў пераканаць сваё кіраўніцтва, заявіўшы, у тым

ліку, што «памкненнем педагагічных работнікаў акругі з'яўляецца ўшанаванне памяці Маршала ў самым вялікім памеры, на які нас можа хапіць». Міністэрства дало сваю згоду на рэалізацыю праекту, тым больш што ў яго фінансаванні павінны былі прымаць удзел не толькі міністэрскія структуры, алеі іншыя дзяржаўныя органы і грамадскія арганізацыі [66, с. 322].

Вяртаючыся да непасрэднай рэалізацыі «дзяржаўнага выхавання» на тэрыторыі школы, трэба адзначыць, што ў яго ажыццяўленні выкарыстоўваліся магчымасці не толькі гуманітарных прадметаў. Напрыклад, на ўроках рэлігіі эпізодыз жыцця польскіх (менавіта польскіх) святых павінны былі «паказаць моладзі шлях да развіцця грамадскіх і грамадзянскіх пачуццяў, а канкрэтна: сяброўства, салідарнасці, узаемадапамогіў добрых справах, самаахвярнасці, ашчаднасці, дабразычлівых адносінах да бліжняга, барацьбе супраць паклепу і плётак, падпарадкаванні не толькі закону божаму, але і дзяржаўнаму». Акрамя таго на гэтых уроках уводзілася малітва «аб блаславенні для польскай дзяржавы і яе магутнасці», якая павінна была развіваць у дзяцей «грамадзянскія пачуцці, любоў да сваёй дзяржавы і жаданне служыць гэтай дзяржаве з мэтай умацавання яго сілы і велічы» [121, с. 51 – 52].

Вялікія магчымасці для рэалізацыі канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання» «санацыйныя» педагогі знаходзілі ў выкладанні геаграфіі [140] і прыродазнаўства [112]. Нават на задачы па арыфметыцы быў ускладзены «абавязак грамадзянскай службы» – яны павінны былі служыць гаспадарчай падрыхтоўцы вучняў ўсеагульнай школы. «Грамадзянскія» тэмы для задач патрэбна было браць з дзейнасці школьных арганізацый [121, с. 71].

Некаторыя змены кантэкстаў у «дзяржаўным выхаванні» адбыліся, як ужо адзначалася вышэй, у другой палове 30-х гадоў, калі быў узяты курс на падрыхтоўку моладзі да абароны краіны. Гэтыя змены закранулі як усеагульную, так, у першую чаргу,і сярэднюю школы. У дыдактычнай сферы пры выкладанні асобных прадметаў неабходна было рабіць націск на тыя элементы ведаў, якія маюць дачыненне да абароназдольнасці дзяржавы. Напрыклад, на ўроках геаграфіі рэкамендавалась вывучаць элементы тапаграфіі, на занятках па фізіцы і хіміі вывучалась праца рухавікоў унутранага згарання, радыёпрёмнікаў, элементы супрацьхімічнай і супрацьпаветранай абароны [93, с. 228]. Таксама ў мэтах падрыхтоўкі да абароны краіны выкарыстоўваліся і гуманітарныя прадметы. Менавіта ў гэтым выпадку галоўная ўвага звярталася на іх выхаваўчыя магчымасці. Пры дапамозе гуманітарных прадметаў выхаванец павінен быў

дасягнуць «такой ступені грамадзянскай свядомасці, каб адчуваў сябе звязаным думкамі і пачуццямі з Нацыяй і Дзяржавай, каб ён ведаў і разумеў культурныя, палітычныя, эканамічныя і грамадскія дасягненні польскай Нацыі і Дзяржавы, каб меў пачуццё яе выключнасціі своеасаблівых каштоўнасцей, каб ў поўнай меры адчуваўі разумеў неабходнасць павелічэння абарончага патэнцыялу» [61, с. 809]. Акрамя таго, рэкамендавалася на канкрэтных прыкладахз гісторыі Польшчы і іншых народаў паказваць, «як помсціла за сябе палітычная слабасць, якая выцякае з неразумення неабходнасці абароны» [61, с. 812]. На ўроках гісторыі вучні павінны былі знаёміцца з гісторыяй узброеных сіл Рэчы Паспалітай. Для юнакоў гэтыя веды павінны былі адыграць ролю «пачатковай прафесійнай адукацыі будучага афіцэра польскай арміі» [61, с. 813].

Адначасова ўзрастала роля і такога прадмету, як ваенная падрыхтоўка. Пры гэтым трэба адзначыць, што яго выкладалі толькі ў сярэдняй школе (гімназіях і ліцэях), а не ва ўсеагульнай. Гэты прадмет з'явіўся ў школьнай праграме яшчэ ў першай палове 20-х гадоў, пасля таго як у снежні 1922 г. выйшла сумесная пастанова міністра рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветыі міністра ваенных спраў аб арганізацыі ваеннай падрыхтоўкі (ВП) у сярэдніх і прафесійных школах. Для падрыхтоўкі школьнай моладзі да ваеннай службы ўводзіліся дабраахвотныя заняткі па ваеннай падрыхтоўцы. Іх задачай было «фарміраванне ў моладзі ўменняў і рыс, якія развіваюць сілу і характар будучага грамадзяніна Айчыны, дазваляючы яму выканаць ваенны абавязак ў кароткі тэрмін і атрымаць воінскае званне ў больш хуткі тэрмін».

Для гэтага ў школах стваралiся школьныя атрады (Hufce szkolne). У іх мог уступіць любы школьнік, які дасягнуў 16 гадоў і меў адпаведны медыцынскі дазвол. Заняткамі атрада кіраваў інструктар. Гэта мог быць як афіцэр, так і цывільны чалавек, настаўнік дадзенай школы. Па ўсім пытанням унутранай дысцыпліны кіраўнік атрада падпарадкоўваўся школьным уладамі ўваходзіў у склад педагагічнага савета школы. Навучанне адбывалася на аснове праграмы, якая сумесна распрацоўвалася міністэрствамі асветы і ваенных спраў. Праграма распадалася на два курса (ступені). Першая ступень адпавядала праграмам навучання радавога пяхоты, другая – праграме навучання пяхотнага падафіцэра. Курсы ВП дапаўняліся летнімі ваеннымі лагерамі. Згодна таму ж распараджэнню, ваенныя веды таксама ўключаліся і ў праграму такіх прадметаў, як фізіка, хімія, гісторыя, геаграфія.

Вучні, якія наведалі 2/3 заняткаў, дапускаліся да экзамену. Экзаменацыйная камісія складалася з прадстаўнікоў школьныхі ваенных улад. У выпадку паспяховай здачы экзаменаў вучні атрымоўвалі пасведчанне адпаведнай ступені ваеннай падрыхтоўкі [43, с. 34].

Унутраны парадак і дысцыпліну ў школьных атрадах ваеннай падрыхтоўкі павінны былі падтрымліваць школьныя ўлады. Прадстаўнікі ваенных маглі наведваць атрады толькі з ведама і згоды школьнага кіраўніцтва [43, с. 35].

У далейшым школьная сістэма ваеннай падрыхтоўкі працягвала развівацца. Пры гэтым трэба адзначыць, што ўсё большую ролю сталі адыгрываць ваенныя структуры. 4 лютага 1931 г. выйшла новая сумесная пастанова міністра рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы і міністра ваенных спраў па пытаннях арганізацыі ваеннай падрыхтоўкі ў школе. Пастанова сведчыла, што дзейнасць атрадаў ВП насіла не толькі навучальны, але і «дзяржаўна-выхаваўчы» характар. У ёй падкрэсліваліся наступныя мэты ваеннай падрыхтоўкі ў школе:

1. Выпрацоўка ў моладзі актыўнага патрыятызму, асабліва дзяржаўнага пачуцця, якое выражаецца ў гатоўнасці прынесці любыя ахвяры ў імя абароны Айчыны.
2. Развіццё волі, стараннасці і дысцыпліны.
3. Памнажэнне фізічных сіл моладзі праз навучанне ваенным уменням і палявыя заняткі.
4. Абуджэнне замілавання да вайсковай службы і непасрэдная падрыхтоўка да яе [213, с. 86].

Галоўным адрозненнем пастановы 1931 г. ад распараджэння 1922 г. было тое, што заняткі ў школьных атрадах ваеннай падрыхтоўкі сталі абавязковымі для ўсёй мужчынскай моладзі тых школ, дзе такіе атрады ствараліся. Узмацненне ролі армейскіх структур знайшло адлюстраванне ў тым, што камендантам (кіраўнікам) атрада быў афіцэр. Заняткі праводзіліся афіцэрамі і падафіцэрамі. Педагагічнае кіраўніцтва атрадам даручалася аднаму са школьных настаўнікаў, афіцэру запасу. Дырэкцыя школ і настаўніцкі калектыў павінны былі ўзяць пад апеку працу і патрэбы атрада ваеннай падрыхтоўкі, прапагандаваць ідэі ваеннай падрыхтоўкі і дзяржаўна-грамадзянскага выхавання ў бацькоўскім асяроддзі, арганізоўваць пры дапамозе бацькоў матэрыяльную дапамогу атраду ваеннай падрыхтоўкі [213, с. 87 – 91].

Апошні раз ваенная падрыхтоўка ў школе была рэарганізавана ў 1937 г. Было вырашана, што падрыхтоўка школьнай моладзі да абароны краіны будзе рэалізоўвацца толькі ў школе і выключна праз школу. Згодна з пастановай ад 10 верасня 1937 г., пра якую ўжо

гаварылася вышэй, пры аналізе развіцця канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання», ваенная падрыхтоўка стала абавязковым школьным прадметам. Згодна з духам «дзяржаўнага выхавання», мэтай ваеннай падрыхтоўкі да абароны краіны было падрыхтаваць «свядомых, актыўных, мужных і дысцыплінаваных грамадзян Дзяржавы, гатовых у кожную хвіліну стаць на яе абарону ад любой пагрозы». Уся школьная моладзь, якая дасягнула 15 гадоў, павінна была праходзіць заняткі ў школьных атрадах ваеннай падрыхтоўкі. Юнакі праходзілі ваенную падрыхтоўку, дзяўчаты – падрыхтоўку да дапаможнай вайсковай службы. Ад заняткаў вучні вызваляліся толькі часова і толькі з дазволу школьнага доктара. Функцыі камендантаў школьных атрадаў ваеннай падрыхтоўкі зараз выконвалі выключна настаўнікі, але яны абавязкова з'яўляліся афіцэрамі-рэзервістамі.

У цэлым, ацэньваючы такі школьны прадмет, як ваенная падрыхтоўка, неабходна прызнаць, што ён таксама нёс значную «дзяржаўна-выхаваўчую» нагрузку.

Ваенная падрыхтоўка вучняў гімназій была арганізавана і на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Адным з першых школьных атрадаў ваеннай падрыхтоўкі можна лічыць атрад, які быў створаны ў Пінскай дзяржаўнай гімназіі восенню 1923 г.

Да вясны 1929 г. у яго з дазволу бацькоў ці апякуноў маглі дабраахвотна запісвацца вучні IV – VIII класаў. З восені таго ж года ў атрад павінны былі абавязкова ўвайсці ўсе вучні VII – VIII класаў (за выключэннем тых, хто быў вызвалены школьным доктарам). Такім чынам, абавязковая прыналежнасць да атрада ваеннай падрыхтоўкі ў Пінскай гімназіі быў уведзены яшчэ да адпаведнай міністэрскай пастановы 1931 г. (табл. 5).

Табліца 5 – Колькасць членаў атрада ВП Пінскай гімназіі [191, с. 196].

| Вучэбны год | Колькасць членаў атрада ВП |
|---|---|
| 1925/26 | 108 |
| 1926/27 | 20 |
| 1927/28 | 41 |
| 1928/29 | 61 |
| 1929/30 | 64 |

Але колькасць членаў атрада, якія прайшлі летнія лагеры, была вельмі скромнай. Так, калі ў 1925 г. 25 вучняў прайшлі ваенную падрыхтоўку ў летніх лагерах пры 30-й пяхотный дывізіі, то праз тры гады, ў 1928 г., такіх было 8 чалавек, а ў 1929 г. – толькі 3. Яшчэ можна дабавіць, што 9 вучняў прайшлі ў 1929 г. лыжны курс ваеннай падрыхтоўкі, а ў 1930 г. 6 вучняў скончылі курсы па плаванню пры Акруговым цэнтры ВП. Аўтары афіцыйнай справаздачы прызнаюць, што пад прымусам колькасць членаў атрада расце, а наведваемасць летніх лагероў нізкая. Прычынай такога становішча аўтар справаздачы называе цяжкае матэрыяльнае становішча моладзі, якая летнім часам займалася рэпецітарствам і працавала на мясцовых тартаках, каб зарабіць сабе на адзенне і іншыя патрэбы [191, с. 196 – 197].

Некаторыя цяжкасці ўзнікалі з правядзеннем ваеннай падрыхтоўкі і ў Вільні, дзе знаходзілася значная колькасць гімназій, як прыватных, так і дзяржаўных. Пра гэта сведчыць сакрэтная запіска, накіраваная 19 мая 1932 г. кіраўніцтву Віленскай школьнай акругі В. Жарноўскім, педагагічным кіраўніком атрада ваеннай падрыхтоўкі гімназіі айцоў езуітаў у Вільні (атрад ваеннай падрыхтоўкі быў створаны ў гэтай гімназіі ў 1927/28 навучальным годзе).

Аўтар запіскі адзначаў, што заняткі па ваеннай падрыхтоўцы выклікаюць сярод моладзі расчараванне ў вайсковай службе, антыпатыю ў адносінах да камандзіраў і атрада ВП, крах дысцыпліны, а сярод бацькоў вучняў – незадаволенасць з-за таго, што заняткі адбываюцца ў святочныя дні. Таксама бацькі былі незадаволеныя тым, што шматгадзінныя зборы, парады, спаборніцтвы і практыкаванні часта праводзяцца пры дрэнным надвор'і, што вядзе да хвароб. Пры гэтым В. Жарноўскі меў на ўвазе сітуацыю не толькі ў сваёй гімназіі, а ва ўсіх сярэдніх навучальных установах Вільні, дзе існавалі атрады ВП. Галоўнай прычынай такога становішча ён лічыў шматлікія арганізацыйныя хібы. Галоўнай з іх, па яго меркаванню, была непадрыхтаванасць інструктарскіх кадраў да педагагічнай і выхаваўчай працы са школьнай моладдзю. Інструктары ставіліся да школьнікаў як да рэкрутаў у воінскіх частках і таму трэніравалі іх як дарослых, фізічна развітых людзей, а не падлеткаў [83, с. 220 – 221]. Непадрыхтаванасць інструктароў магла прывесці і да канфліктаў паміж імі і школьным кіраўніцтвам. Напрыклад, падобны канфлікт адбыўся ў той жа гімназіі айцоў езуітаў у Вільні ў 1937 г. Прычынай яго стала выкарыстанне камендантам атрада ваеннай падрыхтоўкі і інструктарамі

неадпаведных выхаваўчых метадаў. Яны зняважліва ставіліся да падлеткаў, шырока ўжывалі ненарматыўную лексіку, акрамя таго, у час заняткаў камендант ВП неаднаразова негатыўна выказваўся адносна ордэна езуітаў. В. Жарноўскі ад імя кіраўніцтва гімназіі накіраваў камандаванню5-га пехотнага палка легіёнаў (школьны атрад ваеннай падрыхтоўкі знаходзіўся пад яго вайсковай апекай) пісьмо з просьбай памяняць інструктароў. Трэба адзначыць, што ваенныя задаволілі гэтую просьбу. Ужо ў чэрвені 1937 г. школьнае кіраўніцтва накіравала палкавому камандаванню пахвальны ліст, у якім было адзначана, што новыя афіцэры, працуючыя ў атрадзе, «вызначаюцца выключнымі якасцямі з маральнага, педагагічнага і прафесійнага пункту гледжання» [83, с. 222].

Неабходна адзначыць, што рэалізацыя прынцыпаў канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання» адбывалася не толькі непасрэдна ў час навучання. Выхаванне будучых добрых грамадзян 2-й Рэчы Паспалітай магло набываць у школе розныя формы і ажыццяўляцца пры дапамозе даволі шырокага кола метадаў. У якасці канкрэтнага прыкладу тут можна прывесці план выхаваўчай працы ў VII класе ўсеагульнай школы ў Івянцы (1936), у якім указваюцца мэты выхаваўчай працы і шляхі іх дасягнення:

Раздзел І. Грамадска-грамадзянскае выхаванне.

1. Павага да дзяржаўнага сімвала, нацыянальнага сцяга, нацыянальнага гімна і «1-й Брыгады».
2. Культ асоб, якія стаяць на чале дзяржавы.
3. Развіццё любві да Бацькаўшчыны і прыхільнага сташлянння да дзяржавы.
4. Адпаведнае разуменне важнасці ўрачыстасцяў і актыўны ўдзел у іх.
5. Знаёмства з праявамі грамадскага жыцця і выпадкамі, якія ілюструюць развіццё магутнасці дзяржавы.
6. Арганізацыя групавой працы.
7. Актыўны ўдзел у мерапрыемствах.
8. Дакладнае выкананне даручэнняў кіраўнікоў і павага да іх.
9. Грамадская падрыхтоўка – праца ў школьных арганізацыях.
10. Абуджэнне культу роднай мовы і шэдэўраў літаратуры.
11. Павага да законаў і распараджэнняў вярхоўнай улады, якія рэгулююць жыццё дзяржавы.

Рэалізацыя гэтага плана прадугледжвала: штодзённае ўшанаванне дзяржаўнай сімволікі, адпаведны адбор вучэбнага матэрыялу, штомесячныя гутаркі і гутаркі адпаведна акалічнасці, удзел у святочных мерапрыемствах, арганізацыя акадэміі спектакляў, удзел дзяцей у

відовішчах і прагляд адпаведных фільмаў, праца ў школьных арганізацыях, правядзенне школьнай святліцы, выкананне дзецьмі дзяжурстваў і т. п. [105, с. 118 – 119].

Такім чынам, школа 2-й Рэчы Паспалітай з'яўлялася сур'ёзным выхаваўчым інстытутам, дзейнасць якога на тэрыторыі Заходняй Беларусі была накіравана на паланізацыю мясцовай моладзі. Гэта цалкам адпавядала мэтам правячых колаў міжваеннай польскай дзяржавы, якія ўскладалі вялікія надзеі на сістэму адукацыі пры правядзенні сваёй палітыкі, накіраванай на ўзмацненне польскага ўплыву на «крэсах усходніх». У 1937 г. на нарадзе ваявод і камандуючых ваенных акруг Навагрудскі ваявода А. Корвін-Сакалоўскі адкрыта заяўляў: «У школе патрэбна рабіць пэўны ціск у накірунку апрацоўкі беларусаў. Часта гэта будзе гвалтоўна, але мэта з'яўляецца вялікай… Школа гэта тое, што стварае польскасць. Лозунг пра апалітычнасць школы гэта нейкая недарэчнасць. На крэсах школа павінна быць палітычнай, гэта зброя, якая выкарыстоўваецца палітычнай адміністрацыяй» [122, с. 104].

У выніку ў школе склалася сітуацыя, якую добра характэрызуюць словы аднага вучня-беларуса: «На працягу ўсяго навучання ва ўсеагульнай школе я навогул нічога не пачуў пра сваю вёску, пра культуру і творчасць народа, ад крыві і косці якога мы паходзім. Ніхто ні слова не паведаміў ні пра гісторыю беларускай нацыі, на пра яе літаратуру» [120, с. 113]. Такія сведчанні толькі лішні раз падцвярджалі паланізатарскі характар выхаваўчай дзейнасці школьнай сістэмы 2-й Рэчы Паспалітай.

### 3. 3. Грамадскія арганізацыі школьнай моладзі 2-й Рэчы Паспалітай.

Вельмі важным сродкам распаўсюджвання уплываў «дзяржаўнага выхавання» на школьную моладзь, пра які, на нашу думку, неабходна расказаць асобна, з'ўлялася ўцягненне вучняў усеагульных школ і гімназій у дзейнасць шматлікіх грамадскіх арганізацый. Гэтыя арганізацыі і аб'яднанні дзейнічалі як на тэрыторыі вучэбных устаноў, так і за іх межамі.

«Санацыйныя» педагогі лічылі, што праца моладзі ў вучнёўскіх арганізацыях стварае «шмат магчымасцей для выпрацоўкі пачуцця грамадзянскай адказнасці і вызвалення творчых інстынктаў». Але, па меркаванню прыхільнікаў «дзяржаўнага выхавання», для таго, каб школьныя арганізацыі «сталі тэрыторыяй творчай працы моладзі над выпрацоўкай уласнага характару, каб яны сапраўды маглі фарміраваць ў яе арганізацыйныя здольнасці і развіваць самастойнасць,

мы павінны атачыць іх спецыяльнай апекай». Аднак гэтая апека павінна была быць «вельмі тонкай і вельмі асцярожнай, выхавацель можа ўмешвацца ў гэтую працу толькіў выключных выпадках, уся ініцыятыва і фармальная адказнасць павінны ляжаць на самой моладзі». Настаўнік павінен быў сачыць за тым, каб вучні падпарадкоўваліся тым правілам, якія яны самі ўвялі, і каб у справах арганізацыі прымалі ўдзел усе яе члены. Таксама лічылася, што школьных арганізацый у адной школе не павінна быць шмат, паколькі моладзь, «прагная да ўражанняў, кідаецца да некалькіх арганізацый і ў рэшце рэшт не працуе ніў адной з іх. Школа ж са свайго боку не ў стане агарнуць уважлівай апекай столькі арганізацый і моладзь застаецца сама па сабе». Падчас побыту ў школе і праз працу ў школьных арганізацыях моладзь павінна была «навучыцца добрасумленнай працыі зразумець, што грамадская праца гэта рэч высокародная, але цяжкая, нельга браць на сябе зашмат… лепш рабіць мала, але добра і грунтоўна». Вынікам жа ўсіх прац моладзі ў арганізацыях павінна быць «канкрэтнае калектыўнае дзеянне» [145, с. 134 – 135].

Зразумела, што школьная практыка не заўсёды адпавядала тэарэтычным пастулатам прыхільнікаў «дзяржаўнага выхавання», асабліва што тычылася самастойнасці і ініцыятывы членаў школьных арганізацый.

Дзейнасць грамадскіх арганізацый на тэрыторыі сярэдніх навучальных устаноў (сярэдніх агульнаадукацыйных школ, настаўніцкіх семінарый, прафесійных школ) рэгулявалася спецыяльным цыркулярам міністра рэлігійных веравызнанняўі публічнай асветы, які быў выдадзены 3 верасня 1927 г. Дадзены дакумент прызнаваў, што арганізацыя гурткоў і аб’яднанняў моладзі на тэрыторыі адукацыйных устаноў з’яўляецца «вельмі важным фактарам грамадскага выхавання моладзі». Задачай цыркуляра было «зрабіць аднастайнымі прынцыпы дзеяння па падрыхтоўцы да грамадскай працы моладзі пад адпаведным кіраўніцтвам дырэктара школы». У гэтых мэтах было пастаноўлена, што ўсе гурткі і аб’яднанні школьнай моладзі могуць стварацца толькі з дазволу ці па ўказанню дырэктара школы. Па яго ж загаду гэтыя арганізацыі маглі быць ліквідаваны. Моладзь сярэдніх школ магла належыць толькі да гурткоў і аб’яднанняў, якія існавалі ў адпаведнай школе з дазволу дырэктара. Выключэнне складалі міжшкольныя спартыўныя гурткі і, у некаторых выпадках, міжшкольныя харцэрскія дружыны. Але і ў дадзеных выпадках быў патрэбен дазвол кіраўніцтва школы. Міністэрскі цыркуляр таксама рэгламентаваў віды арганізацый, якія маглі ствараца вучняміў сваіх

навучальных установах. Да першай групы арганізацый адносіліся аб’яднанні рэлігійнага, самаадукацыйнага, артыстычнага і спартыўнага характара. Такімі гурткамі павінны былі кіраваць настаўнікі і для іх не прадугледжвалася стварэння нейкіх органаў унутранага самакіравання. Да другой групы арганізацый адносіліся арганізацыі самакіравання, кааператыўныя, гуманітарныя (Братняя Дапамога, гурткі Польскага Чырвонага Крыжа) і этычныя (напрыклад, па праблеме алкагалізму) аб’яднанні. Такія арганізацыі павінны былі мець статут і апекуна (куратара), прызначанага дырэкцыяй школы. Цыркуляр не дазваляў гурткам з розных школ аб’ядноўвацца і мець агульнае кіраўніцтва. Выключэннем з’яўляліся харцэрскія дружыны, якія аб’ядноўваліся ў гурткіі харугвы. Колькасць і іх характар залежалі ад рашэння дырэктара. Пры гэтым кіраўнік школы павінен быў сачыць за тым, «каб моладзь, узяўшы на сябе празмерную колькасць абавязкаў, не прызвычаілася да павярхоўнай працы і на занадта шырокім выбары поля дадатковай працы не прымала неразважлівых рашэнняў» [208, с. 41 – 42].

Міністр Г. Дабруцкі 6 лютага 1928 г. выдаў яшчэ адзін цыркуляр, прысвечаны вучнёўскім гурткам у школе, на гэты раз канспірацыйным. Цыркуляр сцвярджаў, што падрыўныя элементы робяць спробы ўплываць на моладзь, рыхтуюць і ажыццяўляюць «замахі на спакой школьнай моладзі». Гэтым дэструкцыйным уплывам належыла супрацьстаяць з усёй рашучасцю. Паспяховымі сродкамі барацьбы з канспірацыйнымі гурткамі лічыліся ўніканнеў духоўнае жыццё даверанай ім моладзі, нагляд за праявамі фарміравання грамадскіх і палітычных поглядаў, адсочванне пазашкольных уплываў на моладзь. У першую ж чаргу педагогі абавязаны былі звяртаць увагу на канспірацыйныя аб’яднанні моладзі. У выпадку калі такія праявы былі заўважаны патрэбна было «ўсякімі мэтазгоднымі ў дадзеных абставінах сродкамі фарміраваць у моладзі пачуццё шкоднасці гэтых канспірацыйных акцый у дзяржаве, дзе асабістая свабода і свабода сумлення з’яўляюцца канстытуцыйна гарантаванымі». Дырэктар школы павінен быў быць інфармаваным «пра ўсе праявы калектыўнага жыцця моладзі і ў выпадку патрэбы паспяхова ліквідаваць непажаданыя ўплывы» [208, с. 43 – 44].

У рэчышчы ўказанняў міністэрства дзейнічалі і кіраўнікі сістэмы адукацыі ў школьных акругах. У красавіку 1932 г. быў выдадзены цыркуляр куратара Віленскай школьнай акругі да дырэктароў сярэдніх агульнаадукацыйных і прафесійных школі настаўніцкіх семінарый, які быў прысвечаны пытанню вучнеўскіх арганізацый. Дадзены дакумент, акрамя ўсяго іншага, дазваляе таксама

удакладніць сітуацыю ў гэтай галіне на тэрыторыі акругі. Цыркуляр канстатаваў, што ў галіне вучнеўскіх арганізацый пануе «пэўная хаатычнасць» і рэкамендаваў шэраг мерапрыемстваў гэтай сферы.

Асноўным тыпам школьных арганізацый прызнаваліся тыя, якія створаны ў дадзенай школе, і кіраўніцтва якіх у гэтай школе знаходзіца. Дазвалялася існаванне толькі тых арганізацый, якія былі прадугледжаны міністэрскім цыркулярам ад 3 верасня 1927 г. Давалася ўказанне ўсямерна падтрымліваць кантактыі супрацоўніцтва паміж арганізацыямі, якія дзейнічаюць на тэрыторыі асобных школ. Выхаваці павінны былі звярнуць сваю ўвагу на тое, каб ўносіць новы змест у старыя формы вучнёўскіх арганізацый, якія, як прызнаваў цыркуляр, «часта гібеюцы існуюць толькі фармальна».

У самой працы вучнёўскіх арганізацый загадвалася супрацьстаяць «малакаштоўнай, а часта нават шкоднай маніі чытання рэфератаў, якія часта з'яўляюцца толькі кампіляцыяй ці сціслым пераказам прачытаных крыніц, які паходзяць з іншых рук». Прапаноўвалася весці «канкрэтную працу», а таксама магчымыя справаздачы і дыскусіі на тэму яе праектаваннаі ажыццяўлення. Гэтая праца павінна планавацца такім чынам, каб развіваць моладзь у «грамадзянскім і грамадскім накірунку». Таксама праца школьных арганізацый павінна была, наколькі гэта было магчыма, выходзіць за межы школьных сцен. У сувязі з гэтым прама рэкамендавалася падтрымліваць і спрыяць стварэнню «арганізацый, якія даюць моладзі магчымасць актыўнай разрадкіі выхоўваюць праз яе».

Да арганізацый такога тыпу залічваліся харцэрства, атрады ваеннай падрыхтоўкі (у 1932 г. ваенная падрыхтоўка яшчэ не была абавязковым школьным прадметам), краязнаўчыя гурткі, гурткі такіх агульнадзяржаўных арганізацый як Марская ліга, Ліга супрацьпаветранай абароны дзяржавы, Польскі Чырвоны Крыж, а таксама спартыўныя, драматычныя, мастацкія і тэхнічныя гурткі, арганізацыі самадапамогі і гурткі грамадскай і грамадзянскай працы.

Цыркуляр падкрэсліваў, што «грамадскае жыццё вучняў і яго фарміраванне ў грамадзянскім духу павінны быць аднымз галоўных клопатаў дырэктара і настаўнікаў, якія павінны зблізіцца ў гэтай сферы з моладдзю і стала аказваць ёй дапамогу». Менавіта арганізаванасць моладзі, спраўнасць і жыццяздольнасць вучнёўскіх арганізацый і той ўплыў, які яны аказваюць на моладзь, аб'яўлялася паказчыкам паспяховасці і грунтоўнасці выхаваўчай працы педагагічнага калектыву школы [135, с. 146 – 147].

Як ужо адзначалася вышэй, дзеячы «дзяржаўнага выхавання» разглядалі школу як свайго роду грамадскі мікраарганізм, дзяржаву ў

мініяцюры. Гэтая тэндэнцыя знайшла сваё адлюстраваннеў спробах перанясення на тэрыторыю школы імітацыі дзяржаўных устаноў і самакіравання (гмін), якія як бы падкрэслівалі аналогію паміж школьным самакіраваннем і прадстаўнічымі органамі дзяржавы. Заяўлялася, што школа з'яўляецца тэрыторыяй, на якой дзіця вучыцца жыць у калектыве, пазнае значэнне правоўі абавязкаў, вучыцца шанаваць законы, якія рэгулююць лад калектыўнага жыцця, вучыцца суіснаванню з людзьмі. Тамуў школе вучань можа і павінен навучыцца грамадзянскай службе. «Санацыйныя» педагогі падкрэслівалі, што «школа з'яўляецца грамадствам; грамадскае жыццё павінна быць арганізаваным, каб не ператварыцца ў анархію». Вынікам гэтага і стала ўзнікненне на тэрыторыі польскіх школ «магутнай выхаваўчай арганізацыі пад назвай вучнёўскае самакіраванне» [119, с. 221].

Розныя формы вучнёўскага самакіравання так ці інакш пранікалі ва ўсе тыпы школ 2-й Рэчы Паспалітай – усеагульныя, сярэднія, прафесійныя і настаўніцкія семінарыі. Зразумела, што гэта адбывалася з дазволу і пад кантролем школьных улад.

Афіцыйнымі мэтамі вучнёўскага самакіравання з'яўляліся:

1. Аб'яднанне ўсіх вучняў дадзенай школы ў згуртаванаеі дысцыплінаванае грамадства.

2. Выпрацоўка ў дзяцей салідарнасці і сяброўства.

3. Стварэнне здаровых калектыўных поглядаў і павышэнне этычнага ўзроўню моладзі.

4. Фармаванне адказнасці не толькі за сябе, але і за ўвесь калектыў, гэта значыць, за гонар школы.

5. Развіццё ініцыятывы і творчых здольнасцяў асобных вучняўі ўсяго калектыву [119, с. 223 – 224].

Членамі самакіравання звычайна з'яўляліся ўсе вучні дадзенай школы, за выключэннем вучняў малодшых класаў ва ўсеагульныхі сярэдніх школах. Кожны клас быў аўтаномным калектывам, які выбіраў са свайго складу праўленне класа. Найчасцей гэтае праўленне складалася з трох чалавек: кіраўніка, сакратараі скарбніка. Праўленне адказвала за дзейнасць класа. Праўленні асобных класаў абіралі галоўнае праўленне. Галоўнае праўленне адказвала за дзейнасць усяго самакіравання. Вышэйшай інстанцыяй самакіравання быў сеймік ці агульны сход усіх членаў.

Праца самакіравання палягала з аднаго боку ў «фармаванні характараў і выпрацоўцы трывалых і моцных этычных прынцыпаў, з другога – ў грамадскім фармаванні і прывучэнні да супольнай арганізаванай, мэтанакіраванай працы» [119, с. 224].

Звычайна дзейнасць самакіравання ахоплівала наступныя школьныя грамадскія інстытуты:

1. Узаемную дапамогу (матэрыяльную, вучэбную, маральную).
2. Сяброўскі суд, які меў перад сабой мэту вырашэння канфліктаў паміж вучнямі (ў многіх школах такіх судоў не было).
3. Вучнёўскі магазін, які звычайна праводзіўся на асновах кааперацыі і забяспечваў вучняў прадметамі першай неабходнасці.
4. Школьныя газеты і хронікі.
5. Бібліятэкі і чытальні.
6. Гаспадарчую камісію, якая адказвала за падтрыманне парадку, дбала пра эстэтычны выгляд школы.
7. Гігіенічна-спартыўную камісію, якая сачыла за асабістай гігіенай вучняў, арганізоўвала спартыўныя спаборніцтвы.
8. Мастацка-забаўляльную камісію, якая адказвала за арганізацыю паказаў, спектакляў, экскурсій і г. д. [119, с. 225 – 226].

Акрамя таго, самакіраванне мела дачыненне да арганізацыі гурткоў Польскага Чырвонага Крыжа, Марской лігі, Лігі супрацьпаветранай абароны дзяржавы і г. д.

Уся дзейнасць вучнёўскага самакіравання павінна была абапірацца на самастойнай працы моладзі. У ідэале кожны вучань павінен быў прымаць актыўны ўдзел у дзейнасці самакіравання. Зразумела, што педагагічны калектыў навучальнай установы павінен быў апякаць працу самакіравання [119, с. 226].

Менавіта ў межах вучнёўская самакіравання і развівалася грамадская дзейнасць школьнікаў і іх гурткоў і аб’яднанняў.

Адной з формаў такой дзейнасці стала выданне школьных газет і часопісаў. Як сведчыць ніжэйпрыведзеная табліца 6, гэтая дзейнасць набыла даволі шырокае распаўсюджванне на тэрыторыі гімназій Віленскай школьнай акругі.

Табліца 6 – Школьныя выданні Віленскай школьнай акругі (1936) [165,с. 167].

| № | Назва | Месца выдання |
|---|---|---|
| 1 | «Pod prąd» | Вільня |
| 2 | «Front uczniowski» | Вільня |
| 3 | «Nasz Głos» | Дзяржаўная гімназія ў Дзісне |
| 4 | «Brzask» | Прыватная гімназія ў Глыбокім |
| 5 | «Straż Przednia» | Прыватная гімназія ў Глыбокім |
| 6 | «U nas» | Дзяржаўная гімназія ў Вілейцы |

| | | |
|---|---|---|
| 7 | «Promień» | Дзяржаўная гімназія ў Маладзечна |
| 8 | «Głos Oszmiański» | Дзяржаўная гімназія ў Ашмянах |
| 9 | «Ognisko» | Дзяржаўная гімназія ў Свенцянах |
| 10 | «Drużyna Harcerska» | Дзяржаўная гімназія ў Свенцянах |
| 11 | «Nasze życie» | Дзяржаўная гімназія ў Навагрудку |
| 12 | «Nasz przyjaciel» | Дзяржаўная гімназія ў Свенцянах |
| 13 | «Ogniwo szkolne» | Сярэдняя школа № 5 ў Баранавічах |
| 14 | «Nasze życie» | Прыватная гімназія С. Эпштэйна ў Баранавічах |
| 15 | «Twórzmy» | Дзяржаўная гімназія ў Лідзе |
| 16 | «Echo murów szkolnych» | Гімназія і семінарыя ў Слоніме |
| 17 | «Promień» | Дзяржаўная гімназія ў Нясвіжы |
| 18 | «Czywaj» | Дзяржаўная гімназія ў Нясвіжы |
| 19 | «Uczeń kresowy» | Прыватная гімназія ў Сейнах |
| 20 | «Młodzi mówia» | Яўрэйская прыватная гімназія ў Гродна |
| 21 | «Z drewnianych ram» | Дзяржаўная жаночая гімназія ў Гродна |
| 22 | «Znicz» | Дзяржаўная мужчынская гімназія ў Гродна |
| 23 | «Koledzy» | Дзяржаўная мужчынская гімназія ў Сувалках |
| 24 | «Wir» | Дзяржаўная мужчынская гімназія ў Сувалках |

Усе гэтыя выданні, зразумела, былі польскамоўнымі. Яны рэдагаваліся і распаўсюджваліся гімназічнай і семінарскай моладдзю (у пераважнай большасці выпадкаў гэта былі вучні старэйшых класаў). Зразумела, што ў дадзены спіс не ўвайшлі шматлікія насценныя газеты, якія існавалі ў сярэдніх навучальных установах. У параўнанні з іншымі рэгіёнамі 2-й Рэчы Паспалітай выдавецкая актыўнасць гімназістаў Віленскай школьнай акругі была даволі прыметнай – тут выходзіла каля 1/6 ад усіх падобных выданняў. 11 школьных выданняў былі друкаванымі. Астатнія былі рукапіснымі ці надрукаванымі на пішучай машынцы, а потым памножанымі тым ці іншым чынам. Звычайна выдаўцом з’яўлялася школьная «Братняя дапамога» (вучнёўскае аб’яднанне самадапамогі). У нешматлікіх выпадках выдаўцом маглі быць асобныя класы школы. Два выдання

з'яўляліся міжшкольнымі [165, с. 167]. Згодна з афіцыйнымі звесткамі, амаль ў кожнай правінцыйнай сярэдняй навучальнай установе было сваё школьнае выданне, часам нават два (у дадатак да агульнагімназічнага – выданні школьных арганізацый ці нават асобных школьных класаў).

Трэба адзначыць, што з 24 толькі 4 выдання, нягледзячы на пэўную нерэгулярнасць, выходзілі даволі працяглы час. Адно з іх выходзіла цэлых 16 год, астатнія 7, 6 і 5 гадоў адпаведна [165, с. 169].

Па змесце школьныя часопісы Віленскай акругі можна ўмоўна падзяліць на тры асноўныя групы. Да першай групы можна залічыць выданні, якія былі прысвечаны ў асноўным рэгіянальным грамадска-культурным справам, да другой – выданні, у якіх пераважалі артыкулы навукова-інфармацыйнага характара і нататкі на школьную тэматыку, да трэцяй групы адносіліся выданні літаратурнага характара. Згодна з афіцыйнай статыстыкай, з 24 школьных часопісаў 12 аддавалі перавагу асвятленню грамадскіх спраў: «заслугоўвае адзнакі значны працэнт прац на эканамічныя тэмы ў галіне сельскай гаспадаркі, пра заробкі, пра бюджэт дробнага селяніна, пра цэны на сельскія прадукты». Пры гэтым падкрэслівалася, што да 1931 г. падобных рубрык у школьных выданнях не было. Аўтар справаздачы вымушаны прызнаць, што «бясспрэчна, агульная атмасфера ў краіне накладвае свой адбітакі на школьнай прэсе» [165, с. 172 – 173].

Адначасова прызнаецца, што шэраг школьных выданняў дасягнулі значных поспехаў у такіх галінах, як краязнаўства, збіранне і публікацыі этнаграфічных матэрыялаў, вывучэнне мясцовай гісторыі (Дзісна, Навагрудак, Гродна, Нясвіж), прапагандзе дзейнасці агульна-дзяржаўных маладзёжных арганізацый (Навагрудак, Вільня). Выданне дзяржаўнай гімназііў Лідзе «глыбока цікавілася ўдзелам гімназічнай моладзіў адбудове культуры вёскі». Таксама адзначалася, што «лозунг дзяржаўнага выхавання знайшоў у школьных часопісах выразны адбітак, хоць часам і карыкатурна перакручаны» [165, с. 178].

Трэба адзначыць, што шырокае распаўсюджванне сярод школьных арганізацый Заходняй Беларусі набылі рознага кшталту краязнаўчыя гурткі і аб'яднанні. У якасці прыкладу паспяховай дзейнасці можна прывесці працу краязнаўчага гуртка вучняў дзяржаўнай гімназіі імя Ю. Пілсудскага ў Пінску. Доказам гэтай паспяховасці з'яўляецца тое, што ў сярэдзіне 30-х гадоў гурток нават наладзіў выпуск даволі якасных брашур краязнаўчагаі турыстычнага зместу. Так у 1936 г. была выдадзена брашура «Палессе і турыст» [144]. Акрамя таго вядома, што гурток выдаў брашуры «Некалькі слоў

пра Пінск і святы, абрады і вераванні палескага насельніцтва», «З краіны ўюноў» і «Палессе пад знакам настаўкі і фанеры».

Вялікую увагу кіраўніцтва сістэмы асветы звяртала на развіццё так званых вучнеўскіх і школьных кааператываў, галоўным чынам, у выглядзе школьных крам, крэдытна-ашчадных кас, кнігарняўі буфетаў. Згодна з цыркулярамі міністэрства рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы ў школе вучань павінен быў прызвычаіцца да ідэі ашчаднасці, яна павінна была стаць аднойз асноваў яго жыцця і дзейнасці. У 1930 г. міністр С. Чэрвінскі звярнуўся да настаўнікаў з заклікам разгарнуць жывую і шырокую акцыю арганізацыі і правядзення школьных ашчадных кас. Адначасова ў сваім цыркуляры ён не загадваў выкарыстоўваць нейкай адзінай формы ашчаднасці, а ўлічваць мясцовыя ўмовы і патрэбы [110, с. 134].

Прыкладам развіцця школьнай кааперацыі з'яўляецца ўсеагульная школа ў Івянцы. У сярэдзіне 30-х гадоў там існавалі дзве папулярныя сярод вучняў школы кааператыўныя арганізацыі – школьная ашчадная касса і вучнёўскі кааператыў «Дапамога» («Pomoc»). Школьная ашчадна каса налічвала каля 150 чалавек.У 1935/36 навучальным годзе зберажэнні вучняў склалі 111,22 злотых. Мэтай гэтай арганізацыі з'яўлялася навучанне моладзі разумнай ашчаднасці і, ў связі з гэтым пашане, да людской працы. Кожны з членаў школьнай ашчаднай касы быў «вымушаны займаць актыўную пазіцыю, паколькі сама ашчаднасць не з'яўляецца малым высілкам для кожнага вучня». Моладзь прывучалася да сістэматычнай працы, праводзячы запісыў рахункавых кнігах і выконваючы адміністрацыйныя функцыі.

Вучнёўскі кааператыў «Дапамога» першапачаткова меў капітал у памеры 300 злотых, якія былі сабраны вучнямі. На працягу дзесяці год існавання маёмасны стан арганіпзацыі значна палепшыўся. У 1936 г. кааператыў меў 277,16 злотых наяўнымі грашыма, тавару на суму 435,57 злотых, кошт нерухомай маёмасці вучнёўскага кааператыву складаў 123,56 злотых. Трэба адзначыць, што на працягу вучэбнага году праўленне кааператыву асігноўвала пэўныя сумы на дапамогу бедным вучням, на закупку падручнікаўі на школьную бібліятэку. На вышэйўказаныя мэты на працягу існавання кааператыву было выдаткавана 306 злотых. Прэміі дывідэнты ўдзельнікаў склалі за гэты час 58,94 злотых. Галоўнай мэтай існавання школьнага кааператыву было аб'яўлена «прывучэнне вучняў да згоднага ўзаемадзеяння ў імя агульнага дабра». У кааператыве рэгулярна праводзіліся справаздаўчыя сходы, на якіх адбываліся дыскусіі на тэму працы арганізацыі. Таксама на сходах адбывалася

чытанне артыкулаў аб дзейнасці кааператываў ў іншых школах, вучні знаёміліся з развіццём кааператыўнага руху ў краіне ў цэлым. Кантрольным органам кааператыву была рэвізійная камісія, якая сачыла за дакладнасцю разлікаў. Праўленне кааператыву несла маральную і матэрыяльную адказнасць за правільнае вядзенне рахункаў. Кааператыў выпісваў спецыялізаваныя часопісы – «Малады грамадзянін» («Młody Obywatel») і «Малады кааператар» («Młody Spółdzielca»). Пры кааператыве існавала крама, у якой працавалі вучні. Длі іх гэта было «пэўнага роду практычнае сутыкненне са сферай адпаведна арганізаванага гандлю» [Kr, с. 123 – 124].

Найбольш вядомай і самай масавай арганізацыяй школьнай моладзі 2-й Рэчы Паспалітай быў Саюз польскага харцэрства (Związek Harcerstwa Polskiego). Сваю назву польскія скаўты ўзялі са старапольскай мовы, у якой харцэрам называлі мужнага, ініцыятыўнага і вернага рыцара. Нездарма ўзорам для харцэраў быў легендарны Завішша Чорны, удзельнік Грунвальдскай бітвы. Першыя польскія скаўцкія арганізацыі з'явіліся яшчэ да Першай сусветнай вайны ў Варшаве і Львове. Сістэматычнае развіццё руху датуецца вясной 1911 г., калі ў Львове пры Гімнастычным таварыстве «Сокал» быў арганізаваны першы курс скаўтынгаі пачаў выдавацца часопіс «Скаўт» («Skaut») [110, с. 138].

Пасля стварэння незалежнай польскай дзяржавы ўсе харцэрскія арганізацыі аб'ядналіся ў Саюз польскага харцэрства. Першапачаткова кіраўніцтва гэтага саюза знаходзілася ў руках польскіх нацыянал-дэмакратаў і клерыкалаў. Харцэрская моладзь выхоўвалася ў духу польскага нацыяналізму, прадстаўнікам нацыянальных меншасцяў 2-й Рэчы Паспалітай доступ у арганізацыю быў зачынены [87, с. 55].

«Санацыйны» рэжым быў незадаволены сітуацыяй, калі «харцэрства на пэўны час стала трафеем адной партыіі, ідэалогія якой не выходзіць за межы адной нацыі і адной рэлігіі». Такое становішча супярэчыла канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання», прыхільнікі якога лічылі, што калі справа тычыцца выхавання, то «належыць гаварыць не на партыйнай, а на дзяржаўнай мове» [169, с. 224]. Таму кіруючыя колы 2-й Рэчы Паспалітай імкнуліся ліквідаваць засілле сваіх палітычных праціўнікаў і змяніць выхаваўчую накіраванасць Саюза польскага харцэрства, што дазволіла б пашырыць яго грамадскую базу.

На IX з'ездзе Саюза польскага харцэрства міністр рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы С. Чэрвінскі настойваў на неабходнасці большага націску на грамадскае выхаванне сярод харцэраў. Пры гэтым ён патрабаваў, каб харцэрскія выхавацелі імкнуліся знаходзіца ў «як мага больш блізкім і цесным кантакцез

дзяржаўнымі ўладамі, якія кіруюць грамадскім выхаваннем». Міністр заклікаў адмовіцца ад стварэння з харцэрства «ціхага вострава, які нерухома ўзвышаецца над хуткай плыняй сучаснага жыцця». Па яго меркаванню, такая ізаляцыя можа мець толькі адмоўныя наступствы: каставую выключнасць і грамадскую змярцвеласць [167, с. 87 – 88].

На рубяжы 1920 – 1930-х гадоў «санацыя» змагла захапіць уладу ў Саюзе польскага харцэрства. Для змены сітуацыі ў гэтым саюзе прыхільнікі «дзяржаўнага выхавання» лічылі неабходным правесці шэраг мерапрыемстваў:

1. Дапоўніць харцэрскую ідэалогію дзяржаўніцкімі элементамі згодна з патрэбамі сучаснага польскага жыцця;
2. Выразна звязаць харцэрства са школай;
3. Перапрацаваць і дапоўніць праграму;
4. У працы дружын рабіць галоўны націск на павышэнне ідэйнага ўзроўня, які належыць разумець у дзяржаўніцкім духу;
5. Арганізаваць, наколькі гэта магчыма, вялікую колькасць курсаў для кіраўнікоў дружын і інструктароў;
6. Пазнаёміць педагагічныя калектывы з харцэрствам як спецыяльнай выхаваўчай сістэмай і ўцягнуць настаўнікаў у супрацоўніцтва з дружынамі;
7. Імкнуцца да арганізацыі харцэрскіх курсаў для настаўнікаў усеагульных і сярэдніх школ;
8. Дакладна акрэсліць ролю і функцыі апякуна харцэрстваў навучальнай установе;
9. Праз адпаведна арганізаваныя гурткі сяброў абудзіць зацікаўленасць харцэрствам у грамадстве;
10. Арганізаваць харцэрскія дружыны на вёсцы;
11. Арганізаваць харцэрскія дружыны ў гарадах для бяздомных дзяцей вуліцы.
12. Ажывіць жаночае харцэрства [169, с. 241 – 242].

Рэалізацыя гэтага плана мела пэўныя вынікі, хоць і не ўсе яго пункты былі выкананы.

На надзвычайным вальным з’ездзе Саюза польскага харцэрства (красавік 1930) была па-новаму сфармулявана мэта арганізацыі: «Саюз мае мэтай: выхаванне на прынцыпах хрысціянскай этыкі метадамі скаўтынгу чалавека, які свядома служыць Богу, Польшчы і блізкім, згодна з харцэрскімі прысягай і правіламі; распаўсюджванне сярод грамадства прынцыпаў харцэрскага жыцця, выкарыстанне прынцыпаў харцэрскіх правіл на грамадзянскай службе і падтрыманне жывой нацыянальнай свядомасці і пачуцця дзяржаўных абавязкаў». Акрамя гэтага, асобным пунктам была

легалізавана прыналежнасць да саюза нацыянальных меншасцей. Адначасова на надзвычайным з'езде было прынята рашэнне аб «харцэрскім наступе», які прадугледжваў развіццё арганізацыі як ушыр, так і ўглыб [168, с. 172]. Такім чынам, Саюз польскага харцэрства павінен быў дзейнічаць у межах ажыццяўлення «санацыйнай» канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання».

У далейшым статутныя мэты былі яшчэ раз удакладнены (набылі больш «дзяржаўніцкі» характар). Рэдакцыя статуту Саюза польскага харцэрства 1936 г. заяўляла, што мэтай арганізацыі з'яўляецца «падрыхтоўка моладзі да свядомай, актыўнай і ахвярнай службы на карысць Польскай Дзяржавы, заснаванай на любві да Яе і салдацкай падрыхтаванасці да Яе абароны, бескарыслівасці, грамадзянскай дысцыпліне і гонары» [186, с. 181].

Ідэйным патронам Саюза польскага харцэрства аб'яўляўся маршал Ю. Пілсудскі. Згадка пра Бога і хрысціянскую этыку захавалася толькі ў харцэрскай прысязе і харцэрскіх правілах. Згодна з гэтымі правіламі, харцэр павінен быў служыць Богу і Польшчы, добрасумленна выконваць свае абавязкі, трымаць слова, аказваць дапамогу блізкім, дзейнічаць па-рыцарску, любіць прыроду, быць дысцыплінаваным, чыстым у думках, словах і дзеяннях, не курыць, не ўжываць спіртных напояў і г. д.

Ажыццяўляць свае мэты Саюз польскага харцэрства павінен быў праз «правядзенне выхаваўчай працы харцэрскімі метадамі праз арганізацыю лагероў, гульняў і заняткаў, злётаў, гутарак і г. д., выкарыстоўваючы атрадную сістэму». Таксама прадугледжвалася правядзенне ваеннай падрыхтоўкі «ў межах, устаноўленых дзяржавай», навучанне кіраўнікоў харцэрскай працай, стварэнне і ўтрыманне бібліятэк, выстаў, святліц (клубаў), кас узаемадапамогі, арганізацыя выдавецкай дзейнасці, правядзенне харцэрскай грамадска-выхаваўчай акцыі ў грамадстве [186, с. 182].

У Саюзе польскага харцэрства існавала дастаткова складаная сістэма членства, характэрная для скаўцкага руху. Статут выдзяляў наступныя яго віды: удзельнікі, харцмістры, актывісты, старшыя харцэры, супрацоўнікі і падтрымліваючыя члены. Школьнікі і пазашкольная моладзь ва ўзросце да 18 год маглі з'яўляцца членамі арганізацыі ў якасці ўдзельнікаў, якія, у сваю чаргу, дзяліліся на харцэраў (старэйшыя за 11 гадоў) і зухаў (маладзейшыя за 11 гадоў). Харцэры аб'ядноўваліся ў дружыны, зухі – у грамады. Удзельнікаў прымалі ў арганізацыю з дазволу бацькоў і, калі справа тычылася школьнікаў, з дазволу школьнага кіраўніцтва. Удзельнікі карысталіся

ўстановамі Саюза польскага харцэрства, але не мелі права галасаваць [186, с. 182 – 183].

Дзеці і падлеткі ў Саюзе польскага харцэрства, згодна са скаўцкімі прынцыпамі, павінны былі прайсці адпаведныя ступені і здаць экзамен. У зухаўскіх грамадах для хлопчыкаў прадугледжваліся тры ступені (зух, зух з адной зорачкай, зух з дзвюма зорачкамі), дзяўчынкі маглі атрымаць чатыры зорачкі. Для харцэраў-хлопчыкаў існавалі наступныя ступені: юніёр, разведчык, бывалы, харцэр-арляня, харцэр 2-й Рэчы Паспалітай. Для дзяўчат – дабраахвотніцы, піянеркі, самарыцянкі, кіраўніцы, харцэркі 2-й Рэчы Паспалітай [146, с. 133 – 134].

Паўналетнія харцэры, якія мелі адпаведную падрыхтоўку, станавіліся харцмістрамі. Менавіта на іх ускладвалася асноўная выхаваўчая праца з зухамі і харцэрамі. Харцмістры мелі права ўдзельнічаць у выбарах Саюза польсказа харцэрства і займаць у ім пасады. Функцыя, якія не былі непасрдна звязаныя з выхаваўчай працай, ажыццяўлялі актывісты (актывісткі). Імі маглі стаць паўналетнія харцэры і супрацоўнікі. Актывісты мелі права выбіраць кіраўніцтва ўсіх узроўняў гэтага саюза і права быць выбранымі на акруговым узроўні. Старшым харцэрам (старшай харцэркай) станавіўся выхаванец дружыны, які дасягнуў 18 гадоў ці скончыў школу. Дапускалась, што членства ў дружыне не з'яўлялась абавязковым. Старшыя харцэры мелі права галасаваць на выбарах акруговага кіраўніцтва саюза. Абавязкі харцмістраў, актывістаў і старшых харцэраў заключаліся ў выкананні харцэрскіх правілаў, актыўным удзеле ў харцэрскім жыцці, падтрыманне мэт і ідэалогіі саюза, а таксама ў выплаце членскіх узносаў [186, с. 182 – 183].

Супрацоўнікам Саюза польскага харцэрства мог стаць кожны паўналетні грамадзянін 2-й Рэчы Паспалітай, які удзельнічае ў працы саюза. Яны аб'ядноўваліся ў гурткі сяброў харцэраў і мелі права галасаваць на акруговых выбарах саюза. Да падтрымліваючых членаў адносіліся фізічныя і юрыдычныя асобы, якія абавязваліся рэгулярна плаціць узносы. Выбарчых правоў яны не мелі [186, с. 183].

Згодна са статутам, саюз складаўся з арганізацый харцэраў, харцэрак і сяброў харцэраў. Арганізацыя харцэраў ахоплівала харцэраў і зухаў, старшых харцэраў, харцмістраў, актывістаўі супрацоўнікаў, выконваючых функцыі ў харцэрскай арганізацыі. Аналагічнай была арганізацыя харцэрак.

Арганізацыя дзялілася на харугвы, а харугвы – на атрады (гуфцы). Атрад складаўся з зухаўскіх грамад, харцэрскіх дружыні гурткоў старшых харцэраў. Харцэрская дружына звычайна складалася з 4 аддзяленняў па 6 – 10 чалавек 186, с. 184].

Тэрытарыяльна саюз дзяліўся на акругі, а акругі – на абводы. Тэрыторыя абводу звычайна супадала з тэрыторыяй павета. Грамады, дружыны і гурткі, якія існавалі на тэрыторыі абвода, складалі атрад (гуфец). У сваю чаргу, атрады на тэрыторыі акругі складалі харцэрскую харугву (на тэрыторыі Заходняй Беларусіў міжваенны перыяд дзейнічалі Віленская, Брэсцкая і Беластоцкая харцэрскія харугвы). На чале дружыны стаяў «дружыновы», атрада – «гуфцовы», харугвы – камендант. На чале ўсёй арганізацыі харцэраў стаяў Начальнік харцэраў. Аналагічнай была структура кіраўніцтва і ў жаночай харцэраўскай арганізацыі [186, с. 184]. Да вышэйшых кіруючых органаў Саюза польскага харцэрства адносіліся акрамя начальніка харцэраў і начальніцы харцэрак агульны з'езд, вярхоўны харцэрскі савет, кіраўнік саюза, рэвізійная камісія, вярхоўны харцэрскі суд [186, с. 188]. Аналагічныя органы дзейнічалі на акруговым і абвадовым узроўнях. Фонды саюза павінны былі фарміравацца за кошт членскіх узносаў, прыбыткаў ад выдавецкай дзейнасці і ўстаноў саюза, грамадскай і дзяржаўнай дапамогі, ахвяраванняў, падарункаў і г. д. [186, с. 182].

Статут таксама замацоўваў абавязкі Саюза польскага харцэрства у адносінах да дзяржаўных улад. Прадугледжвалася, што для сталага кантролю за гаспадарчай дзейнасцю саюза міністр унутранных спраў у згодзе з міністрам рэлігійных веравызнаняў і публічнай асветы і міністрам ваенных спраў прызначае спецыяльнага дэлегата. Гэты дэлегат прысутнічаў на паседжаннях кіруючых органаў саюза і меў права накладаць вета на іх рашэнні. У сферы выхавання саюз быў абавязаны дзейнічаць згодна з распаражэннямі міністра рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы, а ў галіне ваеннай падрыхтоўкі і фізічнага выхавання – з распараджэннямі міністра ваенных спраў. Усе рашэнні і выхаваўчыя праграмы саюза праходзілі папярэдняе ўзгадненне ў міністэрстве асветы. Кіраўніцтва саюза таксама было абавязана кожны год падаваць справаздачу аб сваёй дзейнасці кантралюючым яго міністрам. Акрамя таго, арганізацыйныя ячэйкі саюза, якія дзейнічалі на тэрыторыі школ, траплялі пад кантроль школьнага кіраўніцтва [186, с. 191 – 192].

Такі шчыльны кантроль з боку кіраўніцтва сістэмы адукацыі сведчыў пра тое, што «санацыйныя» ўлады высока ацэньвалі выхаваўчыя магчымасці харцэрскага руху. Прыхільнікі «дзяржаўнага выхавання» заяўлялі, што «адпаведным чынам арганізаванае харцэрства можа стаць цудоўнай школай маладога грамадзяніна-дзяржаўніка» [169, с. 218]. Стварэнне і падтрымка харцэрскіх

арганізацый на тэрыторыі школ лічылася пажаданым па некалькіх прычынах:

1. Саюз, выкарыстоўваючы ў сваёй працы прынцыпы самакіравання і самавыхавання і ўлічваючы пры гэтым розныя сучасныя пачынанні, становіцца «выдатным асяродкам грамадскага, грамадзянскага і дзяржаўнага выхавання»;

2. Выкарыстоўваючы ж метады вайскова-спартыўнай працыі ўводзячы здабыванне харцэрскіх ступеняў, Саюз польскага харцэрства «запрагае пэўныя індывідуальныя тэндэнцыі моладзі ў дысцыплінаваную службу ў імя дабра і ўдасканалення»;

3. Саюз змагаецца з распаўсюджанным сярод моладзі рэкордаманіяй, прапануючы наўзамен усебаковае, а не толькі спартыўна-фізічнае развіццё чалавека;

4. Праз уцягванне бацькоў у гуртκі сяброў харцэрства СПХ абуджае ў грамадстве зацікаўленасць да справы выхавання маладога пакалення [169, с. 219].

Што тычыцца развіцця харцэрскага руху на тэрыторыі заходнебеларускага рэгіёна, то ён узнік напярэдадні Першай сусветнай вайны ў Вільні. Першыя спробы стварэння скаўцкіх атрадаў тут былі зроблены ў 1911 г. У 1912 – 1913 гг. у Вільні з’явіліся дзве мужчынскія харцэрскія дружыны, у верасні 1914 г. з’явілася жаночая харцэрская дружына імя Т. Касцюшкі. Нягледзячы на падзеі сусветнай і грамадзянскай вайнаў, віленскі харцэрскі рух працягваў развівацца, пераважна ў канспірацыйных умовах. Да 1919 г. у горадзе існавала чатыры жаночыя і тры мужчынскія дружыны харцэраў. Трэба адзначыць, што віленскія харцэры былі цесна звязаныя з Польскай вайсковай арганізацыяй, якая ў час Першай сусветнай вайны пад кіраўніцтвам Ю. Пілсудскага змагалася за аднаўленне незалежнасці Польшчы.У перыяд польска-савецкай вайны на базе харцэрскіх дружын Вільні быў створаны Харцэрскі батальён самаабароны Вільні, які прыняў актыўны ўдзел у баях 1920 г. і стаў узорам для стварэння харцэрскіх вайсковых фарміраванняў для ўсёй Польшчы [150, с. 10 – 12].

Пасля заканчэння баявых дзеянняў, нягледзячы на шматлікія цяжкасці, харцэрскі рух на Віленшчыне развіваўся даволі паспяхова. З 1924 г. кіраўніком Віленскага аддзелу Саюза польскага харцэрства стаў біскуп У. Бандурскі (1865 – 1932), палявы біскуп Войска Польскага, генерал дывізіі, чалавек блізкі да лагера Ю. Пілсудскага. Дзякуючы гэтаму, у далейшым у «санацыі» не ўзнікла вялікіх клопатаў пры апанаванні віленскага харцэрства.

Да канца 1920-х гадоў віленскія жаночая і мужчынская харугвы аб'ядноўвалі не толькі непасрэдна віленскія харцэрскія дружыны, але і харцэрскія атрады з іншых мясцовасцей на тэрыторыі Віленскага і Навагрудскага ваяводстваў (у 1928 г. пад кіраўніцтва Віленскай харугвы перайшла частка дружын з Брэсцкай харугвы – Альберцін, Баранавічы, Нясвіж, Слонім).

Так на 1 студзеня 1929 г. Віленская жаночая харугва Саюза польскага харцэрства аб'ядноўвала 26 дружын, у якіх налічвалася 720 членаў. Акрамя віленскіх дружын гэта былі харцэрскія арганізацыі з Дзісны, Дукштаў, Глыбокага, Іўя, Нёмана, Ліды, Маладзечна, Свянцянаў, Смаргоні, Трокаў. Самай шматлікай была 1-я Віленская дружына імя Т. Касцюшкі, у якой было 44 харцэркі. Большасць з гэтых дружын узнікла ў 2-й палове 1920-х гадоў. Найстарэйшымі з іх былі 1-я Віленская дружына імя Т. Касцюшкі (заснавана ў 1914), 3-я Віленская дружына імя Э. Плятэр (1917), 1-я Свянцянская дружына імя Ю. Пілсудскага (1919) і 5-я Віленская дружына імя Ю. Сулкоўскага (1919). Асноўная маса жаночых дружын дзейнічала на тэрыторыі ўсеагульных школ і прафесійных школ і гімназій. Тры дружыны – 1-я Трокская імя Чарноўскай, 2-я Трокская імя Э. Шчанецкай і 1-я Віленская імя Т. Касцюшкі – аб'ядноўвалі вучаніц настаўніцкіх семінарый. І толькі адна жаночая дружына – Нёманская імя каралевы Ядвігі – дзейнічала на тэрыторыі мясцовай фабрыкі і ўсеагульнай школы [85, с. 25 – 27].

Што тычыцца Віленскай мужчынскай харцэрскай харугвы, то на 1 студзеня 1929 г. яна аб'ядноўвала 36 дружын, у якіх налічвалася 1 042 харцэра. Акрамя Вільні, дружыны гэтай харугвы дзейнічалі ў Альберціне, Баранавічах, Глыбокім, Германовічах, Іўі, Лідзе, Немане, Нясвіжы, Навагрудку, Новай Вілейцы, Свянцянах, Ашмянах, Слоніме, Смаргоні, Шчучыне, Жыровічах. Самай шматлікай (51 харцэр) была 13-я Віленская дружына імя Завішшы Чорнага («Чорная Трынаццатка». У адрозненні ад жаночых дружын, большасць мужчынскіх харцэрскіх арганізацый узніклаў першай палове 1920-х гадоў. Самымі старэйшымі сярод іх былі 1-я Нясвіжская дружына імя Завішшы Чорнага (1917), 1-я Навагрудская дружына імя Т. Касцюшкі (1919) і 1-я Слонімская дружына імя Т. Касцюшкі (1921). З 36 дружын 14 працавалі на тэрыторыі ўсеагульных школ, 14 – у гімназіях, 4 – у настаўніцкіх гімназіях, 1 – у гімназіі і настаўніцкай семінарыі адначасова,2 – у прафесійных школах. Толькі адна дружына, 2-я Нёманская імя Завішшы Чорнага, з'яўлялася пазашкольнай і дзейнічала на мясцовай шкляной гуце [67, с. 33 – 34].

Асноўнымі накірункамі дзейнасці харцэраў сталі развіццё фізічнай культуры і спорту. Напрыклад, значных поспехаў дасягнула 1-я Віленская дружына імя Р. Траўгута («Блакітная Адзінка»), якая дзейнічала пры Віленскай гімназіі імя караля Жыгімонта Аўгуста. З канца 1920-х гадоў харцэры гэтай дружыны пачалі актыўна ўдзельнічаць у развіцці байдарачнага і парuснага спорту на Віленшчыне. У 1929 г. «Блакітная Адзінка» пабудавала сваю першую байдарку. У 1932 г. дружына пачала будаваць,а ў 1933 г. адчыніла ўласную прыстань у Троках. Кошт прыстані склаў каля 10 000 злотых. Кожнае лета праводзіліся водныя лагеры, паходы на байдарках, віленскія харцэры ўдзельнічаліў агульнадзяржаўных парусных спаборніцтвах [59, с. 15 – 16].

У 1931 г. у час вялікай паводкі ў Вільні «Блакітная Адзінка» прымала ўдзел у аказанні дапамогі пацярпелым ад стыхійнага бедства, харцэры ратавалі людзей і маёмасць [83, с. 198].

У 1932 г. Агульнапольскае кіраўніцтва харцэрскіх парусных дружын уручыла першыя патэнты парусных дружын Саюза польскага харцэрства вышэйшага класа і «патэнты флаговыя». З 27 харцэрскіх парусных дружын патэнты атрымалі толькі тры, у тым ліку і віленская «Блакітная Адзінка». Патэнты давалі права выкарыстоўваць марскі сцяг саюза і насіць адпаведную «марскую» харцэрскую форму [82, с. 171].

Таксама саюз прымаў удзел у ваеннай падрыхтоўцы моладзі, хаця гэтую сферу вельмі хутка перанялі школьныя атрады ваеннай падрыхтоўкі. Даволі распаўсюджанай формай харцэрскай працы была арганізацыя летніх сталых і вандроўных лагероў. Так, у 1931 г. на тэрыторыі Віленскай школьнай акругі было праведзена 29 харцэрскіх лагероў (22 мужчынскія і 7 жаночых), на тэрыторыі Палескай школьнай акругі – толькі 5 (4 мужчынскія і 1 жаночы).У іх прынялі ўдзел адпаведна 618 і 127 чалавек [116, с. 601].

Саюз падтрымліваў сувязі з польскім харцэрствам за межамі 2-й Рэчы Паспалітай. Напрыклад, вядома, што кіраўніцтва Віленскай жаночай харугвы падтрымлівала сувязь з польскімі харцэрскімі арганізацыямі ў Францыі і кітайскім Харбіне [85, с. 24].

Яшчэ адным накірункам дзейнасці Саюза польскага харцэрства ў Вільні стала дабрачыннасць. Так 5-я Віленская дружына імя Даленгі-Серакоўскага, якая дзейнічала пры Гімназіі айцоў езуітаў у Вільні, аказвала дапамогу бедным дзецям, а таксама ўдзельнічалаў апякунскай акцыі над ўсеагульнымі школамі Віленшчыны. Харцэры апекваліся над спецыяльнай усеагульнай школай у Вільні, дзіцячым прытулкам пад Бельмонтам, школамі ў Свіранахі Проньках. Гэтая

апека заключалася ў зборы адзення, школьных прыналежнасцяў, кніг, спартыўнага інвентару, настольных гульняў, а таксама ў арганізацыі розных спектакляў [83, с. 198].

Віленская харугва прымала актыўны ўдзел і ў агульнапальскім харцэрскім руху. Напрыклад, у 1935 г. вялікая дэлегацыя ад Віленскай харугвы прыняла ўдзел у агульнапольскім злёце, які адбываўся пад патранатам прэзідэнта 2-й Рэчы Паспалітай І. Масціцкага ў Спале. Пры гэтым у складзе дэлегацыі прысутнічалі літоўская і беларуская харцэрскія дружыны з Вільні [83, с. 200].

Вялікую дапамогу Саюзу польскага харцэрства аказвалі гурткі сяброў харцэрства. Так, у 1928 г. у Вільні гурткі сяброў выдаткавалі на дапамогу харцэрскім дружынам 1 656 злотых. Акрамя таго яны арганізавалі шэраг так званых «даходных імпрэз» [183, с. 18 – 19]. Праўда, трэба адзначыць, што ў гэтых адносінах сітуацыя ў правінцыі была горшай, чым у Вільні. У Вілейцы, дзе ў 1935 г. існавала цэлых чатыры харцэрскія дружыны, быў створаны і гурток сяброў харцэрства. Але ён, як адзначала віленская прэса, фактычна не працаваў. Так, напрыклад, з 70 яго членаў на агульны сход магло прыйсці толькі 12 [199, с. 7].

Таксама саюз карыстаўся дапамогай з боку афіцыйных улад. Напрыклад, у 1929 г. праўленне Віленскай харугвы Саюза польскага харцэрства атрымала ад віленскага ваяводы аднаразовую фінансавую дапамогу ў памеры 500 злотых, адзелы грамадскай апекі Віленскага і Навагрудскага ваяводстваў выдзялілі на арганізацыю харцэрскіх лагероў па 1 800 злотых, гарадскі Камітэт Ваеннай Падрыхтоўкі і Фізічнага Выхавання – 1 500 злотых. Таксама ваяводскія ўлады Вільні і Навагрудка пералічылі па 600 злотых для арганізацыі інспекцый харцэрскіх дружын. Такім чынам, агульная фінансавая дапамога дзяржаўных структур склала 6 800 злотых [183, с. 20]. Саюз атрымліваў дапамогу не толькі ў выглядзе грашовых датацый. Так, кіраўніцтва сістэмы адукацыі цесна супрацоўнічала з саюзам у справе арганізацыі ў час летніх канікулаў спецыяльных курсаў для настаўнікаў. Мэтамі курсаў было пазнаёміць настаўнікаў з:

1. З псіхалагічнымі асновамі харцэрства і яго педагагічнымі вартасцямі з улікам магчымасці выкарыстання харцэрскіх метадаў у агульным школьным выхаванні;
2. З арганізацыяй лагероў, правядзеннем экскурсій і тыповых скаўцкіх трэніровак;
3. З арганізацыяй зухаўскіх грамад і харцэрскіх дружыну школе [104, с. 202].

У 1934 г. два такія канікулярныя курсы (мужчынскія і жаночыя) былі арганізаваны кіраўніцтвам Віленскай школьнай акругі на возеры Нарач [104, с. 202 – 203]. У 1936 г. харцэрскія курсы для апякуноў школьных харцэрскіх дружын дзейнічалі на Нарачы (жаночы) і ў Друскеніках (мужчынскі) [86, с. 143].

Такім чынам, школьная моладзь 2-й Рэчы Паспалітай, у тым ліку і на тэрыторыі Заходняй Беларусі, была ахоплена дзейнасцю шматлікіх вучнёўскіх арганізацый. Распаўсюджанымі формамі грамадскай актыўнасці школьнікаў сталі вучнёўскае самакіраванне і школьная кааперацыя. Найбольш масавай арганізацыяй школьніцтва быў Саюз польскага харцэрства. Уся дзейнасць гэтых арганізацый, незалежна ад іх формы, праходзіла пад пільным кантролем і кіраўніцтвам з боку педагогаў і была пастаўлена на службу «дзяржаўнаму выхаванню».

## ГЛАВА 4
## «ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫХАВАННЕ» ПАЗАШКОЛЬНАЙ МОЛАДЗІ

### 4. 1. Праўрадавыя моладзевыя арганізацыі як элемент рэалізацыі «дзяржаўнага выхавання».

Як ужо адзначалася вышэй, асноўная частка моладзі 2-й Рэчы Паспалітай, асабліва на тэрыторыі Заходняй Беларусі, мела магчымасць вучыцца толькі ў пачатковых класах усеагульнай школы. Пасля гэтага яна як бы выходзіла з-пад выхаваўчых уплываў «санацыйнай» сістэмы адукацыі. Зразумела, што правячыя колы міжваеннай польскай дзяржавы не маглі мірыцца з такой сітуацыяй. Таму важная роля ў ажыццяўленні канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання» адводзілася шматлікім праўрадавым маладзёжным арганізацыям, якія дзейнічалі ў мэтах інтэграцыі шырокіх мас моладзі ў «працу для дзяржавы». Кожная з гэтых арганізацый мела свае спецыфічныя мэты і канкрэтныя задачы, арганізацыйныя прынцыпы і метады працы. Але ўсе яны карысталіся сур'ёзнай падтрымкай «санацыйнага» рэжыму. Менавіта структуры правячага Беспартыйнага блока супрацоўніцтва з урадам, а з 1936 г. – Лагера нацыянальнага аб'яднання займаліся распрацоўкай агульнай праграмы ідэйна-выхаваўчай працы і каардынацыяй дзейнасці шматлікіх праўрадавых арганізацый і саюзаў. Вынікам гэтай дзейнасці «санацыі» стала стварэнне ў лютым 1938 г. пры Лагеры нацыянальнага аб'яднання Службы маладых, якая павінна была стаць кіруючай інстанцыяй праўрадавага моладзевага руху [88, с. 271].

Патранаж улад не толькі вызначаў галоўныя накірункі дзейнасці праўрадавых арганізацый, якія фармальна з'яўляліся самастойнымі, апалітычнымі і мелі сваё ўласнае кіраўніцтва, але і забяспечваў ім сур'ёзную матэрыяльна-фінансавую і метадалагічную падтрымку, колькасны рост і «клімат найбольшага спрыяння» ў грамадска-палітычным жыцці краіны.

Адной з найбольш масавых моладзевых арганізацый 2-й Рэчы Паспалітай з'яўляўся Стралецкі саюз «Стралец» (Związek Strzelecki «Strzelec»). Традыцыі гэтай арганізацыі бралі свой пачатак яшчэў даваенным перыядзе. У 1908 г. улады Аўстра-Венгерскай імперыі далі дазвол на стварэнне польскіх ваенізаваных арганізацый. Адной з іх, Саюзам стралкоў, кіраваў Ю. Пілсудскі. З пачаткам Першай сусветнай вайны ваенізаваныя саюзы сталі асновай створаных па ініцыятыве Ю. Пілсудскага Польскіх легіёнаў, якія адыгралі важную ролю ў адраджэнні незалежнасці польскай дзяржаўнасці [49, с. 166 – 167].

У 1919 г. «Стралец» аднавіў сваю дзейнасць, у тым лікуі ў выхаваўчай сферы. У статуце арганізацыі адзначалася, што яго мэтай з'яўляецца «абуджэнне і выхаванне ў сваіх членаў нацыянальнага духу, дысцыпліны, маральнай і фізічнай стойкасці,а таксама распаўсюджванне ваенных ведаў» [176, с. 174]. Для рэалізацыі гэтай мэты вялася мэтанакіраваная праца па ваеннай падрыхтоўцы, грамадзянскаму і фізічнаму выхаванню «грамадзяніна-салдата для дабра Рэчы Паспалітай» [21, арк. 105].У Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне «Стралец», акрамя таго, вёў значную працу ў духу «выхавання на крэсах свядомасці спайкі з усёй дзяржавай» [50, с. 178]. У адным з артыкулаў у друкаваным органе «Стральца» адзначалася, што на «Крэсах усходніх мы жадаем стаць распаўсюджвальнікамі польскай культуры, будзіць сімпатыі і давер да адзінай Польшчы» [39, с. 132]. Такім чынам, арганізацыя, акрамя ўсяго іншага, была адным з асяродкаў паланізацыі заходнебеларускай моладзі.

Згодна са статутам арганізацыі, яе членамі маглі быць як юнакі, так і дзяўчаты. Існавала ўнутранае дзяленне на «выхаваўча-ўзроставыя групы»: арляняты стралецкія (з 13 да 17 год), юнакі стралецкія (з 17 да 19 год) і стральцы (пасля 19 год), якія ў сваю чаргу дзяліліся на дапрызыўнікоў і рэзервістаў [148, с. 8]. Крыніцы сведчаць, што ў асноўным Стралецкі саюз аб'ядноўваў дапрызыўную моладзь ва ўзросце ад 18 да 21 года [176, с. 174].

Афіцыйна «Стралец» называўся грамадскай арганізацыяй. Грамадскі характар арганізацыі надавалі ажыццяўленне грамадзянскага выхавання, прынцып дабраахвотнасці ўступлення, частковая выбарнасць кіраўніцтва і яго адказнасць перад радавымі

членамі Стралецкага саюза, прынцып самафінансавання – «даваць, а не браць у дзяржавы». Ваенны характар выяўляўся ў рэалізацыі праграмы ваеннай падрыхтоўкі. Дваістасць назіралася і ў сістэме кіравання. Кіраўніцтва складалася з двух элементаў: «грамадскага», якое абіралася, было неаплочваемым і называлася Праўленнем,і «ваеннага», якое прызначалася, аплочвалася і называлася Камендатурай [149, с. 83].

Тэрытарыяльная структура «Стральца» супадала з дыслакацыяй ваенных акруг Войска Польскага. У Заходняй Беларусі існавалі дзве акругі Стралецкага саюза – № 3 «Гродна» і № 9 «Палескі». Яны адпавядалі 3-й і 9-й акругам польскай арміі са штабаміў Гродне і Брэсце. Акруга «Гродна» падзялялася на падакругіз цэнтрамі ў Беластоку, Вільні, Гродна і Маладзечна. «Палеская» акруга мела падакругі Навагрудак і Брэст. Падакругі дзяліліся на паветы і гміны. У паветах ствараліся павятовыя камендатуры Саюза. На чале іх стаялі спецыяльна прызначаныя афіцэры.У гмінах «Стралец» узначальвалі гмінныя каменданты. Звычайна гэтыя пасады займалі таксама афіцэры. У выключных выпадках камендантамі з'яўляліся чыноўнікі, якія прайшлі вайсковую службу і мелі званне не ніжэй унтэр-афіцэра. Акруга была разлічана на корпус «Стральца», падакруга – на дывізію ці батальён, павет – на батальён ці полк, гміна – на роту. Арганізацыйнай адзінкай быў атрад, які ахопліваў моладзь адной ці некалькіх вёсак [21, арк. 106 – 107].

Асноўнымі крыніцамі для развіцця дзейнасці «Стральца» былі датацыі ад галоўнай камендатуры саюза, членскія ўзносы, ахвяраванні і дапамога з боку мясцовага самакіравання. Неабходна адзначыць, што загад ваеннага міністэрства напрамую абавязваў дзяржаўны апарат аказваць апеку арганізацыям, якія праводзяць ваенную падрыхтоўку. Канчаткова дадзеная практыка была замацавана ў 1933 г., калі быў прыняты дэкрэт аб адзяржаўленні «Стральца», які фактычна ўзаконіў утрыманне стралецкіх арганізацый за кошт мясцовага кіравання. З гэтага моманту «Стралец» выступаў не толькі як грамадская арганізацыя, але і як «дзяржаўная пляцоўка» ваеннай падрыхтоўкі. Менавіта гэта давала членам саюза заканадаўча замацаваныя ільготы.

Яшчэ адной масавай і актыўнай праўрадавай моладзевай арганізацыяй 2-й Рэчы Паспалітай з'яўляўся Саюз вясковай моладзі «Сеў» (Związek Młodzieży Wiejskiej «Siew», ССМ «Сеў»), з 1934 г. ён называўся Саюзам маладой вёскі (Związek Młodej Wsi). Як сведчаць архіўныя крыніцы і літаратура, найбольшую актыўнасць ён праяўляў менавіта на тэрыторыі Віленскага і Палескага ваяводстваў [176, с. 19].

Саюз вясковай моладзі «Сеў» узнік у 1928 г. пасля расколу ў агульнапальскім Цэнтральным саюзе вясковай моладзі, які адбыўся на глебе адносін да кіруючага «санацыйнага» лагера. Апазіцыйныя «санацыі» элементы, якія арыентаваліся на сялянскую партыю «Народнае аб'яднанне» (Stronnictwo Ludowe), стварылі Саюз вясковай моладзі Рэчы Паспалітай «Віцы», а прыхільнікі «санацыі» ўвайшлі ў склад Саюза вясковай моладзі «Сеў» (абедзве арганізацыі атрымалі назвы ад назваў сваіх цэнтральных друкаваных выданняў) [209, с. 68 – 69].

Да 1931 г. «Сеў» знаходзіўся ў арганізацыйным і ідэалагічным падпарадкаванні Цэнтральнага саюза сельскагаспадарчых гурткоў – гаспадарчай арганізацыі, якая мела перад сабой мэту павышэнне прадукцыйнасці земляробства і абарону інтарэсаў сельскай гаспадаркі шляхам распаўсюджвання сельскагаспадарчых ведаў, арганізацыі сялян у прафесійныя саюзы і саюзы ўзаемадапамогі. Гэтая арганізацыя ўзнікла ў межах дзяржаўнага плану па ўніфікацыі земляробчых арганізацый. Яна аб'ядноўвала не толькі сялян, але і буйных землеўладальнікаў і асаднікаў і з'яўлялася апорай «санацыі» на вёсцы [149, с. 175].

Пасля 1931 г. Саюз вячковай моладзі «Сеў» стаў самастойнай арганізацыяй. Яго дзейнасць абапіралася на ўласны статут, што ў значнай меры садзейнічала ўмацаванню яго аўтарытэту і спрашчала доступ да моладзі. Да 1934 г. яго дзейнасць распаўсюдзілася на тэрыторыі Віленскага і Палескага ваяводстваў.

Трэба адзначыць, што на тэрыторыі Навагрудскага ваяводства да 1934 г. дзейнічаў аўтаномны Саюз вясковай моладзі Навагрудскай Зямлі (Związek Młodzieży Wiejskiej Ziemii Nowogródzkiej). Ён таксама аформіўся пасля расколу Цэнтральнага саюза вясковай моладзі. Калі ў 1930 г. перад гурткамі вясковай моладзі Навагрудскага ваяводства паўстала пытанне аб далучэнні да «Віцы» ці «Севу», быў праведзены спецыяльны з'езд. На ім аднагалосна было вырашана «захаваць для дабра маладой ускраіннай вёскі і для дабра дзяржаўнай справы поўную самастойнасць і незалежнасць ад цэнтраляў у Варшаве, каб абараніць нашу тэрыторыю ад непажаданай і шкоднай арганізацыйнай барацьбы ў нездаровай атмасферы». «Віцы» і «Сеў» вымушаны былі згадзіцца з такім рашэннем [5, арк. 4]. Але дадзеная аўтаномія была адноснай. Так, Саюз вясковай моладзі Навагрудскай Зямлі адпраўляў сваіх дэлегатаў на ўсе з'езды, канферэнцыі і курсы, якія арганізоўваў «Сеў». Акрамя таго, ён выкарыстоўваў і яго выдавецкія магчымасці, змяшчаючы на старонках «Сева» свае камунікаты (справаздачы) [149, с. 65].

У пачатку 1930-х гадоў на Навагрудчыне спрабаваў замацавацца і скласці канкурэнцыю Саюзу вясковай моладзі Навагрудскай Зямлі Саюз народнай моладзі (Związek Młodzieży Ludowej), дзейнасць якога ахоплівала ў асноўным польскія рэгіёны 2-й Рэчы Паспалітай. Гэта выклікала канфлікт дадзенай арганізацыі з Навагрудскім саюзам. Ён запатрабаваў ад Саюза народнай моладзі адмовіцца ад працы на тэрыторыі ваяводства, ліквідаваць свае гурткі ці перадаць іх у яго распараджэнне [5, арк. 4]. Тым не менш гурткі Саюза народнай моладзі працягвалі дзейнічаць у Стаўбцоўскім, Баранавіцкім і Навагрудскім паветах. Дарэчы, падобная «барацьба за душы» разгарнулася паміж Саюзам народнай моладзі і «Стральцом» на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства [5, арк. 1 – 3].

Канкурэнцыя, якая склалася сярод гэтых арганізацый, значна аслабляла пазіцыі «санацыі» ў асяроддзі вясковай моладзіі перашкаджала ажыццяўленню яе планаў. Таму «санацыйныя» колы правялі шэраг мерапрыемстваў па аб’яднанню сваіх прыхільнікаў. Адным з гэтых мерапрыемстваў стала арганізацыйная кансалідацыя шматлікіх саюзаў вясковай моладзі. 4 верасня 1934 г. «Сеў» аб’яднаўся з шэрагам рэгіянальных арганізацый – Малапольскім саюзам вясковай моладзі, Саюзам вясковай моладзі Навагрудскай Зямлі, Саюзам народнай моладзі і інш. Новая арганізацыя стала называцца Саюзам маладой вёскі. Вядучую ролю ў кіраўніцтве новага саюза адыгрывалі былыя функцыянеры «Сева» [176, с. 19].

Афіцыйна Саюз маладой вёскі лічыўся «культурна-асветнай арганізацыяй», якая ставіла перад сабой мэту «павышэнне духоўнага і гаспадарчага ўзроўню і грамадзянскага пачуцця сваіх членаў, узбагачэнне культуры вёскі і Рэчы Паспалітай» [64, с. 3]. Згодна са статутам, дасягненне пастаўленых мэтаў саюза адбывалася на аснове прыцягнення членаў да розных відаў грамадскай дзейнасці: арганізацыі і правядзення чытанняў, дыскусій, вечарын, тэатральных пастановак, сельскагаспадарчых курсаў і конкурсаў, будаўніцтву святліц (клубаў), стварэнне кас узаемадапамогі. У статуце спецыяльна агаворвалася, што партыйна-палітычныя справы не ўваходзяць у сферу дзейнасці аб’яднання [64, с. 4].

Саюз вясковай моладзі «Сеў» – Саюз маладой вёскі стаяў на пазіцыях «санацыйнай» канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання», абраўшы сваім лозунгам словы «Дабро дзяржавы – вышэйшы закон» [103, с. 463]. Саюз імкнуўся да перабудовы вёскі эвалюцыйным і прагрэсіўным шляхам. Заяўлялася, што «Сеў» «стаіць на пазіцыі грамадскай і палітычнай дэмакратыі, якая разумелася як павышэнне культурнага ўзроўню мас і далучэнне ўсяго народа да працы для

дзяржавы… лічыць, што адзінай легітымацыяй чалавека з'яўляецца праца і яго ўкладу працу па будаўніцтву Польскай Дзяржавы». У якасці выхаваўчага ідэалу быў абраны баец-работнік, узорам якога была асоба Ю. Пілсудскага [149, с. 62]. Ставілася задача: «выхоўваючы душу маладога вясковага чалавека згодна з ідэйнымі прынцыпамі Правадыра Народа Маршала Ю. Пілсудскага, стварыць Дасканалага Грамадзяніна, які ўсведамляе свае правы і абавязкі» [181, с. 1].

Арганізацыйная дзейнасць Саюза вясковай моладзі «Сеў» будавалася на аснове разгалінаванай, строга цэнтралізаванай структуры з цэнтрам у Варшаве. Яму падпарадкоўваліся ваяводскія Саюзы: на тэрыторыі Заходняй Беларусі – Віленскі, Палескі і (пасля 1934 г.) Навагрудскі. Ваяводскім саюзам, у сваю чаргу, падпарадкоўваліся Акруговыя саюзы ў паветах, якія аб'ядноўвалі пярвічныя ячэйкі – гурткі вясковай моладзі (Kolki Młodzieży Wiejskiej).

У адрозненні ад «Стральца» сістэма кіруючых органаў Саюза вясковай моладзі «Сеў» – Саюз маладой вёскі была больш дэмакратычнай. Вышэйшай уладай лічыўся штогадовы Агульны З'езд, які тайным галасаваннем абіраў праўленне саюза, з якога фарміраваўся прэзідыум. На месцах ваяводскія з'езды, акруговыя сходы і сходы гурткоў адпаведным чынам фарміравалі мясцовыя кіраўнічыя органы. Прадугледжвалася не толькі падпарадкаванне ніжэйстаячых органаў вышэйстаячым, але і падначаленасць кіраўніцтва і яго штогадовая ратацыя [64, с. 6].

Членамі саюза маглі быць паўналетнія грамадзяне 2-й Рэчы Паспалітай, але пры гэтым дазвалялася членства і з 16 гадоў у якасці «элеваў» (вучняў, выхаванцаў) [64, с. 4]. Кожны член арганізацыі павінен быў дзейнічаць «згодна з патрабаваннямі хрысціянскай этыкі і ўласнай годнасці грамадзяніна Рэчы Паспалітай», прытрымлівацца статута саюза і рашэнняў яго вышэйстаячых органаў, рэгулярна наведваць сходы і выплочваць членскія ўзносы [64, с. 16].

Стралецкі саюз і Саюз вясковай моладзі «Сеў» – Саюз маладой вёскі ахоплівалі ў асноўным вясковую моладзь. Для працы сярод гарадской работніцкай і рамесніцкай моладзі ў 1933 г. была створана Арганізацыя ппрацуючай моладзі (Organizacja Młodzieży Pracującej), у склад якой увайшоў шэраг рэгіянальных арганізацый. Адной з самых буйных такіх арганізацый было Аб'яднанне рамеснай і прамысловай моладзі Віленскага ваяводства (Zrzeszenie Młodzieży Rzemieslniczej i Przemysłowej woj. Wileńskiego), якаяў 1933 г. налічвала толькі ў адной Вільні каля 900 чалавек [21, арк. 243]. Арганізацыя працуючай моладзі лічылась, як і іншыя «санацыйныя» групоўкі, арганізацыяй,

якая стаяла па-за палітыкай. Галоўнай яе задачай абвяшчалася распаўсюджванне апекі над моладдзю у форме супрацьдзеяння анты-дзяржаўным уплывам праз выхаванне ў грамадска-дзяржаўніцкім духу. Вялікая ўвага надавалась дапамозе ў працаўладкаванні маладым беспрацоўным [149, с. 98].

Згодна з «Інструкцыяй Галоўнага ўпраўлення Арганізацыі працуючай моладзі аб працы гурткоў працоўнай моладзі», асноўнай арганізацыйнай ячэйкай гэтай арганізацыі з'яўляўся «ачаг», які ахопліваў тэрыторыю раёна вялікага горада. На чале «ачага» стаяў кіраўнік. Арганізацыя працуючай моладзі дзейнічала выключна ў гарадах і мела строгую іерархічную структуру. Выкананне кіруючых функцый залежыла не ад «выпадковых вынікаў выбараў», а ад праходжання арганізацыйнай школы. Прэтэндэнт на кіруючую пасаду павінен быў атрымаць ступень толькі пасля адпаведнага навучання і экзаменаў [88, с. 89].

Моладзь унутры ячэйкі дзялілася на калектывы (ад 6 да 15 чалавек). Менавіта ў гэтых калектывах вялася праца, якая мела сваёй мэтай «самавыхаванне і фарміраванне характара». Калектыў узначальваў перадавік, які прызначаўся кіраўніком «ачага».

Адначасова ў «ачагу» Арганізацыі працуючай моладзі фарміраваліся «рэалізацыйныя гурткі» (музычныя, тэатральныя, спартыўныя, рамесніцкія, харавыя і г. д.), у якіх моладзь уваходзіла незалежна ад прыналежнасці да асобных калектываў. На чале гурткоў стаялі адпаведныя інструктары, якія таксама прызначаліся кіраўніком «ачага». Такім чынам, грамадска-выхаваўчая праца праводзілася ў калектывах, а адпачынак і навучанне – ў гуртках.

Члены Арганізацыі працуючай моладзі дзяліліся на кандыдатаў, удзельнікаў і рэчаісных членаў. Кандыдаты (ва ўзросце 14 – 21 года) прымаліся ў АПМ кіраўніком «ачага».

Інструкцыя прызнавала наступныя сродкі выхаваўчай працы:

1. Клубная праца (інфармацыя, тэхнічнае забяспячэнне, бібліятэка, чытанне прэсы, клубныя вечарыны, спевы, відовішчы, краязнаўчыя экскурсіі, гутаркі, самаадукацыя);
2. Фізічнае выхаванне;
3. Уладкаванне «ачага» і арганізацыя ў ім майстэрняў;
4. Самадапамога, прадстаўленне магчымасці атрымаць аплочваемую працу (стварэнне бюро пасрэдніцтва працы), аказанне матэрыяльнай дапамогі бедным, прапаганда ашчаднасці і стварэнне кас узаемадапамогі [14, арк. 1 – 5].

Менавіта апошні момант – дапамога ў працаўладкаванніі матэрыяльная падтрымка – забяспечвалі Арганізацыі працуючай моладзі

колькасны рост і ўплыў ва ўмовах эканамічнага крызісу. Але па меры эканамічнай стабілізацыі і выхаду краіны з крызісу ўплыў арганізацыі зменшыўся, а колькасць яе членаў скарацілася.

Стварэнне і падтрымка «санацыйных» моладзевых аб'яднанняў стала неад'емнай часткай выхаваўчай палітыкі правячых колаў 2-й Рэчы Паспалітай на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Мясцовыя ваяводскія і павятовыя ўлады праяўлялі значную актыўнасцьу гэтым накірунку.

Напрыклад, у лютым 1930 г. палескі ваявода Ян Крахельскі накіраваў усім павятовым старастам спецыяльны ліст, які быў прысвечаны пытанню стварэння ячэек Палескага саюза вясковай моладзі. У ім адзначалася, што ў шэрагу задач, якія стаяць перад дзяржаўнай адміністрацыяй, асабліва на ўсходніх ускраінах, найважнейшай з'яўляецца кантроль над тым, каб развіццё грамадскага жыцця вёскі адбывалася «па лініі развіцця польскага дзяржаўнага шляху». Ваявода падкрэсліваў, што «цяперашні ўрад звяртае значную ўвагу на тое, каб, перш за ўсё, падрастаючае пакаленне атрымала такія ўмовы развіцця, якія б давалі гарантыю выхавання з цяперашняй моладзі грамадзян, на якіх Дзяржава магла б абаперціся. Таму пан міністр унутраных спраў робіць націск на больш паспяховае развіццё арганізацый сельскай моладзі» [4, арк. 17].

Ваявода, растлумачыўшы сутнасць і задачы саюза, адзначаў, што праца саюза на месцах будзе праводзіца ў цеснай згодзез павятовымі старастамі: «Урад маральна і матэрыяльна падтрымлівае дзейнасць СВМ [Саюза вясковай моладзі] і чакае таго ж ад тэрытарыяльнага самакіравання, паколькі лічыць працу СВМ адной з найважнейшых задач цяперашнега перыяду» [4, арк. 17].

Старастам даручалася асабіста цікавіцца працай саюза, аказваць матэрыяльную дапамогу «нават за кошт іншых пазіцыйу справах асветы, падтрымкі культуры ці земляробчай асветы». Акрамя таго, старасты павінны былі падтрымліваць сталы кантактз ваяводай і кіраўніком ваяводскага саюза, неадкладна паведамляць аб усіх адмоўных з'явах у развіцці арганізацыі ці дзейнасці асобных яе прадстаўнікоў. У заключэнне ваявода заяўляў: «Асабіста я лічу развіццё працы СВМ адным з важнейшых фактараў у выкананні тых задач, якія ўскладаюцца на нас як прадстаўнікоў ураду і адказных кіраўнікоў палітычнай адміністрацыі, і чакаю поўнага разумення важнасці апекіі супрацоўніцтва ў развіцці гэтых прац» [4, арк. 18].

Апека дзяржаўнай адміністрацыі і дзеячоў «санацыі» выяўлялася ў першую чаргу ў непасрэдным удзеле ў арганізацыі праўрадавых маладзёжных саюзаў. Напрыклад, у Вільні ганаровыя пасады ў

«Стральцы» займалі такія лідэры “санацыі”, як Я. Пілсудскі (брат Ю. Пілсудскага), былы віленскі ваявода Кіртыкліс, былы маршал сейма прафесар Шыманскі [21, арк. 107]. Такім жа чынам складвалася сітуацыя і на павятовым узроўні, дзе стралецкія атрады ўзначальвалі паліцэйскія і мясцовыя чыноўнікі [24, арк. 63]. Згодна справаздачам павятовых чыноўнікаў, ужо ў 1930 г. абсалютная большасць кіраўнікоў ячэек Саюза вясковай моладзі на Палессі былі членамі ці прыхільнікамі Беспартыйнага блока супрацоўніцтва з урадам [6, арк. 18].

Праўда, такая актыўнасць чыноўніцтва мела і адваротны бок. Архіўныя дакументы сведчаць, што ў польскіх улад проста не хапала чыноўнікаў, каб заняць усе кіруючыя пасады ў грамадскіх арганізацыях. Так, у 1930 г. павятовы камендант Стралецкага саюза паведамляў з Драгічына пра такі недахоп «кіруючых людзей»: «Вялікая цяжкасць складаецца ў тым, што акрамя выканання прафесійных абавязкаў амаль кожны чыноўнік з’яўляецца адначасова членам праўлення якога-небудзь грамадскага таварыства ці секцыі, таму часта яны ходзяць з аднаго сходу на другі; а іншых абраць немагчыма, паколькі іх няма» [10, арк. 6 – 7]. Фактычна такое становішча магло ператварыць дзейнасць таго ж «Стральца» ў фармальнасць.

Вялікую ролю ў развіцці праўрадавага моладзевага руху адыгрывалі асаднікі і памешчыкі. Так, у 1935 г. у маёнтках Негневіцкага раёна памешчыкі стварылі са сваіх батракоў атрады конных стральцоў (кракусаў), іх навучанне ажыццяўляў мясцовы асаднік [23, арк. 17]. Аднак у большасці выпадкаў інструктарамі ваеннай падрыхтоўкі былі афіцэры вайсковых частак, паліцыі ці Корпуса аховы памежжа.

Неабходна адзначыць вялікую ролю ў арганізацыйным колькасным умацаванні праўрадавых арганізацый настаўнікаў польскіх школ. Так, у лютым 1932 г. Лідскі Акруговы камітэт Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі паведамляў: «У апошні час узмацнілася агітацыя фашысцкіх арганізацый праз Сакратарыяты беспартыйнага блока, кулкі рольнічэ, ЗМВ [Саюз вясковай моладзі]. У адной Лідскай акрузе настаўнікамі і працаўнікамі сакратарыятаў ББ было праведзена 700 дакладаў і 400 сходаў. Іншы раз даклады праводзяцца на беларускай мове» [17, арк. 17]. У справаздачы Палескага ваяводскага Саюза вясковай моладзі падкрэслівалася, што «адносіны з настаўніцтвам заслугоўваюць пахвалы. Настаўніцтва стаіць каля ўсіх працоўных месцаў саюза. Яно прымае ўдзел у працы гурткоў, акруговых саюзаў, ваяводскага праўлення, праводзіць гутаркі і курсы, рэжысуе тэатральныя пастаноўкі, дае парады,

апякае, сочыць, заахвочвае» [180, с. 21]. Цікавую статыстыку адносна ўдзелу настаўніцтва ў грамадскай працы на тэрыторыі Свянцянскага павета прыводзіў у 1935 г. «Кур'ер Віленскі». На тэрыторыі павета працавалі 268 настаўнікаў. З іх 32 настаўнікі ўзначальвалі святліцы (клубы), 11 настаўнікаў – вячэрнія курсы. 17 настаўнікаў узначальвалі ячэйкі Стралецкага саюза, 6 – дружыны Саюза польскага харцэрства, 6 настаўнікаў працавалі ў жаночых арганізацыях, 24 – праводзілі моладзевыя арганізацыі. 192 настаўнікі самі з'яўляліся членамі Стралецкага саюза. Акрамя таго, на працягу вучэбнага году настаўнікі правялі 150 лекцый і арганізавалі 91 тэатральны паказ [91, с. 8].

Але, як адзначаюць архіўныя крыніцы, ўзаемаадносіны моладзевых аб'яднанняў з мясцовымі ўладамі і настаўніцтвам не заўсёды складваліся добра, і падтрымка не з'яўлялася абсалютнай. Напрыклад, камендант ваеннай падрыхтоўкі Слонімскага паветау паведамляў, што «ў м. Рудзе Яворскай настаўнік Гародка сярод членаў Стралецкага Саюзу казаў, што да "Стральца" неабходна належыць толькі для выгляду, а на самой справе нічога рабіць не трэба». У тым жа Слонімскім павеце ў в. Раготна мясцовы гмінны войт супраціўляўся пакупцы радыёпрыёмніка для Стралецкага саюза [12, арк. 19].

Узаемаадносіны польскіх чыноўнікаў і мясцовага насельніцтва таксама складваліся не лепшым чынам. Адзін з членаў гуртка вясковай моладзі з Брэсцкага павета адзначаў у сваёй біяграфіі, якая была апублікавана ў даследванні афіцыйнага дзяржаўнага Інстытута культуры вёскі, што «адной з галоўных балячак нашай вёскі (якая выклікае абурэнне і недавер у адносінах да ўрада) з'яўляюцца недапушчальныя паводзіны і адносіны чыноўнікаў, якія прадстаўляюць урад, да нашага селяніна. Гэтыя чыноўнікі – выканаўцы даручэнняў і загадаў урада, прапагандысты ўрадавых ідэй і думкаў. Гэта гмінныя, фінансавыя чыноўнікі, паліцыя і т. п. На кожным кроку адчуваецца нейкая непрыязная, фанабэрыстая атмасфера, адсутнасць сардэчнасці і даверу. За адно толькі правільнае слова супраць адразу ж будзеш названы хамам, падрыўным элементам, камуністам (апошнім абвінавачваннем празмерна злоўжываюць)... У гмінным ці фінансавым праўленні,у судзе ці паліцэйскім пастарунку, усюды да нашага селяніна адносяцца не як да грамадзяніна Дзяржавы, а як да варожага Дзяржаве чалавека, якога патрэбна стрыгчы, пакуль ён даецца, душыць, пакуль ён цёплы, і якому нельга давяраць ні ў якім выпадку [65, с. 12 – 13].

Той жа аўтар, які стаяў на «дзяржаўніцкіх пазіцыях», працягваў: «Недахопам, які ў інтарэсах Дзяржавы неабходна як мага хутчэй выправіць, з'яўляецца поўная незацікаўленасць Дзяржавы лёсам

вясковай моладзі і яе жыццём. Пазбаўленая ўсялякай апекі і дапамогі, вясковая моладзь блукае крутымі шляхамі, якія вядуць да бездані боек, п'янства, злачынстваў, ці, як мухі на мёд, ідзе за падрыўной палітычнай прапагандай варожых дзяржаве палітычных дзеячоў... Там дзе, дзякуючы намаганням якога-небудзь ціхага сельскага дзеяча ўзнікая якая-небудзь арганізацыя, чыноўнікі замест таго, каб прыйсці на дапамгу да гэтай беднай слабой арганізацыі, імкнуцца (ці па расхлябанасці, ці па злой волі) толькі да таго, каб абцяжарыць яе чым-небудзь, затрымаць яе развіццё. Арганізацыяй ніхто не цікавіцца, ніхто яе не падтрымлівае. На яе і яе членаў глядзяць з недаверам, збіраючыз дапамогай паліцыі дадзеныя аб благанадзейнасці (магчыма гэта толькі ў нас на крэсах так). Зразумела, гэты недавер, адсутнасць добразычлівага супрацоўніцтва, сардэчнасці, шпіянаж і г. д. выклікаюць у моладзі расчараванне і антыпатыю, а таксама адштурхоўваюць іншых ад уступлення ў арганізацыю» [65, с. 13]. Дадзенае сведчанне адносіцца да другой паловы 1930-х гадоў (яно з'явілася ўжо пасля таго, як Палескі ваявода заклікаў павятовых старастаў асабіста цікавіцца развіццём моладзевага руху). Такім чынам, роля мясцовага чыноўніцтва ў развіцці моладзевых саюзаў была неадназначнай. Нават афіцыйныя крыніцы адзначалі як падтрымку, так і фармалізм, і нават варожасць.

Важнай часткай падтрымкі ўладамі «санацыйнага» маладзевага руху была фінансавая дапамога. Гэта добра бачна на прыкладзе Саюза вясковай моладзі «Сеў». Згодна са статутнымі дакументамі, асноўнымі крыніцамі фінансавання арганізацыі былі членскія і ўступныя ўзносы, прыбыткі ад правядзення мерапрыемстваў, дапамога ад грамадскіх і дзяржаўных інстытутаў і ахвяраванні прыватных асоб [64, с. 9]. На самой справе ж арганізацыя фактычна знаходзілася на дзяржаўным забяспячэнні. Аб гэтым сведчыць, напрыклад, справаздача аб прыбытках Палескага саюза вясковай моладзі за 1933 г. Так, членскія ўзносы склалі 487,60 злотых, прыбыткі ад выдавецкай дзейнасці – 349,35 злотых. У той жа час Цэнтральным Камітэтам па справам вясковай моладзі было выдаткавана 4 389,95 злотых, Праўленнем Палескага ваяводства – 1 450, Палескай земляробчай ізбой – 1 000, мясцовым Камітэтам фонда працы – 300, Праўленнем Брэсцкага павета – 960 злотых. Улічваючы станоўчае сальда за мінулы год (147,23 злотых) і іншыя прыбыткі (316,20 злотых), мы бачым, штоз агульнай сумы ў 9 400,33 злотых дзяржаўныя датацыі склалі 8 099,95 злотых (болей за 86%) [182, с. 16].

Яшчэ большыя «фінансавыя ўліванні» атрымліваў Стралецкі саюз. Так, камендатура Брэсцкай акругі «Стральца» планавала

прыбытковую частку свайго бюджэту ў аб'ёме 354 060 злотых. З іх 20 000 павінна было быць накіравана ад Палескага, Люблінскагаі Беластоцкага ваяводаў, 80 000 – ад мясцовага самакіравання, 30 000 – ад ваенных улад, 120 000 – ад галоўнага ўпраўлення «Стральца». У дадзеным выпадку дзяржаўныя датацыі склалі 310 000, ці больш за 87% прыбытковай часткі бюджэту [5, арк. 2]. Тым не менш, у пытаннях фінансавання не ўсё складвалася добра. У першую чаргу гэта было звязана з цяжкім фінансавым станам мясцовага самакіравання. Напрыклад, Палескі ваяводскі камітэт фізічнага выхавання і ваеннай падрыхтоўкі адзначаў, што мясцовае самакіраванне, «кіруючыся добрымі намерамі», выдзяляе на развіццё дзейнасці па ваеннай падрыхтоўцы моладзі сумы, «якія не можа на працягу года знайсці» [9, арк. 15]. Таму асноўную фінансавую дапамогу аказвалі цэнтральныя органы ўлады.

Найбольш моцным уплыў «санацыйных» моладзевых арганізацый быў у асяроддзі вясковай моладзі. На тэрыторыі Заходняй Беларусі буйныя атрады Стралецкага саюза меліся таксама ў Вільні, Беластоку, Брэсце і Гродне. Так, Віленскі агульнагарадскі атрад налічваў да 700 чалавек. Самастойныя ячэйкі «Стральца» існавалі і на шматлікіх віленскіх гарадскіх прадпрыемствах [21, арк. 108]. З 1932 г. стралецкая арганізацыя дзейнічала і ў Віленскім універсытэце імя С. Баторыя [198, с. 3]. Гэта была частка створанага ў 1929 г. акадэмічнага аддзела Стралецкага саюза. Не гледзячы на шматлікасць стральцоў-студэнтаў, іх дзейнасць, за выключэннем удзелу ў арганізацыях студэнцкай узаемадапамогі, не мела дачынення да ўнутранага жыцця універсітэту [142, с. 61]. Часцей за ўсё віленскія студэнты-стральцы ўзначальвалі культурна-грамадскую і асветніцкую працу сярод моладзі ў гарадскіх атрада «Стральца». Менавіта яны станавіліся рэферэнтамі і кіраўнікамі грамадзянскага выхавання [141, с. 3].

Колькасць членаў Стралецкага саюза стала ўзрастала. Па ўсёй Польшчы ў 1934 г. налічвалася 300 000 яго членаў, з іху 3 і 9 акругах – каля 50 000 чалавек. Згодна з дадзенымі афіцыйнай польскай прэсы таго часу, стралецкая арганізацыя Віленшчыны з'яўлялася найбольш моцнай у 2-й Рэчы Паспалітай. Ужо ў 1931 г. яна налічвала 300 атрадаў і 7 000 членаў [21, арк. 112]. Меньш паспяховым быў рост «Стральца» на Палессі. Па меркаванню польскіх улад, паспяховаму колькаснаму росту арганізацыі перашкаджалі невялікі працэнт польскага насельніцтва і «гіганцкая перавага нацыянальных меншасцей». Акрамя таго, адзначалася і слабая праца мясцовых праўленняў [13, арк. 52 – 53]. Да гэтых прычын неабходна дадаць і

складаныя ўзаемаадносіны паміж прадстаўнікамі мясцовых улад і насельніцтвам Палесся. Тым не менш да 1939 г. агульная колькасць «Стральца» дасягала 500 000 чалавек [51, с. 437].

Членамі «Стральца» на тэрыторыі Заходняй Беларусі былі ў першую чаргу дзеці чыноўнікаў і асаднікаў, палякаў і беларусаў-католікаў. У шэрагу маёнткаў пад націскам памешчыкаўу стралецкія фарміраванні запісваліся маладыя батракі і сезонныя работнікі. Гэта падцвярджаецца шматлікімі дакументальнымі сведчаннямі. Так, у справаздачы Гродненскага Акруговага камітэта Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі у канцы 1932 г. паведамлялася: «У “Стральцы” ў Скідзеле ў асноўным сынкі чыноўнікаў ці яны самі. Але яны імкнуцца ствараць свае гнёзды на вёсках і там уцягваюць сялянскую моладзь, раскзваючы пра герояў Айчыны і пра вайну» [19, арк. 16].

Для простай сялянскай і рабочай моладзі стралецкая арганізацыя была даволі прыцягальнай. У дакументах Цэнтральнага камітэта Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі пералічваліся асноўныя прычыны колькаснага росту Стралецкага саюза на тэрыторыі Заходняй Беларусі: моцная шавіністычная прапаганда сярод польскай і каталіцкай часткі беларускай моладзі, перабудова дзейнасці «Стральца» ў накірунку задавальнення патрэб моладзі, пашырэнне абсталявання святліц, выдзяленне новых штатных кадраў, падрыхтоўка і перападрыхтоўка ў шырокім аб’ёме кіраўнікоў з ліку самой моладзі [24, арк. 13].

Вялікую ролю ў прыцягненні моладзі ў Стралецкі саюз адыгрывалі льготы, якія прадстаўляліся ўдзельнікам арганізацый ваеннай падрыхтоўкі. Палескі ваяводскі камітэт па ваеннай падрыхтоўцы і фізічнаму выхаванню ў адной са сваіх справаздач адзначаў, што «у значнай колькасці атрадаў жаданне працавацьу ваеннай падрыхтоўцы абапіраецца толькі на надзею на тое, што члены арганізацыі атрымаюць за працу ў будучым пэўныя ільготы на вайсковай службе» [1, арк. 53].

Важным было і тое, што ва ўмовах эканамічнага крызісу кіраўніцтва «Стральца» магло садзейнічаць атрыманню працоўнага месца сваім членам. Так, у Брэсце пад эгідай стралецкай арганізацыі існавала «пасрэдніцтва працы», якое займалася праблемай ліквідацыі моладзевага беспрацоўя [16, арк. 380]. Стральцы заўсёды маглі разлічваць на матэрыяльную падтрымкуз боку ўлад. Напрыклад, на Віленшчыне ў час голаду 1934 г. гмінныя рады аказвалі дапамогу (збожжам, мукой, бульбай)у першую чаргу тым сельскім гаспадарам, якія з’яўляліся членамі Стралецкага саюза [35, с. 356].

Прадугледжваліся і іншыя «прэрагатывы» для членаў ваенізаваных аб'яднанняў. Вядома, што ў мэтах прапаганды камандуючы акругай № 9 "Брэст" генерал Траяноўскі дамогся ад гаспадароў кінатэатраў «пэўных саступак, ільгот і прэрагатываў членам арганізацый ваеннай падрыхтоўкі» [1, арк. 72].

Пагоня за рознымі льготамі, якія існавалі для членаў саюза, не магла не адбіцца адмоўна на якасці членства ў арганізацыі. Таму мае рацыю справаздача Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі з Белавежы за кастрычнік 1934 г., у якой казалася: «Стральцы гэта надзьмуты пузыр, не болей. Там панабіралі вясковых падлеткаў, якія ідуць дзеля таго, што пускаюць ў кіно бясплатна. Вось іх ідэйнасць» [23, арк. 124]. Пра нізкую ідэйнасць стральцоў паведамляў і камендант ваеннай падрыхтоўкі з Кобрына: «Ідэйнасць членаў, за невялікім выключэннем, мізэрная. Удзел у працы прымаюць па карысным матывам. З ідэйных перакананняў працуюць адзінкі, якія ў большасці знаходзяцца на кіруючых пасадах Стралецкага Саюза» [10, арк. 12].

Але было б памылкай ацэньваць усіх стральцоў як людзей, якія імкнуліся ў арганізацыю толькі за матэрыяльнымі ільготамі. Моладзь уцягвалася ў саюз і праз умела арганізаваную патрыятычную прапаганду, магчымасць удзельнічаць у розных спаборніцтвах, паходах, забаўляльных мерапрыемствах. Так, дзякуючы намаганням кіраўніцтва Віленскай падакругі «Стральца» ў Вільні ў 1935 г. быў створаны «Усеагульны тэатр Стралецкага саюза». Яго мэта – правядзенне прапагандысцкай і асветніцкай працай шляхам арганізацыі адпаведных спектакляў на тэрыторыі падакругі. За рэпертуар адказвала спецыяльная літаратурна-артыстычная камісія, аматарскі калектыў тэатру складаўся з 14 чалавек. Ужо за некалькі першых тыдняў існавання тэатру яго спектаклі наведалі 1 500 чалавек [92, с. 3].

Для моладзі, якая шукала прымянення сваім сілам і энэргіі, стралецкая арганізацыя прапаноўвала шмат магчымасцей для самарэалізацыі. Работнікі заходнебеларускага камсамола прызнавалі, што сярод членаў «Стральца» ёсць і «баявыя элементы, якія рвуцца да якой-небудзь працы, і фашызм выкарыстоўвае іх актыўнасць у сваіх інтарэсах» [19, арк. 98].

Саюз вясковай моладзі «Сеў» – Саюз маладой вёскі таксама імкнуўся ахапіць па магчымасці найбольшую колькасць вясковай моладзі. Аднак у першую чаргу саюз аб'ядноўваў дзяцей працаўнікоў мясцовай польскай адміністрацыі, асаднікаў, палякаў і беларускіх сялян польскай арыентацыі [45, с. 297]. У якасці прыкладу можна прывесці дадзеныя аб нацыянальным складзе «Сева» Ашмянскага павета, якія адносяцца да 1933 г. Тут з 622 членаў арганізацыі

палякамі былі 563 чалавекі, беларусамі з'яўляліся 49 і літоўцамі – 10 [215, с. 6]. Усяго ж па Віленскаму ваяводству ў 1934 г. у 248 гуртках «Сева» было 3 610 членаў, з іх палякаў – 3 016, беларусаў – 395, літоўцаў – 140 чалавек. Афіцыйная прэса заяўляла, што «ўсе яны без якой-небудзь нацыяналістычнай нянавісці разам працуюць над узняццем сваіх вёсак з нізін цемры і галечы… веліч гэтай задачы прымірае і гасіць усе антаганізмы, якія імкнецца прышчапіць ім нядобрасумленная палітычная агітацыя» [189, с. 8].

Але пры гэтым неабходна адзначыць, што улады імкнуліся да таго, каб мясцовыя арганізацыі ўзначальвалі менавіта палякі. Так,у адным з дакументаў аддзела грамадскай бяспекі Палескага ваяводства адзначалася, што «стварэнне змешаных арганізацый з'яўляецца пажаданым пры ўмове, што кіраўніцтва такіх арганізацый павінна знаходзіцца ў польскіх руках і ў праўленнях павінен мець перавагу яўны польскі элемент». Той жа дакумент даручаў павятовым старастам даведацца, «ці не з'яўляецца наплыў няпольскай моладзі ў гурткі вясковай моладзі планавай працай антыдзяржаўных элементаў з мэтай разгрому польскіх арганізацый на вёсцы» [4, арк. 12].

Колькасны склад Саюза вясковай моладзі «Сеў» – Саюза маладой вёскі вызначыць даволі складана. У першую чаргу гэтаму перашкаджае тое, што многія гурткі арганізацыі існавалі толькі фармальна. Вельмі частай з'явай была цякучасць кадраў, у выніку якой дзейнасць гурткоў спынялася, а потым зноў аднаўлялася. Тым не менш, па падліках польскай гістарыяграфіі, агульная колькасць членаў Саюза маладой вёскі на ўсёй тэрыторыі 2-й Рэчы Паспалітай у 1938 г. дасягнула 170 000 чалавек [88, с. 165]. Пры гэтым лічыцца, што найбольшую актыўнасць арганізацыя праяўляла менавіта на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Асноўным накірункам дзейнасці Стралецкага саюза стала рэалізацыя дзяржаўнай праграмы ваеннай падрыхтоўкі маладога пакалення. У сваю чаргу Саюз вясковай моладзі «Сеў» – Саюз маладой вёскі актыўна займаўся сельскагаспадарчай асветай вясковай моладзі. Але гэта не значыць, что пытанні звязаныя з «дзяржаўным выхаваннем» заставаліся па-за ўвагай кіраўніцтва праўрадавых арганізацый. Найбольш яскрава гэта можна прасачыць на прыкладзе «Стральца».

Асаблівая ўвага грамадзянскаму выхаванню стала надавацца ў другой палове 1930-х гадоў. Пры гэтым падкрэслівалася сувязь грамадзянскага выхавання і ўмацавання абараназдольнасці краіны: «Статуты ўсіх існуючых моладзевыхых арганізацый сярод мэті задач, акрамя іншага, маюць і выхаванне моладзі ў дзяржаўна-творчым духу. Гэтыя задачы трактуюцца разнастайна, і ў вынікуў моладзі не

фармуюцца тыя рысы, якія з'яўляюцца неабходнымі для ажыццяўлення грамадзянскіх задач, асабліва такога высокароднага абавязку, як служба ў войску» [15, арк. 3].

У снежні 1936 г. у Брэсце адбылася нарада, прысвечаная актывізацыі грамадзянскага выхавання ў Стралецкім саюзе. На ёй было заяўлена, што ідэя службы з'яўляецца зместам і сутнасцю грамадзянскага выхавання. Гэтая ідэй павінна была прышчэплівацца ў час розных адукацыйных ці выхаваўчых мерапрыемстваў, паколькі «без яе засваення выхаваўча-грамадзянская праца не выканае сваіх задач» [11, арк. 28].

Вынікам дадзенай нарады стала «Праграма грамадзянскага выхавання для ўзроставых адукацыйных груп у аддзелахі пададдзелах Стралецкага Саюза», якая была выдадзена ў Брэсцеў 1937 г. Ва ўступе да праграмы падкрэслівалася, што грамадзянскае выхаванне з'яўляецца асноўнай справай працы Стралецкага саюза. Але адначасова адзначалася, што шматлікія інструктары грамадзянскага выхавання, каменданты і члены праўленняў не дастаткова добра арыентуюцца ў сферы патрабаванняў, якія ставіліся папярэднімі праграмамі грамадзянскага выхавання. Акрамя таго, гэтыя папярэднія праграмы былі «празмерна агульнымі, і зводзіліся, перш за ўсё, да гутарак і лекцый па гісторыі Польшчы, сучаснай Польшчы». Галоўнай мэтай выдання новай праграмы абвяшчаўся «клопат пра больш шырокае і дакладнае вызначэнне сферы працы, больш выразным удакладненні патрабаванняў, правядзенні яе натуральным чынам, а таксама наданні гэтай працы рысаў непарыўнасці, сістэматычнасці і празрыстасці, і перш за ўсё мэтазгоднасці» [148, с. 5].

Праграма складалася з наступных накірункаў: арганізацыйнае выхаванне, дзяржаўнае выхаванне, прафесійная падрыхтоўка, чытанне, экскурсіі, культурна-мастацкае выхаванне.

У час рэалізацыі першай часткі праграмы стральцы вывучалі статут, гісторыю, традыцыі і звычаі арганізацыі – Стралецкага саюза. Часткай гэтага выхавання павінна была стаць і непасрэдная дзейнасць згодна з правіламі аб'яднання. Доказам арганізацыйнай зрэласці быў актыўны ўдзел у грамадска-дзяржаўных справах свайго атачэння. Арганізацыйнае выхаванне павінна было даць аснову для далейшых частак грамадзянскага выхавання [148, с. 5].

Дзяржаўнае выхаванне ахоплівала пытанні гісторыі польскай дзяржавы, сучаснай Польшчы, тэрытарыльнага самакіраванняі вывучэння ўласнага атачэння з пункту гледжання патрэб ці магчымасці перабудовы. Асаблівая ўвага надавалася прыкладамз гісторыі, «у якіх доблесць польскай арміі пакрыла славай польскі

народ сярод іншых народаў (Грунвальд, асада Вены, напалеонаўскія войны, легіоны Ю. Пілсудскага, бітва пад Варшавай)» [148, с. 163]. Як бачым, праграма дзяржаўнага выхавання шмат у чым пераклікалася са школьнай праграмай. Гэта можна растлумачыць тым, вясковая моладзь, якая складала аснову «Стральца», з падлеткавага ўзросту ў асноўнай сваёй масе заставалася па-за выхаваўчым уплывам усеагульнай школы. Таму польскія ўлады і імкнуліся гэта кампенсаваць. Дзяржаўнае выхаванне павінна было падрыхтаваць членаў Стралецкага Саюза да «належнага разумення сучаснага грамадска-палітычнага жыцця, якое з'яўляецца вынікам гістарычнага дасягнення папярэдніх пакаленняў і намаганняў найлепшых сыноў Айчыны; павінна было падрыхтаваць і прывучыць да дзейснага ўдзелу ў агульнай працы свайго асяроддзя, выпрацаваць дух баягатоўнасці ў адносінах да ўнутраных і знешніх ворагаў у адпаведнасці з указаннямі стваральніка Сіралецкага саюза – Будаўніка сучаснай Польшчы,1-га Маршала Ю. Пілсудскага» [148, с. 6].

Вядучай ідэяй стралецкага дзяржаўнага выхавання быў дух польскага ўра-патрыятызму. Гэта стала часткай паланізацыі беларускай моладзі. Асабліва яскрава гэта прасочваецца на прыкладзе «стралецкай» інтэрпрэтацыі гісторыі. Так, бітва пры Грунвальдзе трактавалася як перамога выключна польскай зброі,а польска-савецкая вайна, у выніку якой Польшчай была акупавана Заходняя Беларусь, мела важнае «гістарычнае і выхаваўчае значэнне» і была «апошнім этапам умацавання межаў незалежнай Польшчы» [148, с. 23].

Галоўнай мэтай прафесійнай падрыхтоўкі быў пошук месца працы для сваіх членаў праз выкарыстанне ўсялякіх магчымасцяў для стварэння новых працоўных месцаў. Вынікам павінна было стаць «узбагачэнне культурных і гаспадарчых дасягненняў вескіі горада» [148, с. 6].

Наступны накірунак грамадзянскага выхавання – чытанне – прадугледжваў выхаванне любві да ўмелага чытання кніг і прэсыз «пранікненнем у сэнс і вядучыя думкі». Усе члены «Стральца» павінны былі быць сталымі чытачамі мясцовых бібліятэк, пры кожным атрадзе «Стральца» стваралася свая бібліятэка [148, с. 24]. Трэба адзначыць, што большая частка рэкамендаванай стральцам да чытання літаратуры была прысвечана гісторыі польскага нацыянальнага руху, дзейнасці Баявой арганізацыі Польскай сацыялістычнай партыі, Польскай вайсковай арганізацыі, легіёнаў (гэта значыць арганізацый, створаных Ю. Пілсудскім). Але разамз прапагандысцкімі агіткамі

рэкамендаваліся і творы класікаў польскай літаратуры [148, с. 42 – 45].

Згодна з праграмай грамадзянскага выхавання пры правядзенні экскурсій рэкамендавалася наведваць суседнія атрады «Стральца» і блізкіх да яго арганізацыі (такіх экскурсій павінна было быць шмат), узорныя сельскія гаспадаркі і прамысловыя майстэрні, дальнія гістарычныя і прыродныя помнікі, прамысловыя цэнтры. Лічылася, што экскурсіі маюць «шматлікія выхаваўчыя моманты» [148, с. 7].

Культурна-мастацкае выхаванне прадугледжвала стварэнне самадзейных харавых і тэатральных гурткоў, спартыўных секцый, удзел у абсталяванні святліц (клубаў) [148, с. 7].

За ажыццяўленне праграмы адказвалі спецыяльныя інструктары грамадзянскага выхавання. Таксама існавалі інструктары ў асобных накірунках працы. Але дакумент спецыяльна падкрэсліваў, што моладзь павінна самастойна авалодаць па магчымасці большым аб'ёмам прадугледжанага матэрыялу. Інструктары грамадзянскага выхавання і іншыя члены кіраўніцтва павінны былі толькі ў самыя цяжкія моманты прыходзіць на дапамогу і даваць парады і ўказанні [148, с. 9].

У якасці дадатку да праграмы прыкладаўся спіс урачыстасцяў, святкаванне якіх таксама павінна было служыць мэтам грамадзянскага выхавання членаў Стралецкага саюза. Сярод гэтых святаў былі Дзень Незалежнасці (11 лістапада), гадавіны паўстанняў 1794 г., 1830 – 1831 гг. і 1863 – 1864 гг. Абавязковым быў удзел у арганізацыі імянін прэзідэнта 2-й Рэчы Паспалітай І. Масьціцкага, маршалаў Ю. Пілсудскага і Э. Рыдз-Сміглага. У жніўні адзначалася свята Стралецкага саюза [148, с. 37].

Цэнтрамі грамадзянскага выхавання з'яўляліся святліцы (клубы). Лічылася, што яны даюць магчымасць «уздзейнічаць адначасова на розум, пачуцці і волю асобы, развіваць пэўныя яе асаблівасці і адначасова рыхтаваць яе да грамадскага жыцця і актыўнага ў ім удзелу» [147, с. 6].

У выніку такога падыходу Стралецкі саюз і іншыя праўрадавыя моладзевыя арганізацыі імкнуліся стварыць шырокую сетку сваіх святліц, калі дазвалялі матэрыяльныя ўмовы. Так, у 1935 г. на тэрыторыі Вільні дзейнічалі 14 святліц «Стральца». Таксамаў Вільні існавала 1 святліца праўрадавай Арганізацыі працуючай моладзі [211, с. 259]. Зразумела, што ў правінцыі сітуацыя складвалася па-іншаму. Але і там праўрадавыя саюзы стваралі свае клубы. Калі для гэтага не было магчымасцей, ствараліся агульныя святліцы ці святліцы пры школах. У якасці прыклада можна прывесці становішча ў палескім

Саюзе маладой вёскі. У цяжкіх эканамічных умовах палескай вёскі саюз здолеў стварыць толькі 45 сваіх асабістых святліц. Яшчэ 18 клубаў былі сумеснымі. Абсалютная ж большасць іх – 154 – дзейнічалі пры школах [78, с. 120 – 121].

Такім чынам, праўрадавыя моладзевыя арганізацыі і саюзы з'яўляліся неад'емным элементам сістэмы рэалізацыі «санацыйнай» канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання». У дадзеным кантэксце іх галоўнай задачай было ахапіць сваім выхаваўчым уздзеяннем пазашкольную моладзь і падлеткаў. Як сведчаць архіўныя матэрыялы і дадзеныя гістарыяграфіі, найбольшых поспехаў у гэтым накірунку дасягнулі такія арганізацыі, як Стралецкі саюз і Саюз вясковай моладзі «Сеў» – Саюз маладой вёскі, якія дзейнічалі ў асноўным сярод вясковага маладога пакалення. У асяроддзі гарадской моладзі аналагічныя задачы павінна была выконваць Арганізацыя працуючай моладзі, якая, аднак, не дасягнула такога развіцця як два вышэйназваных аб'яднанні. Яшчэ адной групай маладога пакалення, якую «санацыя» імкнулася паставіць пад свой выхаваўчы ўплыў было студэнцтва і маладая інтэлігенцыя. Але на гэтай тэме неабходна спыніцца больш падрабязна.

### 4. 2. Барацьба «санацыйных» колаў за ўплыў на студэнцтва і маладую інтэлігенцыю.

Пасля Кракава Вільня з'яўлялася старэйшым універсітэцкім цэнтрам у 2-й Рэчы Паспалітай. Віленскі універсітэт быў створаны яшчэ каралём С. Баторыям у 1578 г. У 1832 г. універсітэт быў зачынены пасля разгрому паўстання 1830 – 1831 гг. Пасля заканчэння Першай сусветнай вайны ён аднавіў сваю дзейнасць у 1919 г. пад назвай Віленскі ўніверсітэт імя С. Баторыя. Таксама трэба адзначыць, што ў Вільні з 1930 г. пры Навукова-даследчым інстытуце Ўсходняй Еўропы існавала прыватная Школа палітычных навук, якая, праўда, не мела поўных акадэмічных правоў і таму не лічылася паўнавартасным універсітэтам. Дарэчы, ініцыятарам яе стварэння стаў будучы міністр Я. Енджэевіч.

Неабходна прызнаць, што, не гледзячы на сваю старажытнасць, універсітэт з'яўляўся адным з перыферыйных вышэйшых навучальных устаноў краіны. Па дадзеным на канец 1930-х гадоў, у ім вучылася толькі 8% студэнтаў 2-й Рэчы Паспалітай, у той час як у Варшаве – 40, Львове – 20, Кракаве – 17, Познані – 12, астатнія 3% прыходзіліся на Люблін, Лодзь і Катавіцэ [142, с. 16]. Пры гэтым мясцовае студэнцтва мела шматнацыянальны характар. Згодна з афіцыйнымі дадзенымі, у 1929/30 навучальным годзе з 3 336

студэнтаў 2 171 чал. лічылі роднай мовай польскую, 891 – ідыш ці іўрыт, 111 – рускую, 55 – беларускую, 50 – літоўскую, 41 – украінскую, 9 – нямецкую, 2 – чэшскую. Акрамя таго, сярод студэнтаў Віленскага універсітэта імя С. Баторыя былі татары, латышы, венгры [79, с. 9].

Улічваючы, што Віленскі ўніверсітэт імя С. Баторыя з'яўляўся адзіным універсітэтам на тэрыторыі Заходняй Беларусі, панаванне ў мясцовым студэнцкім асяроддзі мела прынцыпіяльнае значэнне для розных палітычных плыняў 2-й Рэчы Паспалітай. Таму не дзіўна, што «санацыя» імкнулася паставіць пад свой кантроль віленскіх студэнтаў, каб выхоўваць будучую мясцовую інтэлігенцыю ў адпаведным духу. Аднак значных поспехаў у гэтым накірунку правячыя колы не дасягнулі.

Трэба адзначыць, што ва універсітэтах 2-й Рэчы Паспалітай на працягу ўсяго міжваеннага перыяду найбольшым уплывам карысталіся праціўнікі «санацыйнага» рэжыму з ліку прыхільнікаў крайне правых польскіх нацыяналістаў – эндэкаў. Іх своеасаблівым прадстаўніком сярод студэнцтва і маладой інтэлігенцыі з'яўлялася арганізацыя «Усяпольская моладзь» (Młodzież Wszechpolska).

Дадзенае аб'яднанне было створана ў сакавіку 1922 г. на з'ездзе Нацыянальнага саюза акадэмічнай моладзі. Ганаровым прэзідэнтам «Усяпольскай моладзі» быў абраны лідэр польскіх нацыяналістаў Р. Дмоўскі. З самага пачатку арганізацыя была цесна звязаназ польскімі нацыяналістамі. Пасля ж 1934 г. «Усяпольская моладзь» фактычна з'яўлялася моладзевай прыбудоўкай партыі «Нацыянальнае аб'яднанне» (Stronnictwo Narodowe), якая знаходзілася ў правай апазіцыі «санацыйняга» рэжыму.

Саюз меў свае гурткі ва ўсіх універсітэтах 2-й Рэчы Паспалітай, у тым ліку і ў Вільні. Колькасна гэтыя гурткі былі невялікімі. Напрыклад, у Віленскім універсітэце ў пачатку 1930-х гадоў налічвалася каля 70 афіцыйных членаў «Усяпольскай моладзі» [142, с. 23]. Але ўплыў арганізацыі быў вялікім. На тэрыторыі Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя на яе баку выступала ад 1/3 да 1/2 усіх студэнтаў. Гэта была значная лічба, хоць і меншая, чым у іншых універсітэтах 2-й Рэчы Паспалітай. Такое становішча тлумачылася наяўнасцю вялікага працэнта студэнтаў-непалякаў [142, с. 25].

Арганізацыяй «Усяпольская моладзь» кіравалі дзве структуры – яўная і тайная. Лічыцца, што менавіта дзякуючы актыўнай працы апошняй і забяспечваўся ўплыў арганізацыі сярод студэнцтва. У склад тайнага кіраўніцтва ўваходзілі агульнапольская Нацыянальная ліга (Liga Narodowa), а таксама арганізацыя «Зэт» («Zet») і яе прыбудоўка «Белы арол» («Orzeł Biały»). Ячэйкі, «групы зэтовы», існавалі

амаль у кожным універсітэце 2-й Рэчы Паспалітай. Арганізацыя «Зэт» была цэнтралізаванай і мела строгую дысцыплінуй. Яна маскіравала сваю дзейнасць не толькі ад сваіх праціўнікаў, але і ад шырокага кола прыхільнікаў. Універсітэцкая група дзялілася на секцыі, галоўнай з якіх была палітычная. Мэтай гэтай секцыі было кіраўніцтва палітычнай дзейнасцю ў студэнцкім асяроддзі і вызначэнне тактыкі «Усяпольскай моладзі». Акрамя таго, існавала спецыяльная секцыя для кіраўніцтва іншымі моладзевымі арганізацыямі і секцыя, якая адказвала за працу сярод студэнтак («секцыя калежанак»). Кіраўнік «групы зэтовай» прызначаўся зверху, прычым стаць ім мог толькі мужчына. Жанчыны навогул не маглі належыць да арганізацыі «Зэт», нават кіраўнікі «секцыі калежанак» былі мужчынамі [192, с. 25 – 26].

Што тычыцца ідэалогіі «Усяпольскай моладзі», то яна насіла яскрава акрэслены нацыяналістычны характар. Згодна з яе «Ідэйнай Дэкларацыяй» (1925) аб’яўлялася, што арганізацыя аб’ядноўвае і выхоўвае моладзь згодна з прынцыпам: нацыя складае непадзельную гістарычную цэласнасць пакаленняў, якія памерлі, жывуць зараз і прыйдуць у будучым. Быць палякам значыла быць жывой часткай нацыянальнага арганізму, адчуваць адказнасць за яго мінулы і будучы лёс, кіравацца ў сваім жыцці думкай аб велічы і моцы Польшчы. Сапраўдны паляк павінен быў «супрацьстаяць і змагацца з усімі памкненнямі асоб ці грамадскіх груп, якія пагражаюць інтарэсам Айчыны». Таксама «Дэкларацыя» падкрэслівала, што духоўная творчасць патрэбна абапірацца на родных элементах.

Яшчэ адным важным момантам было тое, што важнай крыніцай маральнай сілы грамадства і «гарантыяй яго высокага этычнага ўзроўня» аб’яўлялася рэлігія. Пры гэтым каталіцкі касцёл павінен быў адыгрываць вядучую ролю ў рэлігійным жыцці польскай нацыі. Яшчэ адной важнай умовай развіцця нацыянальнага арганізму «Дэкларацыя» «Усяпольскай моладзі» аб’яўляла сямейныя каштоўнасці.

Неад’емным элементам ідэалогіі «Усяпольскай моладзі» з’яўлялася вялікадзяржаўнасць. Дэкларавалася, што «Польская дзяржава павінна быць вялікай дзяржавай, каб забяспечыць Нацыі поўнае развіццё». Яна (дзяржава) павінна была аб’яднаць у сваіх межах усе польскія землі, «якія зараз знаходзяцца пад чужым панаваннем», і служыць гістарычным задачам польскай нацыі, забяспечваць росквіт яе духоўных і матэрыяльных сіл.

«Дэкларацыя» «Усяпольскай моладзі» закранала і пытанне пра шматнацыянальны характар міжваеннай польскай дзяржавы. Яна лічыла, што свабоднае культурнае развіццё «племянной асаблівасці» павінна весці да аб’яднання «асобных груп польскага насельніцтва» і

узбагачаць польскую нацыянальную цывілізацыю. Фактычна гаворка ішла пра паланізацыю славянскіх меншасцей, якія пражывалі на тэрыторыі 2-й Рэчы Паспалітай. Грамадзяне, якія не адчуваюць сувязь з нацыяй, павінны былі разам з іншымі падпарадкоўвацца і служыць польскім нацыянальным інтарэсам.

Важным элементам ідэалогіі маладых польскіх нацыяналістаў быў антысемітызм. Яўрэі аб'яўляліся «чужой расавай групай», якая ўносіць разлад у польскае нацыянальнае жыццё. Таму задачай польскай палітыкі ў адносінах да яўрэяў аб'яўлялася іх культурная, палітычная і гаспадарчая ізаляцыя і змяншэнне колькасці яўрэяўу польскай дзяржаве.

Закраналіся ў «Дэкларацыі» і пытанні эканомікі. Умовай палітычнай незалежнасці Польшчы прызнавалася яе гаспадарчая незалежнасць. Польская эканоміка павінна была дасягнуць самазабяспячэння. Таксама патрабавалася дасягнуць большай раўнавагі паміж асобнымі слаямі грамадства.

У заключэнні «Дэкларацыі» заяўлялася, што арганізацыя «Усяпольская моладзь» будзе развіваць і ажыццяўляць вышэйпрыведзеныя прынцыпы польскай нацыянальнай ідэі [73].

Ідэалогія маладых нацыяналістаў з «Усяпольскай моладзі» шмат у чым супярэчыла тым ідэям, якія дэклараваліся прадстаўнікамі «санацыйнага» лагеру. Галоўнае адрозненне было ў тым, што «санацыя» абвяшчала прымат дзяржавы, а не нацыі. Хаця трэба адзначыць, што на практыцы, асабліва гэта тычылася дзейнасці правячых колаў на тэрыторыі ўскраінных ваяводстваў 2-й Рэчы Паспалітай, палітыка «санацыі» адпавядала многім ідэйным пастулатам польскіх нацыяналістаў. Пасля смерці Ю. Пілсудскага і стварэння Лагера нацыянальнага аб'днання адбылося, як ужо адзначалася вышэй, і ідэйнае збліжэнне часткі «санацыі» з нацыяналістамі. Але ўлады заставаліся незадаволены актыўнасцю і ўплывам «Усяпольскай моладзі» ў польскіх універсітэтах.

Справа ў тым, што «Усяпольская моладзь» сапраўды прымала вельмі актыўны ўдзел у студэнцкім жыцці. Напрыклад, члены арганізацыі ўдзельнічалі ў барацьбе за захаванне акадэмічнай аўтаноміі, змагаліся за зніжэнне платы за вучобу. Прыхільнікі арганізацыі, згодна з ідэямі сваёй дэкларацыі, выступалі за выцясненне з універсітэтаў студэнтаў-яўрэяў. Менавіта «Усяпольская моладзь» спрабавала дабіцца ўвядзення ў вышэйшых навучальных установах 2-й Рэчы Паспалітай «гета лаўковага», калі студэнты-яўрэі сядзелі асобна ад іншых студэнтаў.

Яшчэ адной формай актыўнасці маладых нацыяналістаў было тое, што яны фактычна апанавалі большасць агульнастудэнцкіх арганізацый. У Віленскім універсітэце імя С. Баторыя найбольш масавай такой арганізацыяй быў «Братняк» – «Братняя дапамога» (Bratnia Pomoc). На пачатак 1930-х гадоў яе членамі былі 2 318 студэнтаў універсітэта [79, с. 10].

Нават поўная назва аб'яднання – Таварыства польскай акадэмічнай моладзі «Братняя дапамога» Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя – сведчыла пра панаванне ў ім польскіх нацыяналістаў. Хаця трэба адзначыць, што членамі арганізацыі маглі з'яўляцца і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, за выключэннем яўрэяў.

«Братняя дапамога» была арганізацыяй студэнцкай узаемадапамогі і ставіла перад сабой мэту аказанне дапамогі (непасрэднай і апасродкаванай) сваім бедным членам. Мэта аб'яднання ажыццяўлялася праз арганізацыю адпаведных мерапрыемстваў і ўстаноў, а таксама праз выдзяленне грашовых пазык. Таксама «Братняя дапамога» падтрымлівала студэнцкія звароты па грашовую дапамогу да кіраўніцтва Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя, адміністратыўных улад, самакіравання і г. д. [31, арк. 9].

Згодна са статутнымі дакументамі аб'яднання, паўнавартасным членам арганізацыі «Братняя дапамога» маглі стаць кожны студэнт ці студэнтка Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя. Выключэнне рабілася толькі для яўрэяў і асоб, якія былі пакараныя універсітэцкімі дысцыплінарнымі ўстановамі ці таварыскім судом. Паўнавартасныя члены мелі права ўдзельнічаць у жыцці аб'яднання і ў выпадку неабходнасці звярнуцца за матэрыяльнай дапамогай. Яны былі абавязаны рэгулярна выплочваць членскія ўзносы, прытрымлівацца статута і «сумленна выконваць абавязкіў адносінах да Аб'яднання». Таксама існавалі падтрымліваючыя члены, якія фактычна з'яўляліся спонсарамі аб'яднання – каб стаць падтрымліваючым членам «Братняка» трэба было зрабіць аднаразовае ахвяраванне ў памеры 500 злотых ці даць абяцанне плаціць штогод 50 злотых [31, арк. 10].

Вышэйшым кіруючым органам «Братняй дапамогі» з'яўляўся Агульны сход, які склікаўся ў перыяд з 1-га лістапада па 1-га снежня са згоды рэктара. У выпадку неабходнасці прадугледжвалася і скліканне надзвычайнага Агульнага сходу, які зацвярджаў бюджэт арганізацыі, устанаўліваў памер членскіх узносаў, прымаў справаздачу іншых кіруючых органаў «Братняй дапамогі», меў права надаваць званне ганаровага члена арганізацыі і г. д. [31, арк. 11].

У перыяд паміж штогадовымі Агульнымі сходамі выканаўчую ўладу ажыццяўлялі праўленне (24 члены) на чале з прэзідыумам.

Прэзідыум складаўся з 5 членаў: старшыні, 1-га віцэ-старшыня, 2-га віцэ-старшыня, генеральнага сакратара, казначэя. Выбары ў гэтыя органы праходзілі па выбарчым спісам, што дазваляла «Усяпольскай моладзі» трымаць пад кантролем арганізацыю студэнцкай узаемадапамогі. Да кампэтэнцыі прэзідыўма адносіліся: агульны нагляд за паўсядзённымі справамі аб'яднання, скліканне сходу праўлення, прынццце рашэнняў па неадкладных справах пры абавязковым зацвярджэнні гэтых рашэнняў праўленнем. Само праўленне праводзіла свае паседжанні раз у тыдзень. Праўленне ажыццяўляла знешняе прадстаўленне «Братняй дапамогі», кіравала фондамі, маёмасцю, прадпрыемствамі і інстытутамі аб'яднання. Менавіта праўленне кваліфікавала ступень незаможнасці студэнтаў і прымала рашэнне аб выдзяленні дапамогі. Кожны з членаў Праўлення выконваў свае абавязкі бясплатна і нёс асабістую адказнасць перад Агульным сходам [31, арк. 12 – 14].

Для кантролю за дзейнасцю праўлення і фінансавымі справамі «Братняй дапамогі» дзейнічала рэвізійная камісія, якая складалася з сямі членаў і таксама фарміравалася на аснове выбарчых спісаў. У выпадку фінансавых злоўжыванняў рэвізійная камісія мела права патрабаваць склікання надзвычайнага Агульнага сходу. Своеасаблівым органам «Братняй дапамогі» з'яўляўся таварыскі суд, які павінен быў ажыццяўляць дысцыплінарны кантроль на членамі арганізацыі [31, арк. 14 – 15].

Арганізацыя «Братняя дапамога» мела права валодаць грашовымі фондамі, нерухомай і рухомай маёмасцю. Фонды аб'яднання фарміраваліся за кошт уступных і членскіх узносаў, ахвяраванняў і падарункаў, даходаў ад прадпрыемстваў і мерапрыемстваў, урадавых субсідый. Таксама пэўныя сумы на мэты студэнцкай узаемадапамогі выдзялала кіраўніцтва Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя [31, арк. 15].

Пытанні змены статуту і самароспуску арганізацыі «Братняя дапамога» павінен быў прымаць Агульны сход. Пры гэтым рашэнне магло быць прынята толькі 3/4 галасоў усіх прысутных, якія павінны былі вырашыць і лёс маёмасці арганізацыі. Таксама аб'яднанне магло быць ліквідавана ў выпадку, калі колькасць яго членаў складзе менш за 200 чалавек. У гэтым выпадку маёмасць «Братняй дапамогі» пераходзіла ва ўласнасць Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя [31, арк. 16].

Неабходна звярнуць увагу на тыя прынцыпы, на аснове якіх ажыццяўлялася дапамога студэнтам. Можна сказаць, што яны неслі ў сябе некаторыя выхаваўчыя элементы – студэнты павінны былі самастойна задавальняць свае патрэбы, яны адвучаліся ад утрыман-

ства. Акрамя таго, непасрэдны ўдзел у дзейнасці арганізацыі самадапамогі даваў студэнтам вопыт удзелу ў грамадскім жыцці наогул.

Яшчэ ў 1921 г. у Вільні адбыўся Агульны з'езд польскай акадэмічнай моладзі, на якім была прынята праграмная дэкларацыя Саюзу братніх дапамог. У гэтай дэкларацыі і былі зафіксаваны наступныя прынцыпы студэнцкай узаемадапамогі:

1. Усялякая дапамога з'яўляецца зваротнай, за выключэннем выпадку філантропіі, і таму павінна дакладна рэгістравацца;

2. Задавальненне патрэб павінна ажыццяўляцца ў першую чаргу шляхам натуральнай дапамогі;

3. Грашовая дапамога можа выдзяляцца толькі ў выключных выпадках, пры гэтым найлепшай яе формай з'яўляецца даць моладзі адпаведна аплачваемую працу;

4. Атрымаць дапамогу мае права толькі той, хто яе сапраўды заслугоўвае і хто не можа задаволіць уласнымі сродкамі свае патрэбы [106, с. 539].

Да натуральнай дапамогі звычайна адносілася: магчымасць пражывання ў акадэмічных дамах і бурсах (інтэрнатах), харчаванне ў студэнцкіх сталовых і буфетах, дапамога ў навучанні (бібліятэкі, чытальні, забяспячэнне дарагімі падручнікамі і дапаможнікамі) лячэнне ў студэнцкіх лячэбных установах, карыстанне студэнцкімі калоніямі і лагерамі адпачынку. Грашовая дапамога адбывалася ў выглядзе стыпендый і пазык [106, с. 535].

Што да непасрэдна «Братняй дапамогі» ў Вільні, то на пачатак 1930-х гадоў пад яе кіраўніцтвам знаходзіліся два інтэрнаты і дом акадэміка. Мужчынскі інтэрнат быў разлічаны на 121 юнака, жаночы – на 76 дзяўчат. Дом акадэміка мог змясціць да 200 чалавек [89, с. 6]. Для найбольш бедных студэнтаў у буфецеі сталовай, якія належылі арганізацыі «Братняя дапамога», арганізоўваліся льготныя абеды. Праз касу ўзаемадапамогі яны маглі атрымаць пазыку ў памеры 20 – 30 злотых на два – тры месяцы. Дарэчы, сярэдні штомесячны бюджэт студэнта ў той час вагаўся ў памерах 30 – 40 злотых. Да 1933 г. «Братняя дапамога» уплывала і на размяркаванне дзяржаўных стыпендый. Згодна з польскім заканадаўствам, 80% дзяржаўнага стыпендыяльнага фонду размяркоўваў Савет Універсітэта, улічваючы меркаванне «Братняй дапамогі» і студэнцкіх навуковых гурткоў. Пры віленскім аб'яднанні студэнцкай узаемадапамогі дзейнічала бальнічная каса і цэнтр здароўя, якія ахоплівалі ўсіх студэнтаў, акрамя яўрэяў. Варта адзначыць, што пытанне аховы здароўя было вельмі актуальным для навучальнай установы. Так, працэнт хворых на сухоты сярод віленскіх студэнтаў быў самым вялікім ў параўнанні з

іншымі універсітэтамі 2-й Рэчы Паспалітай. «Братняя дапамога» таксама спрыяла наладжванню навуковага, культурнага і спартыўнага жыцця студэнтаў Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя. Яе маёмасцю з'яўляліся спартыўны клуб у Вільні і лагер адпачынку ў Легацішках [44, с. 14].

Акрамя арганізацый студэнцкай узаемадапамогі пад уплывам «Усяпольскай моладзі» знаходзілася большая частка такіх спецыфічных студэнцкіх арганізацый як карпарацыі – элітарныя аб'яднанні, якія насілі характар мужчынскіх сяброўскіх клубаў. Студэнцкія карпарацыі бяруць свой пачатак яшчэ ў сярэднявеччы. Канчаткова студэнцкія карпарацыі арганізацыйна аформілісяў нямецкіх універсітэтах у першай палове XIX ст. Гэтыя арганізацыі звычайна ствараліся былымі салдатамі, ўдзельнікамі напалеонаўскіх войнаў, якія вярталіся да нармальнага жыццяі, пачаўшы ці працягваючы вучобу ва ўніверсітэтах, імкнуліся падтрымліваць патрыятычныя і вайсковыя традыцыі вынесеныяз арміі. У гэтых мэтах яны стваралі студэнцкія «буршэншафты», якія прымалі сімволіку былых вайсковых адзінак. Акрамя падтрымання патрыятычных традыцый вялікі націск «буршэншафты» рабілі на развіццё сяброўскага жыцця. Напрыклад, гэта знайшло адлюстрванне ў традыцыя т. зв. «піўных кватэр», у час якіх адбываліся шматлікія даклады і інтэлектуальныя дыскусіі, якія спалучаліся з ужываннем вялікай колькасці алкаголя, звычайна піва. Яшчэ адной традыцыяй, якая распаўсюдзіласяў карпарацыях з XIX ст., былі дуэлі [126].

Карпарацыйны рух сярод польскіх студэнтаў таксама бярэ свой пачатак у першай палове XIX ст. Звычайна лічыцца, што традыцыі карпарацый польскага студэнцтва выводзяцца з віленскіх філаматаў і філарэтаў. Менавіта былыя члены гэтых арганізацый, пасля іх разгрому расійскімі ўладамі, стварылі 28 мая 1828 г. ва універсітэце ў Дэрпце (сучасны Тарту) першую польскую карпарацыю «Палонія». Яна прыняла арганізацыйныя формы нямецкіх карпарацый-«буршэншафтаў», аб'яднаўшы іх з польскімі патрыятычнымі ідэаламі, ідэямі самавыхавання і ўзаемадапамогі. Ужо ў першы перыяд свайго існавання польскія карпаранты выразна выявілі сваю патрыятычную пазіцыю – у 1830 г. члены «Палоніі» масава далучыліся да нацыянальна-вызваленчага паўстання [128, с. 8].

Росквіт карпарацыйнага руху прыйшоўся на міжваенны перыядзі Віленскі ўніверсітэт імя С. Баторыя не застаўся ў баку. Ужо ў 1919 г. сваю штаб-кватэру ў Вільню перанесла карпарацыя «Палонія». У 1921 г. «Палонія» і яшчэ шэсць карпарацый правялі І Карпарацыйны з'езд, вынікам дзейнасці якога стала стварэнне Саюза польскіх

акадэмічных карпарацый (Związek Polskich Korporacji Akademickich). Гэты саюз займаўся як арганізацыйнымі праблемамі карпарацыйнага жыцця, так і ўзмацненнем іх пазіцый на тэрыторыі вышэйшых навучальных устаноў 2-й Рэчы Паспалітай. Правамоцным членам Саюза польскіх акадэмічных карпарацый магла стаць студэнцкая карпарацыя пасля кандыдацкага перыяду (мінімум два семестры) і здачы экзамену перад экзаменацыйнай камісіяй, якая прызначалася апякунскай карпарацыяй (карпарацыяй-маткай). Канчатковае рашэнне зацвярджалася вярхоўнымі ўладамі саюза, у якім дзейнічаў прынцып карпарацыйнага старшынства – рашаючай была дата стварэння карпарацыі. Дадзены прынцып даваў прывілеі ў час непасрэдных кантактаў паміж саюзнымі карпарацыямі і асабістых сустрэч карпарантаў. Вышэйшай заканадаўчай, адміністрацыйнай і судовай уладай саюза быў з'езд, а паміж з'ездамі – Вярхоўны савет, які складаўся са старшыні саюза і прадстаўнікоў карпарацыйных цэнтраў (адзін дэлегат на кожныя пяць карпарацый універсітэту). Выканаўчымі ўладамі Саюзу польскіх акадэмічных карпарацый былі: прэзідыум саюза і мясцовыя міжкарпарацыйныя колы, якія дзейнічалі ў асобных універсітэцкіх цэнтрах. Судовыя функцыі выконвалі міжкарпарацыйныя колы, Агульнакарпарацыйны суд і з'езд саюза. Кантралюючым органам была рэвізійная камісія [128, с. 10].

Менавіта ў нетрах саюза быў створаны «Арганічны статут польскай акадэмічнай карпарацыі», які быў асновай для статутаў асобных карпарацый саюзу. Згодна з «Арганічным статутам», карпарацыя з'яўлялася ідэйна-выхаваўчым аб'яднаннем польскай акадэмічнай моладзі. Карпарацыі мелі мэту «праз супрацоўніцтваў цесным коле калег-сяброў падрыхтаваць сваіх членаў да грамадзянскай працы для дабра Айчыны». «Ідэйная дэкларацыя», якая змяшчалася ў «Арганічным статуце», аб'яўляла, што мэтай жыцця кожнага карпаранта з'яўляецца «праца для Польшчы, для яе Велічы і моцы». Дабро нацыі і дзяржавы лічылася для яго «найвышэйшым законам, мерай маральных вартасцяў, прыкладам дзейнасці». Карпарант павінен быў супрацьстаяць усім плынямі намаганням, якія ставяць асабістыя, партыйныя і класавыя інтарэсы вышэй за інтарэсы нацыі і дзяржавы. Карпарант таксама павінен быў разумець «небяспеку чужых элементаў». Адзначалася, што «ўсюды і заўсёды ён становіцца ў абарону польскасці, яку духоўнай, так і ў матэрыяльнай сферы». У карпарацыях павінен быў панаваць «дух дэмакратызму, братэрскага адзінства, роўнасці». Карпарант не меў права ўзвышаць сябе над іншымі па прычыне свайго нараджэння, маёмаснага і сацыяльнага становішча. Заяўлялася, што «кожны паляк з'яўляецца для яго братам»

[185]. Як бачна, карпаранцкія ідэйныя пастулаты шмат у чым былі блізкімі да ідэяў «Усяпольскай моладзі».

Згодна з «Арганізацыйным статутам», для рэалізацыі сваіх мэтаў карпарацыямі выкарыстоўвалася даволі шырокае кола сродкаў. Напрыклад, фарміраванне павагі да закону адбывалася праз дакладнае выкананне дабраахвотна прынятых членамі карпарацый статутаў. Грамадская дысцыпліна, пачуццё салідарнасці і стараннасць фарміраваліся праз падпарадкаванне рашэнням большасці, дакладнае выкананне абавязкаў, рэгулярны ўдзел у сходах, своечасовую выплату членскіх узносаў. Пачуццё гонару і прынцыпы этычнай дзейнасці павінна было ўзнікнуцьу выніку прытрымлівання ганаровых прынцыпаў, ведання ганаровага (дуэльнага) кодэксу, узгадненне сваіх дзеяннеяўз прынцыпамі, якія пануюць у карпарацыі. Для інтэлектуальнай дапамогі і папаўнення агульнай і прафесійнай адукацыі, асабліваў галінах звязаных з польскай культурай, прадугледжвалася навуковая ўзаемадапамога, чытанне рэфератаў, стварэнне бібліятэк, арганізацыя навуковых сходаў. Таксама карпарацыіў мэтах аказання матэрыяльнай дапамогі стваралі стыпендыяльныя фонды і касы ўзаемадапамогі. Фізічнае развіццё карпарантаў забяспечвалася арганізацыяй гімнастычных залаў, падтрымка зацікаўленасці да спорту і заняткі фехтаваннем [185].

Кожная карпарацыя мела свой дэвіз, сцяг, герб. Знешнімі адзнакамі карпарантаў былі шапка (дэкла) і шарф колераў карпарацыйнага сцягу. Таксама кожная карпарацыя мела сваю манаграму (цыркель). Манаграма складалася з першых літар лацінскага дэвізу «Vivat, crescat, floreat» («Жыві, ствараі, квітней») і першай літары назвы карпарацыі [185].

Напрыклад, карпарацыя «Палонія» мела дэвіз «Адзін за ўсіх, усе за аднаго». Колерамі сцягу карпарацыі былі малінавы, блакітныі белы. Гэтыя тры колеры павінны былі сімвалізаваць тры «народы» былой Рэчы Паспалітай – Польшчу, Літву і Русь. Адпаведна і герб Палоніі складаўся з трох частак, гербоў гэтых народаў – Белага Арла, Пагоні і архангела Міхаіла [143].

Кожная карпарацыя пільна сачыла за захаваннем «гонару» сваіх колераў. У некаторых выпадках магло дайсці нават да сур'ёзных канфліктаў. Так, напрыклад, такі канфлікт узнік у 1930 г. паміж карпарацыяй «Філамацыя» і Саюзам студэнтаў беларусаў. Прычынай стала падабенства колераў шапак (дэклаў) абодвух студэнцкіх аб'яднанняў [29, арк. 97]. Дарэчы, трэба адзначыць, што ў выніку канфлікт вырашыўся ў пользу карпарацыі. Вядома, штоў далейшым

членам Саюза студэнтаў беларусаў было забаронена насіць адзнакі сваёй арганізацыі [47, с. 193].

«Арганічны статут» прадугледжваў, што карпарацыі з'яўляюцца беспартыйнымі аб'яднаннямі – рэлігійныя і палітычныя пытанні выключаліся з дзейнасці карпарацыі [185]. Але на самой справе гэта было не так. Як ужо адзначалася вышэй, карпаранцкая ідэалогія была вельмі блізкай да ідэалогіі польскіх нацыяналістаў. Навогул, карпарацыя, якія ўваходзілі ў Саюз польскіх акадэмічных карпарацый імкнуліся захаваць выключна польскі характар. Быў забаронены прыём асоб украінскай і нямецкай нацыянальнасці і іудзейскага веравызнання. Аднак, не было перашкод для тых, хто меў «чужое» паходжанне, але лічыў сябе палякам і быў хрысціянінам. З другога боку ў карпарацыі быў зачынены ўваход прыхільнікам камуністычнай і сацыялістычнай ідэалогій, а таксама масонам. Пры гэтым многія карпаранты з'яўляліся членамі «Усяпольскай моладзі», а з 1923 г. карпаранты на выбарах у органы студэнцкага самакіравання пастаянна ішлі ў выбарчых спісах польскіх нацыяналістаў. Не гледзячы на аб'яўленую апалітычнасць, карпаранты неаднаразова выказваліся па актуальным пытанням палітычнага і грамадскага жыцця. Напрыклад, у 1928 г. на VII Агульнакарпарацыйным з'ездзе была выкладзена новая інтэрпрэтацыя «Ідэйнай дэкларацыя». Акрамя ўсяго іншага ў ей выдвігаўся пастулат вяртання ў польскія межы заходніх зямель (мяжа на Одэры і Нісе) і былых «усходніх ускраін» Рэчы Паспалітай (украінскіх і беларускіх зямель), якія «дзякуючы Польшчы маюць сваё багацце і культуру». Таксама падкрэслівалася неабходнасць развіцця ўсходніх зямель 2-й Рэчы Паспалітай і працы над нацыянальным (зразумела польскім) усведамленнем насельніцтва гэтых тэрыторый. Заяўлялася, што Польшча павінна быць дзяржавай, у якой польская нацыя з'яўляецца адзіным і поўным гаспадаром [128, с. 11 – 14].

У якасці прыкладу актыўнага ўдзелу карпарацый ў дзейнасці накіраванай на ўзмацненне польскасці можна прывесці карпарацыю «Палесія». Яна ўзнікла ў 1925 г. у Брэсце, з 1929 г. штаб-кватэра аб'яднання знаходзілася ў Вільні. Нават лозунг карпарацыі сведчыў аб яе мэтах – «Fines Poloniae Polonici Sunto» («Польскія ўскраіны павінны застацца польскімі»). Згодна з арганізацыйным пратаколам, мэтай «Палесіі» была абарона польскасці і грамадская праца на «крэсах усходніх». «Палесія» з'яўлялася адной з самых дынамічных віленскіх карпарацый. Яе члены прымалі актыўны ўдзел у студэнцкім і грамадска-палітычным жыцці. Амаль на працягу ўсіх 1930-х гадоў члены «Палесіі» з'яўляліся старшынямі «Братняйй дапамогі» Вілнскага

універсітэта імя С. Баторыя, а таксама ўзначальвалі мясцовую арганізацыю «Усяпольскай моладзі». Сама «Палесія» лічылася самай нацыяналістычнай віленскай карпарацыяй [99].

Карпарацыя аб'ядноўвала сваіх членаў на ўсё жыццё. Яна магла аб'ядноўваць толькі студэнтаў адной вышэйшай навучальнай установы. Члены карпарацыя дзяліліся на актыўных і пасіўных (філістраў). Актыўныя члены ў сваю чаргу дзяліліся на кандыдатаў (фуксаў) і барвяржаў (камільтонаў). Кандыдат станавіўся барвяржам пасля адбыцця кандыдатскага тэрміну (мінімум тры месяцы) і здачы адпаведнага кандыдацкага экзамену. Члены карпарацый, якія скончылі вучобу, станавіліся пасіўнымі членамі – філістрамі. Таксама існаваў інстытут ганаровых філістраў, якімі маглі стаць асобы «бясспрэчнай польскасці». Трэба адзначыць, што карпарацыя не магла налічваць больш, чым 100 актыўных членаў. Члены карпарацый мелі даволі шырокае кола правоў і абавязкаў. Напрыклад, кожны карпарант за час свайго знаходжанняў карпарацыі павінен быў падрыхтаваць і прачытаць мінімум адзін рэферат. Таксама ён павінен быў мінімум раз у два тыдні прысутнічаць на навуковым ці ідэйна-дыскусійным сходзе сваёй карпарацыі. Галоўнымі абавязкамі філістраў была маральнаяі матэрыяльная падтрымка аб'яднання [185].

Канфлікты паміж членамі карпарацыі павінен быў разглядаць спецыяльны суд гонару. Калі канфлікт не быў вырашаны мірным шляхам, паміж карпарантамі адбывалася дуэль. Вышэйшай заканадаўчай, судовай і адміністрацыйнай інстанцыяй карпарацыі з'яўлялася кола, якое складалася з усіх барвяржаў (камільтонаў). Менавіта яно прымала новых членаў карпарацыі ці выключала іх, мела права змяняць статут аб'яднання, распараджалася яго маёмасцю. Для непасрэднага кіраўніцтва карпарацыйным жыццём кола выбірала са свайго складу прэзідыум. Прэзідыум звычайна складаўся са старшыні, віцэ-старшыні і сакратара. Таксама кола мела судовы, навуковы, фінансавы і іншыя аддзелы [185].

Карпарацыйны рух набыў шырокае распаўсюджанне ў Вільні. На працягу ўсяго міжваеннага перыяду тут дзейнічала 25 карпаранцкіх арганізацыі. Усе яны, акрамя функцыянаваўшых пры Школе палітычных навук карпарацый «Арыентыя», «Брыгадзія»і «Тартарыя», былі звязаны з універсітэтам. Старэйшыяі найбуйнейшыя з іх – «Палонія», «Баторыя», «Палесія», «Канкордыя Вілненсіс», «Крэсовія Вілненсіс», «Леаніданія» і «Філамацыя Вілненсіс» – належылі да Саюза польскіх акадэмічных карпарацый і стваралі Віленскае міжкарпарацыйнае кола. Таксама ў Вільні функцыянавала некалькі карпарацый каталіцкай арыентацыі – «Канрадыя», «Снядэцыя». Гэтыя

карпарацыі з’яўляліся членамі створанага ў 1924 г. Аб’яднання польскіх хрысціянскіх акадэмічных карпарацый (Zjednoczenie Polskich Akademickich Korporacji Chrześcijańskich). Былі спробы стварэнняі «санацыйных» карпарацый. Да іх адносіліся карпарацыі «Вілненсія», «Пілсудзія» і «Брыгадзія». У 1932 г. «санацыйныя» карпарацыі стварылі Федэрацыю польскіх акадэмічных карпарацый (Federacja Polskich Korporacji Akademickich). Трэба адзначыць, што ні Аб’яднанне польскіх хрысціянскіх акадэмічных карпарацый, ні Федэрацыя польскіх акадэмічных карпарацый не набылі такога ўплыву, як Саюз польскіх акадэмічных карпарацый, да якога належыла палова польскіх карпарацый. Адметным момантам карпарацыйнага руху ў Вільні было тое, што тут актыўна дзейнічалі карпарацыі, якія аб’ядноўвалі прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей 2-й Рэчы Паспалітай. Існавалі украінскія карпарацыі «Круты», «Запарожжа» і «Сеч», яўрэйскія «Унітанія», «Іарданія», «Бетарія» і «Эмунах». Неабходна адзначыць, штоў Вільні дзейнічалі адзіныя ў Польшчы карпарацыі рускіхі беларускіх студэнтаў. Гэта былі руская «Рутэнія Вілненсіс»і беларуская «Скарынія» [202].

Дакладна вызначыць колькасць віленскіх карпарантаў немагчыма. Але, вядома, што, напрыклад, у 1927/28 навучальным годзе пяць карпарацый, якія ў той час належылы да Саза польскіх акадэмічных карпарацый, налічвалі 205 актыўных членаў, што складала каля 9% усіх студэнтаў Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя. Але ў гэты перыяд ва ўніверсітэце дзейнічалі яшчэ шэсць іншых карпарацый, якія не належылі да Саюза польскіх акадэмічных карпарацый і пра колькасны склад якіх няма дадзеных. У 1930/31 навучальным годзе пяць карпарацый-членаў саюза налічвалі 207 членаў ці каля 8% усіх студэнтаў універсітэта. Аднак ва ўніверсітэце дзейнічала яшчэ як мінімум адзінаццаць іншых карпаранцкіх аб’яднанняў. Лічыцца, што колькасць членаў іх была большай, чым колькасць членаў саюзных карпарацый [202].

Трэба адзначыць, што віленскія карпарацыі карысталіся вялікай падтрымкай з боку кіраўніцтва Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя. Філістрамі карпарацый былі большасць рэктараў і шматлікія прафесары універсітэта. Таксама ў дзейнасці віленскіх карпарацый прымалі ўдзел і ажыццяўлялі іх падтрымку прадстаўнікі палітычнай і ваеннай эліты 2-й Рэчы Паспалітай. Філістрамі ці ганаровымі членамі былі біскуп У. Бандурскі («Крэсовія Вілненсіс»), маршал Ю. Пілсудскі («Пілсудзія»), генералы Ю. Доўбар-Мусніцкі («Баторыя») і Л. Жэлігоўскі («Вілненсія»), Віленскі ваявода У. Рачкевіч («Вілненсія»), маршал сената Ю. Шыманскі («Пілсудзія») [202].

Аднак, не гледзячы на такую ангажаванасць у карпарацыйнае жыццё прадстаўнікоў кіруючых колаў 2-й Рэчы Паспалітай, большасць віленскіх карпарацый, як і ў іншых універсітэтах Польшчы, заставалася пад уплывам польскіх нацыяналістаў і фактычна знаходзілася ў апазіцыі да рэжыму «санацыі».

Яшчэ адной сферай студэнцкага жыцця, якую даволі паспяхова імкнуліся апанаваць польскія нацыяналісты, была дзейнасць такіх, здаецца, далёкіх ад палітыкі аб'яднанняў, як навуковыя гурткі. Так, напрыклад, у сакавіку 1927 г. быў створаны навуковы гурток студэнтаў-юрыстаў Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя. На арганізацыйным сходзе польскія нацыяналісты здолелі ўвесці ў статут арганізацыі так званы «пункт пра веравызнанне», згодна з якім у дзейнасці аб'яднання забаранялася прымаць удзел яўрэям. У сувязі з гэтым група студэнтаў, у тым ліку і прадстаўнікі нацыянальных студэнцкіх саюзаў (беларускага, літоўскага, яўрэйскага) накіравала пратэст кіраўніцтву юрыдычнага факультэта і патрабавала не зацвярджаць статут [28, арк. 6].

Аднак гэтыя і іншыя пратэсты нічога не далі. У выніку на факультэтах Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя існавалі навуковыя гурткі, якія асобна аб'ядноўвалі студэнтаў-палякаў і студэнтаў-яўрэяў [154, с. 174].

Дзякуючы актыўнасці «Усяпольскай моладзі» Віленскі універсітэт імя С. Баторыя на працягу ўсяго міжваеннага перыяду неаднаразова ператвараўся ў арэну антысеміцкіх выступленняў. Польскія нацыяналісты патрабавалі скарачэння колькасці студэнтаў-яўрэяў у вышэйшых навучальных установах і ўвядзення сегрэгацыі, так званага «гета лаўковага», якое прадугледжвала размяшчэнне яўрэяў за асобнымі партамі. Ва ўніверсітэце барацьба набыла вялікую вастрыню дзякуючы таму, што працэнт яўрэяў тут быў адным з самых значных сярод польскіх універсітэтаў (22,2 супраць 6,9 па ўсёй краіне ў 1934/35 навучальным годзе) [142, с. 12].

Першыя антысеміцкія выступленні пачаліся на медыцынскім факультэце. Прычынай канфлікту была забарона яўрэйскай абшчыны (кагала) анатаміравання яўрэйскіх трупаўу празектарскіх кабінетах. У адказ эндэкі выдвінулі лозунг «Для яўрэяў – яўрэйскія трупы». З 1931 г. сутычкі паміж польскімі нацыяналістамі і яўрэямі сталі звычайнай з'явай у Віленскім універсітэце імя С. Баторыя. У лістападзе 1931 г. у такой сутычцы загінуў студэнт Вацлаўскі, які стаў «героем барацьбы за справу» сярод польскіх нацыяналістаў. Восенню 1933 г. у Вільні і Варшаве пачалася акцыя па ўвядзенню «гета лаўковага». У 1935 г. гэтая кампанія дасягнула свайго апагею. Універсітэцкая

адміністрацыя вымушана была пайсці на выдзяленне асобных месцаў для палякаў і яўрэяў. Дарэчы, па гэтай прычыне рэктар і прарэктар універсітэта у пачатку 1937 г. выйшлі ў адстаўку.

У выніку студэнцкіх хваляванняў улады вымушаны былі зачыняць Віленскі універсітэт імя С. Баторыя ў лістападзе 1932 г., лістападзе 1933 г. і лістападзе 1936 г. У сакавіку 1938 г. на тэрыторыю універсітэта ўпершыню была ўведзена паліцыя, што з'яўлялася выключным выпадкам парушэння акадэмічнай аўтаноміі.

Акрамя «гета лаўковага» эндэкі патрабавалі абмежавання доступа яўрэяў у вышэйшыя навучальныя ўстановы. У межах гэтай кампаніі з 1937 г. у Вільні праводзіліся так званыя «дні без яўрэяў», якія з восені 1938 г. ператварыліся ў «тыдні без яўрэяў».

Вынікам усіх гэтых антысеміцкіх выступленняў было тое, што адзінай нацыянальнай групай польскай дзяржавы, колькасць прадстаўнікоў якой скарацілася ў вышэйшых навучальных установах ў перадваенны перыяд, былі яўрэі – з 8 982 у 1932 г. да 4 790 у 1937 г. [142, с. 150 – 170].

Зразумела, што «санацыйны» рэжым не мог мірыцца з тым уплывам, які мелі ў студэнцкім асяроддзі яго палітычныя праціўнікі, польскія эндэкі. Барацьба з гэтым уплывам вялася ў некалькіх накірунках. Так, па ініцыятыве міністра Я. Енджэевіча быў узяты курс на абмежаванне акадэмічнай аўтаноміі. Гэтае абмежаванне знайшло сваё адлюстраванне ў распараджэнні міністра, якое ўвайшло ў сілу ў красавіку 1933 г. Галоўнай афіцыйнай падставай для заканадаўчых змен сталі антысеміцкія выступленні ва універсітэтах 2-й Рэчы Паспалітай [142, с. 130].

Новае распараджэнне дазваляла ствараць студэнцкія аб'яднанні толькі на тэрыторыі аднаго універсітэта. Міжуніверсітэцкія аб'яднанні забараняліся. Таксама строга рэгламентаваліся тыпы студэнцкіх саюзаў, умовы іх стварэння, патрабаванні да іх статутаў. Усе існуючыя студэнцкія арганізацыі павінны былі прайсці перарэгістрацыю [162, с. 156 – 157].

Уводзіўся прынцып прапарцыянальнасці пры выбарах кіраўніцтва студэнцкіх арганізацый, у якіх налічвалася больш 200 членаў. Ва ўмовах універсітэтаў 2-й Рэчы Паспалітай гэта, напрыклад, дазваляла ліквідаваць манаполію «Усяпольскай моладзі» ў кіраўніцтве «Братняй дапамогі». Акрамя таго, выбары былі пастаўлены пад непасрэдны кантроль рэктара [162, с. 158].

Таксама былі ўведзены пасады куратараў, якія ажыццяўлялі кантроль над студэнцкімі аб'яднаннямі. Адначасова студэнцкія саюзы былі пастаўлены пад строгі фінансавы кантроль з боку міністэрства і

кіраўніцтва універсітэта. Кіраўніцтва універсітэтаі міністр мелі права распусціць студэнцкае аб'яднанне.У выключных выпадках такое права меў куратар [162, с. 161 – 162].

Калі ў маі 1932 г. стала вядома пра плануемыя зменыў заканадаўстве, большасць студэнтаў выступілі супраць іх. Пры гэтым у абарону акадэмічнай аўтаноміі разам выступілі палітычныя праціўнікі – эндэкі і сацыялісты. Найбольшую актыўнасць праявіла «Усяпольская моладзь», уплывам якой непасрэдна пагражала распараджэнне Я. Енджэевіча. «Усяпольская моладзь» выступіла з прапановай правесці студэнцкую забастоўку [142, с. 133].

Забастоўкі ва універсітэтах 2-й Рэчы Паспалітай пачаліся ў канцы зімы – пачатку вясны 1933 г. У Віленскім універсітэце імя С. Баторыя забастоўка адбылася 2 сакавіка 1933 г. Яна суправаджалася блакадай універсітэцкіх будынкаў і дэманстрацыямі. 4 сакавіка ў адказ на забастоўку рэктар прыпыніў заняткі. Студэнцкую маніфестацыю пратэсту разагнала паліцыя. 7 сакавіка рэктар універсітэта падаў прашэнне аб адстаўцы. Студэнты правялі мітынг, на якім выступілі прадстаўнікі як эндэкаў, так і левых [79, с. 50].

Аднак сярод віленскага студэнцтва не было адзінства. Прыхільнікі «санацыі» падтрымалі новае заканадаўства і нават стварылі Антызабастовачны камітэт, які вёў адпаведную агітацыю. Прыхільнікаў аўтаноміі нават параўноўвалі з Таргавіцкай канфедэрацыяй, якая абараняла «залатыя» шляхецкія вольнасці [142, с. 138]. 7 сакавіка дэлегацыя ад «санацыйных» карпарацый «Вілненсія», «Крэсовія» і «Пілсудзія» звярнуліся да рэктара ўніверсітэта з просьбай аб аднаўленні заняткаў. Дэлегаты асудзілі забастоўку як камуністычную і сацыялістычную акцыю. 11 сакавіка заняткі ў Віленскім універсітэце імя С. Баторыя аднавіліся [79, с. 50].

Нягледзячы на незадаволенасць студэнтаў, новае заканадаўства было ўведзена ў дзеянне. Аднак яно пратрымалася нядоўга. Як вядома, у сярэдзіне 1930-х гг. ініцыятар акадэмічнай рэформы, міністр Я. Енджэевіч, быў адхілены ад улады. Адначасова працягваліся пратэстныя акцыі працягваліся. З восені 1935 г. яны актывізаваліся ва ўсіх універсітэтах і зноў іх узначалілі нацыяналісты з «Усяпольская моладзі». Пры гэтым польскія нацыяналісты знайшлі падтрымку і ў часткі выкладчыкаў. З'езды рэктароў (верасень 1935 г., красавік 1937 г.) заявілі пра неабходнасць зменаў у акадэмічным заканадаўстве, паколькі студэнцкія хваляванні робяць немагчымым нармальнае правядзенне заняткаў. У ліпені 1937 г. былі зноў зменены законы аб вышэйшай школе, што прывяло да частковага вяртання акадэмічнай аўтаноміі [142, с. 50]. Дзякуючы гэтаму польскія

нацыяналісты з «Усяпольскай моладзі» змаглі захаваць свае пазіцыі ў студэнцкім асяроддзі.

Барацьба «санацыі» з уплывамі «Усяпольскай моладзі» непасрэдна закранула і арганізацыю«Братняя дапамога» ўніверсітэта. У 1931 г. склаўся апазіцыйны эндэкам блок на чале з Г. Дэмбінскім. У гэты блок увайшлі каталіцкая арганізацыя «Адраджэнне», шэраг праўрадавых арганізацый, а таксама кааліцыя навуковых гурткоў. На агульным сходзе ў сакавіку 1931 г. дадзены блок атрымаў большасць галасоў і сфарміраваў новае праўленне «Братняй дапамогі» на чале з Г. Дэмбінскім [26, арк. 8]. Гэта была першая параза арганізацыі польскіх нацыяналістаў у барацьбе за студэнцкую моладзь не толькі ў Вільні, але і ва ўсёй 2-й Рэчы Паспалітай.

Але ўжо ў 1932 г. правыя ўзялі рэванш. Гэта адбылося дзякуючы першакурснікам, якія адгукнуліся на актыўную агітацыю эндэкаў. Адначасова ад удзелу ў выбарах адмовіліся сацыялістыі прадстаўнікі славянскіх меншасцей, якія мелі права голасу ў «Братняй дапамозе». Аднак трэба адзначыць, што ўплыў дадзенай арганізацыі ў вышэйшай навучальнай установе аслабеў. Гэта стала вынікам той палітыкі, якую праводзілі універсітэцкія ўлады і кіраўніцтва сістэмы адукацыі 2-й Ррэчы Паспалітай. Так, у 1932 г. пад дзяржаўны кантроль перайшло самакіраванне студэнцкімі інтэрнатамі [88, с. 157]. У выніку «Братняя дапамога» Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя страціла два інтэрнаты і Дом акадэміка. У пачатку 1934/35 навучальнага года былі ліквідаваны бальнічныя касы арганізацый студэнцкай ўзаемадапамогі, як польскіх, так і яўрэйскіх. Замест іх ствараўся Акадэмічны цэнтр здароўя, які дзейнічаў як орган сената ўніверсітэта і займаўся ўсімі пытаннямі аховы здароўя. Трэба адзначыць, што структура гэтага цэнтра адлюстроўвала тую складаную нацыянальную сітуацыю, якая існавала ва ўніверсітэце. Цэнтр складаўся з трох аддзелаў – А, В і С. Аддзел А аказваў дапамогу студэнтам-хрысціянам, аддзел В – студэнтам-яўрэям. Аддзел С праводзіў барацьбу з туберкулёзам і працаваў з усімі студэнтамі, негледзячы на іх нацыянальнасць і веравызнанне [89, с. 6].

Але самым галоўным ударам, які аслабляў уплыў і значэнне «Братняй дапамогі» стала перадача пад поўны кантроль міністэрства стыпендыяльнага фонду [142, с. 132].

Акадэмічная рэформа Я. Енджэевіча адбілася і на развіцці студэнцкіх карпарацый. Лічыцца, што «санацыя» ўзяла курс на раскол карпарацыйнага руху. 1 мая 1932 г. у Варшаве адбыўся з’езд карпарацый, якія мелі праўрадавую арыентацыю. На гэтым з’ездзе была створана Федэрацыя польскіх акадэмічных карпарацый, сярод

яе заснавальнікаў былі і прадстаўнікі Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя – карпарацыі «Вілненсія», «Крэсовія» і «Пілсудзія». Але, як адзначаюць некаторыя польскія даследчыкі, Федэрацыя не змагла значна аслабіць уплываў Саюза польскіх акадэмічных карпарацый. Яна дасягнула толькі некалькі дробных поспехаўу супрацьстаянні з Саюзам польскіх акадэмічных карпарацый. У Вільні, напрыклад, у 1933 г. Федэрацыя здолела перацягнуць на свой бок карпарацыю «Канкордыя Вілненсіс», якая зноў вярнулася ў Саюз польскіх акадэмічных карпарацый у 1937 г. Большасць «санацыйных» карпарацый аказаліся эфемернымі аб'яднаннямі і праіснавалі даволі кароткі час [128, с. 27].

Тым не менш, у першай палове 1930-х гг. Саюз польскіх акадэмічных карпарацый перажываў цяжкі перыяд. Дзякуючы распараджэнню Я. Енджэевіча, якое забараняла існаванне міжуніверсітэцкіх аб'яднанняў, саюз фактычна ператварыўся ў нелегальную арганізацыю. Таксама ўзніклі праблемы з інстытутам філістерства, паколькі тое ж распараджэнне дазваляла ўдзельнічаць у працы студэнцкіх арганізацый толькі студэнтам. Многія карпарацыі на нейкі час ці нават назаўсёды спынілі сваё існаванне. У такіх складаных умовах у чэрвені 1933 г. адбыўся XI надзвычайны з'езд Саюза польскіх акадэмічных карпарацый. На з'ездзе дайшло да расколу арганізацыі. Частка дэлегатаў, якія прадстаўлялі «старэйшыя» карпарацыі, былі незадаволены радыкальнымі нацыяналістычнымі настроямі ў саюзе. У выніку яны пакінулі з'езд, і 12 карпарацый выйшлі са складу Саюза. Сярод іх была і самая старэйшая карпарацыя, віленская «Палонія». Трэба адзначыць, што ў далейшым усе гэтыя карпарацыі паступова вярнуліся назад. Выключэннем засталася толькі «Палонія», якая да 1939 г. так і не вярнулася ў саюз [128, с. 24].

З 1935 г., калі частка «санацыйнага» лагеру пачала шукаць паразумення з нацыяналістамі, сітуацыя змянілася. Саюз аднавіў сваю дзейнасць. Пры гэтым у «Ідэйную дэкларацыю» саюза быў уведзены лозунг «Служба ў польскай арміі з'яўляецца самай ганаровай службай карпаранта», што сведчыла аб паступовым збліжэнні польскіх правых з Лагерам нацыянльнага аб'яднання [128, с. 25].

Акрамя заканадаўчых і адміністратыўных мерапрыемстваў польскія ўлады ў барацьбе за студэнцтва і маладую інтэлігенцыю імкнуліся абапірацца на «свае» праўрадавыя арганізацыі. Ва універсітэтах 2-й Рэчы Паспалітай дзейнічаў шэраг такіх «санацыйных» аб'яднанняў і саюзай. У тым ліку іх дзейнасць распаўсюджвалася і на Віленскі універсітэт імя С. Баторыя.

Старэйшай такой арганізацыяй з’яўляўся Саюз польскай дэмакратычнай моладзі (Związek Polskiej Młodzieży Demokratycznej), які ўзводзіў сваю гісторыю яшчэ да XIX ст., калі ў 1886 г. быў створаны канспірацыйны Саюз польскай моладзі (Związek Młodzieży Polskiej), у статуце якога было заяўлена, што ён з’яўляецца «школай грамадзянскага выхавання» і «ачагом нацыянальнага прагрэсу». Мэтай гэтага саюза было аднаўленне незалежнай Польшчы. Дэкларавалася, што Саюз польскай моладзі стаіць на грунце палітычнай, грамадскай і нацыянальнай справядлівасці. У пачатку XX ст. арганізацыя зблізілася з лагерам Ю. Пілсудскага і выступала супраць крайніх польскіх нацыяналістаў, эндэкаў, якія ў той час пайшлі на супрацоўніцтваз уладамі царскай Расіі. Члены СПМ прымалі актыўны ўдзелу барацьбе за незалежнасць Польшчы ў шэрагах Легіёнаў Пілсудскага. Пасля аднаўлення незалежнасці польскай дзяржавы саюз стаў называцца Арганізацыяй нацыянальнай моладзі (Organizacja Młodzieży Narodowej). 12 жніўня 1927 г. адбылося аб’яднанне арганізацыі з шэрагам іншых «санацыйных» студэнцкіх саюзаў. У выніку і ўзнік Саюз польскай дэмакратычнай моладзі. Да 1935 г. гэта была студэнцкая арганізацыя, якая мела свае адзяленні ва ўсіх універсітэцкіх цэнтрах 2-й Рэчы Паспалітай. З 1935 г. гэты саюз павінен быў стаць «агульнамоладзевай» арганізацыяй, якая б аб’ядноўвала «перадавую і нацыянальна-дзяржаўніцкую інтэлігенцкую моладзь» [75, с. 4 – 5]. Але гэтага не адбылосяў выніку шэрагу прычын, пра якія гаворка пойдзе ніжэй.

Саюз польскай дэмакратычнай моладзіналічваў некалькі тысяч членаў. Ён не атаясамляў сябе з левым ці правым палітычным лагерам, павінен быў стаць «ачагом прагрэсіўнага руху», мэтай якога была перабудова польскай рэчаіснасці ў кірунку грамадскай справядлівасці і дэмакратыі. Саюз актыўна развіваў культ Ю. Пілсудскага, змагаўся з нацыяналістамі і выступаў з дастаткова радыкальных антыклерыкальных пазіцый [216]. Таксама саюз праводзіў актыўную выдавецкую дзейнасць. Так, у Вільні з ім быў звязаны грамадска-палітычны месячнік «Смуга», які выходзіўз лістапада 1932 г. да лістапада 1933 г. у якасці самастойнага выдання, а да гэтага – са снежня 1931 г. – ён быў дадаткам да праўрадавага «Кур’ера Віленскага» [178].

Трэба адзначыць, што з 1931 г. у Саюзе польскай дэмакратычнай моладзі ўзмацніўся сіндыкалістычны накірунак. У сувязі з гэтым ён пачаў цесна супрацоўнічаць з прафесійнымі саюзамі, якія аб’ядноўваліся ў праўрадавым Саюзе прафесійных саюзаў (Związek Związków Zawodowych), дзе таксама распаўсюджваліся сіндыкалістычныя

тэндэнцыі. У маі 1934 г. па ініцыятыве Спольскай дэмакратычнай моладзі быў створаны Акадэмічны саюз вясковай моладзі (Akademicki Związek Młodzieży Wiejskiej), які аб'ядноўваў ідэі аграрызму і сіндыкалізму [216].

Трэба адзначыць, што паступовая радыкалізацыя знайшла сваё адлюстраванне ў ідэйных дэкларацыях Саюза польскай дэмакратычнай моладзі. У адной з іх было заяўлена, што арганізацыя імкнецца да цывілізацыі, якая абапіраецца на працы, а не на прывілеях. Праца павінна была стаць «адзіным паказчыкам грамадскай вартасці». Саюз лічыў, што сіндыкалістычны лад нацыянальна адродзіць народныя масы «ва ўнутраным, творчым імперыялізме працы». Пры гэтым польская інтэлігенцыя павінна была выйсці з народу, каб стаць творчай сілай яна павінна была «вырваць з сябе плёнкі сацыяльна-клерыкальнай пакорлівасці». Праграма арганізацыі прадугледвала пераходную гаспадарчую дыктатуру, якая б ажыццяўлялася праз «гаспадарчы дырэктарат прафесійных саюзаў». Таксама прадугледжваўся і агульны гаспадарчы план і, нават, рэгуляцыю прыросту насельніцтва, калі ў гэтым узнікне патрэба [75, с. 6].

Саюз польскай дэмакратычнай моладзі патрабаваў кантролю над вытворчасцю, з допускам рабочых да ўдзелу ў прыбытках, паступовай нацыяналізацыі вытворчасці. На месца «хаатычнай вольна-капіталістычнай гаспадаркі» павінна была прыйсці гаспадарка планавая. У галіне сельскай гаспадаркі маладыя сіндыкалісты патрабавалі правядзенне грунтоўнай аграрнай рэформы і кааперацыі на вёсцы. Сіндыкалісты лічылі, што менавіта прафесійныя саюзы павінны кіраваць вытворчасцю і ажыццяўляць падзел прыбытку [75, с. 7].

Таксама адмаўляўся парламентарызм, які не можа рэальна палепшыць становішча працоўных. Ідэолагі Саюза польскай дэмакратычнай моладзі сцвярджалі, што «парламенцкая барацьба ні ў якім разе не забяспечвае перамогі інтарэсаў працы». Яны лічылі, што «палітыканскія і кампрамісныя метады сацыял-ліберальных кіраўнікоў» сталі галоўнай прычынай дэзарыентацыі і расколу працоўных сіл. І такую сітуацыю выкарыстоўваюць падрыўныя элементы. У выніку працоўныя масы «камунізуюцца». Саюз імкнуўся перанесці барацьбу за вызваленне мас у «гаспадарчую і прафесійную сферу». На іх думку, урад павінен быў «неадкладна па-над галовамі буржуазна-клерыкальна-сацыялістычных партый арганізаваць прафесійнае самакіраванне, гаспадарчы дырэктарат і фабрычныя камітэты, каб згодна з інтарэсамі дзяржавы падрыхтаваць ліквідацыю капіталізму». Замест палітычнага парламенту планавалася ўвесці прадстаўніцтва

прафесій. Асноўным элементам грамадскага і гаспадарчага жыцця павінна была стаць «арганізаваная грамада вытворцаў» [75, с. 8].

У сваёй дэкларацыі саюз адмаўляў як фашысцкую, такі камуністычную ідэалогіі, якія «не вырашаюць праблему крызісуі не ствараюць здаровых умоў быту для працуючых мас». Дэкларацыя даводзіла, што на практыцы фашызм, гітлерызмі камунізм не вельмі адрозніваюцца [75, с. 8 – 9].

Зразумела, што ў сваіх дэкларацыях ідэолагі Саюза польскай дэмакратычнай моладзіне здолелі абыйсці і нацыянальнае пытанне. Адзначалася, што «чорная грамадская рэакцыя, касмапалітычная, антыдзяржаўная буржуазія выкарыстоўвае нацыі ў якасці шырмы ў сваіх сябелюбівых інтарэсах». Асабліва асуджалася пазіцыя «эндэцкіх паночкаў, якія нацыянальна жывуць у гарадскіх прытонах ў п’янстве і распусце». Тут праглядаўся яўны намёк на праціўнікаў «санацыі» з нацыяналістычнага лагера. На самой справе польская дзяржава абапіраецца на высілках і працы народных мас [75, с. 9].

У пытанні адносін да нацыянальных меншасцяў саюз заяўляў пра імкненне да нацыянальнага супрацоўніцтва, ліквідацыі абмежаванняў у правах і развіцці нацыянальных культур. Выключэнне рабілася толькі для яўрэяў і немцаў. Для немцаў, як «ворагаў польскай дзяржавы», прапаноўвалася абмежавацца свабодай толькі для асноўных культурных правоў. Яўрэйскае пытанне прапаноўвалася вырашыць праз стварэнне яўрэйскай дзяржавы і масавую эміграцыю [75, с. 10 – 11].

У пытаннях рэлігійных, як ужо адзначалася вышэй, Саюз польскай дэмакратычнай моладзі стаяў на выразна антыклерыкальных пазіцыях. Рэлігія аб’яўлялася асабістай справай кожнага чалавека. Яна заслугоўвала пашаны ў якасці «крыніцы ідэальных элементаў і этычнай нормы». Саюз асуджаў пераслед па рэлігійных матывах і рэлігійную варожасць. Таксама асуджалася выкарыстанне рэлігіі і царквы ў палітычных мэтах кансерватыўнага лагера. Прапаноўваліся ўвядзенне свабоды сумлення, адмена канкардата з Ватыканам, устанаўлення кантролю над выхаваннем у духоўных семінарыях, адхілення кліру ад удзелу ў палітыцы [75, с. 10].

У заключэнні дэкларацыя Саюза польскай дэмакратычнай моладзі закранала пытанні культуры, асветы і выхавання. Яна настойвала на неабходнасці ўсеагульнай асветы, бясплатнага навучання, свабоднага карыстання дасягненнямі цывілізацыі і культуры. У выніку павінен быў узнікнуць «вольны, творчы чалавек, які займае актыўную пазіцыю ў адносінах да рэчаіснасці» [75, с. 11].

Згодна з ідэалогіяй арганізацыі, выхаваўчым ідэалам быў чалавек з «грамадскай арыентацыяй», чалавек, «які разумее, што неў суперніцтве, а ў супрацоўніцтве знаходзіцца магчымасць для хутчэйшай рэалізацыі яго амбіцый у выглядзе стала ўзрастаючых патрэб». У гэтым выпадку асабісты інтарэс асобы будзе супадацьз грамадскім інтарэсам. Змены ў чалавечай псіхіцы ідэолагі саюза напрамую звязвалі з рэалізацыяй сіндыкалістычнай канцэпцыі. Пры гэтым прызнавалася, што на развіццё характару чалавека ўплываюць як знешняе атачэнне, «грамадскія ўмовы і формы,у якіх ён жыве», так і «структура яго індывідуальнасці». Выхаваннем у дакументах Саюза польскай дэмакратычнай моладзі называўся ўплыў знешняга атачэння, «які прымае формы арганізаванай акцыі». Ён, безумоўна, з'яўляецца рашаючым пры фарміраванні псіхікі. Таму ў дэкларацыях саюза падкрэслівалася, што «пастулат перабудовы псіхікі з'яўляецца пастулатам поўнай змены сучасных выхаваўчых метадаў і сістэм». Дырэктывай Саюза польскай дэмакратычнай моладзі у выхаваўчай сферы аб'яўляліся ідэі грамадскага выхавання [75, с. 20].

Як бачна, арганізацыя стаяла на даволі радыкальных пазіцыях. Менавіта гэтая радыкалізацыя прывяла да яе расколу, дзякуючы чаму «санацыя» не здолела выкарыстаць яе ў сваіх выхаваўчых мэтах і барацьбе за студэнцтва і маладую інтэлігенцыю. Раскол у Саюзе адбыўся ў 1935 г. Большасць простых дзеячоў з Варшавы, Кракава, Львова і Вільні выступіла супраць праўрадавага кіраўніцтва арганізацыі.У выніку Саюз распаўся на Саюз польскай дэмакратычнай моладзі-Правіцу і Саюўз прльскай дэмакратычнай моладзі-Лявіцу. У чэрвені 1936 г. на сваімім першым з'ездзе СПДМ-Лявіца змяніла назву на Аб'яднанне сіндыкалістычнай моладзі (Stowarzyszenie Młodzieży Syndykalistycznej) [216].

Маладыя сіндыкалісты ставілі перад сабой у якасці мэты стварэнне «асноваў новай грамадскай культуры», якая будзе абапірацца на маральнасці працы ў межах «дзяржавы вольных вытворцаў». Для дасягнення гэтай мэты, на думку дзеячоў Аб'яднання сіндыкалістычнай моладзі, неабходна прайсці два этапы: цалкам ліквідаваць капіталістычную сістэму ў Польшчы і пабудаваць новы лад, які б абапіраўся на абагульненні сродкаў вытворчасці. Каб гэта адбылося, неабходна аб'яднанне ўсіх працуючых класаў і перабудова псіхікі пралетарыяту. Арганізацыйнай формай пралетарскага руху павінны былі стаць незалежныя прафесійныя саюзы. Таму галоўным сваім саюзнікам Аб'яднанне сіндыкалістычнай моладзі абвяшчала Саюз прафесійных саюзаў [207, с. 8].

Аддзяленне Саюза польскай дэмакратычнай моладзі-Лявіцы, а потым Аб'яднання сіндыкалістычнай моладзі існавала і ў Вільні. Тут маладыя сіндыкалісты цесна супрацоўнічалі з Акадэмічным саюзам народнай моладзі (Akademicki Związek Młodzieży Ludowej), арганізацыяй блізкай да сялянскіх партый, Саюзам незалежнай сацыялістычнай моладзі (Związek Niezależnej Młodzieży Socjalistycznej), які з'яўляўся сваеасаблівым студэнцкім аддзяленнем Польскай сацыялістычнай партыі, Легіёнам маладых-Фракцыяй (Legjon Młodych-Frakcja). Усе гэтыя арганізацыі знаходзіліся ў апазіцыі да рэжыму «санацыі» і стаялі на даволі радыкальных пазіцыях.

Была таксама зроблена спроба наладзіць супрацоўніцтва са студэнцкімі арганізацыямі Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя, якія аб'ядноўвалі прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў 2-й Рэчы Паспалітай. Так, у чэрвені 1936 г. Саюз польскай дэмакратычнай моладзі-Левіца накіраваў Саюзу студэнтаў беларусаў запрашэнне да ўдзелу ў канферэнцыі прадстаўнікоў радыкальных арганізацый. Мэтай канферэнцыі было абмеркаванне магчымасці выступлення з сумеснай ідэйнай дэкларацыяй разам з Саюзам польскай дэмакратычнай моладзі-Левіцай і Саюзам незалежнай сацыялістычнай моладзі [30, арк. 37]. Але трэба адзначыць, што рэальнага супрацоўніцтва ў дадзеным накірунку наладзіць не ўдалося. Справа ў тым, што асноўная частка Саюзу студэнтаў беларусаў у гэты час знаходзілася пад уплывам Беларускай хрысціянскай дэмакратыі – Беларускага нацыянальнага аб'яднання. Гэтая арганізацыя стаяла на даволі памяркоўных пазіцыях і, акрамя таго, яе ідэалогіі не адпавядаў ваяўнічы антыклерыкалізм сіндыкалістаў з Аб'яднаня сіндыкалістычнай моладзі.

Трэба адзначыць, што актыўнасць віленскіх сіндыкалістаў вельмі часта прымала даволі радыкальныя формы. Так, напрыклад,у лістападзе 1936 г. члены Аб'яднання сіндыкалістычнай моладзі, Е. Вроньскі і Т. Брадоўскі, двойчы на працягу двух дзен збілі рэдактара кансерватыўнай віленскай газеты «Слова» С. Мацкевіча. Цікава, што Т. Брадоўскі навогул адлупцаваў рэдактара пугай, паколькі не лічыў яго «чалавекам гонару». Прычынай дадзенага эксцэсу сталі «паклёпніцкія» артыкулы С. Мацкевіча ў прэсе, накіраваныя супраць Саюза прафесіянальных саюзаў і ўсяго «прагрэсіўнага руху» [63, с. 6; 206, с. 6].

Акрамя кансерватараў традыцыйнымі праціўнікамі членаў Аб'яднання сіндыкалістычнай моладзі заставаліся польскія нацыяналісты. Найбольш значнай акцыяй ў іх супрацьстаянні сталі падзеі 1937 г., калі маладыя сіндыкалісты сілай спрабавалі прарваць

антысеміцкую блакаду Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя, якая была арганізавана членамі «Усяпольскай моладзі» [216].

Неабходна адзначыць, што дзяржаўныя ўлады і кіраўніцтва вышэйшых навучальных устаноў адмовіліся рэгістраваць арганізацыю маладых сіндыкалістаў і ў сувязі з гэтым Аб'яднанне сіндыкалістычнай моладзі уступіла ў якасці аўтаномнага маладзёжнага аддзелу ў Рабочы інстытут асветы і культуры імя С. Жэромскага (Robotniczy Instytut Oświaty i Kultury imienia S. Żeromskiego). Гэта была сіндыкалістычная асветніцкая арганізацыя, створаная ў 1930 г., якая супрацоўнічала з Саюзам прафесійных саюзаў пры стварэнні самаадукацыйных груп, арганізацыі навучання, лагероў адпачынку, спартыўных спаборніцтваў і лекцый на гістарычныя, сіндыкалістычныя і літаратурныя тэмы. Такім чынам, члены Аб'яднання сіндыкалістычнай моладзі ўсе ж такі ўдзельнічалі ў выхаваўчай працы. Але гэтая праца развівалася не ў тым накірунку, які прадугледжваўся «санацыяй».

Прадстаўнікі «санацыйнага» рэжыму, назіраючы за паступоваў радыкалізацыяй Саюза польскай дэмакратычнай моладзі, паспрабавалі стварыць яму сваеасаблівую альтэрнатыву – новую праўрадавую арганізацыю, якая б працавала ў асяроддзі студэнцтва і маладой інтэлігенцыі. У выніку узнік Легіён маладых – Арганізацыя працы для дзяржавы (Legion Młodych – Związek Pracy dla Państwa). Афіцыйна гэтае аб'яднанне было створана 13 лютага 1930 г. па ініцыятыве галоўных дзеячоў «санацыйнай» «групы палкоўнікаў»: В. Славэка, А. Скварчыньскага і Я. Енджэевіча. Менавіта яны стварылі сеньярат, які спачатку аказваў апеку арганізацыі, распрацоўваў яемэты, задачы і лозунгі [176, с. 47 – 48].

У прэамбуле «Ідэйнай дэкларацыі» Легіёна маладых, якая выйшла ў пачатку 1930-х гг., заяўлялася аб неабходнасці перабудовы дзяржаўнага жыцця такім чынам, каб «усе дзяржаўныя сілы маглі быць належным чынам выкарыстаны». Ранейшыя формы і метады працы прызнаюцца не адпавядаючымі сучасным умовам. У дакуменце асуджаецца «традыцыйны, празмерны польскі індывідуалізм» і заяўляецца аб неабходнасці падпарадкавання асобы дзяржаўным інтарэсам: «Запас здольнасцей і сіл асобы павінен быць цалкам перададзены ў распараджэнне Дзяржавы і выкарыстоўвацца згодна з Яго інтарэсамі» [72, с. 4].

Планавалася змяніць «свабодныя адносіны паміж Дзяржавай і грамадзянінам, які трактуе Дзяржаву індывідуалістычна», на цеснае арганізацыйнае аб'яднанне. Для гэтага, на думку ідэолагаў Легіёна маладых, патрэбна было стварыць карпарацыйную Дзяржаву, «якая

звязвае грамадзян з сабою праз прафесійныя, гаспадарчыя і культурныя аб'яднанні». Парламенцкі лад планавалася замяніць прафесійна-гаспадарчым прадстаўніцтвам [72, с. 4].

Дзяржава, згодна з «Дэкларацыяй», павінна была мець права ўмешвацца ў гаспадарчае жыццё. Толькі пры гэтай умове яна атрымае магчымасць развівацца згодна са сваімі мэтамі [72, с. 4].

Паколькі Легіён маладых з'яўляўся моладзевайай арганізацыя, то яго «Дэкларацыя» не магла абыйсці праблему выхавання маладога пакалення. «Істотныя вартасці дзяржаўнай культуры і пачуццё інтарэсаў Дзяржавы» належыла прышчапіць моладзі шляхам «дзяржаўнага выхавання» ў школах і выхаваўчых установах. Пасля перабудовы гаспадарчага і палітычнага ладу павінна было адбыцца культурнае пераўтварэнне, якое зробіць даступным шырокім слаям грамадства «здабытак чалавечай думкі» [72, с. 4].

Асноўныя ідэі «Ідэйнай дэкларацыі» Легіёна маладых былі сфармуляваны ў пятнаццаці пунктах. У першым з іх было заяўлена пра тое, што ЛМ лічыць сябе «спадкаемцам і пераемнікам ідэі незалежніцкага пакалення, якое пад кіраўніцтвам маршала Ю. Пілсудскага заваявала незалежнасць і адбудавала дзяржаўнасць Польшчы». Ён аб'яўляўся «сімвалам здаровага салдатскага дзеяння і ахвярнай працы для Дзяржавы» і ідэйным правадыром Легіёна маладых [72, с. 4].

Нацыя, арганізаваная на прынцыпах іерархіі і дысцыпліны, павінна была аддаваць усе свае сілы дзяржаве. Чалавек працы і салдат аб'яўляліся элітай нацыі. Праца, згодна з «Дэкларацыяй», была першым абавязкам грамадзяніна і адзіным «тытулам для карыстання грамадскімі паслугамі». Адзіным дзяржаўнатворчым фактарам аб'яўляюцца працуючыя слаі грамадства. Гістарычнай неабходнасцю было аб'яднанне «польскай дзяржаўнай думкі»з «польскім светам працы» [72, с. 4].

Задачай маладога пакалення Легіён маладых лічыў распрацоўку і правядзенне ў жыццё праграмы гаспадарчай і палітычнай перабудовы. Польская дзяржава павінна была адмовіцца ад ліберальна-капіталістычнага гаспадарчага ладу і ператварыцца ў «дзяржаву арганізаванай працы, якое знаходзіцца пад кіраўніцтвам іерархічна арганізаванай прафесійнай эліты і вядзе сваю гаспадарку па прынцыпах планавасці». Асновай плану павінна было стаць імкненне да гаспадарчай самастойнасці. Новы гаспадарчы лад павінен быў абапірацца на кантролі дзяржавы за вытворчасцю і прымусовых прафесійных саюзах [72, с. 5].

Парламенцкі лад павінен быў быць заменены карпарацыйным, ці «прадстаўніцтвам адпаведна разбудаваных прафесійных саюзаў». Разам са зменамі ў гаспадарчай і палітычнай сферах павінна была адбывацца ператварэнне грамадскай псіхікі [72, с. 5].

«Дэкларацыя» заяўляла аб гістарычнай місіі Польшчы па арганізацыі «суіснавання і супрацоўніцтва нацый», якія жывуць паміж Балтыйскім і Чорным марамі. Адначасова заяўлена і аб тым, што абарона дзяржавы і яе межаў павінна аб'яднаць усіх грамадзян Рэчы Паспалітай. Асобным пунктам у «Дэкларацыі» праходзіць пытанне неабходнасці замацавання Польшчы на Балтыцы і развіцця гандлёвага і ваеннага флоту [72, с. 5].

Ідэолагі Легіёна маладых асуджалі «пасевы нянавісці, якія атручваюць і разладжваюць калектыўнае жыццё, не гледзячы на тое, з якога боку яны з'явіліся. Такім чынам, Легіён маладых выступаў як супраць правых, эндэкаў, так і супраць левых, камуністаў [72, с. 5].

Дэкларацыя Легіёна маладых прызнавала прынцып свабоды сумлення пры стварэнні новага тыпу польскага грамадзяніна. Пры гэтым прызнавалася этычная вартасць рэлігійнага фактара, а рэлігія лічылася крыніцай ідэальных элементаў чалавечнасці [72, с. 5].

Апошні пункт дэкларацыі абвяшчаў, што ў грамадскім жыцці павінна была быць абавязковай адказнасць за накрэсленыя і пастаўленыя задачы. Члены Легіёна павінны былі трымаць сваё слова і выконваць свае абавязкі. Асабісты і калектыўны гонар звязваўся з гонарам працы [72, с. 5].

Як бачна, для ідэалогіі Легіёна маладых была характэрна даволі абвостраная сацыяльная фразеалогія. Трэба адзначыць, што ён, у адрозненні ад Саюза польскай дэмакратычнай моладзі, прызнаваў нават станоўчае значэнне некаторых грамадскіх эксперыментаў у СССР – «У Саветах на самой справе ўзводзіцца новая пабудова чалавечага побыту» [21, арк. 215].

Усё гэта выклікала нараканні з боку кансерватараў. Віленскі журналіст і рэдактар газеты «Слова» С. Мацкевіч адзначаў у сваіх успамінах, што «ЛМ [Легіён маладых] плаваў у фразеалогіі, якая пастаўлялася савецкай прапагандай. За такую ж балбатню, за такія ж самыя лозунгі, які-небудзь Сенька з беларускай вёскі ійшоў у турму, а студэнт-младалегіянер – на абед з прэм'ерам» [118, с. 244].

Але прадстаўнікі аб'яднання адвяргалі абвінавачванніў камунізме. Так, Е. Кетуракіс, віленскі публіцыст Легіёна маладых, адзначаў, што «бунт супраць сацыяльнай несправядлівасці і камунізм – гэта не адно і тое ж». Аўтар прызнаваў, што ў імкненні да «псіхічнай перабудовы грамадзяніна, мы будзем часта накіроўваць яго ўвагу на тыя ж з'явы

капіталістычнага ладу, якія для сваёй міжнароднай прапаганды выкарыстоўвае бальшавізм, але гэта нікому не дае права абвінавачваць нас у тым, што мы жадаем выхаваць маладога грамадзяніна ў камуністычным духу» [101, с. 4].

У тым жа артыкуле даваўся і выхаваўчы ідэал, якога імкнуліся дасягнуць младалегіянеры. Абвяшчалася, што ў сваёй выхаваўчай акцыі Легіён маладых улічвае патрэбы польскай рэчаіснасці і жадае «стварыць з польскага пралетарыяту, які працуе як фізічна, так і разумова, палітычна свядомага і актыўнага грамадзяніна Дзяржавы, абудзіць у польскім селяніне патрыятычнае пачуццё і ўсведамленне грамадзянскіх абавязкаў, непарыўна звязаць яго з Дзяржавай, каб ён адчуваў, што сіла і дабрабыт Дзяржавы з'яўляюцца яго сілайі дабрабытам, а слабасць і боль Дзяржавы з'яўляюцца яго слабасцюі болем...» [101, с. 4]. Дарэчы, гэты тэзіс сведчыць, што ЛМ не збіраўся абмяжоўваць свой уплыў толькі студэнцкай моладдзю.

Даволі складанымі былі адносіны паміж аб'яднаннем і каталіцкім касцёлам. Гэта было звязана ў тым ліку і з выхаваўчымі ідэямі Легіёна. Так, галоўны камендант аб'яднання, З. Запасіевіч, сцвярджаў, што Легіён маладых «належным чынам ацэньвае значэнне для асобы прыватнай этыкі, якая вынікае з асобных рэлігійных сістэм і ў пэўнай, хоць і вельмі невялікай меры, рэгулюе яе адносіны да іншых асоб, але галоўны націск робіць на грамадскае выхаванне грамадзяніна». Акрамя таго, Легіён выступаў супраць «усіх міжнародных органаў, якія ставяць інтарэсы асобных класаў і груп па-над інтарэсамі Дзяржавы». У першую чаргу, на думку лідэра арганізацыі, палітыку, спрэчную з дзяржаўнымі інтарэсамі, праводзілі Камінтэрн, касцёл, капітал [71, с. 176].

Такая антыклерыкальная пазіцыя младалегіянераў таксама выклікала абвінавачванні ў камунізме, на гэты раз з боку іерархаў рымска-каталіцкай царквы. Так, кардынал А. Глонд, прымас Польшчы, заяўляў у адным са сваіх пасланняў (люты 1934): «Аб'яднанне пад назвай Легіён маладых стала на камуністычныя пазіцыі. Не гледзячы на заявы пра адваротнае, яно адмаўляе хрысціянства, змагаецца з царквой. Узводзіць паклёп на св. Сталіцу і каталіцкія арганізацыі. Яно жадае падзелу і барацьбы Дзяржавы з Царквою. Калі гэтая антыкаталіцкая і камуністычная арыентацыя будзе захоўвацца ў перыёдыцы і дакладах, трэба будзе лічыць Легіён маладых аб'яднаннем, якое асуджаецца царквою згодна з кананічным правам» [129, с. 581].

Трэба адзначыць, што сярод каталіцкіх іерархаў былі, хацяі нешматлікія, выключэнні. Напрыклад, вядома, што прыязна ставіўся

да Легіёна маладых біскуп У. Бандурскі, пра якога мы ўжо неаднаразова ўспаміналі. Ён нават благаславіў гэтае праўрадавае аб'яднанне незадоўга да сваёй смерці вясной 1932 г. [57, с. 1].

Аднак, карыстаючыся падтрымкаю высокіх заступнікаў з ліку кіраўнікоў 2-й Рэчы Паспалітай, Легіён Маладых мог не баяцца абвінавачванняў з боку кансерватараў і клерыкалаў і паспяхова развіваць сваю працу. Першапачаткова ён ствараўся як элітарная арганізацыя, якая павінна дзейнічаць у студэнцкім асяроддзі і выхоўваць кіруючыя кадры для маладзёжнага руху. Як пісаў адзін з віленскіх младалегіянерскіх публіцыстаў, ён «меў задачу ажыццявіць пералом ў псіхіцы польскага студэнта, якая дэгенеравала, ён меў задачу зрабіць пралом у маразме безыдэйнасці і дэмагогіі, якія глыбока ўкараніліся ў маладой акадэмічнай супольнасці» [84, с. 3]. Таму першыя ячэйкі аб'яднання ствараліся ў вышэйшых навучальных установах 2-й Рэчы Паспалітай, у тым ліку і ў Віленскім універсітэце.

Але ўжо з мая 1932 г. арганізацыя стала пашыраць свой уплыў на вясковую, гарадскую рабочую моладзь і маладых чыноўнікаў. Было заяўлена, што гэтага патрабуе польская рэчаіснасць, якой з'яўляюцца неабходнымі «акрэсленыя накірункі выхаваўчыхі канструктыўных ідэй для ўсяго маладога пакалення незалежнай Польшчы» [84, с. 3].

Гэта прывяло да таго, што ў 1934 г. толькі 25% членаў Легіёна маладых былі студэнтамі, астатнія 75% – не студэнцкі элемент, у асноўным маладыя чыноўнікі [149, с. 22 – 23]. Неабходна адзначыць, што многія прадстаўнікі чыноўніцтва і маладой інтэлігенцыі ўступалі ў арганізацыю, спадзяючыся на кар'ерны рост. Рэдактар віленскай «Слова» С. Мацкевіч іранізаваў па гэтай прычыне, што «гэтая моладзь аб'ядноўваецца з мэтай здабычы дзяржаўных пасад, якіх пачынае не хапаць, паколькі ўся польская інтэлігенцыя жадае стаць чыноўнікамі» [118, с. 239].

Сапраўды, імкненне заняць пасаду ў дзяржаўным апараце было даволі распаўсюджаным сярод членаў аб'яднання. Публіцысты Легіёна маладых сцвярджалі, што адной з прычын цяжкага становішча моладзі, якая пазбаўлена аплочваемай працы і сродкаў да існавання, з'яўляецца «эгаізм старэйшага пакалення». Праявамі гэтага эгаізму аб'яўлялася, напрыклад, займанне аплочваемых пасад пенсіянерамі ці асобамі, якія ўжо валодаюць высокааплочваемымі пасадамі [200, с. 3]. Таксама незадаволенасць младалегіянераў выклікала практыка, калі муж і жонка адначасова займалі пасады. Ва умовах эканамічнага крызісу гэта, на іх думку, было несправядлівым. Нават існавалі прапановы выдаць закон, які б забараняў аб'ядноўваць у адной сям'і

некалькі аплочваемых пасад. Гэта было б вырашэннем пытання «на карысць беспрацоўнай інтэлігенцыі і Дзяржавы» [102, с. 3 – 4].

Акрамя студэнцкага, рабочага і чыноўніцкага асяроддзя Легіён маладых здолеў распаўсюдзіць свой выхаваўчы уплыў і на тэрыторыю сярэдняй школы. Пад яго кіраўніцтвам знаходзілася створаная ў 1932 г. вучнёўская арганізацыя «Перадавая варта» (Straż Przednia). Ініцыятарам яе стварэння, як і стварэння Легіёна маладых, з'яўляўся відны ідэолаг санацыі А. Скварчыньскі. На яго думку галоўным выхаваўчым прынцыпам «Перадавой варты» павінна было стаць «аб'яднанне ідэйна-самавыхаваўчай працы з адначасовай, хоць і нават самай сціплай, практычнай дзейнасцю». Асноўнай арганізацыйнай адзінкай «Перадавой варты» з'яўляўся калектыў, які займаўся ідэйна-выхаваўчай працай. Аднак, у залежнасці ад імкненняў і схільнасцяў сваіх членаў, калектыў дзяліўся на гурткі, якія вялі практычную дзейнасць. Прадметам гэтай дзейнасці маглі з'яўляцца як школьныя (школьнае самакіраванне, навуковыя, літаратурныя і музычныя гурткі, самадапамога), так і пазашкольныя справы [175, с. 208 – 209]. Трэба адзначыць, што адным з накірункаў пазашкольнай практычнай дзейнасці «Перадавой варты» была ідэйна-выхаваўчая праца на вёсцы на тэрыторыі «крэсаў» 2-й Рэчы Паспалітай,у тым ліку і на тэрыторыі Заходняй Беларусі [201, с. 170].

Адначасова «Перадавая варта» павінна была рыхтаваць будучых кіраўнікоў «санацыйных» арганізацый, у тым ліку і молпадзевыхх саюзаў. Пра членаў гэтай арганізацыі казалася: «Калі праз некалькі год ён – малады юрыст, урач ці настаўнік – у далёкай мясцовасці распачне працу ў арганізацыі супрацьхімічнай і супрацьпаветранай абароны, “Стральцы” ці гуртку вясковай моладзі, то Дзяржава будзе спакойнай за гэтую сферу грамадскага жыцця» [116, с. 410]. Характэрна, што ўжо адразу пасля стварэння «Перадавой варты», кіраўнікі школ атрымалі ад міністэрства і куратараў школьных акруг атрымалі цыркуляр пра неабходнасць падтрымліваць дзейнасць гэтай арганізацыі на тэрыторыі падпарадкавых ім навучальных устаноў [136, с. 248].

Што тычыцца дзейнасці Легіёна маладых непасрэдна на тэрыторыі Заходняй Беларусі, то трэці кангрэс арганізацыі прыняў пастанову ўзяць «крэсы» пад сваю апеку [27, арк. 36]. Пры гэтым адной са сваіх галоўных задач младалегіянеры абвясцілі «ўсведамленне грамадствам каштоўнасці Усходніх крэсаў для Дзяржавы і стварэнне грамадзяніна, які б на кожнай пасадзе на крэсах лічыў працу ганаровым абавязкам, а не сумнай паншчынай, як гэта не раз было раней» [8, арк. 19].

Трэба адзначыць, што першапачаткова антыкапіталістычная фразеалогія барацьбы за «справядлівую Польшчу, у якой дзеці будуць даведвацца пра беспрацоўе толькі ад настаўнікаў гісторыі,у якой сумеснае жыццё народаў не будзе патрабаваць пацыфікацый і шыбеніц» рабіла Легіён маладых прывабным для моладзі Заходняй Беларусі. Таксама моладзь прываблівау антыклерыкалізм арганізацыі і негатыўнае стаўленне да яе з боку касцёла. Так, у інфармацыі Беластоцкага Акруговага камітэту Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі паведамлялася, што ў Ваўкавыску група моладзі далучылася да Легіёна маладых пасля таго, як мясцовы ксёндз у сваім казанні абвясціў гэтае аб’яднанне камуністычным [22, арк. 114]. Як адзначалі крыніцы Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, асабліва актыўна Легіён маладых дзейнічаў там, дзе рабочая моладзь пакінула тыя ці іншыя «санацыйныя» арганізацыі. Так, пасля забастоўкі тэкстыльшчыкаў на Беласточчыне ў 1933 г. і распада там стралецкіх атрадаў, на змену ім прыйшлі ячэйкі Легіёна маладых [21, арк. 243]. Дарэчы трэба адзначыць, што існавала нават своеасаблівая суперніцтва паміж Легіёнам маладых і «Стральцом», хаця на словах дэкларавалася іх супрацоўніцтва. Нярэдка ў гэтае суперніцтва ўмешваліся пабочныя асобы. Так, напрыклад, на адной з гродненскай фабрык дырэктар дазваляў маладым рабочым уступаць толькі ў «Стралец», пагражаючы ім звальненнем за членства ў Легіёне маладых [111, с. 4].

Згодна з архіўнымі дакументамі, у Заходняй Беларусі ў складзе младалегіянерскіх атрадаў было звыш 1 000 чалавек, у асноўным палякаў – рабочых і прадстаўнікоў дзяржаўнага апарату. Найбольшую актыўнасць арганізацыя праяўляла на Беласточчыне [24, арк. 63]. Як адзначаюць польскія даследчыкі, у перыяд свайго найбольшага росквіту ў 1933 – 1934 гг. Легіён маладых налічваў на ўсёй тэрыторыі 2-й Рэчы Паспалітай 20 000 – 25 000 членаў [176, с. 48].

Але, як паказала практыка, уплыў арганізацыі ў асяроддзі студэнцтва і маладой інтэлігенцыі быў мінімальным. Легіён маладых быў не ў стане перамагчы дамінаванне нацыяналістаў з «Усяпольскай моладзі». На тэрыторыі Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя, напрыклад, младалегіянеры не здолелі вясной 1933 г. прадухіліць студэнцкую забастоўку, выклікaную спробамі абмежаваць акадэмічную аўтаномію.

Вельмі хутка росквіт Легіёна змяніўся арганізацыйным крызісам. Як і ў выпадку з Саюзам польскай дэмакратычнай моладзі, у Легіёне маладых пачаўся працэс радыкалізацыі. Многія радавыя члены расчараваліся ў «санацыйным» рэжыме і дзейнасці ўласнай арганізацыі і яе кіраўніцтва. Паказальным у гэтых адносінах

з'яўляецца беластоцкі гарадскі атрад Легіёна маладых. У 1932 г. ён налічваў 500 чалавек. За два наступныя гады адбыўся масавы адток маладых рабочых, пры гэтым частка з іх была выключана за «радыкалізм». У выніку, у канцы кастрычніка 1934 г. у мясцовым атрадзе было запісана 170 чалавек, з якіх толькі 80 з'яўляліся актыўнымі членамі арганізацыі. Калі вярхоўнае кіраўніцтва Легіёна маладых прыняло рашэнне распусціць акруговы камітэт, ён заклікаў младалегіянераў уступаць у Польскую сацыялістычную партыю [25, арк. 143].

У Віленскім універсітэце імя С. Баторыя шэраг кіраўнікоў мясцовага Легіёна маладых былі звязанымі з пракамуністычным Саюзам студэнцкай лявіцы «Фронт» (Związek Lewicy Akademickiej «Front»). Напрыклад, камендантам універсітэцкага атрада Легіёна маладых у 1934 г. быў абраны У. Рыньца, які адначасова з'яўляўся членам «Фронта» [142, с. 184]. Былы член арганізацыі – С. Ендрыхоўскі быў фактычным ідэолагам «Фронта». Акрамя таго, калі ў сярэдзіне 1930-х гг. ва універсітэтах 2-й Рэчы Паспалітай была павышана плата за навучанне, у «антыаплатнай акцыі», якая зноў суправаджалася забастоўкамі, прынялі ўдзел і члены Легіёна [142, с. 184].

Вынікам радыкалізацыі стала пазбаўленне ў 1935 г. падтрымкі з боку сеньёраў Легіёна маладых. Гэта і было галоўнай прычынай крызісу арагнізацыі. Аб гэтым, напрыклад, сведчыць справаздача грамадска-палітычнага аддзелу Палескага ваяводскага ўпраўлення. Справаздача адзначала, што ў сярэдзіне 1934 г. у Брэсце была арганізавана камендатура Палескай акругі Легіёна маладых, якой падпарадкоўваліся сем раёнаў (абводаў). Агульная колькасць членаў акруговай арганізацыі дасягала болей за 300 чалавек. Але «асуджэнне метадаў працы ЛМ [Легіёна маладых] з боку Кола Сеньёраў у 1935 г. стала паваротным пунктам у дзейнасці ЛМ на Палессі». У выніку да красавіка 1936 г. тут захаваліся толькі акруговая камендатура і 4 раёны (абвода), якія разам налічвалі каля 50 чалавек. Пры гэтым, згодна са справаздачай, арганізацыя не мела ніякага ўплыву і не вяла ніякай дзейнасці [3, арк. 30].

Частка радыкальна настроеных членаў Легіёна стварыла ўласную арганізацыю – Легіён маладых-Фракцыя (Legion Młodych-Frakcja). Яны абвінавацілі вярхоўнае кіраўніцтва ў тым, што яно «канчаткова парвала з лагерам дэмакратыі, запісаўшы на сваіх сцягах лозунгі фашызму і антысемітызму». У сваёй «Ідэйна-праграмнай дэкларацыі» арганізацыя выступала за неабходнасць перабудовы існуючага лада такім чынам, каб «у дзяржаўную канструкцыю былі ўведзены працуючыя класы ў якасці арганічнай фундаментальнай часткі».

Менавіта працуючым класам павінна было быць перададзена кіраўніцтва ўсім абагульненным гаспадарчым жыццём. Асновай палітычнага жыцця павінны былі стаць «прынцыпы сапраўднай дэмакратыі». У гаспадарчай сферы ідэолагі Легіёна маладых-Фракцыі патрабавалі правядзенне нацыяналізацыі сродкаў вытворчасці і стварэння планавай гаспадаркі, заснаванай на «бяскласавай структуры грамадства» [109, с. 8].

У Вільні Легіён маладых-Фракцыя наладзіў цеснае супрацоўніцтва з радыкальнымі арганізацыямі, у першую чаргу з Аб'яднаннем сіндыкалістычнай моладзі і Саюзам незалежнай сацыялістычнай моладзі. У далейшым большая частка яго членаў далучыліся да Польскай сацыялістычнай партыі.

Што тычыцца рэшткаў Саюза польскай дэмакратычнай моладзі і Легіёна маладых, якія засталіся вернымі «санацыйнаму» рэжыму, то ў снежні 1938 г. на іх аснове была створана новая арганізацыя – Легіён польскай моладзі (Legion Młodzieży Polskiej). Аднак трэба адзначыць, што гэтае аб'яднанне не мела вялікага ўплыву і не здолела праявіць сябе да пачатку Другой сусветнай вайны.

Акрамя Саюза польскай дэмакратычнай моладзі, Легіёна маладых і праўрадавых карпарацый дзеячы «санацыі» для распаўсюджвання сваіх уплываў сярод студэнцтва стварылі і некалькі «рэгіянальных» арганізацый. У Віленскім універсітэце імя С. Баторыя, напрыклад, такой арганізацыяй быў Саюз студэнтаў паўночна-усходніх зямель Рэчы Паспалітай (Związek Studentów Ziem Północno-wschodnich Rzeczypospolitej Polskiej). Дадзеная арганізацыя узнікла ў красавіку 1937 г. пры непасрэднай падтрымцы Таварыства развіцця ўсходніх зямель (Towarzystwo Rozwoju Ziem Wschodnich) [113, с. 3 – 4]. Дадзенае студэнцкае аб'яднанне ставіла перад сабой мэту «падрыхтаваць студэнцкую моладзь да прафесійнай працы на тэрыторыі ўсходніх зямель праз абуджэнне асаблівай зацікаўленасці гэтымі землямі» [114, с. 6]. Арганізацыя павінна была аб'яднаць усю студэнцкую моладзь ускраінных зямель. Дэкларавалася, што нацыянальныя, рэлігійныя і маёмасныя розніцы ў Саюзе не павінны існаваць – усе студэнты з'яўляюцца роўнымі паміж сабою. Таксама абвяшчалася, што члены арганізацыі будуць імкнуцца да аблягчэння умоў навучання праз арганізацыю святліцы, выдзяленне крэдытаў і г. д. [62, с. 2].

Саюз праводзіў актыўную грамадскую, культурна-асветніцкую і краязнаўчую працу на тэрыторыі Віленскага ваяводства. Таксама была арганізавана акцыя дапамогі незаможным членам аб'яднання. Тым не менш, вялікага ўплыву сярод асноўнай масы віленскага студэнцтва Саюз студэнтаў паўночна-усходніх зямель не набыў.

Акрамя ўсяго іншага, яго развіццю перашкодзіў пачатак Другой сусветнай вайны.

Такім чынам, трэба прызнаць, што «санацыя» не здолела дасягнуць значных поспехаў у барацьбе за ўплыў на студэнцкую моладзь і маладую інтэлегенцыю. На працягу ўсяго міжваеннага перыяду яна не змагла ліквідаваць засілле польскіх эндэкаў ва універсітэцкім асяроддзі. Можна адзначыць, што спробы «санацыі» стварыць свае студэнцкія ідэйна-выхаваўчыя арганізацыі – Саюз польскай дэмакратычнай моладзі і Легіён маладых – таксама не далі чакаемага выніку і скончыліся правалам. Замест таго, каб выхоўваць студэнтаў у духу вернасці існуючаму рэжыму, гэтыя арганізацыі ў выніку ўнутранай радыкалізацыі перайшлі ў апазіцыю да яго.

**4. 3. Удзел дзяржаўных і грамадскіх структур 2-й Рэчы Паспалітай у рэалізацыі канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання».**

Асвятляючы рэалізацыю дзяржаўных выхаваўчых канцэпцый на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд, неабходна звярнуць увагу на тое, што ў гэтым працэсе прымалі ўдзел не толькі сістэма адукацыі 2-й Рэчы Паспалітай і праўрадавыя моладзевыя арганізацыі. Трэба адзначыць, што «санацыйныя» ўлады імкнуліся выкарыстоўваць ў сваіх выхаваўчых мэтах магчымасці дзяржаўных інстытутаў і шматлікіх грамадскіх арганізацый.

Вельмі важным выхаваўчым інстытутам у 2-й Рэчы Паспалітай лічылася армія, Войска Польскае. Армія лічылася прызнаным стабілізуючым элементам дзяржаўнай сістэмы выхавання. Таму Войска Польскае, акрамя сваіх непасрэдных абарончых функцый, павінна было весці шматлікія прапагандысцкія акцыі, ажыццяўляць патранат над шматлікімі ваенізаванымі арганізацыямі [193, с. 187]. Напрыклад, менавіта пад апекай вайсковых структур развівалася дзейнасць Стралецкага саюза і ажыццяўлялася ваенная падрыхтоўка школьнай моладзі. Шмат увагі выхаваўчай акцыі надавалася і ўнутры самаго Войска Польскага.

Яшчэ ў 1924 г. член вайсковай камісіі М. Вішліньскі заявіў у час выступлення ў сейме, што «армія з’яўляецца выхаваўчым фактарам. Разам са школай яна вучыць грамадзянскаму пачуццю, вучыць шанаваць уладу». Але адначасова ён прызнаваў, што «сярод прызыўнікоў яшчэ сустракаюцца такія, хто не можа паведаміць, што такое Польшча» [153, с. 168]. Ліквідаваць гэты недахоп павінна было выхаванне, якое вялося ў арміі. Лічылася, што толькі ў войску ўсталёўваецца і паглыбляецца светапогляд салдат, а праца ў накірунку «грамадскага ўсведамлення» вельмі моцна ўплывае на змену

іх адносін да дзяржавы і войска. Таксама кіраўніцтва ўзброеных сілаў верыла ў тое, што ваенная служба будзе садзейнічаць асіміляцыі славянскіх меншасцяў 2-й Рэчы Паспалітай праз «заахвочваючы прыклад польскай культуры», а таксама дзякуючы таму, што на час службы салдат быў вырваны з-пад антыасіміляцыйнага ўплыву роднага асяроддзя [153, с. 168].

Менавіта ў сувязі з апошнім момантам ужо з мая 1922 г. польскія вайсковыя ўлады сталі практыкаваць экстэрытарыяльны прынцып фарміравання ўзброеных сіл. Воінскія часткі, якія размяшчаліся на «крэсах» папаўняліся рэкрутамі польскай нацыянальнасці, а прызыўнікоў беларускай, украінскай і яўрэйскай нацыянальнасці накіроўвалі ў цэнтральныя і заходнія ваяводствы польскай дзяржавы. З аднаго боку гэта павінна было ўзмацніць баяздольнасць Войска Польскага: лічылася, што нельга дапускаць, каб палкі, якія знаходзіліся на ўсходзе 2-й Рэчы Паспалітай мелі ў сваім складзе празмерную колькасць беларусаў, украінцаў і яўрэяў – «элементу чужога, часта варожа настроенага да польскай дзяржаўнасці». З другога боку экстэрытарыяльнасць павінна была выконваць своеасаблівыя «выхаваўчыя» функцыі, а дакладней спрыяць паланізацыі рэкрутаў з усходніх ваяводстваў 2-й Рэчы Паспалітай. Як адзначаюць некаторыя сучасныя даследчыкі, вайсковыя ўлады лічылі, што ў час службы прызыўнікі, пазнаёміўшыся з невядомымі ім эканамічнымі дасягненнямі і заходнімі культурнымі каштоўнасцямі заходніх і цэнтральных ваяводстваў польскай дзяржавы, стануць больш прыдатнымі для паланізацыі [39, с. 72].

Як сведчаць дакументы польскіх вайсковых структур,у некаторых выпадках прынцып экстэрытарыяльнасці прыносіў вынікі. Напрыклад, у рапартах з VIII вайсковай акругі (захад 2-й Рэчы Паспалітай, цэнтр – г. Торунь) у адносінах да салдат-беларусаў паведамлялася: «Уплыў службы на змену настрояў вельмі станоўчы, як з пункту гледжання культурна-цывілізацыйнага, так і з пункту гледжання адносін да Дзяржавы. Культурныя ваколіцы краю, вышэйшае цывілізацыйнае атачэнне, лад і парадак ў падраздзяленнях з'яўляюцца фактарам, які пазітыўна ўплывае на вышэйназваных; добрае і справядлівае абыходжанне начальнікаў, дастатак, культурна-асветніцкая праца ўплываюць на станоўчыя адносіны да Дзяржавы». Што тычыцца салдат-украінцаў, то той жа рапарт адзначаў, што «моцная палітычна-агітацыйная аснова» і нацыянальная свядомасць ствараюць перашкоды для адпаведнай выхаваўчай працы. Але «настойлівая праца і вышэйназваныя ўмовы даюць станоўчыя вынікі ў іх адносінах да Дзяржавы». Адначасова

адзначалася, што ў выпадку з яўрэямі і немцамі «служба ні аказвае ніякага ўплыву на змену настрояў і адносін да Польскай Дзяржаўнасці» [153, с. 169].

Дарэчы, польскія вайсковыя ўлады навогул падкрэслівалі большую прыдатнасць прызыўнікоў-беларусаў да паланізацыіў параўнанні з прадстаўнікамі іншых нацыянальных меншасцей 2-й Рэчы Паспалітай, дзякуючы іх (беларусаў) нізкай нацыянальнай свядомасці. Пры ўмове адпаведна праведзенай працы гэта павінна было прынесці станоўчыя вынікі. Напрыклад, у 1927 г. камандаванне Войска Польскага адзначала нізкае нацыянальнае, грамадзянскае і дзяржаўнае ўсведамленне беларусаў, іх рэлігійнасць, працавітасць, пакорлівасць і зацікаўленасць навучаннем [39, с. 68].

Тое ж самае тычыцца і меркавання кіраўніцтва асобных вайсковых частак. У дадзеным выпадку характэрнай з'яўляецца справаздача камандавання 22-га пяхотнага палка (10 кастрычніка 1928 г. – 1 студзеня 1929 г.), які стаяў у Седліцэ (у цэнтральнай Польшчы). Дарэчы справаздача прапаноўвала і «выхаваўчыя» метады ў адносінах да рэкрутаў-беларусаў. У гэтым дакуменце адзначалася, што «па сваіх фізічных якасцях беларусы ўяўляюць сабой добры жаўнерскі матэрыял, не горшы чым палякі,а ў асобных выпадках і лепшы. Праўда, успрымаюць тэрміновую службу ў войску як нейкае пакаранне і дакуту, з якімі аднаку рэшце рэшт належыць пагадзіцца. На выпадак вайны супраць СССР 75% беларусаў альбо адмовяцца ваяваць, альбо павярнуць зброю супраць польскіх войскаў. Разам з тым, такія настроі сярод іх пануюць звычайна толькі на першым этапе службы. Праз некалькі месяцаў вайсковага навучання і заняткаў яны робяцца паслухмянымі і выканаўчымі. Таму мы раім у першы час службы прызыўнікоў жорстка караць за самыя дробныя правінасці, а праз нейкі перыяд наадварот заахвочваць» [39, с. 69].

У якасці прыкладу «эвалюцыі» салдата-беларуса ў польскай арміі можна прывесці ўрывак з мемуараў Ф. Скібіньскага, які наступным чынам апавядаў пра прызыўніка з «усходніх крэсаў»: «Звалі яго Іван Кавалюк, быў ён малым брыдкім беларусам з глухой вёскі на ўсходніх рубяжах Палесся, на самай савецкай мяжы. Быў ён абсалютна прымітыўным і непісьменным, размаўляў на беларуска-польскай мешаніне (другога кампаненту было няшмат). Цудам цывілізацыі, які ў Грудзёндцы ён убачыў першы раз у жыцці, быў не толькі трамвай, але і... сходы. Аднак ён вызначаўся безумоўнай сялянскай этыкай і прыроджаным розумам. Ён выказваў вялікае жаданне да авалодання цывілізацыяй і – што тут хаваць – да паланізацыі. Развіваўся ён

выразна дзень за днём і калі, на мой жаль, звальняўся ў рэзерв, гэта быў ужо цалкам іншы чалавек» [153, с. 171].

Экстэрытарыяльны прынцып камплектацыі садзейнічаў паланізацыі нават тых салдат-беларусаў, якія праходзілі службу на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Адбывалася гэта дзякуючы таму, што яны служылі разам з салдатамі, якіх прызвалі з цэнтральныхі заходніх ваяводстваў 2-й Рэчы Паспалітай [39, с. 74].

Аднак, як адзначаюць сучасныя даследчыкі, прынцып экстэрытарыяльнасці камплектавання не выконваўся цалкам. Воінскія часткі на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў значнай ступені працягвалі фарміравацца за кошт мясцовых жыхароў. Напрыклад,у 1927 г. колькасць беларусаў у фарміраваннях 3-й акругі складала 18% ад усіх прызыўнікоў, у 9-й акрузе – 29%. У 1936 г. гэтыя лічбы складалі адпаведна 18% і 31%. Таксама ажыццяўленню экстэрытарыяльнасці перашкаджала і тое, што прызыўнікі-беларусы нярэдка спецыяльна запісваліся палякамі, каб служыць па месцы свайго жыхарства [39, с. 75 – 76].

З самага пачатку існавання Войска Польскага яго камандаванне надавала значную ўвагу асветніцка-выхаваўчай і культурнай працы ў салдацкім асяроддзі. Так, яшчэ ў 1921 – 1922 гг. у польскай арміі ўводзілася прымусовае навучанне прызваных рэкрутаў. Акрамя таго, што непісьменные салдаты вывучалі польскую мову і асновы матэматыкі, яны падвяргаліся і адпаведнай выхаваўчай апрацоўцы. Тым не менш, да сярэдзіны 1920-х гг. галоўны націск рабіўся менавіта на барацьбу непісьменнасцю [153, с. 171 – 175].

Змены ў гэтай сферы пачалі адбывацца пасля майскага перавароту 1926 г. Кіраўніцтва Войска Польскага на чалез Ю. Пілсудскім вырашыла, што выхаваўчы фактар павінен дамінаваць ў асветніцка-выхаваўчай дзейнасці арміі [210, с. 221].

Прадстаўнікі вайсковага камандавання лічылі, што «праца над духам салдата не менш важная, чым практычная баявая падрыхтоўка». Пры гэтым трэба адзначыць, што ў вайсковым выхаванні адбыліся тыя ж змены, што і ва ўсёй выхаваўчай сферы 2-й Рэчы Паспалітай – на змену «нацыянальнаму» прыйшло «дзяржаўнае выхаванне». Салдат, які скончыў вайсковую службу, павінен быў быць падрыхтаваным да актыўнага ўдзелу ў жыцці дзяржавы, асабліва да кантактаў з мясцовымі ўладамі. Ён абавязаны быў ўсведамляць мэты, якія жадае дасягнуць дзяржава [210, с. 221].

Цэнтральным органам, які займаўся арганізацыяй і кіраўніцтвам выхаваўчай, культурна-асветніцкай і прапагандысцкай дзейнасцю ў Войску Польскім, з’яўляўся Вайсковы навукова-выдавецкі інстытут

(Wojskowy Instytut Naukowo-Wydawniczy). У 1934 г. ён быў рэарганізаваны ў Вайсковы навукова-асветніцкі інстытут (Wojskowy Instytut Naukowo-Oświatowy). Згодна з загадам міністра вайсковых спраў да задач Вайсковага навукова-асветніцкага інстытута належалі:

- правядзенне культурна-асветніцкай працы ў арміі;
- прапаганда ідэі і праблем абароны дзяржавы ў войску, сярод прызыўнікоў, рэзервістаў і шырокіх мас насельніцтва;
- удзел у супрацьдзеянні падрыўной прапагандзе ў войску;
- правядзенне ў войску бібліятэчнай акцыі;
- выданне вайсковай прэсы і публіцыстыкі;
- кіраўніцтва вайсковай навукова-выдавецкай дзейнасцюі кантроль за бюджэтам вайсковых выдавецтваў [210, с. 226].

Пасля 1926 г. у Войску Польскім працягвалася барацьбаз непісьменнасцю – на рубяжы 1920 – 1930-х у армію прыходзіла яшчэ 40% непісьменных прызыўнікоў (у асноўным з усходніх ваяводстваў 2-й Рэчы Паспалітай). Тым не менш, усё большы націск рабіўся на грамадзянскае выхаванне і патрыятычнае выхаванне. Яго планавалася рэалізоўваць праз розныя формы навучання, выхавання і арганізацыю культурнага жыцця. Найважнейшай формай вайсковыя ўлады прызнавалі гутаркі, якія былі абавязковымі для ўсіх салдат. Тэматыка выхаваўчых гутарак ахоплівала тры раздзелы: 1) веды пра польскую дзяржаву; 2) веды пра войны і традыцыі польскай арміі; 3) абавязкі і правы салдата [210, с. 229 – 230].

Тым не менш, у другой палове 1920-х вайсковае выхаванне мела слабы эфект. Адной з прычын гэтага было тое, што фактычна не існавала ясна распрацаваных дырэктываў ў выхаваўчай галіне. Толькі ў маі 1931 г. ваеннае міністэрства выдала «Інструкцыю аб культурна-асветніцкай і выхаваўчай працы ў войску». Інструкцыя аб'ўляла культурна-асветніцкую, а дакладней выхаваўчую, працу істотнай часткай падрыхтоўкі войска. Асноўнай мэтай гэтай дзейнасці было прызнана «фарміраванне і загартоўка салдацкага духу, які з'ўляецца асновай арміі». Інструкцыя адзначала, што гэтую мэту магчыма дасягнуць праз грамадзянскае выхаванне радавых, якое павінна ахопліваць прывіванне салдатам маральных прынцыпаў, «прывучэнне» да ахвярнай службы ў імя дзяржавы незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання, стварэнне імунітэту супраць варожай прапаганды, развіццё псіхікі ў накірунку павышэння баявой гатоўнасці, знаёмства з асновамі агульных ведаў і культурнае ўздзеянне. Галоўнымі формамі культурна-асветніцкай дзейнасці прызнаваліся: правядзенне салдацкіх школ пачатковага навучання, выхаваўчыя гутаркі,

стварэнне бібліятэк, агульнае і прафесійнае навучанне, культурная дзейнасць. Да апошняй адносіліся: урачыстасці і святкаванне дзяржаўных і вайсковых святаў, дзейнасць Дамоў польскага салдата, салдацкіх святліц і афіцэрскіх казіно, выкарыстанне кіно і радыё, арганізацыя краязнаўчых экскурсій [210, с. 237].

Асобамі, якія адказвалі за рэалізацыю ўсіх накірункаў выхаваўчай працы, былі камандзіры ўсіх узроўняў. Кантроль ажыццяўлялі рэферэнты па пытанням асветы пры ваенным міністэрстве і штабах акруг, а таксама асветніцкія афіцэры ў гарнізонах і падраздзяленнях.

Што да канкрэтных накірункаў культурна-асветніцкай працы, то мэтай салдацкіх школ было «даць салдатам, якіяў школьным узросце цалкам ці часткова былі пазбаўлены навучання, асновы агульных ведаў, неабходных для ўмелагаі свядомага выканання грамадзянскіх і салдацкіх абавязкаў». Праграма салдацкіх школ дзялілася на тры ступені, якія адпавядалі тром класам усеагульнай школы. Пасля заканчэння школы выпускнікі атрымоўвалі ганаровае пасведчанне ад цывільнай сістэмы адукацыі. Праграма першай ступені прадугледжвала 150 гадзін заняткаў (75 гадзін польскай мовы, 30 гадзін матэматыкі, 20 гадзін на веды пра польскую дзяржаву, 10 гадзін на веды пра «вайну і нацыянальнае войска», 15 гадзін – салдацкіяі грамадзянскія правы і абавязкі). На другой і трэццяй ступенях навучанне займала па 120 гадзін (па 45 гадзін на польскую мовуі 30 гадзін на матэматыку). За выключэннем польскай мовыі матэматыкі астатнія прадметы залічваліся да выхаваўчых гутарак і вывучаліся ў аднолькавым памеры на ўсіх трох ступенях навучання [210, с. 238 – 239].

Польскія даследчыкі адзначаюць, што ў 1930-х гг. выхаваўчыя гутаркі адыгрывалі вялікую ролю ў сістэме асветніцка-выхаваўчай дзейнасці ў Войску Польскім. Пры гэтым гістарычная праблематыка гутарак выкарыстоўвалася ў мэтах абгрунтавання бягучай палітыкі дзяржавы. Таксама вялікі націск у гутарках рабіўся на выпрацоўку імунітэту да варожай прапаганды.У інструкцыі 1931 г. адзін з раздзелаў быў спецыяльна прысвечаны барацьбе з камуністычнымі уплывамі. На усіх камандзіраўі афіцэраў быў ускладзены абавязак пры правядзенні ўсіх відаў асветніцка-выхаваўчай дзейнасці «рабіць націск на барацьбуз камуністычнымі лозунгамі» [210, с. 238 – 239].

У выхаваўчай дзейнасці вялікая ўвага надавалася ўдзелу войска ў святкаванні нацыянальных, вайсковых і царкоўных свят. Выхаваўчыя мэты пры гэтым планавалася дасягнуць не праз пасіўны ўдзел ваеннаслужачых у гэтых урачыстасцях, а праз папярэднюю тэарэтычную падрыхтоўку, каб «яны разумелі сутнасць і значэнне свята». Пры гэтым камандзіры пры арганізацыі свят павінны былі

цесна супрацоўнічаць з мясцовымі цывільнымі ўладамі і грамадскімі арганізацыямі [210, с. 243]. Да арганізацый,з якімі ў першую чаргу наладжвалася супрацоўніцтва ў гэтых выпадках, адносіліся Стралецкі саюз, Саюз польскага харцэрства і Саюз маладой вёскі.

Што да стварэння бібліятэк і распаўсюджвання чытання сярод салдат, то тут поспехі вайсковых улад былі даволі сціплымі. Інструкцыя 1931 г. прызнавала, што «кніга з'яўляецца асноўным фактарам уздзеяня ў асветніцкай і выхаваўчай дзейнасці навогул,а асабліва ў войску». На пачатак 1930-х гг. ужо была створана даволі шырокая сетка салдацкіх бібліятэк. У 1930 г. Войска Польскае мела 1 056 бібліятэк, у якіх знаходзілася 428 299 тамоў. Кнігазборы складаліся з твораў класікаў польскай літаратуры – А. Міцкевіча, Г. Сенкевіча, С. Жэромскага, Б. Пруса і інш. Таксама ў бібліятэках павінны былі знаходзіцца кнігі прысвечаныя гісторыі польскай арміі, напрыклад, камплект «Нарысаў ваеннай гісторыі польскіх палкоў 1918 – 1920». Але, не гледзячы на хуткае стварэнне сеткі бібліятэк, узровень чытання сярод ваеннаслужачых тэрміновай службы быў нізкім. Так, у тым жа 1930 г. на аднаго салдата прыходзіліся толькі тры прачытаныя кнігі [210, с. 244 – 245].

Значна меньш увагі кіраўніцтва Войска Польскага надавала развіццю культурнага жыцця сярод салдат. Яно канцэнтравалася, як ужо адзначалася вышэй, у салдацкіх святліцах. Гэтыя клубы ствараліся пры кожным падраздзяленні вышэй роты, звычайна на ўзроўні батальёна. У цэнтрах вайсковых акруг ствараліся Дамы польскага салдата. Мэтай гэтых установ была «арганізацыя культурнага адпачынку салдат ў пазаслужбовы час і падтрымка асветы ў войску праз: арганізацыю лекцый, гутарак, радыёперадач, арганізацыю вайсковых свят, тэатральных прадстаўленняў, кінапраглядаў і канцэртаў, стварэнне бібліятэк і чытальняў; правядзенне спартыўных гульняў і г. д.». Дзейнасцю Дома польскага салдата кіравала праўленне. Яно складалася з афіцэраў, якія адказвалі за асветніцкую дзейнасць у сваіх падраздяленнях, і прадстаўнікоў некаторых грамадскіх арганізацый. Звычайна ў Доме польскага салдата знаходзіліся кіназала, тэатральная зала, святліца, бібліятэка, чытальня, спартыўная база, сталовая, цырульня, фотамайстэрня. На тэрыторыі Заходняй Беларусі існавала два такія Дамы пры сядзібах 3-й і 9-й вайсковых акруг – у Гродне і Брэсце [210, с. 246 – 247].

Вайсковыя структуры, якія адказвалі за выхаваўчую працу, пры правядзенні культурнай дзейнасці заахвочвалі развіццё аматарскіх тэатраў. Адным з самых вядомых такіх тэатраў быў салдацкі тэатр 3-

й вайсковай акругі ў Гродне. У 1928 г. ён стаў называцца Тэатрам гарнізонага Дома салдата. Гэты тэатр толькі з верасня 1928 г. да мая 1929 г. арганізаваў 71 прадстаўленне, якіе наведалі 18 800 гледачоў. Але з 1932 г. тэатр перажываў крызіс. Прычынай стала тое, што вайсковыя ўлады палічылі неабходным ставіць ў першую чаргу п'есы, якія б выхоўвалі салдат. У выніку тэатр стала наведваць меньшая колькасць цывільных гледачоў [210, с. 232].

Вельмі патрэбнай формай культурнай дзейнасці лічыліся краязнаўчыя экскурсіі. На камендантаў гарнізонаў быў накладзены абавязак арганізоўваць экскурсіі, у час якіх салдаты наведвалі гістарычныя помнікі і «месцы славы польскай зброі». Такія экскурсіі павінны былі ўзмацняць адукацыйную і выхаваўчую дзейнасць [210, с. 250].

Аналізуючы выхаваўчую працу ў Войску Польскім, нельга абмінуць такі важны момант як культ асобы Ю. Пілсудскага. Ён набыў у арміі яшчэ большыя памеры, чым, напрыклад, у школе ціў праўрадавых моладзевых арганізацыях. Маршал Ю. Пілсудскі павінен быў быць узорам грамадзяніна і салдата, на які арыентаваліся ваенаслужачыя Войска Польскага. Гэты культ нават перажыў самаго маршала. Напрыклад, у некаторых вайсковых частках было загадана дабаўляць да вячэрняй малітвы наступную фразу: «Маршал Пілсудскі памёр целам, але жыве духам у нашых сэрцах і жыць будзе вечна; мы памятаем і робім усё, каб згодназ яго наказам умацаваць веліч і славу Польшчы». Тым не менш, смерць правадыра стварыла значныя праблемы пры запаўненні з'явіўшайся пустаты. Яе спрабавалі запоўніць рэлігійнымі вартасцямі і стварэннем культу наступнага, таксама дасканалага правадыра. Такім правадыром павінен быў стаць чарговы маршал – Э. Рыдз-Сміглы [193, с. 186].

Вялікую ролю ў Войску Польскім адыгрывалі вайсковыя капеланы. Зразумела, што ў сваёй дзейнасці яна аддавалі прыярытэт пастырскай працы, але ж яны не пазбягалі і ўдзелуў выхаванні салдат. Рэлігійная практыка павінна была служыць агульнай выхаваўчай канцэпцыі. Час ад часу гэта нават прыводзіла да некаторага напрыжання паміж Палявой Курыяй і ваенным міністэрствам. Справа ў тым, што кіраўніцтва ўзброенымі сіламі імкнулася абмежаваць ролю вайсковых капеланаў правядзеннем выключна маральна-рэлігійнага выхавання, а не інтэрпрэтацыяй уласнай канцэпцыі агульнага выхавання [210, с. 251].

Паколькі праваслаўныя складалі другую па колькасці канфесійную групу сярод ваеннаслужачых польскай арміі,ў Войску Польскім дзейнічалі і праваслаўныя капеланы. Менавіта яны ажыццяўлялі пастырскую апеку над салдатамі праваслаўнага веравызнання,

большую частку якіх складалі менавіта беларусы. Праваслаўныя капеланы належылі да Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Сучасаныя даследчыкі адзначаюць, што ўлады ў сваіх мэтах імкнуліся падтрымліваць польскае аблічча Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, што ў сваю чаргу адбівалася і на дзейнасці вайсковых капеланаў. Вайсковыя ўлады не абмяжоўвалі дзейнасці некаталіцкага духавенства, рэлігійныя правы некатолікаў у войску не ўшчамляліся. Нават складанне вайсковай прысягі для кожнага веравызнання прадугледжвалася асобна. Тым не менш, праваслаўныя капеланы павінны былі пераканаць салдат-беларусаў у тым, што праваслаў'е не перашкаджае быць палякам. Вынікам такой дзейнасці праваслаўных капеланаў з'явілася павелічэнне праваслаўных ваеннаслужачых, якія дэкларавалі польскую нацыянальнасць. У снежні 1938 г. дырэктыва ваеннага міністэрства адкрыта падкрэслівала, што мэтай Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы з'яўляецца хутчэйшая паланізацыя беларусаў. Таксама паланізацыі праваслаўных салдат-беларусаў спрыяла і тое, што вайсковыя ўлады свядома не дапускалі на пасады капеланаў непалякаў [39, с. 89 – 94]. Такім чынам, рэлігійная дзейнасць вайсковых капеланаў праходзіла ў рэчышчы палітыкі «санацыйных» колаў, накіраванай на асіміляцыю прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей і выхавання з іх лаяльных грамадзян польскай дзяржавы.

Неабходна адзначыць, што Войска Польскае было не адзінай сілавой структурай 2-й Рэчы Паспалітай, якая ўдзельнічала ў ажыццяўленні ўрадавых выхаваўчых канцэпцый. На тэрыторыі Заходняй Беларусі актыўную працу ў гэтай сферы вёў Корпус аховы памежжа (Korpus Ochrony Pogranicza), які быў створаны ў 1924 г. для аховы ўсходняй і паўднёвай межаў польскай дзяржавы. Камплектаваўся ён за кошт прызыўнікоў-палякаў з цэнтральныхі заходніх ваяводстваў 2-й Рэчы Паспалітай. Але гэта не значыла, што ён быў адарваны ад працэсу выхавання маладога пакалення паўночна-ўсходніх зямель польскай дзяржавы. Акрамя выканання сваіх непасрэдных функцый перад Корпусам аховы памежжа улады ставілі мэту здабыць прыхільнасць мясцовага насельніцтва. Дасягнуць гэтага планавалася ў тым ліку і праз правядзенне шырокай выхаваўча-асветніцкай акцыі. Як і ў Войску Польскім, абавязак па правядзенню гэтай акцыі ў Корпусе аховы памежжа быў ускладзены на камандзіраў усіх узроўняў. Непасрэдна ж за яе адказвалі асветніцкія афіцэры, падрыхтаваныя на спецыяльных курсах. Корпус аховы памежжа імкнуўся ўздзейнічаць на мясцовае насельніцтва праз

арганізацыю экскурсій, спартыўных спаборніцтваў, праслухоўванне радыёперадач і прагляд кінафільмаў [190, с. 192 – 193].

Шмат увагі Корпус аховы памежжа надаваў працы з моладдзю памежных тэрыторый. Корпус аказваў непасрэдную матэрыяльную дапамогу моладзевым арганізацыям пры арганізацыі і правядзенні розных падрыхтоўчых курсаў – ад курсаў кіраўнікоў святліц (клубаў) да курсаў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Вельмі часта інструктарамі такіх курсаў з'яўляліся афіцэры і падафіцэры Корпуса аховы памежжа [76, с. 19].

Таксама корпус удзельнічаў у будаўніцтве ўсеагульных школ, народных дамоў, святліц, бібліятэк. Пра размах культурна-асветніцкай і выхаваўчай дзейнасці корпуса сведчаць афіцыйныя польскія дадзеныя за 1937 г. У гэтым годзе на тэрыторыі Віленская ваяводства польскія пагранічнікі ў Браслаўскім павеце прымалі актыўны ўдзел у будаўніцтве школы ў в. Чурылава, арганізавалі прадстаўленне, прыбытак ад якога пайшоў на будаўніцтва школы ў гміне Слабодка. Таксама корпус выдзяліў фінансавую дапамогу на будаўніцтва Стралецкіх Дамоў у Друі і Плусах. Пагранічнікамі былі закладзены ў павеце тры спартыўныя і дзве стралковыя пляцоўкі. Акрамя таго, Корпус аховы памежжа сістэматычна забяспечваў харчаваннем 250 школьнікаў у Слабодцы, Друі, Леанполі і Дударах. У Вілейскім павеце корпусам была арганізавана вандроўная выстава, святочны кірмаш у Будславе, штогадовы конкурс святліц Стралецкага саюза. У Вілейцы сумесна з грамадскімі арганізацыямі было праведзена пяць курсаў для моладзі. Дапамога пры будаўніцтве школ была аказана ў трох вёсках павета. Каля 300 дзяцей у чатырох вёсках атрымлівалі харчаванне ад корпуса. У Віленска-Троцкім павеце кожную нядзелю ён праводзіў так званыя народныя ранішнікі – своеасаблівыя канцэрты, якім папярэднічала гутарка на актуальныя тэмы грамадскага і палітычнага жыцця. Акрамя таго, у гэтым павеце, як і ў іншых, пагранічнікі аказвалі дапамогу школам і грамадскім арганізацыям. У Дзісненскім павеце за кошт корпуса карміліся бяднейшыя дзеці ў шасці школах. Былі пабудаваны дзве школы і два касцёлы. Аказвалася фінансавая дапамога праўрадавым грамадскім арганізацыям [76, с. 20 – 22].

Корпус аховы памежжа меў дачыненне і да выхаваўчай працы сярод віленскага студэнцтва. Менавіта пры непасрэднай падрымцы палкоўніка Я. Гладыка, камандзіра палка Корпуса аховы памежжа «Вілейка», у 1937 г. быў арганізаваны летні лагер для членаў Саюза студэнтаў паўночна-ўсходніх зямель Рэчы Паспалітай [113, с. 4].

Таксама трэба адзначыць, што сістэма адукацыі 2-й Рэчы Паспалітай таксама спрыяла наладжванню супрацоўніцтва з памежнымі службамі ў справе выхавання маладога пакалення. Згодна з міністэрскім цыркулярам, настаўнікі павінны былі тлумачыць вучням усеагульных школ і гімназій значэнне і задачы Корпуса аховы памежжа, каб пераадолець «непрыхільныя адносіны да распараджэнняў памежных улад». Гэтыя тлумачэнні павінны былі адбывацца не толькі на ўроках, рэкамендавалася нават адзін ці два разы ў год праводзіць спецыяльную гутарку на дадзеную тэму. [137, с. 109]. Дарэчы, такія цыркуляры сведчаць пра тое, што культурна-выхаваўчая акцыя Корпуса аховы памежжа не знаходзіла вялікай падтрымкі сярод моладзі, якой прыходзілася тлумачыць «задачы і дзяржаўнае значэнне» пагранічнай службы.

Акрамя Корпуса аховы памежжа у грамадска-выхаваўчых акцыях удзельнічала і дзяржаўная паліцыя (Policja Państwowa). Але, як адзначаюць сучасныя польскія даследчыкі, яе дзейнасці ў гэтым накірунку не набыла такога размаху, як у выпадку з памежнай службай. Тым не менш, пасля 1926 г. паліцыя таксама ўдзельнічала ў «пошуках прыхільнасці мясцовага насельніцтва». Менавіта ў гэтых мэтах было створана аб’яднанне «Паліцэйская Сям’я» (Stowarzyszenie Rodzina Policyjna), перад якім ставілася задача «правядзення прадзяржаўніцкіх грамадскіх пазіцый» [190, с. 193].

Дзяржаўная паліцыя мела важны, хоць і ўскосны, ўплыў на рэалізацыю выхаваўчых канцэпцый. Менавіта паліцэйскія структуры змагаліся супраць «антыдзяржаўных» і «падрыўных» элементаў, якія перашкаджалі ажыццяўленню «дзяржаўнага выхавання». У першую чаргу гэта тычылася падпольных арганізацый – Камуністычнай партыі Заходняй еларусі і Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі. Аднак, дзяржаўная паліцыя імкнулася кантраляваць і усе іншыя, легальныя арганізацыі. З 1926 г. гэты кантроль ажыццяўлялі аддзелы грамадскай бяспекі ваяводскіх праўленняў, ваяводскія камендатуры і следчыя камітэты. Яны таксама цесна супрацоўнічалі з 2-м аддзелам Генеральнага штаба (ваеннай кантразведкай). Кантроль заключаўся ў выяўленні межаў паміж легальнай дзейнасцю ў рамках закону і нелегальнымі акцыямі падрыўнога характару. У першым выпадку пад наглядам знаходзіліся ўсе грамадскія арганізацыі. Супраць арганізацый, якія вялі забароненую дзейнасць, праводзіўся не толькі нагляд, але і рэпрэсіі [125, с. 281].

Неабходна адзначыць, што ў выхаваўчай працы з маладым пакаленнем быў задзейнічаны і цэлы шэраг грамадскіх арганізацый, якія фармальна не з’яўляліся моладзевымі. Адной з такіх арганізацый

была Марская і каланіяльна ліга (Liga Morskai Kolonjalna). Агульнай мэтай Марской і каланіяльнай лігі было «выхаванне і падрыхтоўка грамадства да працы ў марскіх інтарэсах». Яна садзейнічала развіццю марскога і рачнога флота, імкнулася да развіцця польскай каланізацыі заморскіх зямель. Адным з накірункаў дзейнасці была праца з моладдзю, якой займалася спецыяльная Камісія па справам моладзі. Менавіта дадзеная камісія займалася стварэннем гурткоў Марской і каланіяльнай лігі пры ўсеагульных і сярэдніх школах [132, с. 49 – 51]. Таксама пры Галоўным праўленні Марской і каланіяльнай лігі дзейнічала камісія па акадэмічным справам, якая вяла працу сярод студэнцкай моладзі [90, с. 519].

Пры гэтым «воднае выхаванне» разглядалася як частка ці дапаўненне «дзяржаўнага выхавання». Лічылася, што «ўсе выхаваўчыя вартасці, якія выцякаюць ад сутыкнення чалавеказ вадой, калі іх умела развіваці і ўмацоўваць, усе разнастайныя дыдактычныя і ўтылітарныя (у гаспадарчым значэнні) выгады адначасова фарміруюць характар як асобы, такі калектыву» [155, с. 53].

У першай палове 1930-х гг. у кожным ваяводстве былі створаны акруговыя аддзяленні Марской і каланіяльнай лігі. У Палескім ваяводстве гэта адбылося ў 1933 г., у Навагрудскім і Віленскім ваяводствах – у 1934 г. На пачатак 1935 г. колькасць членаў арганізацыі была наступнай: у Палескім ваяводстве – 2 670 членаў, у Віленскім ваяводстве – 6 166 членаў, у Навагрудскім ваяводстве – 4 459 чалавек. Пры гэтым трэба падкрэсліць што значную частку членаў Марской і каланіяльнай лігі складала менавіта школьная і пазашкольная моладзь. Адначасова прадстаўнікі сістэмы адукацыі адыгрывалі вялікую ролюў кіраўніцтве арганізацыі. Так, напрыклад, кіраўніком Палескай акругі Марской і каланіальнай лігі з'яўляўся школьны інспекторП. Петрыкоўскі [212, с. 28 – 30].

Члены школьных гурткоў лігі займаліся развіццём водных відаў спорту, знаёміліся з «марской, рачной і каланіяльнай праблематыкай», удзельнічалі ў штогадовых урачыстасцях Свята мора, арганізоўвалі збор сродкаў на развіццё польскага Ваенна-марскога флота. Зразумела, што адначасова адбывалася і апрацоўка моладзі ў адпаведным вялікадзяржаўніцкім духу.

Яшчэ адной грамадскай арганізацыяй, якая вяла выхаваўчую працу ў маладзёжным асяродзі быў Польскі Белы Крыж (Polski Biały Krzyż). Асноўным накірункам яго дзейнасці была апека над ваенаслужачымі тэрміновай службы Войска Польскага. Менавіта члены Польскага Белага Крыжа дапамагалі асветніцкім афіцэрам пры арганізацыі навучання непісьменных салдат, вялі працу ў салдацкіх

святліцах і Дамах польскага салдата. Але арганізацыя вяла і актыўную прапагандысцкую працу сярод дапрызыўнай моладзі, таксама ствараліся школьныя гурткі Польскага Белага Крыжа. Школьнікі прыцягваліся да ўдзелу ў працы салдацкіх святліц і правядзення прапагандысцкай акцыі. Важнай часткай працы школьных гурткоў Польскага Белага Крыжа была апека над салдацкімі магіламі. Таксама Польскі Белы Крыж ствараў спецыяльныя святліцы для прызыўнікоў. У 1936 – 1937 гг. на тэрыторыі Заходняй Беларусі дзейнічала 36 такіх святліц: 22у Брэсцкай акрузе Польскага Белага Крыжа, 10 – у Гродзенскай і 4 у Віленскай акрузе [131, с. 194].

Масавымі арганізацыямі, гурткі якіх ахоплівалі ў тым ліку школьную і пазашкольную моладзь, у 1930-х гг. з’яўляліся Ліга супрацьпаветранай і хімічнай абароны (Liga Obrony Powietrzneji Przeciwgazowej) і Саюз пажарнай аховы (Związek Straży Pożarniej).

Актыўную выхаваўчую працу сярод дзяцей асаднікаў праводзіў Саюз асаднікаў (Związek Osadników). Вядома, што к 1939 г. пад апекай розных выхаваўчых і навучальных устаноў Саюза асаднікаў знаходзілася каля 1 500 чалавек моладзі [187, с. 250].

Таксама на тэрыторыі Заходняй Беларусі спрабавалі разгарнуць сваю дзейнасць «Польская матка школьная» (Polska Macierz Szkolna), якая знаходзілася пад моцным уплывам польскіх эндэкаў,і праўрадавы Саюз грамадзянскай працы жанчын (Związek pracy obywatelskiej kobiet). Але гэтыя дзве апошнія арганізацыі не набылі вялікага ўплыву ні сярод мясцовай моладзі, ні сярод заходнебеларускага насельніцтва наогул [34, с. 72 – 74].

У другой палове 1930-х гг., калі ўсё больш рэальнай станавілася пагроза новай вайны, лагер «санацыі» стаў рабіць усё большы націск на адпаведнае выхаванне маладога пакалення. Было прызнана, што «актуальнай задачай з’яўляецца пытанне грамадзянскага выхавання і прапаганда лозунгаў нацыянальнай абароны, як падрыхтоўка моладзі да выканання задач па абароне краіны». У сувязі з гэтым польскія ўлады, у першую чаргу вайсковыя кіраўнікі, імкнуліся аб’яднаць намаганні як дзяржаўных структур, так і праўрадавых грамадскіх аб’яднанняў і саюзаў. Вынікам такіх памкненняў стала стварэнне пад эгідай Вайсковага навукова-асветніцкага інстытута Цэнтральнага каардынацыйнага камітэта (Centralny Komitet Koordynacyjny). У яго склад увайшлі прадстаўнікі ваеннага міністэрства і грамадскіх арганізацый – Стралецкага саюза, Саюза польскага харцэрства, Саюза пажарнай аховы. У далейшым з Цэнтральным каардынацый-ным камітэтам пачалі супрацоўнічаць Саюз асаднікаў, «Польская матка школьная», Саюз маладой вёскіі іншыя праўрадавыя

арганізацыі. Пасля стварэння Цэнтральнага каардынацыйнага камітэта ў Варшаве пачалі ствараца падобныя ўстановы пры штабах асобных вайсковых акруг. У Брэсце каардынацыйны камітэт быў арганізаваны ў студзені 1937 г., у Гродна – у лістападзе таго ж года. Галоўная мэта каардынацыйнага камітэта – павышэнне паспяховасці грамадскіх намаганняў ў галіне боегатоўнасці дзяржавы. Неад'емнай часткай гэтых намаганняў было і грамадзянскае выхаванне моладзі. Таму каардынацыйнаму камітэту была перадазена функцыя распрацоўкі праграм грамадзянскага выхавання і культурна-асветніцкай працы. Таксама для працы з моладым пакаленнем пры Цэнтральным каардынацыйным камітэце была створана Маладзёжная камісія [100, с. 6 – 16]. Дзякуючы гэтым мерапрыемствам улады 2-й Рэчы Паспалітай напярэдадні вайны здолелі канчаткова цэнтралізаваць ажыццяўленне сваіх выхаваўчых канцэпцый.

Такім чынам можна адзначыць, што ў правядзенні выхаваўчай працы ў маладзёжным асяроддзі прымалі актыўны ўдзел як дзяржаўныя, так і грамадскія праўрадавыя структуры. Вялікую ролю адыгрывала Вайска Польская, якое даволі паспяховы ажыццяўляла паланізацыю салдат-беларусаў, выкарыстоўваючы пры гэтым шырокі арсенал сродкаў і метадаў. Акрамя арміі ў гэтым жа накірунку працавалі іншыя сілавыя структуры 2-й Рэчы Паспалітай. Таксама, хоць і з розным узроўнем выніковасці, ўздзейнічалі на заходнебеларускую моладзь розныя праўрадавыя культурна-асветніцкія і ваенізаваныя арганізацыі і аб'яднанні.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Кіруючы «санацыйны» рэжым 2-й Рэчы Паспалітай у 1926 – 1939 гг. надаваў значную ўвагу праблеме выхавання маладога пакалення, у тым ліку і на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Адной з галоўных прычынай гэтага, акрамя ўсяго іншага, было тое, што грамадства 2-й Рэчы Паспалітай з'яўлялася даволі маладым – насельніцтва ва ўзросце да 25 гадоў складала каля паловы ўсіх жыхароў міжваеннай польскай дзяржавы. Што тычыцца Заходняй Беларусі, то польскія ўлады пры правядзенны сваёй выхаваўчай палітыкі павінны былі ўлічваць спецыфіку рэгіёна, дзе, насуперак тэндэнцыйнай афіцыйнай статыстыцы 1930-х гг., асноўную масу насельніцтва складалі беларусы. Адпаведна беларусы дамінавалі і сярод маладога пакалення паўночна-ўсходніх ваяводстваў 2-Рэчы Паспалітай, асабліва калі ўлічваць, што беларусы жылі ў асноўным на вёсцы, дзе сем'і былі большымі, чым ў гарадах.

Вялікая ўвага пытанням выхавання маладога пакалення надавалася на самым высокім узроўні з першых год існавання польскай дзяржавы. У першай палове 1920-х гг. у выхаваўчай сферы дамінавала т. зв. «нацыянальнае выхаванне», распрацаванаеў асяроддзі польскіх крайніх нацыяналістаў, эндэкаў. Гэтая канцэпцыя насіла ярка выражаны шавіністычны характар і была накіравана на адкрытую паланізацыю насельніцтва нацыянальных ускраін міжваеннай польскай дзяржавы.

Змены ў выхаваўчай сферы пачалі адбывацца пасля майскага дзяржаўнага перавароту 1926 г., калі да ўлады прайшоў рэжым «санацыі» пад кіраўніцтвам Ю. Пілсудскага. Дзеячамі «санацыі» была распрацавана і пачала актыўна рэалізоўвацца новая канцэпцыя – «дзяржаўнае выхаванне». У адрозненні ад эндэкаў пілсудчыкі прапагандавалі прымат дзяржавы, а не нацыі. Быў узяты курс на стварэнне пазітыўнага ўзору грамадзяніна-дзяржаўніка. Лідэры «санацыі» сцвярджалі, што дзяржава мае права навязваць грамадзянам сваю ўласную выхаваўчую канцэпцыю. Лічылася, што толькі дзяржаўная ўлада, абвяшчаючы верхавенства сваіх інтарэсаў, мае права на выхаваўчую дзейнасць,і толькі дзяржава з'яўляецца адзінай сілаю, здольнай выразіцы гарантаваць вяршэнства ўсеагульных інтарэсаў над інтарэсамі партыкулярнымі і індывідуальнымі, партыі ж не маюць ніякага права ўплываць на выхаванне і рэалізацыю выхаваўчага ідэалу.

Ацэніваючы «санацыйную» выхаваўчую канцэпцыю, неабходна сказаць, што гэта была даволі стройная і дэтальна распрацаваная

сістэма. Яе станоўчымі рысамі былі сувязь з жыццём і практычная накіраванасць, выхаваўчы характар навучання ў школе. Яна ставіла перад сабой мэту выхаваць у моладзі моцную волю, дынамізм, дысцыплінаванасць, здольнасць да ахвярнасці і гераізму. Але ўсе гэтыя пазітыўныя рысы «дзяржаўнага выхавання» былі падпарадкаваны прагматычным мэтам кіруючых колаў 2-й Рэчы Паспалітай, якія імкнуліся перацягнуць на свой бок маладое пакаленне дзяржавы. «Санацыя», якая атасаямляла сябе з дзяржавай, фактычна навязвала грамадству свае выхаваўчыя ідэалы.

Пасля 1935 г. адбылася значная эвалюцыя выхаваўчай канцэпцыі кіруючага лагера. Пачалося фактычнае перайманне метадаў і ідэй эндэцкага «нацыянальнага выхавання». У выніку гэтыя дзве канцэпцыі адрозніваліся не зместам, а паняційным апаратам, тэрміналогіяй і некаторымі традыцыямі. Але абедзве яны з'яўляліся сродкам паланізацыі нацыянальных меншасцей. Фактычна ставілася мэта выхаваць не проста добрага грамадзяніна, а грамадзяніна-паляка. Гэта і прыводзіла да неэфектыўнасці «дзяржаўнага выхавання» на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў адрозненне ад непасрэдна польскіх земляў, дзе яно дасягнула значных пазітыўных вынікаў.

Адной з галоўных сфер, дзе актыўна рэалізоўваліся «санацыйныя» выхаваўчыя ідэі, стала сістэма адукацыі 2-й Рэчы Паспалітай. Трэба адзначыць, што ў міжваенны перыяд польскія ўлады здолелі арганізаваць сістэму народнай адукацыі, заснаваную на ўсеагульным школьным абавязку. Гэтая сістэма ахоплівала большую частку маладога пакалення, у тым ліку і на тэрыторыі Заходняй Беларусі, дзе яе структурнымі элементамі былі Віленскаяі Палеская школьныя акругі. Недахопам школьніцтва 2-й Рэчы Паспалітай было тое, што толькі незначная частка моладзі засвойвала поўную школьную праграму, абмяжоўваючыся толькі пачатковай адукацыяй. Спробай выправіць сітуацыю стала рэформа Я. Енджэевіча, якая была накіравана на інтэграцыю сістэмы народнай адукацыі і павінна была садзейнічаць рэалізацыі канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання».

Яшчэ адным недахопам школьнай сістэмы 2-й Рэчы Паспалітай, які перашкаджаў эфектыўнай рэалізацыі канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання», было ігнараванне культурна-асветніцкіх патрэб нацыянальных меншасцяў міжваеннай польскай дзяржавы. Яскравай праявай гэтага быў лёс беларускага школьніцтва, якое пасля адноснай лібералізацыі, выкліканай палітычнай кан'юктурай, было цалкам ліквідавана польскімі ўладамі.

Афіцыйная школа ў міжваеннай польскай дзяржаве з'яўлялася сур'ёзным выхаваўчым інстытутам, дзейнасць якога на тэрыторыі Заходняй Беларусі была накіравана на паланізацыю мясцовай моладзі. Гэта цалкам адпавядала мэтам правячых колаў міжваеннай польскай дзяржавы, якія ўскладалі вялікія надзеі на сістэму адукацыі пры правядзенні сваёй палітыкі, накіраванай на ўзмацненне польскага ўплыву на «крэсах усходніх».

Выхаваўчае ўздзеянне адукацыйнай сістэмы не абмяжоўвалася толькі непасрэдна школьнымі заняткамі і адпаведна адабраным вучэбным матэрыялам. Школьная моладзь 2-й Рэчы Паспалітай, у тым ліку і на тэрыторыі Заходняй Беларусі, была ахоплена дзейнасцю шматлікіх вучнёўскіх арганізацый. Распаўсюджанымі формамі грамадскай актыўнасці школьнікаў сталі вучнёўскае самакіраванне і школьная каапераця. Найбольш масавай арганізацыяй сярод школьнікаў быў Саюз польскага харцэрства. Уся дзейнасць гэтых арганізацый, незалежна ад іх формы, праходзіла пад пільным кантролем і кіраўніцтвам з боку педагогаў і была пастаўлена на службу «дзяржаўнаму выхаванню».

Паколькі значная колькасць маладога пакалення не была ахоплена выхаваўчым уздзеяннем сістэмы адукацыі, польскія улады рабілі вялікі націск на развіццё праўрадавага моладзевага руху. Праўрадавыя моладзевыя арганізацыі і саюзы з'яўляліся неад'емным элементам сістэмы рэалізацыі «санацыйнай» канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання». У дадзеным кантэксце іх галоўнай задачай было ахапіць сваім выхаваўчым уздзеяннем пазашкольную моладзь і падлеткаў. Як сведчаць архіўныя матэрыялы і дадзеныя гістарыяграфіі, найбольшых поспехаў гэтым накірунку дасягнулі такія арганізацыі, як Стралецкі саюз «Стралец» і Саюз вясковай моладзі «Сеў» – Саюз маладой вёскі, якія дзейнічалі ў асноўным сярод вясковага маладога пакалення.У асяроддзі гарадской моладзі аналагічныя задачы павінна была выконваць Арганізацыя працуючай моладзі, якая, аднак, не дасягнула такога развіцця як два вышэйназваных аб'яднанні.

Яшчэ адной групай маладога пакалення, якую «санацыя» імкнулася паставіць пад свой выхаваўчы ўплыў было студэнцтва і маладая інтэлігенцыя. Але ў дадзеным выпадку ўлады 2-й Рэчы Паспалітай не здолелі дасягнуць значных поспехаў. На працягу ўсяго міжваеннага перыяду яны не змаглі ліквідаваць засілле польскіх эндэкаў сярод студэнцтва. Увесь гэты час найбольш уплывовай студэнцкай арганізацыяй заставалася нацыяналістычная «Усяпольская моладзь», пад кантролем якой знаходзіліся студэнцкія арганізацыі ўзаемадапамогі і большая частка студэнцкіх карпарацый.

Спробы «санацыі» стварыць свае студэнцкія ідэйна-выхаваўчыя арганізацыі – Саюз польскай дэмакратычнай моладзі і Легіён маладых – таксама не далі чакаемага выніку і скончыліся правалам. Замест таго, каб выхоўваць студэнтаў у духу вернасці існуючаму рэжыму, гэтыя арганізацыі ў выніку ўнутранай радыкалізацыі перайшлі ў апазіцыю да яго.

Акрамя сістэмы адукацыі і маладзёжных арганізацыйу правядзенні выхаваўчай працы ў маладзёжным асяроддзі прымалі актыўны ўдзел і іншыя дзяржаўныя і грамадскія праўрадавыя структуры. Вялікую ролю адыгрывала Вайска Польская, якое даволі паспяхова ажыццяўляла паланізацыю салдат-беларусаў, выкарыстоўваючы пры гэтым шырокі арсенал сродкаў і метадаў – ад прынцыпу экстэрытарыяльнага камплектавання вайсковых частак да пастарскай дзейнасці вайскавых капеланаў. Акрамя арміі ў гэтым жа накірунку працавалі іншыя сілавыя структуры 2-й Рэчы Паспалітай – Корпус аховы памежжа і дзяржаўная паліцыя. Таксама, хоць і з розным узроўнем выніковасці ўздзейнічалі на заходнебеларускую моладзь розныя праўрадавыя культурна-асветніцкія і ваенізаваныя арганізацыі і аб’яднанні.

ДАДАТАК А

## ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ ЗАКОНАЎ І ЗВЫЧАЯЎ КАНВЕНТУ ПАЛОНІЯ АД 30 СТУДЗЕНЯ 1931 Г.

Канвент з'яўляецца сям'ёй, якая цесна злучана вузамі братэрства і сяброўства, кто адзін раз у яго ўваходзіць, той назаўсёды ў ім застаецца.

Сутнасццю структуры Канвентў з'яўляецца іерархія, узаемная залежнасць, паслухмянасць і загад. Існуюць чатыры непазбежныя ўзроўні, праз якія ў Канвенце павінен прайсці кожны: Фукс, Барвярж, Камільтон і Філістр.

Фуксам з'яўляецца той, хто прагне належыць да Канвентуі прымаецца на пробу. Ён не мае амаль ніякіх правоў, а толькі шматлікія абавязкі, якія вынікаюць з неабходнасці паслухмянасціі падпарадкавання загадам старэйшых. Праз гэты выпрабаваны шлях ён лягчэй даходзіць да засваення адпаведнага ўяўлення аб Канвенце і знаёміцца з грубай істотай Канвенту. Барвяржам становіцца той, хто пахвальна прайшоў выпрабаванне фуксаваннем і з'яўляецца годным атрымаць далейшую адукацыю. Толькі з гэтай хвіліны кандыдат звонку становіцца сапраўдным членам Канвенту праз гонар нашэння барваў.

Камільтонам становіцца той, хто будзе мець права кіраваць Канвентам ці праз удзел у яго ўрадзе, ці шляхам выкарыстання права актыўнага голасу. Толькі ён з'яўляецца поўнапраўным членам Канвенту.

Калі член Канвенту выходзіць з Акадэміі ў жыццё – ён становіцца Філістрам і захоўвае гэтую ступень да канца жыцця. Ен павінен не забываць пра Канвент і належыць да Гурткоў Філістраў.

Канвент кіруецца рэспубліканскай ідэяй, члены Канвенту, маючыя поўныя правы, маюць прыроджанае права вырашаць яго лёс шляхам разважанняў і рашэнняў на паседжаннях Канвенту.

Волю Канвенту ажыццяўляе Прэзідыум і аўтаномныя кіраўнікі. Апеку над выхаваннем пакаленняў фуксаў і барвяржаў ажыццяўляе Олдэрман, які надзяляецца канфідэнцыйнай уладай над імі. Ён з'яўляецца ахоўнікам законаў Канвенту.

Адхіленне ад законаў і звычаяў Канвенту рэгулюе Сталы Суд Канвенту шляхам адкрытых разбораў і прыгавораў.

Інстытутам, які разглядае самыя тайныя справы жыцця членаў Канвента і стаіць на ахове этыкі і гонару, з'яўляецца Сталы Суд

Гонару. Ён выконвае свае задачы шляхам безапеляцыйных прыгавораў на тайных паседжаннях.

Жыццё ў Канвенце утрымліваецца ў дакладных рамах вонкавых формаў, якія абапіраюцца на традыцыі, маючыя ў сваёй аснове глыбокае значэнне.

Канвент, аб’ядноўваючы людзей розных веравызнанняўі перакананняў, не ўзвышае ніякай ідэі і супрацьстаіць прадстаўленню прывілеяй якой-небудзь з іх за кошт іншых.

3 умовы прыёму: польская нацыянальнасць, вучоба ў Вільні, гатоўнасць абараняць гонар са зброяй у руках.

4 умовы, каб застацца: Справядлівасць, Сяброўства, Добрасумленнасць у выкананні законаў і звычаяў, Захаванне таямніцы спраў Канвенту.

3 умовы плённага знаходжання: Любоў да Канвенту, Самаадданасць, Падтрымліванне карысных поглядаў.

3 пранцыпы будучыні: Грамадзянская Дабрадзейнасць, Знаходлівасць, Радасць жыцця.

ДАДАТАК Б

## ІДЭЙНАЯ ДЭКЛАРАЦЫЯ ЛЕГІЁНА МАЛАДЫХ – АРГАНІЗАЦЫІ ПРАЦЫ ДЛЯ ДЗЯРЖАВЫ

У перыяд, калі састарэў папярэдні палітычны, грамадскіі гаспадарчы лад, мы лічым неабходным пачаць перабудову дзяржаўнага жыцця такім чынам, каб ва ўмовах, якія змяніліся і працягваюць змяняцца, усе дзяржаўныя сілы маглі быць выкарыстаны належным чынам.

Шматгадовая няволя выпрацавала ў польскай Нацыі спецыяльныя метады і формы працы, якія, калі іх слепа выкарыстоўваюць у вольнай Дзяржаве, не выконваюць сваёй задачы, асабліва таму, што пасляваенны перыяд паставіў перад кожнай Дзяржавай новыя праблемы, якія нельга вырашыць на падставе старых, асвечаных прынцыпаў. І таму мы абвяшчаем лозунгі змены дзяржаўнага ладу і псіхікі грамадзяніна.

Павінны прынцыпіяльна змяніцца адносіны Паляка да Нацыіі Дзяржавы, інтарэсы якіх цесна супадаюць і ні ў якім выпадку не могуць быць супрацьпастаўляцца.

У выніку ліберальна-дэмакратычных рухаў XVIII і XIX стагоддзяў правы асобы гарантаваны, неаднаразова празмерна пашыраны са

шкодай для інтарэсаў Дзяржавы. Гэтае шкоднае становішча павінна быць заменена прынцыпам поўнага падпарадкавання асобы інтарэсам Дзяржавы. Запас здольнасцяўі сілаў асобы павінен быць цалкам аддадзены ў распараджэнне Дзяржавы і выкарыстоўвацца згодна з Яе інтарэсам.

Традыцыйны, празмерны польскі індывідуалізм павінен падпарадкавацца загаду планавай калектыўнай працы на кожным узроўні дзяржаўнай структуры пад кіраўніцтвам грамадскай эліты.

Мы імкнёмся праводзіць гэтыя прынцыпы ў публічнае жыццё шляхам арганізацыі грамадства ў прафесіянальныя саюзы.

Папярэднія свабодныя адносіны паміж Дзяржавайі грамадзянінам, якія вызначаліся індывідулізмам, мы імкнёмся замяніць цесным арганізацыйным аб'яднаннем.

З гэтай мэтай належыць стварыць карпарацыйную Дзяржаву, якая звязвае з сабою грамадзян праз прафесійныя, гаспадарчыяі культурныя аб'яднанні.

У развіццё гэтага прынцыпу, а таксама згодна з перамяшчэннем грамадскай зацікаўленасці ў накірунку эканамічных праблем, мы лічым неабходным ператварэнне сучасных чыста палітычных парламенцкіх органаў у прафесійна-гаспадарчае прадстаўніцтва. Гэта дазволіць змякчыць існуючыя палітычныя супярэчнасці,а пачуццё грамадскага салідарызму ў імя карысці Дзяржавы звяжа асобныя гаспадарча-прафесійныя групы.

Дзяржава павінна мець права на глыбокае ўмяшальніцтваў гаспадарчае жыццё, паколькі толькі ў гэтым выпадку будзе магчыма развіваць яго планава, згодна з уласнымі мэтамі, якія вельмі часта супярэчаць як часовай кан'ектуры ў асобных галінах вытворчасці і абмену, так і эгаістычным мэтам асоб і аб'яднанняў.

Істотныя вартасці дзяржаўнай культуры і пачуццё інтарэсу Дзяржавы маладому пакаленню належыць прышчапіць шляхам дзяржаўнага выхавання ў школах і выхаваўчых установах. Мы робім спецыяльны націск на гэты накірунак дзяржаўнай працы, паколькі мы жадаем забяспечыць ідэям, якія мы абвяшчаем, гістарычны працяг. Пасля перабудовы гаспадарчага і палітычнага ладу павінна адбыцца глыбокае культурнае ператварэнне, якое зробіць дасягненні чалавечай думкі даступнымі для як мага шырэйшых колаў грамадства.

Асноўныя прынцыпы нашай ідэалогіі мы фармулюему наступных пунктах:

I. Маладое польскае пакаленне, якое згрупавана ў Легіёне Маладых – Саюзе Працы для Дзяржавы, лічыцца наследнікамі спадкаемцам ідэі

незалежніцкага пакалення, якое пад кіраўніцтвам Маршала Пілсудскага заваявала незалежнасцьі адбудавала дзяржаўнасць Польшчы. Камендант Юзеф Пілсудскі, сімвал здаровага дзеяння і ахвярнай працы для Дзяржавы, з'яўляецца нашым ідэйным Правадыром.

II. Нацыя, арганізаваная на прынцыпе іерархіі і дысцыпліны, аддае ўсе свае сілы Дзяржаве.

III. Дзяржава будуецца працай, а бароніцца крывёю. Чалавек працы і салдат з'яўляюцца элітай Нацыі, кроў і праца – найвялікшыя нацыянальныя святыні. Праца складае першы абавязак грамадзяніна Рэчы Паспалітай і яна з'яўляецца адзінай умовай для карыстання грамадскімі паслугамі.

IV. Мы бачым ў працуючых слаях грамадства адзіны дзяржаўнатворчы фактар і таму лічым гістарычна неабходным аб'яднанне польскай дзяржаўнай думкі з польскім светам працы.

V. Задачай сучаснага пакалення з'яўляецца апора будучыні Польскай Дзяржавы на моцным і трывалым фундаменце праз распрацоўку і правядзенне ў жыццё праграмы гаспадарчай, грамадскай і палітычнай перабудовы.

VI. Польская Дзяржава павінна парываць з невытрымаўшым ужо выпрабаванне жыццём гаспадарчым, ліберальна-капіталістычным ладам і ператварыцца ў дзяржаву арганізаванай працы, якая кіруецца іерархічна арганізаванай прафесійнай элітайі вядзе сваю гаспадарку на прынцыпах планавасці. Асновай будучага гаспадарчага плану павінна быць імкненне дасягнуць найбольшай гаспадарчай самастойнасці ў адносінах да замежжа.

VII. Новы гаспадарчы лад павінен абаперціся на кантролі Дзяржавы над вытворчасцю і на прымусовых прафесійных саюзах.

Права ўласнасці на працоўныя месцы з'яўляецца грамадскай функцыяй, выкананне якой рэгулюе Дзяржава, якая сочыць за справедлівым падзелам грамадскага прыбытку.

VIII. Парламенцкі лад, які абапіраецца на тэарэтычных фікцыях, павінен быць заменены прадстаўніцтвам адпаведна разбудаваных прафесійных саюзаў.

IX. Адначасова з гаспадарчай перабудовай павінна ісці ператварэнне грамадскай псіхікі згодна з новай этыкай працы.

X. Згодна з вялікай традыцыяй Балеслава Храбрага, Ягелонаўі Баторыя, Польская Дзяржава бачыць сваю місію ў арганізацыі суіснавання і супрацоўніцтва суседніх з намі на вялікім Балтыйска-Чарнаморскім міжмор'і народаў.

XI. Мы падтрымліваем у дзяржаўным жыцці ідэалы суіснавання і супрацоўніцтва, вынішчаем пасевы нянавісці, якія атручваюць і разладжваюць сумеснае жыцце, незалежна ад таго,з якога боку яны зыходзяць.

XII. Неабходнасць абароны Дзяржавы і справа недатыкальнасці межаў Рэчы Паспалітай павінна аб'яднаць усіх грамадзян і стаць паказчыкам вернасці і лаяльнасці ў адносінах да Польшчы.

XIII. Польшча павінна выправіць памылку мінулага і зрабіцьз Балтыкі польскае мора.

XIV. Вызнаваючы прынцып свабоды сумлення ў стварэнні новага тыпу польскага грамадзяніна, мы прызнаём вялікую этычную вартасць рэлігійнага фактара і таму з пашанай адносімся да рэлігіі як крыніцы ідэальных элементаў чалавечнасці.

XV. У публічным жыцці дзейнічае адказнасць за накрэсленыяі пастаўленыя замыслы. Павінен падтрымлівацца прынцып выканання дадзенага слова, павінен быць уведзены ў жыццё ўзяты на сябе абавязак. Асабісты і калектыўны гонар мы звязваемз гонарам працы.

**РЭЗЮМЭ**

Кіруючыя колы 2-й Рэчы Паспалітай надавалі значную ўвагу выхаванню моладзі, у тым ліку і на тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая ў гэты час знаходзілася ў складзе польскай дзяржавы. Першапачаткова ў выхаваўчай сферы дамінавала канцэпцыя т. зв. «нацыянальнага выхавання», распрацаваная ў асяроддзі польскіх эндэкаў і накіраваная на адкрытую паланізацыю маладога пакалення нацыянальных ускраін міжваеннай польшчы. Пасля прыходу да ўлады «санацыі» пачало рэалізоўвацца «дзяржаўнае выхаванне». Гэта была даволі стройная і дэтальна распрацаваная сістэма, падпарадкаваная прагматычным мэтам кіруючага лагера, які імкнуўся навязаць грамадству свае выхаваўчыя ідэалыі перацягнуць на свій бок моладзь. Пры гэтым с цягам часу, асабліва пасля 1935 г., адбывалася збліжэнне «санацыйнай»і эндэцкай выхаваўчых канцэпцый.

Адной з галоўных сфер, дзе адбывалася ажыцяўленне ўрадавых выхаваўчых канцэпцый, з'яўлялася сістэма адукацыі. Афіцыйная школа ў 2-й Рэчы Паспалітай з'яўлялася сур'езным выхаваўчым інстытутам, выхаваўчы ўплыў якога не абмяжоўваўся толькі непасрэдна школьнымі заняткамі і адпаведна падабранымвучэбным матэрыялам.

Яшчэ адным элементам сістэмы рэалізацыі выхаваўчых ідэй

«санацыі» з'яўляліся шматлікія праўрадавыя моладзевыя арганізацыі і аб'яднанні. З розным узроўнем выніковасці яны імкнуліся ахапіць сваім уплывам усе маладое пакаленне – вясковую і гарадскую моладзь, студэнцтва.

Акрамя школы і моладзевыхх саюзаў у выхаваўчай працы прымалі актыўны ўдзел і іншыя дзяржаўныя структурыі грамадскія аб'яднанні. У першую чаргу гэта былі сілавыя структуры 2-й Рэчы Паспалітай, а таксама розныя культурна-асветніцкія і ваенізаваныя арганізацыі і аб'яднанні.


## РЕЗЮМЕ

Правящие круги 2-й Речи Посполитой уделяли значительное внимание воспитанию молодежи, в том числе и на территории Западной Беларуси, которая в это время находилась в составе польского государства. Первоначально в воспитательной сфере доминировала концепция т. н. «национального воспитания», разработанная в среде польских эндеков, и направленная на открытую полонизацию молодого поколения национальных окраин межвоенной Польши. После прихода к власти «санации» начало реализовываться «государственное воспитание». Это была достаточно стройная и детально разработанная система, подчиненная прагматическим целям правящего лагеря, который стремился навязать обществу свои воспитательные идеалыи перетянуть на свою сторону молодежь. При этом с течением времени, особенно после 1935 г., проходило сближение «санационной» и эндецкой воспитательных концепций.

Одной из главных сфер, где проходило осуществление правительственных воспитательных концепций, являлась система образования. Официальная школа во 2-й Речи Посполитой являлась серьезным воспитательным институтом, воспитательное влияние которого не ограничивалось только непосредственно школьными занятиями и соответствующим образом подобранным учебным материалом.

Еще одним элементом системы реализации воспитательных идей «санации» являлись многочисленные проправительственные молодежные организации и объединения. С различной степеню успешности они стремились охватить своим влиянием все молодое поколение – сельскую и городскую молодежь, студенчество.

Кроме школы и молодежных союзов в воспитательной работе принимали активное участие и другие государственные структуры и

